# ПОЛЫМЯ РЭВОЛЮЦЫІ



ЧАСОПІС ЛІТАРАТУРЫ, МАСТАЦТВА І МАРКСІСЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭОРЫІ І КРЫТЫКІ

ОРГАН ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

*КНІГА ШОСТАЯ*

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1936



# А. М. ГОРКІ

(1868—1936)

Гравюра на дрэве Л. Салавейчыка

## Памяці вялікага рускага пісьменніка, геніяльнага мастака слова, барацьбіта за перамогу комунізма—А. М. ГОРКАГА

Цэнтральны Камітэт ВКП(б) і Совет Народных Камісарaў Саюза ССР з глыбокім жалем паведамляюць аб смерці вялікага рускага пісьменніка, геніяльнага мастака слова, беззаветнага друга працоўных, барацьбіта за перамогу комунізма—

таварыша АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА

**ГОРКАГА,**

паследаваўшай у Горках, недалёка ад Масквы, 18 чэрвеня 1936 года.

Цэнтральны Камітэт ВКП(б)
Совет Народных Камісараў Саюза ССР.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюза ССР з глыбокім жалем паведамляе ўсіх працоўных аб смерці члена Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта Саюза ССР—вялікага рускага пісьменніка, любімага друга працоўных—

таварыша АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА

**ГОРКАГА,**

паследаваўшай у Горках, каля Масквы, 18 чэрвеня г. г.

МАСКВА, РЭДАКЦЫІ „ПРАВДА“,
ПРАЎЛЕННЮ САЮЗА СОВЕЦКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ

ЦК КП(б)Б і ўвесь працоўны народ БССР глыбока сумуюць разам з працоўнымі ўсяго Совецкага саюза ў сувязі са смерцю вялікага пролетарскага пісьменніка і беззаветна адданага друга народаў вялікага Совецкага саюза АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА ГОРКАГА.

Імя Аляксея Максімавіча непарыўна звязана з барацьбой рабочых і працоўных усіх краін супроць сваіх прыгнятальнікаў.

Сваімі высокамастацкімі, таленавітымі творамі, насычанымі пафасам рэволюцыйнай барацьбы, Горкі „моцна звязаў сябе з рабочым рухам Расіі і ўсяго свету“ (ЛЕНІН).

Горкі на працягу ўсяго свайго жыцця з гонарам нёс сцяг пісьменніка-рэволюцыянера, чыё жыццё і талент служылі вялікай справе рабочага класа і сялянства. У цяжкія гады царызма, у перыяд пераможнага соцыялістычнага будаўніцтва Аляксей Максімавіч сваім вялікім мастацкім словам абуджаў у сэрцах працоўных вогненую нянавісць да ворагаў пролетарыята і ўсіх працоўных.

Аляксей Максімавіч ва ўсіх сваіх творах нястомна натхняў працоўных на барацьбу, на геройства, на найвялікшыя перамогі. Яго слова, слова вялікага пісьменніка—роднае, самае блізкае народным масам вялікага Совецкага саюза. Працоўны народ Совецкай Беларусі, як і ўвесь цалкам народ Совецкага саюза, кіруемы геніем вялікага Сталіна, па вартасці ацаніў велізарныя заслугі Аляксея Максімавіча Горкага ў барацьбе за пролетарскую рэволюцыю, за пабудову бяскласавага соцыялістычнага грамадства.

Пад кіраўніцтвам Аляксея Максімавіча Горкага вырасла і ўмацавалася самая перадавая ў свеце совецкая літаратура і яе слаўны атрад—пісьменнікі Совецкай Беларусі.

Народ Совецкай Беларусі пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна прыкладзе ўсе свае сілы, каб узняць на яшчэ большую вышыню літаратуру Совецкай Беларусі ў барацьбе за справу соцыялізма, якой аддаў сваё жыццё Аляксей Максімавіч Горкі.

*ЦК КП(б)Б*

Совет Народных Камісараў Беларускай ССР ад імя працоўнай Беларусі выражае глыбокі смутак і спачуванне з прычыны заўчаснай утраты вялікага пролетарскага пісьменніка

АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА ГОРКАГА.

Смерць Аляксея Максімавіча выклікала вялікі смутак у сэрцах усяго беларускага народу, усхвалявала самыя аддалёныя куткі Палесся, бо першы пролетарскі пісьменнік быў самым папулярным і любімым пісьменнікам рабочых, калгаснікаў, інтэлігенцыі і ўсіх працоўных Беларусі. Яго „Буравеснік“, „Маці“ і многія іншыя творы адыгралі вялікую ролю ў справе мабілізацыі шырокіх мас беларускага народу на барацьбу за пролетарскую рэволюцыю, на барацьбу за зврыжэнне панскага прыгнёту, за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленне, выхоўваючы масы ў духу пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Працоўныя Беларусі схіляюць свае сцягі ля гроба вялікага пісьменніка і запэўняюць ЦК ВКП(б) і ўрад Саюза ССР, што яшчэ шчыльней згуртуюць свае рады вакол партыі ЛЕНІНА—СТАЛІНА, яшчэ вышэй узнімуць вялікі Сталінскі сцяг соцыялістычнай радзімы.

*Старшыня Совета Народных Камісараў Беларускай ССР*
*ГАЛАДЗЕД*

**ЦВК БССР разам з працоўнымі БССР глыбока сумуе па поваду смерці вялікага пролетарскага пісьменніка, друга беларускай совецкай літаратуры, лепшага сына нашай выдатнай соцыялістычнай радзімы, нястомнага барацьбіта за справу соцыялізма**

**АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА**
**ГОРКАГА**

**Прэзідыум ЦВК БССР.**

## БЫВАЙ, НАШ ГОРКІ!

Памёр Максім Горкі! Памёр найвялікшы пісьменнік сучаснасці, імя якога знаёма і любіма працоўнымі ўсяго свету, творы якога выхоўвалі, выхоўваюць і будуць выхоўваць пакаленні бясстрашных барацьбітоў за справу пролетарыята. Памёр вялікі рэаліст—наследнік вялікіх рускіх пісьменнікаў XIX века, жывое звяно паміж класічным мастацтвам мінулага і новым мастацтвам соцыялізма. Памёр найвялікшы пісьменнік рабочага класа, буравеснік пролетарскай рэволюцыі, які ўсё жыццё, да апошняга ўздыху, аддаў служэнню пролетарыяту, магутны мастак слова, сэрца якога білася вялікай любоўю да ўсіх прыгнечаных і спапяляючай нянавісцю да ўсіх эксплаататараў і прыгнятальнікаў.

Памёр вялікі друг Леніна і Сталіна, памёр чалавек, родны і блізкі кожнаму працоўнаму Саюза Совецкіх Рэспублік, кожнаму працоўнаму любой краіны, любой нацыі. Памёр найвялікшы пролетарскі гуманіст, чый голас будзіў сумленне лепшых людзей свету, лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Захада і Ўсхода. Голас Горкага клікаў іх на смяротную барацьбу з усякім мракабессем, чалавеканенавісніцтвам, з фашысцкімі бандамі, рыцарамі бізуна і вайны. Ён вёў іх на барацьбу ў імя шчаслівага комуністычнага жыцця, у імя чалавечай годнасці, бо „чалавек — гэта гучыць горда“.

У горы, схіляючы сцягі над труной Аляксея Максімавіча, мы ведаем: геніяльныя словы яго будуць гучаць у вяках, імя яго ніколі не будзе забыта чалавецтвам.

Для нас-жа, совецкіх пісьменнікаў, якім выпаў гонар быць малодшымі саратнікамі Аляксея Максімавіча, ён і ў далейшым, як пры жыцці сваім, будзе служыць вялікім прыкладам пісьменніка, беззаветна адданага справе рабочага класа.

Бывай, друг, бывай, настаўнік, бывай, наш Горкі!

*Шчэрбакоў, Ангараў, Айні, Афінагенаў, Асееў, Александровіч, Алазан, Алекберлі, Астэміраў, Акоп Акапян, Аросаў, Айсханаў, Адаліс, Анісімаў, Бахмецьеў, Бах, Безыменскі, Балотнікаў, Бегімаў, Біль-Белацэркоўскі, Беразоўскі Ф., Бабель, Беспашчадны, Верасаеў, Вішнеўскі, Віртанен, Вургун, Гладкоў, Гарбуноў, Гарэлаў, Герасімава В., Гайрацi, Гольдберг, Галодны, Джансугураў, Джывелегаў, Золатаў, Зошчэнка, Іваноў Вс., Ілеш, Іргат, Кадыр, Кірпоцін, Кіршон, Клімковіч, Кулік, Катаеў, Караваева, Карабельнікаў, Кірсанаў, Кальцоў, Кірыленка,*

*Капыленка, Купала, Колас, Касіль, Катаеў В., Кочын, Лахуці, Леонаў Л., Е. І. Лупал, Лібедзінскі, Лайцэн, Лідзін, Лугаўскі, Леўман, Мікітэнка, Маджыдзі, Малышкін, Маршак, Маркіш, Мірскі, Малчанаў, Новікаў-Прыбой, Накаракоў, Наджмі, Нікулін Л., Нікандраў, Нейштат, Алеша, Оваляў, Оршанскі, Осінскі, Панфераў, Панч, Паўленка, Пільняк, Пастэрнак, Пагодзін, Прышвін, Первамайскі, Папоў, Пельшэ, Стаўскі, Сейфуліна Л., Сіманян, Серафімовіч, Слонімскі, Субоцкі Л., Собалеў, Семёнаў, Сіткоўскі, Суркоў, Сельвінскі, Тынянаў, Тіханаў, Талстой, Тарашэлідзе, Таш-Назараў, Трэнеў, Тычына, Тагіраў, Такамбаеў, Фадзееў, Федзін, Фефер, Форш, Фінк, Харык, Чарыеў, Чапыгін, Чанда, Чубар, Шолахаў, Шагінян, Шырабок, Шторм, Эрэнбург, Эйдэман, Эрдберг, Эулі, Эфрос, Юдзін, Ясенскі, Яшэн, Яшвілі, Яноўскі.*

# БЫВАЙ, ЛЮБІМЫ І ДАРАГІ АЛЯКСЕЙ МАКСІМАВІЧ

Тэкст прынят на мітынгу
пісьменнікаў г. Менска

Беларускія совецкія пісьменнікі разам з сваім народам, разам з народамі вялікай радзімы соцыялізма і працоўнымі ўсяго свету, выказваюць глыбокую жалобу з прычыны смерці найвялікшага чалавека сучаснасці, геніяльнейшага майстра мастацкага слова— Аляксея Максімавіча Горкага.

Горды буравеснік, горды сокал рэволюцыі, нястомны і палкі баец за вызваленне чалавецтва—усю сваю моц геніяльнага мастака, натхніцеля і арганізатара аддаў справе стварэння новай чалавечай культуры, новых чалавечых каштоўнасцей соцыялізма.

Памёр лепшы друг Леніна і Сталіна, лепшы друг працоўнага чалавецтва.

Бывай, вялікі таварыш!

Бывай, любімы і дарагі Аляксей Максімавіч!

## ІМЯ ГОРКАГА БУДЗЕ НАТХНЯЦЬ МІЛЬЁНЫ

Смерць найвялікшага пролетарскага пісьменніка Максіма Горкага—надзвычай цяжкая ўтрата для працоўных усяго свету, для ўсяго чалавецтва.

Міжнародны пролетарыят, усе падняволеныя і эксплаатуемыя страцілі свайго вернага друга, геніяльнага песняра і натхніцеля ў барацьбе супроць капіталістычнага рабства, супроць мракабесся, рэакцыі і фашызма, у барацьбе за хлеб, свабоду, мір і соцыялізм. Страцілі ў той момант, калі яны асабліва маюць патрэбу ў мастацкай творчасці Горкага, у яго трапных, паражаючых ударах па класаваму ворагу.

Вялікае імя Горкага, яго светлая памяць застануцца назаўсёды глыбока запечатлёнымі ў сэрцах працоўных усіх краін і будуць іх натхняць на далейшую барацьбу да канчатковай перамогі соцыялізма ва ўсім свеце. І яны скарыстаюць у гэтай барацьбе з пачуццём найглыбейшай удзячнасці грандыёзны літаратурны скарб, які вялікі чалавек пакідае ім, як самую лепшую, самую каштоўную спадчыну.

*Г. Дзімітраў.*

## ПАМЯЦІ ВЯЛІКАГА ЧАЛАВЕКА, ПІСЬМЕННІКА-ГРАМАДЗЯНІНА

Памёр Аляксей Максімавіч Горкі, вялікі пісьменнік нашай эпохі! Сёння яго ўжо няма сярод нас! Памёр велізарнейшай значнасці чалавек, пісьменнік-грамадзянін. Гэта ён напісаў на сваім пісьменніцкім сцягу: „Да пары, пакуль мы не навучымся любавацца чалавекам, як самым прыгожым і цудоўным з'явішчам на нашай планеце, да той пары мы не вызвалімся ад мерзкасці і ілжы нашага жыцця. З гэтым упэўненнем прышоў я ў свет, і з ім адыйду з яго і ўходзячы буду непахісна верыць, што калісьці свет прызнае: святая святых—чалавек". Так, дарагі Аляксей Максімавіч: адна шостая частка свету ўрачыста і ўсенародна вуснамі свайго геніяльнага правадыра зацвердзіла твае прароцкія запэўненні, што святая святых—чалавек.

Але ў гэты час, калі ўсе грамадзяне вялікага стосямідзесяцімільённага вызваленага народу, радасна ўсхваляваныя, абмяркоўвалі гэтыя правы чалавека, як рэзультат перамог нашага соцыялістычнага ладу і яго натхніцеля, неўмалімая смерць стаяла ля твайго ізгалоўя... Ты памёр, дарагі Аляксей Максімавіч, але ты нязрыма жывеш з намі і будзеш заўсёды жыць як наш настаўнік, непахісна клікаўшы да руху наперад, да прагрэса, да вяршынь ведаў, да ўдасканалення чалавечай асобы, да мастацкага ўвасаблення яе ў паэтычных вобразах, да барацьбы з пошласцю, з мяшчанствам. Ніколі не забудуць цябе прыгнечаныя народы, сёння вызваленыя і шчаслівыя, і, у прыватнасці, беларускі народ, бо ты адзіны вялікі пісьменнік, які прызнаў права гэтага народу ў асобе першых пяўцоў яго гора і прыгнечання на развіццё яго мастацкай літаратуры... Вечная памяць табе, вялікі пісьменнік, наш правадыр і настаўнік! Ніколі не памрэ ў нашым сэрцы твой магутны і светлы воблік чалавека і пісьменніка-грамадзяніна, усё жыццё змагаўшагася за свабоднага і поўнацэннага чалавека.

Народныя паэты БССР
*Янка Купала.*
*Якуб Колас.*

### ЗАНАДТА ПОЗНА...

Радасць майго прыезду ў Маскву амаль адразу зацмянёна цяжкой весткай. О, я ведаю, ён быў вельмі хворы ўжо некалькі часу. Кожны дзень французскія газеты давалі бюлетэнь аб становішчы

здароўя Горкага; але мы адчувалі ў Горкім такую незвычайную злітнасць з жывым жыццём, што спадзяваліся, не гледзячы на ўсё. Здавалася, смерць павінна адступіць перад такой мужнасцю... Усё-ж устрывожаны, я імкліва пакінуў Парыж у надзеі яго ўбачыць...

Перад велізарным траурам усяго свету—як асмеліцца гаварыць аб сваёй уласнай журбоце: таго, каго я ўжо называў сваім другам,—няма.

*Андрэ Жыд.*

## ЛІСТ РАМЭН РАЛАНА

Жалоба, якая прыгнятае мяне з тае хвіліны, як я даведаўся пра смерць самага дарагога сябра, брата па зброі, таварыша дваццацігадовага жыцця, не дазваляе мне цяпер пісаць артыкул для друку. Я хацеў-бы хутчэй згрупавацца на сваіх пакутлівых успамінах. У гэты жорсткі час разлукі не вялікі чалавек і не выдатны пісьменнік стаіць перад маімі вачыма. Перада мною не яго агромнае жыццё і не яго магутныя творы... Перада мною дні мінулага лета, праведзеныя разам, час ад'езду на маскоўскім вакзале, канец ліпеня 1935 г.—яго позірк, накіраваны на мяне, і яго любячыя вочы, яго глыбокі цёплы голас, моцнае і шчырае паціскание яго рукі, гэта невычарпальнае жыццё, якое, падобна яго роднай Волзе, каціліся па яго расказах ракою думкі і вобразаў, гэта юнацкая палкасць, гэтая захапляючая любоў да новага свету, у стварэнні якога ён удзельнічаў, гэта бязмежная дабрата, якою ён быў прасякнуты і гэты сум—у глыбіні душы.

Так, я лічыў-бы за лепшае маўчаць, каб мацней адчуць сябе разам з ім у гэтым вечным спакоі, у які адышло яго сэрца. Але я не маю права затаіць у сабе свае пакуты і сваю любоў. Я павінен перад усімі звярнуцца да яго з кароткім палкім прывітаннем! Я толькі адзін з тых мільёнаў, для якіх яго смерць азначае найвялікшую жалобу чалавецтва пасля смерці Леніна.

Ён быў першым і самым вялікім з сусветных дзеячоў мастацтва, якія пасля таго, як праклалі шлях пролетарскай рэволюцыі, зрабілі ёй самую поўную падтрымку, аддалі ёй прэсціж сваёй славы і свой багаты вопыт. Гэта быў чалавек, які з самага дзяцінства перанёс нястачу і ўніжэнне прыгнечанага пролетарыята, чалавек, які падобна Дантэ выйшаў з пекла, але вышаў не адзін, і павёў за сабою сваіх таварышоў па пакутах і выратаваў іх.

Ніколі вялікі пісьменнік не адыгрываў такой высокай ролі. Ён быў нібы папячыцелем літаратуры, мастацтваў і навукі ў Савецкім Саюзе, іх гідам, іх строгім настаўнікам і іх абаронцам. Кіраўнікі Савецкага Саюза, якія паважалі Горкага і былі яго асабістымі сябрамі, выкарысталі яго велізарны розум і бязмежную дабрату.

Ён памёр якраз у той час, калі ажыццяўляецца справа, якая нібы ставіць пячатку, сцвярджаючы савецкую перамогу,—гэтая дзівосная Канстытуцыя, самая гуманная і самая свабодная, якую калі-небудзь атрымлівалі народы. Напэўна, думка Горкага ўдзельнічала ў яе стварэнні. (Ён мне казаў пра яе мінулым летам.)

Учора вечарам я слухаў са сціснутым сэрцам сумны пахавальны марш Бетховена, які перадаваўся па радыё з Масквы і суровыя словы, што абвяшчалі пра смерць. Я адчуваў сябе ў Маскве сярод мільёнаў мужчын і жанчын, ахопленых жалобаю. Мая думка ў гэтую ноч стаяла ў ганаровай варце каля цела заснуўшага сябра. Заўтра я адчую на сваіх плячах яго труну, якую-б я нёс, калі-б быў у Маскве.

Сябры, аб'яднаем нашу жалобу, нашу любоў і нашу глыбокую павагу! Якія почасці мы ні аддалі-б вялікаму чалавеку, імя якога носіць адзін з самых магутных гарадоў, але самы прыгожы, самы свяшчэнны з усіх помнікаў Горкаму збудован у нашым сэрцы.

Вільнеў. 19 чэрвеня.

# ТРАУРНЫ МІТЫНГ, ПРЫСВЕЧАНЫ ПАМЯЦІ А. М. ГОРКАГА

## ПРАМОВА ТАВ. В. М. МОЛАТАВА

*(Ад СНК Саюза ССР і ЦК ВКП(б))*

Таварышы! Развітваючыся сёння з Аляксеем Максімавічам Горкім, мы, яго сябры і бязлікія чытачы-прыхільнікі, перажываем такое пачуццё, што ў кожнага з нас нейкая яркая частка свайго ўласнага жыцця адыходзіць назаўсёды ў мінулае. Мільёны людзей перажываюць зараз гэтае пачуццё. Так душэўна глыбока і непасрэдна, блізка стаяў Горкі да нас, да людзей сваёй эпохі, якім ён так многа даў геніяльным мастацкім словам, сваёй бязмернай любоўю да працоўных і барацьбой за свабоднага чалавека, прыкладам усяго свайго дзівоснага, непаўторнага жыцця.

Каб стаць вялікім пісьменнікам, якім мы яго ведаем, Горкі павінен быў на працягу доўгіх гадоў весці ўпартую барацьбу за тое, каб вырвацца з цяжкай нястачы і гора, пачынаючы яшчэ з ранняга дзяцінства. Яго не раз кідала на дно жыцця, дзе шмат загінула людзей з талентам, з дараваннямі. З-за хлеба яму шмат давялося папрацаваць на капіталістаў, малых і большых—маляром, пекарам, канторшчыкам, грузчыкам, батраком.

Ніхто з буйных пісьменнікаў нашай краіны, ды і ў іншых краінах, не ведаў так блізка жыццё „нізоў" народа пры капіталізме. Ніхто з іх не перажыў на сабе самом гэтулькі жорсткасцей і агіднасцей з боку паноў-эксплаататараў. Ніхто з іх нават проста не бачыў сваімі вачыма гэтулькі замучаных паднявольнаю працаю і забітых гнётам капітала, як наш Горкі, у якога ўсё гэта выкавала непрымірымасць і рэвалюцыйную нянавісць да капіталістычнага ладу і беззаветную веру ў вызваленчую сілу комунізма.

Вось чаму рабочыя і ўсе працоўныя бачаць у Горкім *сябе*, *свайго* чалавека, *сваё* жыццё—лёс, сваю будучыню. Вось чаму Горкага так любілі, любяць і будуць любіць працоўныя нашай краіны і працоўныя іншых краін.

Горкі стварыў неўміручыя вобразы людзей свайго часу.

Назаўсёды застаюцца ў памяці яго мастацкія постаці капіталіста—драпежніка нажывы, затхлага мешчаніна правінцыяльнага захалусця, самаўлюбёнага буржуазнага інтэлігента-паразіта і іншых паноў старой дарэвалюцыйнай Русі. Пролетарскі пісьменнік Максім Горкі заглянуў у самую іх душу і раскрыў у сваіх творах іх соцыяльную прыроду, прыроду прыгнятальнікаў народных мас.

Ён шмат даў жывых і моцных прыкладаў таго, да якога падзення і нікчэмнасці звярыная сістэма капіталізма даводзіла і некаторых выхадцаў з буржуазных пластоў, якія скаціліся ў разрад няўдачнікаў.

Разам з тым Горкі, як вялікі мастак пролетарыята, даў дзівосныя вобразы свабодалюбівых і самаадданых людзей, якія не міраццa з гнётам і тванню жыцця, даў лепшыя і выразлівыя вобразы пролетарскіх рэволюцыянераў, сагрэтыя цеплынёю шчырага пачуцця геніяльнага мастака.

У Максіма Горкага многа мільёнаў чытачоў-прыхільнікаў. Шэрагі іх будуць яшчэ доўга расці і расці.

Па сіле свайго ўплыву на рускую літаратуру Горкі стаіць за такімі гігантамі як Пушкін, Гогаль, Талстой, як лепшы прадаўжальнік іх вялікіх традыцый у наш час. Уплыў мастацкага слова Горкага на лёс нашай рэволюцыі непасрэдней і мацней, чым уплыў якога-небудзь іншага нашага пісьменніка. Таму іменна Горкі з'яўляецца сапраўдным роданачальнікам пролетарскай соцыялістычнай літаратуры ў нашай краіне і ў вачах працоўных усяго свету.

Сваімі асобымі шляхамі прышоў вялікі мастак Максім Горкі ў шэрагі барацьбітоў за комунізм. Увайшоў ён у нашы шэрагі яшчэ да рэволюцыйнага ўздыму 1905 г., але ўжо з разгорнутым сцягам буравесніка рэволюцыі.

Горкі пачаў сваё рэволюцыйна-літаратурнае жыццё ў эпоху нарастання рэволюцыйнага выбуху і скора цалкам і арганічна стаў на пазіцыі рабочага класа, стаў блізкім сябрам вялікага Леніна па барацьбе за комунізм.

Веліч Горкага ў тым, што яго светлы розум, блізасць да народу і самаадданая гіганцкая праца над асваеннем дасягненняў культуры чалавецтва зрабілі яго беззаветным сябрам працоўных і вялікім натхніцелем барацьбы за справу комунізма.

Да апошняга ўздыху Горкі жыў аднымі пачуццямі і думкамі з тымі, хто з такім энтузіязмам будуе цяпер новае соцыялістычнае грамадства пад кіраўніцтвам партыі Леніна—Сталіна. Яго вочы да канца дзён жыцця бліскалі агнямі барацьбы і непрымірымасці да ворагаў працоўных, да фашыстаў і да ўсіх іншых прыгнятальнікаў, да душыцеляў культуры і падпальшчыкаў вайны. Кожнаму поспеху працоўных у нашай краіне, поспехам стаханаўцаў, новым формам руху сярод жанчын, росту ўраджаяў і прадукцыйнасці працы, выкрыццю вылазак і падвохаў з боку ворага і ўмацаванню абароны краіны і асабліва культурнаму росту мас, росту літаратуры і мастацтва, ён радаваўся як палкі юнак і як мудры бацька.

Прыклад Горкага многаму нас вучыць.

Горкі—*геніяльны мастак слова.*

Літаратарам, мастакам слова гэты прыклад паказвае сілу слова, калі гэта слова служыць барацьбе за шчасце чалавека і чалавецтва, калі гэтае слова даходзіць да сэрца людзей і народаў.

Горкі—*вялікі сын вялікага народу.*

Простым людзям, працоўным, прыклад Горкага паказвае, што наш народ, як і іншыя народы, багаты слаўнымі талентамі, якім раней толькі ў выключных выпадках удавалася вырвацца з-пад спуду, а зараз—адчынены вольны шлях да росквіту, да перамог і славы.

Горкі—*беззаветны сябр працоўных і натхніцель барацьбы за комунізм.*

Ці патрэбны яшчэ доказы, што лепшыя людзі чалавецтва, якія дасягнулі вяршынь культуры і глыбокага разумення затоенай мары народаў пра сваё шчасце, назаўсёды, без астачы аддаюць свае сілы справе комунізма і ў гэтым бачаць сваё вышэйшае задавальненне?

Адно гэта гаворыць за тое, што справа комунізма на шляху да сваёй поўнай перамогі.

Пасля Леніна смерць Горкага—самая цяжкая ўтрата для нашай краіны і для чалавецтва.

Наша сіла ў тым, што народ совецкай краіны, якому Горкі аддаў увесь свой вялікі талент і вялікае сэрца, падняўся ўжо на свае магутныя ногі, даў простор росту сваіх бязмерных сіл і талентаў і тым самым пераможна ператварае ў жыццё надзеі і мары лепшых прадстаўнікоў чалавецтва.

## ПРАМОВА ТАВ. Н. А. БУЛГАНІНА

*(Ад маскоўскіх совецкіх і партыйных арганізацый)*

З вялікім напружаннем насельніцтва горада Масквы сачыла за ходам гэтай апошняй і ракавой хваробы таварыша Аляксея Максімавіча Горкага.

Працоўныя Масквы не толькі цяпер, але і заўсёды раней клапатліва сачылі за жыццём гэтага вялікага чалавека, за яго здароўем, за тым, як жыве і працуе вялікі пісьменнік.

Не было пленума маскоўскага совета, каб дэпутаты ад імя працоўных не задавалі пытанні: „Як Горкі, як яго здароўе, як ён працуе?“

І вось 18 чэрвеня, у дзень смерці гэтага выдатнага чалавека, урадавае паведамленне на працягу некалькіх хвілін ускалыхнула ўвесь горад.

Усе мы былі сведкамі ўчора і сёння, як мільёны насельніцтва Масквы і Маскоўскай вобласці імкнуліся ў апошні раз глянуць на свайго Горкага.

У Дом саюзаў ішлі сотні тысяч рабочых і служачых, вучоных, пісьменнікаў; ішлі школьнікі і піонеры, каб засведчыць гарачую любоў свайму вялікаму пісьменніку і другу.

Ішлі ўсхваляваныя ўспамінамі аб яго выдатных творах, у якіх кожны стары рабочы бачыў сваё ўласнае цяжкое дарэволюцыйнае жыццё і сваю барацьбу з прыгнятальнікамі і паднявольцамі.

Таварышы, цяжка знайсці чалавека, які-б не ведаў, хто такі Горкі, які-б не ведаў у асноўных рысах яго дзівоснага мінулага, яго біяграфіі.

Рабочы клас, працоўныя масы бачылі ў ім свайго пісьменніка, вялікага пісьменніка, які вышаў з сям'і працоўнага народу, бачылі ў ім адданага барацьбіта за справу рабочага класа, за справу працоўнага народу.

Ён, Аляксей Максімавіч, плаціў працоўным той-жа гарачай любоўю.

Аляксей Максімавіч жыў інтарэсамі рабочага класа, інтарэсамі народу, поспехамі і перамогамі нашай вялікай радзімы.

Жывучы ў нас, у Маскве, ён цікавіўся тым, што займае сёння маскоўскіх працоўных.

У разгары перабудовы Масквы, на асновах, указаных Цэнтральным Камітэтам партыі і таварышом Сталіным, Аляксей Максімавіч горача, так, як толькі ён мог, цікавіўся тым, як ідзе справа.

Ён захапляўся і па-дзіцячаму радаваўся поспеху нашых заводаў, радаваўся, калі з канвеера завода імя Сталіна пайшлі дзесяткі тысяч бліскучых машын.

Ён з радасцю віншаваў маскоўскае насельніцтва, калі пад кіраўніцтвам партыі і ўрада ў Маскве быў закончан будаўніцтвам і пушчан у ход выдатны маскоўскі метрапалітэн.

Аляксей Максімавіч неяк выказаў жаданне азнаёміцца з будаўніцтвам і перабудовай Масквы.

Ён гаварыў пры гэтым, што куды ні паглядзіш—усюды штонебудзь будуецца, што гэта можа быць толькі ў нас, дзе кіруе справай урад народу і большэвіцкая партыя.

Разам з кіраўніцтвам маскоўскіх партыйных і савецкіх арганізацый Аляксей Максімавіч аб'ехаў новыя школы, новапабудаваныя хлебазаводы. Ён жыва цікавіўся ходам справы. У школе ён знаёміўся з паспяховасцю дзяцей, з работай настаўніка, даваў каштоўныя парады. На хлебазаводзе ён расказваў як працаваў ён, і параўноваў гэты хлебазавод з ранейшай цяжкай працай рабочых у царскай Расіі.

І калі ён у той раз, у канцы гэтай паездкі, прыехаў у толькі што закончаны будаўніцтвам Палац культуры ў Пролетарскім раёне, ен заявіў там акружаўшым яго, што цяпер рабочы клас дабіўся таго, аб чым ён мог толькі марыць усё сваё жыццё.

Аляксей Максімавіч Горкі ў гэтай гутарцы, параўноўваючы толькі што агледжаную ім выдатную школу, механізаваны па апошняму слову тэхнікі хлебазавод, з усім тым, што ён бачыў і перажыў у старой царскай Расіі, з гордасцю гаварыў аб перамогах рабочага класа.

Ён бачыў у гэтых пабудовах перамогшы рабочы клас і магутную вялікую дзяржаву рабочых і сялян—Совецкі саюз.

Ён бясконца радаваўся таму, што справа рабочага класа, з якога

ён вышаў, справа нашай большэвіцкай партыі, за заветы якой ён змагаўся ўсё сваё жыццё, перамагла беспаваротна і канчаткова.

Ён жыў пачуццём дзівосных перамог, якімі жылі, жывуць і будуць жыць усе народы нашага вялікага Савецкага Саюза.

Таварышы, Аляксей Максімавіч Горкі ў яго бліскучых творах бяссмертны.

Ён пакінуў нам найбагацейшую літаратурную спадчыну—лепшыя творы літаратуры, дзе адлюстравана жыццё і барацьба працоўных з векавым рабствам, барацьба за справу комунізма, за справу нашай партыі, за справу Леніна—Сталіна

Маскоўскі абласны і гарадскі камітэты партыі, Моссовет і абласны выканаўчы камітэт сёння над прахам гэтага выдатнага чалавека заклікаюць усіх рабочых, работніц, усіх працоўных быць таксама як і Горкі, да канца і беззаветна адданымі справе працоўных мас усяго свету, справе нашай вялікай комуністычнай партыі, справе Леніна—Сталіна.

Маскоўскія арганізацыі ўпэўнены, што ў адказ на гэту ўтрату вялікага пісьменніка і барацьбіта сотні і тысячы герояў і талентаў у нашай краіне памножаць свае шэрагі для канчатковай перамогі комунізма ва ўсім свеце!

## ПРАМОВА АЛЯКСЕЯ ТАЛСТОГА

*(Ад Саюза савецкіх пісьменнікаў)*

У мастака, які глыбока і праўдзіва адлюстроўвае рэволюцыйныя эпохі гісторыі, якім быў Горкі, у творцы, які вядзе за сабою чалавецтва для стварэння вызваленага свету, якім быў Ленін,—у вялікіх людзей не дзве даты іх быцця ў гісторыі—нараджэнне і смерць, а толькі адна дата—іх нараджэнне.

На гэтай старадаўняй плошчы, дзе народ тысячагоддзі ствараў для сябе дзяржаву і дзе стварыў для ўсіх вышэйшыя формы дзяржавы, мы сабраліся, каб паставіць у Пантэоне урну з прахам нашага народнага і сусветнага пісьменніка.

Дата нараджэння мастака—Горкага—дзевяцісотыя годы. Юнак Пешкоў сабраў у дзівосным фокусе сваёй душы ўсе выбуховыя сілы той прадрэволюцыйнай эпохі: сабраў увесь гнеў уніжаных і эксплаатуемых, усё пакутнае чаканне, усе страсці, якім не знаходзілася выйсця.

Ён сваімі бакамі адчуў чыгунную сілу купецкіх, мяшчанскіх і паліцэйскіх кулакоў. Ён не раз біўся як шалёны адзін супроць многіх у абарону зневажаемых і ўніжаемых.

І вось у дзевяностых гадах гэты высокі, худы, сутулы, блакітнавокі юнак з душою дзерзкай і палкай,—у тыя страшныя гады прыгнечання і напружанай цішыні—узняў бунт.

У каго жывое сэрца, сказаў ён, разбівай дашчэнту праклятае мяшчанскае акачаненне, ідзі на прасторы, запальвай вогнішчы вольнага жыцця!

Шырокімі мазкамі, таропка і геніяльна маляваў ён тупы

і звярыны твар класа эксплаататараў. Вось яна—расійская, вымазаная алеем ненажэрная морда. Любуйцеся!

Я яшчэ быў хлопчыкам, я памятаю тое ўражанне грандыёзнага выбуху, які пранёсся па ўсяму свету. У затхлым, здавалася-б, такім моцным, буржуазным жыцці, была зроблена прабоіна, куды рынуліся ўсе, у каго было жывое сэрца.

У які-небудзь год імя Горкага абляцела ўвесь свет. Ён стаў „предтечей революции", яе буравеснікам.

Блізасць да Леніна арганізавала яго бунт, накіравала яго мастацтва да ясна вызначаных і канкрэтных мэт.

Блізасць да Сталіна арганізавала яго работу: апрача асабістай творчасці ён узяў на сябе велізарную і важную задачу кіраўніцтва совецкай літаратурай. Ён гнеўна і непахісна вёў совецкую літаратуру на сусветныя вышыні. Ён вёў совецкую літаратуру адзіным яе шляхам—рэалізма, культуры, праўды, шырокага і глыбокага пазнання ўсёй living розностайнасці нашага совецкага жыцця.

Яго кіруючай ідэяй была формула Леніна: „Само імкненне да ахопу агульнага—ужо выратоўвае нас ад коснасці".

Такі шлях совецкай літаратуры: імкненне ахапіць як мага больш, як мага глыбей, як мага праўдзівей наша складанае, творчае, растучае, небывалае жыццё. На варце гэтага імкнення стаяў і стаіць неўміручы Горкі.

Таварышы, не пахаронным маршам, а пераможнай песняю жыцця сустракаем вялікага мастака, які жыве з намі і прадаўжае дапамагаць нам сваім неўміручым словам несці высока, усё вышэй факел совецкага мастацтва.

Няхай жыве вечна Горкі ў нашых сэрцах і ў нашых тварэннях!

## ПРАМОВА ТАВ. АНДРЭ ЖЫДА

*(Ад міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў)*

Смерць Максіма Горкага засмуціла не толькі совецкую краіну, але і ўвесь свет. Вялікі голас рускага народа, які даходзіў да нас праз Горкага, знайшоў сабе водгук у самых далёкіх краінах. І вось чаму я тут выражаю не толькі сваё асабістае гора, але гора французскай літаратуры, гора еўрапейскай культуры, гора культуры ўсяго свету.

Культура доўгі час была перавагаю прывілеяванага класа. Каб аўладаць культурай, трэба было мець вольны час. Цэлы клас працаваў, каб даць мажлівасць невялікаму ліку людзей, якія нічога не робяць, мець асалоду жыцця, папаўняць свае веды. Сад культуры, літаратуры і мастацтва быў прыватным уладаннем, куды мелі доступ не самыя развітыя, не самыя здольныя, але тыя, хто з дзяцінства не ведаў нястачы. Заўсёды было відавочна, што розум не абавязкова звязан з багаццем. У французскай літаратуры такія людзі, як Мальер, Дзідро, Русо, выйшлі з народу, але іх чытачы ўсе былі людзьмі, якія мелі вольны час.

Калі вялікая Кастрычніцкая рэволюцыя ўскалыхнула глыбокія

пласты народаў, на Захадзе гаварылі і паўтаралі і нават амаль верылі ў тое, што гэты велізарны вал затопіць культуру. Хіба, казалі некаторыя, культура, як толькі яна перастане быць прывілеяй невялікага ліку людзей, не знаходзіцца ў небяспецы? У адказ на гэтае пытанне пісьменнікі ўсіх краін згуртаваліся ва ўсведамленні няўхільнага доўгу: так, культура ў небяспецы; але небяспека ёй пагражае ніяк не з боку вызваленчых і рэволюцыйных сіл: наадварот, яна пагражае з боку тых пластоў, якія спрабуюць падначаліць сабе гэтыя рэволюцыйныя сілы, зламаць іх, налажыць свае ярмо на самы розум. Пагрозай для культуры з'яўляецца фашызм і вузкія штучныя нацыяналізмы, якія не маюць нічога агульнага з сапраўдным патрыятызмам, з глыбокай любоўю да сваёй краіны. Тое, што пагражае культуры,—гэта вайна, да якой няўхільна вядуць гэтыя злобныя нацыяналізмы.

Я павінен быў старшынстваваць на міжнароднай канферэнцыі пісьменнікаў для абароны культуры, якая зараз адбываецца ў Лондане.

Трывожныя весткі аб стане здароўя Максіма Горкага прымусілі мяне паспяшацца ў Маскву. І на гэтай Краснай плошчы, якая бачыла ўжо гэтулькі слаўных і трагічных падзей, з гэтага маўзалея Леніна, на які накіраваны ўсе позіркі свету, я хачу голасна заявіць ад імя пісьменнікаў, аб'яднаных у Лондане, і ад майго ўласнага імя, што клопаты пра абарону культуры павінны ўзяць на сябе вялікія міжнародныя рэволюцыйныя сілы. Яны павінны яе ахоўваць і надаць ёй новы бляск. Лёс культуры для нас непасрэдна звязан з самым лёсам СССР. Мы будзем абараняць іх.

Таксама як над прыватнымі інтарэсамі кожнай краіны стаіць вялікае адзінае імкненне да згуртавання пролетарыята ўсіх краін, так над кожнай нацыянальнай літаратурай квітнее культура, агульная і адзіная для ўсіх нацый; культура, якая вырасла з таго, што сапраўды з'яўляецца жывым і чалавечым у асаблівасцях літаратуры кожнай краіны, „нацыянальнай па форме, соцыялістычнай—па зместу“, як нам сказаў таварыш Сталін.

Я часта пісаў, што чым больш у пісьменніка свайго, характэрнага, тым больш шырокае кола ён прыцягвае да сябе, таму што, будучы больш індывідуальным, ён бывае тым самым больш чалавечным. Ні адзін рускі пісьменнік не быў больш рускім, чым Максім Горкі. І ні да аднаго з рускіх пісьменнікаў не прыслухоўваліся з такой увагай ва ўсім свеце.

Я бачыў учора, як ішоў народ міма труны Максіма Горкага. Я мог-бы бясконца глядзець на гэтую безліч жанчын, дзяцей, працоўных усіх прафесій, чыім сябрам і глашатаем быў Максім Горкі. Я з сумам думаў пра тое, што гэтыя самыя людзі ва ўсякай іншай краіне, апрача СССР, былі-б тымі людзьмі, для якіх быў-бы забаронен уваход у гэтую залу. Тымі самымі людзьмі, якія каля ўвахода ў сады культуры натыкаюцца на страшнае: „уваход забаронен“, „прыватнае ўладанне“. І слёзы наверчваліся ў мяне на вачах пры думцы аб тым, што тое, што тут ужо так натуральна, здаецца мне, заходняму чалавеку, яшчэ такім дзіўным.

І я думаў таксама, што тут, у Савецкім саюзе, ёсць нешта

новае і нечаканае: да гэтых пор ва ўсіх краінах свету буйны пісьменнік амаль заўсёды быў у той або іншай ступені мяцежнікам і бунтаром. Больш ці менш свядома, з большай ці меншай яснасцю ён думаў, ён пісаў заўсёды супроць чаго-небудзь, ён не згаджаўся нічога ўхваляць. Ён усяляў у розумы і сэрцы бражэнне непакорнасці, мецяжа. Саноўнікі, улады, калі-б яны ўмелі прадбачыць, без сумнення, угадалі-б у ім ворага.

Зараз у Совецкім саюзе пытанне ўпершыню стаіць інакш: будучы рэволюцыянерам, пісьменнік не з'яўляецца больш апазіцыянерам. Наадварот, ён выражае волю мас, усяго народу і, што прыгажэй за ўсё, волю яго правадыроў. Гэта праблема нібы знікае, і гэта перабудова настолькі незвычайна, што розум не можа яго адразу ўсвядоміць. І гэта толькі адно з многага, чым можа ганарыцца СССР у гэтыя дзівосныя дні, якія працягваюць патрасаць наш стары свет. Совецкі саюз запаліў у новым небе новыя зоры, адкрыў новыя праблемы, пра існаванне якіх мы па гэты дзень і не думалі.

На долю Горкага выпаў дзіўны і слаўны лёс—звязаць гэты новы свет з мінулым і перакінуць мост у будучае. Ён бачыў прыгнёт пазаўчорашняга дня, трагічную барацьбу ўчорашняга. Ён сваімі магутнымі сіламі дапамог упэўненайззяючай перамозе сёнешняга дня. Ён быў выразнікам тых, хто яшчэ сам не мог узняць свой голас, і тых, чый голас ужо гучыць зараз. З сёнешняга дня Максім Горкі належыць гісторыі. Яго месца ў шэрагу самых вялікіх.

---

Траурны мітынг скончан. Кіраўнікі партыі і ўрада на чале з т. Сталіным сцеражна падымаюць катафалку з урнай і накіроўваюцца да Крэмлёўскай сцяны. У 18 гадзін 47 хвілін пад грукат артылерыйскага салюта урна замуроўваецца ў нішу.

У старадаўняй Крэмлёўскай сцяне, поруч з прахам Кірава і Куйбышэва, пахован прах вялікага рускага пісьменніка, геніяльнага мастака слова, беззаветнага сябра працоўных і барацьбіта за перамогу комунізма—Максіма Горкага.

## ЖЫЦЦЕВЫ ШЛЯХ АЛЯКСЕЯ МАКСІМАВІЧА

Аляксей Максімавіч Горкі нарадзіўся 29 сакавіка 1868 г. у Ніжнім Ноўгарадзе. Дзяцінства Горкага апісана ім самім у двух надзвычайных кнігах: „Детство" і „В людях", якія ўвайшлі ў сусветную скарбніцу літаратуры як класічныя ўзоры. У гэтых кнігах з велізарнай праўдзівасцю паказаны непрыгляднасць і цяжкасць жыцця, якія адчуў Горкі. Чатырох год ад роду ён страціў бацьку, які памёр ад халеры, а ў дзесяць год Горкі застаўся круглай сіратой.

Калі яму было восем гадоў, яго аддалі ў пачатковае вучылішча, але „курса в оном по бедности не кончил", як значылася потым у дакументах пра яго. Усе свае велізарныя веды Горкі набыў самавучкай у выключна цяжкіх умовах.

Каб не памерці з голаду, Горкі быў і анучнікам, і хлапчуком на пасылках, і пекарам, і вартаўніком, і памочнікам повара, і грузчыкам. „Працаваў я шмат,—успамінаў ён,—амаль да атупення. Будні і святочныя дні былі аднолькава загружаны дробнай бяссэнснай, безрэзультатнай працай". Але страсць да чытання, якая аднойчы з'явілася, не пакідала яго ўсё жыццё, і хоць ён спачатку чытаў бессістэмна ўсё, што траплялася пад руку, кніга дапамагла яму зразумець жыццё і яшчэ больш яго палюбіць.

Пастаяннае захапленне чытаннем выклікала ўсё большую прагнасць ведаў. У пошуках ведаў Горкі прыехаў у Казань, у універсітэцкі горад, спадзяючыся тут лягчэй і бліжэй далучыцца да навукі.

У універсітэт, зразумела, ён не папаў. Выконваючы па-ранейшаму цяжкую і брудную работу, ён зблізіўся, аднак, з вучнёўскай рэвалюцыйнай моладдзю.

Тут-жа Горкі пазнаёміўся з вядомым рэвалюцыянерам-народнікам Міхаілам Антонавічам Ромась, які адбыў ужо цяжкую якуцкую ссылку. Ромась запрасіў да сябе Горкага на работу ў Паволжскую вёску Краснавідава. У гэтай вёсцы Ромась адчыніў краму ў мэтах рэвалюцыйнай прапаганды сярод сялян. Але кулакі падпалілі хату і краму Ромася. Горкі насілу выратаваўся.

Першая сустрэча Горкага з жыццём вёскі зрабіла на яго гнятучае ўражанне. Ён паехаў на Каспій і працаваў там у рыбалоўнай арцелі. Потым пайшоў адзін у Маздокскі стэп, хадзіў па жыгулях і вярнуўся ў Казань. Гэта было яго першае вялікае вандраванне восенню 1888 г.

Папрацаваўшы некаторы час вартаўніком і вагаўшчыкам на чыгунцы, Горкі пераехаў у Ніжні-Ноўгарад. Тут ён сустракаецца з

палітычнымі ссыльнымі і ўпершыню трапляе „на заметку“ жандармаў як „политически неблагонадежный“. Тут-жа ён упершыню на месяц трапляе ў турму. З таго часу аж да рэволюцыі 1917 г. у жандарскім упраўленні ўсё разрастаецца справа „о цеховом малярного цеха А. М. Пешкове“.

У Ніжнім-Ноўгарадзе Горкі сустрэўся з вядомым рускім пісьменнікам В. Г. Караленка. Ён прынёс пісьменніку сваю вялікую паэму ў прозе і вершах „Песнь старого дуба“. Паэма была дрэннай і Караленка пра гэта ветліва, але проста сказаў Горкаму: „Я рашыў,—успамінаў потым Горкі,—не пісаць больш ні вершаў, ні прозы і, сапраўды, увесь час жыцця ў Ніжнім, амаль два гады, нічога не пісаў, а часам вельмі хацелася“.

У гэты час Горкі служыў пісьмаводам у адваката Ланіна, атрымліваючы дваццаць рублёў у месяц.

Вясною 1891 г. ён накіроўваецца ў новае вандраванне. Ён ішоў Данскою вобласцю, Украінай, усюды на месцы здабываючы сабе харчаванне, батрачыў у сялян, працаваў падзённа. Прайшоў Бесарабію да Дуная, потым вярнуўся берагам Чорнага мора. З Адэсы, дзе Горкі працаваў у парту грузчыкам, ён прайшоў Перакоп, Сімферопаль, Ялту, Керч, Кубань, Чорнамор‘е, Терскую вобласць, Ваенна-Грузінскую дарогу і глыбокай восенью 1891 г. прышоў у Тіфліс.

Толькі 25 верасня 1892 г. (гэтую дату і прынята лічыць пачаткам яго літаратурнай дзейнасці) у тіфліскай газеце „Кавказ“ з‘явілася першае апавяданне Горкага „Макар Чудра“. У кастрычніку таго-ж года Горкі прыехаў у Ніжні і зноў пачаў працаваць пісьмаводам у адваката Ланіна. Акрылены поспехам першага апавядання, Горкі працягваў пісаць, але напісанага не друкаваў, таму што вельмі строга адносіўся да сябе і да літаратуры. Толькі ў жніўні 1893 г. у маскоўскіх „Русских ведомостях“ было надрукована другое апавяданне Горкага „Емельян Пиляй“.

Паслухаўся Караленкі Максім Горкі і напісаў першую буйную аповесць „Челкаш“, якая была надрукавана ў часопісі „Русское богатство“.

23 сакавіка 1895 г. Горкі прыязджае ў Самару, запрошаны туды ў якасці сталага супрацоўніка „Самарской газеты“. У той-жа дзень жандарскае губернскае ўпраўленне сакрэтным парадкам просіць „установить местожительство поднадзорного Пешкова в Самаре и учредить за ним негласный надзор“.

Сярод нарысаў і шматлікіх фельетонаў, змешчаных Горкім у „Самарскай газеце“, трэба ўпамянуць і такія вядомыя яго рэчы, як „Песня пра сокала“, „На плотах“, „Дело с застежками“, „Однажды осенью“.

У маі 1896 г. Горкі быў запрошан сталым супрацоўнікам у „Нижегородский листок“ і пераехаў у Ніжні. Тут Горкі напісаў шэраг апавяданняў, сярод іх „Озорник“, „В степи“, „Болезнь“, „Коновалов“. Скора Горкі прымушан быў пакінуць Ніжні Ноўгарад і паехаць у Крым, бо захварэў туберкулёзам, пагражаўшым яго жыццю.

1898 г. быў знамянальным годам у жыцці Горкага. У гэтым

годзе ўпершыню выйшлі асобным выданнем яго кнігі—два томікі па дзесяці апавяданняў у кожным. Поспех іх быў выключны.

У гэтым-жа 1898 годзе Горкі зноў арыштоўваецца ў Ніжнім па патрабаванню Тіфліскага жандарскага ўпраўлення і этапным парадкам быў накіраван у Тіфліс для дазнання. Тут ён прасядзеў некаторы час у Мецехскім замку ў асобным каземаце.

З Тіфліса Горкі паехаў у Самару, а адтуль—у Ніжні. У лютым 1899 г. у часопісе „Жизнь“ пачала друкавацца вялікая аповесць Горкага „Фома Гордеев“. Адначасова Горкі працягвае рэволюцыйную работу.

Дзейнасць Горкага не прайшла для яго беспакарана. Яго арыштавалі і пасадзілі ў турму, але зноў пасля месячнага заключэння вымушаны былі вызваліць з турэмнага замка і абмежавацца дамашнім арыштам.

У верасні 1899 г. Горкі быў аддан пад гласны надзор паліцыі ў г. Арзамасе. Але з прычыны вельмі дрэннага стану здароўя Горкага ўдалося дабіцца для яго дазволу пераехаць на некалькі месяцаў у Крым для лячэння. У звязку з ад‘ездам Горкага ў Ніжнім і інш. гарадах, кудою ён праязджаў, адбыліся значныя дэманстрацыі вучнёўскай моладзі і інтэлігенцыі. На гэтыя дэманстрацыі адклікнуўся Ленін артыкулам у старой „Искре“.

У красавіку 1901 г. у часопісе „Жизнь“ была надрукавана горкаўская „Песня пра буравесніка“, успрынятая ўсёй краінай як маніфест рэволюцыйнага ўздыму.

У бытнасць Горкага ў Крыму адбыўся нашумеўшы эпізод з выбарам яго ў ганаровыя акадэмікі Акадэміі навук. Калі пра гэта было паведамлена цару, той з здзіўленнем напісаў на дакладзе „Более чем оригинально“, пасля чаго ён даў просты загад аб адмене выбараў Горкага і выбары былі абвешчаны несапраўднымі. Абураныя такім свавольствам ганаровыя акадэмікі А. П. Чэхаў і В. В. Караленка адмовіліся ад гэтага звання.

У сакавіку 1902 г. на сцэне Маскоўскага тэатра быў дан паказ п‘есы Максіма Горкага „Мешчане“, якая мела велізарны поспех у публіцы.

У красавіку таго-ж года Горкі вымушан вярнуцца ў ссылку Арзамас і там канчае п‘есу „На дне“.

К гэтаму часу Максім Горкі пераходзіць у лагер рэволюцыйнай соцыял-дэмакратыі і ўступае ў цесную сувязь з старой „Искрой“, якою кіраваў В. І. Ленін за граніцай.

Поспех п‘есы Горкага „На дне“ быў зусім выключны не толькі ў Расіі, але і за граніцай, дзе яна абышла тэатры ўсіх еўрапейскіх краін. Яна была ўспрынята як рэволюцыйны твор і сябрамі і ворагамі рэволюцыі.

Горкі прымае непасрэдны ўдзел у рэволюцыі 1905 г. Ён піша адозвы і дапамагае ўсімі сіламі рэволюцыйнаму руху. Ён быў арыштаваны і пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, але праз месяц вымушаны былі яго вызваліць і выслалі ў Рыгу. Рыхтаваўся судзебны працэс супроць Горкага, але ў сувязі з маніфестам 17 кастрычніка справа была спынена. Звярнуўшыся ў Пецярбург, Горкі арганізаваў вялікую газету „Новая жизнь“, якая стала

першым большэвіцкім легальным органам. Пасля першых нумароў яна непасрэдна рэдагавалася прыехаўшым з-за граніцы В. І. Леніным.

К таму часу ў большэвіцкай партыі ўзнікла думка даручыць Горкаму паездку ў Амерыку для збору шляхам агітацыі грошай у партыйную касу. Ён выехаў за граніцу ў студзені 1906 г.

За час сваёй паездкі ў Амерыку Максім Горкі напісаў свой выдатны раман „Маці“, які адыграў такую велізарную ролю ў барацьбе рабочага класа за сваё вызваленне.

Пасля сваіх выступленняў за граніцай Горкі, вядома, не мог вярнуцца ў Расію. Ён пасяліўся ў Італіі на востраве Капры і стаў палітычным эмігрантам.

Жывучы за граніцаю, Горкі яшчэ цясней звязаўся з партыяй і партыйнаю работаю. Вясной 1907 г. у Лондане адбыўся пяты з‘езд партыі, на якім Горкім прысутнічаў у якасці дэлегата з дарадчым голасам. Сустрэчы яго з Леніным на з‘ездзе паслужылі пачаткам цеснага іх збліжэння і дзейнай перапіскай.

Горкі актыўна ўдзельнічае ў большэвіцкім часопісе „Просвещение“ і кіруе ў ім белетрыстычным аддзелам.

Імперыялістычную вайну Горкі сустрэў з найвялікшым абурэннем і заўсёды быў адным з самых вялікіх працаўнікаў яе. Калі ажыццявілася яго ранейшае жаданне і яму ўдалося арганізаваць тоўсты часопіс „Летопись“, часопіс гэты заняў інтэрнацыяналісцкую пазіцыю.

Пасля Кастрычніцкай соцыялістычнай рэволюцыі Горкі актыўна ўдзельнічае ў выдавецтве „Всемирная литература“, вядзе работу сярод інтэлігенцыі і вучоных. Ён з 1918 г. цесна звязан з Леніным, усяк дапамагае совецкай літаратуры і маладым пісьменнікам. Ён змяшчае шэраг надзвычайных артыкулаў у часопісе „Коммунистический Интернационал“ і ў адным з іх дае незабыўны вобраз Леніна.

У 1921 г. у яго ўзмацняецца крывахарканне і ён вымушан ехаць лячыцца за граніцу, а вясною 1924 г. па ўказанню ўрачоў пасяляецца ў Італіі. І тут зноў пачынае ўзмоцненую мастацкую работу. Ён напісаў чатыры новыя кнігі: „Рассказы“, „Воспоминания“, „Заметки из дневника“, „Мои университеты“.

У 1925 г. Горкі выпускае ў свет новую кнігу „Дело Артамоновых“, а ў 1927 г. вышаў першы том новага буйнага твору Горкага „Жизнь Клима Самгина“.

У 1928 г. ён прыязджае на радзіму і тут з падвоенай энергіяй бярэцца за работу. Ён выпускае два апошнія томы „Клима Самгина“, піша шэраг выключных нарысаў, публіцыстычных артыкулаў і апавяданняў, у прыватнасці з сялянскага жыцця. Выпускае п‘есы „Егор Булычев“ і „Василий Достигаев“, стварае і рэдагуе шэраг часопісаў: „Наши достижения“, „За рубежом“, „Литературная учеба“, „СССР на стройке“, падае думку аб выданні серыі кніг „История молодого человека XIX столетия“, „Библиотека поэта“, „Жизнь замечательных людей“. Па яго ініцыятыве ўзнікаюць такога велізарнага значэння выданні, як „История фабрик и заводов“ і „История гражданской войны“.

Максім Горкі становіцца на чале Саюза совецкіх пісьменнікаў і непасрэдна кіруе яго работай.

Таксама, як і ў свой час ён цесна быў звязан з Леніным, ён дружыць з вялікім Сталіным, гутарыць, радзіцца з ім і карыстаецца велізарнейшай папулярнасцю сярод народу.

Ён быў любімы народам і памяць пра яго не знікне ніколі.

*Андрэй Александровіч*

## НЕ СТАЛА ГОРКАГА

Не стала Горкага... Памёр наш горды сокал.
Асірацела слова страсці і агня.
Не стала Горкага, але крыляць высока
Над светам будзе Горкага імя.
Не стала Горкага, мысліцеля не стала,
Зямлёй праносіцца людскога жалю гул.
Радзіму сонечную гора ўсхвалявала:
Народы—ў ганаровы сталі караул.
Не стала Горкага, замоўк наш буравеснік,
Слязою буйнаю ў вянку іскрыцца сум.
Я за труной тваёй іду з жалобнай песняй,
Глыбока ў сэрцы смутак свой нясу...
Не стала Горкага... Памёр наш горды сокал,
Асірацела слова страсці і агня.
Не стала Горкага, але крыляць высока
Над светам будзе Горкага імя.

19|VI-36 г.



**Беларускія пісьменнікі з Аляксеем Максімавічам Горкім.**

(Здымак зроблен на дачы Аляксея Максімавіча ў часе Першага з'езда Саюза совецкіх пісьменнікаў)

*Мікола Хведаровіч*

# ПАМЯЦІ ГОРКАГА

Крэсляць маланкі неба, шумяць над краем вятры,
Горды сокал навекі ясныя вочы закрыў.

Сэрца стралою прабіта, сочыцца кроў з яго ран,
Страшная смерць—і бясстрашны валіцца долу тытан.

Смерць закрывае павекі, здымае маршчыны з чала,
Смерць выпраўляе навекі—ў бяздонні халодная мгла.

Вочы напоўнены прагай—суровы пройдзены шлях,
Смутак калоціць сэрца, ад гора дрыжыць зямля.

Гэтую рану цяжка,—нельга яе загаіць.
Вобраз любімага Горкага перад вачамі стаіць.

Праз неабдымныя далі ён душу сваю прасцёр,
Ён—барацьба і змаганне, зрэшты, ён наша жыццё.

Смерць няўхільная госця—сэрца агортае жах,
Справы Горкага—вечнасць, цела—звычайны прах.

Гордага сокала імя шэпчуць вусны наўзрыд,
Звон пахавальнага гімна носяць па краю вятры.

Ён найвялікшы і дужы, просты і мудры такі,
Самыя пышныя ружы—нашы яму вянкі.

Яны не завянуць як вобраз, што жыцьме ад роду ў род,
Як сэрца цёплае, мудрае, яго захавае народ.

Дзеці яго і нашы, і нашых дзяцей сыны
Славяць вялікую радасць Сталінскай свежай вясны.

Гордага сокала імя шэпчуць вусны наўзрыд,
Звон пахавальнага гімна носяць па краю вятры.

19/VI-36 г. Менск

лахманы і пакласці замест іх пашытую сваімі рукамі ватовую коўдру. Самае важнае тут было наперадзе, момант гэты падыходзіў. Яна наняла чалавека і ён падмацаваў столь, яна выбеліла сцены—усё гэта яна быццам рыхтавалася да гэтага моманту. Ці момант гэта толькі? Можа ён, пачаўшыся, будзе жыць заўсёды, вырастаючы з кожным годам у вялікую сілу? Ёй ужо здавалася, што заўсёды так і было і трэба каб было: сын і работа, і з кожным месяцам што-небудзь новае з'яўляецца ў дзіцяці. Яго твар набывае сталыя рысы і ў іх пачынае ажываць сэнс. Кожны ясны дзень, калі заходзіць сонца, ружовае святло кладзецца на нязграбнае акно і зменьвае ўвесь выгляд і сцен, і столі. І гэта дзейнічае на любіну душу—задумёнасць і турботнасць апаноўваюць ёю і яна рада гэтым хвілінам: цяпер работа не перашкаджае ёй быць толькі з сынам. З некаторага часу гэтыя адвячоркі былі тымі момантамі, калі яна першы раз за ўвесь дзень ад самага ранку пачала браць сына на рукі: яна змяніла работу і кожную раніцу заносіла дзіця ў яслі. Аднойчы ў такі адвячорак зайшла да яе Валя.

— Я табе скажу навіну,—загаварыла яна,—учора я пахавала бацьку. І я падумала—да каго я магу цяпер пайсці? І толькі пра цябе думала. (У яе вачах стаялі слёзы.) У мяне ўвесь час стаіць у вачах тваё чорнае плячо і я вельмі рада, што мой бацька вымушан быў уцячы адтуль сюды... Ты гадуеш сына. Як ты яго раджала—я ніколі не забуду твайго расказу. Які ты чалавек!.. Я цяпер не ведаю, што буду рабіць далей, так хочацца жыць!

— Чаму ты так гаворыш, быццам асуджаная на смерць. Ты-ж жывая, жыві!

— Я такая сёння пасля страты бацькі...

Яны праседзелі доўга, не запальваючы агню. Папацёмку Люба накарміла сына і паклала спаць. Валя адчувала з гэтага моманту вялікую блізасць да Любы. Чаго ніколі раней не было, на развітанні яны пацалаваліся.

Люба не заўважала хады часу. Было лета, была восень. Кожную раніцу яна заносіла дзіця ў яслі, была на рабоце, прыходзіла дадому, ішла па дзіця. Аднойчы ёй у яслях сказалі, што сын ішоў, трымаючыся за руку няньці. Прынёсшы яго дадому, яна паставіла яго на ногі, узяла за рукі і кранулася з месца. Ён пачаў перабіраць нагамі і рушыў за ёю. Яна хапіла яго на рукі і закружылася на адным месцы, адчуваючы сваей шчакой лагодную мяккасць яго твара. Яна гатова была плакаць ад радасці: ён рабіўся нармальным дзіцём—яму даўно была пара хадзіць і яна тужыла, што ён не можа станавіцца на ногі. І кожны раз, калі яна бачыла чорную лапіну на сваім плячы, яна думала пра гэта. І як толькі прышла Валя, яна паказала ёй як ходзіць сын. Валя не адчувала ўсёй любінай радасці, але глядзела на малога: ён ужо ішоў сам, ні за што не трымаючыся.

У гэты вечар Валя была ўзбуджана, як ніколі:

— Я зусім выязджаю з Менска. Дамаглася таго, пра што думала: я сапраўдная настаўніца. Паеду ў школу, самую сапраўдную. Сёння далі мне адказ. Я табе буду пісаць, ты мне таксама. Я-ж цябе навучыла пісаць?

Яна смяялася і трасла за плячо Любу.

— А куды ты паедзеш?

Валя назвала горад:

— Вялікі, такі як Менск. Я вельмі рада.

Яшчэ перад прыходам да Любы, у Валі выспеў у галаве план. Калі раней яна нешта падобнае рабіла, то гэта было з спачування да Любы. Цяпер гэта была быццам і яе ўласная справа, хоць яна і не задумвалася, ці вельмі гэта патрэбна і на што ўсё гэта. Як толькі яна вышла ад Любы, зірнула на гадзіннік і ўбачыла, што да вечара яшчэ гадзін дзве, яна пайшла шпарка і менш як праз гадзіну дайшла да шпулькевічавага дома. Была ўзбуджана сваімі маладымі гадамі, пачаткам новай паласы ў сваім жыцці, яснотамі сухой восені, невядомым і доўгачаканым, што было наперадзе. Кроў бурліла ў яе жылах. „Яшчэ калі вучылася—марыла, калі надыйдзе гэты час... Перад ад'ездам паспрабую—Шпулькевіч можа ведае яго адрас, буду прасіць, можа мне скажа... Ах, нават не запытала ў Любы, як ён завецца. Ну, нічога, гаварыла мне, што малады стальмах. Цяпер хоць з нажом да горла—не хоча нават і ўспамінаць пра ўсё гэта... Невядома калі з ёй зноў убачуся, можа на доўгія гады развітаюся. Апошні раз паспрабую дзеля яе...“ Так думала яна, увайшоўшы ў шпулькевічаў двор.

Ад двара нізкімі шчыкетамі быў адгарожаны сад. Там ужо гусціліся першыя адценні вечара. Валя ўзышла на ганак і ўбачыла на дзвярах замок. Сышла з ганка і зірнула навокал: можа Шпулькевіч дзе на двары? Тут яна ўбачыла ў садзе на лаўцы маладога чалавека. Выгляд яго здзівіў яе: ёй у першы момант здалося, што яна бачыць перад сабой таго кавальчука, які з'явіўся быў на яе дарозе ў самым пачатку яе юнацтва. Нейкія рысы, ці то ў постаці, у позе, у якой ён быў цяпер, нагадвалі таго. Праз некалькі хвілін яна выразна бачыла, што тут падабенства сапраўды ёсць—у колеры валос і форме галавы. Убачыўшы яе, хлопец адразу падышоў да шчыкету і ўзлёг на іх грудзьмі. Далёкія адзнакі суму па кавальчуку ўстрапянуліся ў яе сэрцы і яна стала на адным месцы, трацячы на момант думкі.

— Вы да Шпулькевіча? Яго няма, я таксама яго чакаю.

— А дзе ён?—запытала яна, абы не маўчаць, гатовая ўжо ісці.

— Я не ведаю.

Ён ужо вышаў на гэты бок брамкі і стаяў каля яе. Яна бачыла, што гэта адзін з тых тыпаў, якія кожную жанчыну, якую бачыць, ацэньвае па свайму. Цяпер ён ацаніў яе з першага моманту і гэтая ацэнка была добрая. Валя належала да таго тыпу дзяўчат, якія падабаліся гэтаму хлопцу. Усім сваім інстынктам Валя зразумела гэта адразу. Позірк яго не сыходзіў з яе і ў душы яе накіпала злосць, паралізованая адчуваннем таго, што яна яму спадабалася. Таму яна нічога жорсткага і не сказала, калі ён ветліва з ёю абышоўся.

— Ідзіце ў сад на лаўку, там пачакайце.

— А вам ужо надакучыла чакаць? Мусіць, ведаеце, што ён скора не прыдзе?

— ... Не, я таксама буду яго чакаць, я тут свой чалавек. Калі ласка.

Ён адчыніў брамку ў сад, а яна вышла на вуліцу і стала каля кутковага акна. Ён вышаў за ёю. „Галава як у кавальчука, і голас падобны“. Душа яе заныла. Яна паволі пайшла і ведала, што ён зараз рушыць следам. Сапраўды ён дагнаў яе праз хвілін дзве.

— Чаму-ж вы не хочаце чакаць?

— А вы доўга чакалі?

— З гадзіну.

— То і яшчэ чакайце. Вы хочаце, каб і я час траціла?

— А вы вельмі часу шкадуеце? Скупая.

— А вы шчодры?

— Я? Як для каго.

Так перакідаючы пустыя словы, яны апынуліся каля вялікага сквера і ўвайшлі ў яго. Праз дзён пяць Сашка позным вечарам забег да Вэні. Ён быў узбуджаны і гаварлівы:

— Гэтымі днямі я да цябе заходзіў і чакаў цябе ў садзе на лаўцы. Дзе ты быў? Я табе хацеў расказаць, хацеў параіцца з табой—ці ехаць, ці не? Мне было прапанована, выбіралі кандыдатуру. А цяпер назначылі. Нічога, чын не малы, начальнік. Я згадзіўся ехаць. Праз чатыры дні павінен быць на месцы. Усё вельмі добра пайшло. Горад такі самы як і Менск, так што нудна не будзе. Я, прызнацца табе, і рад, што з Менска выеду: ты кажаш, што яна выедзе, ці выехала з дзіцем? Але ўсё-ж можа явіцца ў Менск мяне шукаць, я-ж менскі. А так—не знойдзе.

— Калі ўжо ты выязджаеш, то скажы праўду: я хацеў, каб ты быў спакойны. Гэта патрэбна было нам абодвум, калі нам трэба было дзейнічаць. Дзейнасць наша скончылася добра: ты выходзіш у чыны і ў мяне наклёўваецца, я мусіць пайду па кааперацыі, я люблю таварную справу. Цяпер скажу—яна ў Менску, я так-сабе гаварыў, цешыў цябе.

— Тым лепш, што я еду.

— Я астаюся тут, мне даручаюць зрабіць вялікую прадуктовую аперацыю... Мы цяпер абодва заслужоныя людзі, і партызанскія дакументы маем. У цябе, праўда, шрам на руцэ не астаўся, але ў мяне на грудзях знак выразны... як ты думаеш, калі ўсё цвёрда будзе—каб у партыю падаць заяву?

Яны абодва былі ўзбуджаны радасцю жыццёвых удач, перайшлі ў вэняў куткавы пакой і выпілі ад шчырага сэрца, пасля пацалаваліся. Сашка быў зусім адкрыты перад Вэнем:

— Я, ведаеш, нядаўна пазнаёміўся з дзяўчынай—от баба! І імя такое, ведаеш—Валя. Каб ты бачыў, што за яна! І прыгожая, і з усіх бакоў. І якраз-жа паехала на працу ў гэты самы горад.

— У які?

— Ну, у які і я еду. Буду заходзіць да яе, што-б там ні было. Я ўжо з ёю разоў тры ў кіно хадзіў. Паходка ў яе, каб ты бачыў! Як ступіць нагою—дык уся як ёсць адчуваецца.

На трэці вечар пасля гэтай гаворкі Вэня Шпулькевіч спацыраваў на пероне пасажырскага вакзала і нецярпліва азіраўся. Поезд стаяў гатовы да адыходу. Нарэшце вышаў Сашка Стафанковіч.

— Што ты так позна прышоў, а каб білета не ўзяў, такая чарга стаіць!

— Э, глупства, з такімі дакументамі як мае, ды яшчэ ў чаргу станавіцца! Пляваў я на ўсялякую чаргу, прышоў і ўзяў.

— То і я-ж магу так,—расплыўся ад усмешкі Вэня.

— Можаш і ты. Ну, аставайся здаровенек. Ах, як я рад, што еду.

Вэня махнуў шапкай. Сашка стаяў пры акне ў вагоне і як толькі поезд крануўся, на душы ў яго стала страшэнна лёгка— з кожнай секундай ён аддаляецца ад таго месца, дзе жыве яна і з ёю нейкая малая істота, агідная і непатрэбная. І яна, Люба, гэтая дурная дзеўка, уздумала яшчэ шукаць яго! Станцый праз дзве ён пра гэта ўжо не думаў і радасна імчаўся ў сваю будучыню. Назаўтра к вечару ён ужо асталяваўся і на працы і на кватэры, так што к дванаццаці гадзінам ночы быў ужо вольны, сядзеў у ботах і галіфэ перад люстэркам, разглядаў дробны прышч на губе і думаў: „Каб не так позна, можна было-б яшчэ схадзіць да Валі. Ах, я-ж не знаю, дзе яна жыве. Прыдзецца заўтра зайсці да яе ў школу". І сапраўды, назаўтра ён зайшоў і правёў яе да самай кватэры. Неўзабаве ён пісаў Вэню першы свой ліст, там была такая фраза: „я ўвесь як у тумане ад гэтай дзеўкі". Нарэшце ён пачаў бываць у Валі кожны вечар. І дзіўная справа: калі ўвечары ён ішоў ад яе, калі да наступнага вечара канчалася да яе яго блізасць, на некалькі момантаў з глыбіні істоты ўяўленне ўзнімала колішнія хвіліны блізасці да Любы. Але гэта тут-жа бясследна і раставала. Самохаць ён яе ніколі не ўспамінаў—як такую, розум яго дыктаваў яму да Любы нянавісць: яна можа яго знайсці і зрабіць яму прыкрасць. І як ён быў удзячан Вэню Шпулькевічу, што той даў ёй самы рашучы адказ. І часта яго трывожыла думка, што яна недзе пра яго думае, мусіць, напэўна не кідае думкі знайсці яго.

Люба сапраўды пра яго думала. От што раз было. Ён і Валя выехалі з Менска ўвосень, а гэта быў ужо канец зімы. Менскія вуліцы былі мокрыя ад апошняга, скіданага ў дварах, снегу. Перад днём адпачынку Люба прышла з работы раней. Шпарка збегала яна ў яслі па сына і несла яго паволі. Гадзін за дзве да свайго заходу сонца выбілася з-за шэрых засцілаў нізкага неба, заходняя старана яго зазіхацела першым веснавым блакітам і адразу ўсё жывое адчула: як лагодна грэе сонца і як ясна яно свеціць. Люба яшчэ і на сваім двары стаяла нейкі час, трымаючы на сонцы свайго малога. Пасля яна заспяшалася ў сваю прыбудоўку і ўзялася за справу. Сына яна пусціла бегаць па падлозе, а сама ўзяла з стала заверчаны ў газету пакунак і раскруціла яго. Дастала адтуль новае прасціradла, падушачную навалачку і падкоўдраннік. Ясным позіркам яна разглядала гэтыя рэчы, пасля з таго самага пакунка дастала бялізну і таксама разглядала. Хапіла на рукі сына, падкінула яго ўгару, паставіла назад на падлогу і ўзялася грэць ваду. Тым часам, пакуль вада грэлася, яна падняла з ложка сяннік, вынесла на двор і выпыліла яго. І перад тым як пакласці яго назад на ложак, зняла адтуль кучу лахманоў—тых, што раней былі

ёй заместа пасцелі. Тут былі яшчэ і тыя (іх было найбольш), што прынесла ад млынара. Цяпер яны ляжалі каля парога вялізнай кучай. Яна выкінула іх у сенцы ў самы цёмны кут. Ужо без лахманоў паклала на ложак сяннік, накрыла яго новым прасцірадлам, нацягнула на падушку новую навалачку, паклала коўдру з новым падкоўдраннікам. Пасля пачала мыць галаву, маючы асалоду ад паху мыла. Скінула з сябе зрэбную і палатаную бялізну і надзела новую, тонкую. Адзеўшыся, яна памыла і адзела сына, села на ложак, перажываючы ўсім целам вялікую лёгкасць ад чыстай бялізны. Зробленыя і сабраныя грошы дазволілі ёй скінуць з сябе рэшты тых лахманоў, якія вяліся яшчэ з часоў млынара. У той меры як спадалі яны з яе, яна быццам нанова нараджалася на свет. Нязведанае ніколі за ўсё жыццё адчуванне лёгкай і чыстай бялізны поўніла яе ўсю, першае можа на жыцці адчуванне чыстаты туманіла галаву. Яна сядзела доўга, быццам у забыцці і толькі калі пастукалі ў дзверы, яна схамянулася і раптам набыла здольнасць заўважыць тое, што раней было абыякавым—што і падлога гнілая, чорная і з дзіркамі, што і ложак з іржавага жалеза, што і стол ледзьве трымаецца, прыбіты да сцяны цвікамі. Увайшлі яе таварышкі з работы.

— Мы згаварыліся,—сказала адна,—прысці пазней, чым казалі табе, каб ты мела час адпачыць. Мы таксама пакуль пераадзяваліся, пасля збіраліся разам. А от табе тое, пра што мы не гаварылі,—і працягнула да Любы штосьці закручанае ў паперу.—Толькі не глядзі, паглядзіш тады, калі мы пойдзем.

Яны былі ўсе маладыя, маладосць любіць таемнасць, сакрэты і сюрпрызы. Яны сядзелі з гадзіну, разглядалі яе сына і пыталі, гэтыя дзяўчаты, ці цяжка раджаць. Як пайшлі яны, Люба кінулася глядзець, што яны прынеслі—там быў поўны камплект бялізны і верхняга адзення яе сыну. Яна доўга стаяла, заклаўшы рукі за шыю і мноства ўсялякіх пачуццяў поўнілі яе, пачуццяў самых супярэчлівых. І смутак, і радасць ядналіся разам, і прыступы бурнай вясёласці, і ціхія струмені лёгкай журбы. Было цёмна, ледзь даходзіў сюды грукат дзесьці з вуліцы. Яна запаліла агонь, пачакала, пакуль засне сын, вышла з лямпай у сенцы і пачала звязваць лахманы, каб цяпер увечары, без людскіх вачэй, вынесці іх адгэтуль назаўсёды і дзе-небудзь дзець іх. Быццам усё жыццё нанава пачалося, так праходзіла яно перад яе вачыма. Вось рэшткі той спадніцы, падобнай да мяшка, у якой яна траціла свой чалавечы выгляд. От рэшткі той злямцаванай кудзелі, якая адбірала ў яе дзявочае харaство і прыродную прыгожасць. Нарэшце яна дабралася да самай драбязы: рукаў з нейкай вопраткі, кашуля—такая, што нават і тады яна не магла яе адзяваць, рэшткі палатнянай ватоўкі... Яна несла ўсё гэта калісьці адтуль на плячах—як-жа чалавеку выбірацца ў сваю жыццёвую дарогу, нічога не меўшы за плячыма? І от, сярод усяго гэтага агіднага зборышча, ёй натрапілася ў рукі адна рэч. Гэта быў зусім змяты і пацёрты заклеены канверт, яна распрастала яго рукамі і ўбачыла: гатовае, заадрасаванае пісьмо. Не ведаючы, што гэта такое і ніякага значэння гэтаму не надаючы, яна адкінула яго к дзвярам, забрала лахманы

і панесла. Праз хвілін дзесяць яна вярнулася з пустымі рукамі узяла з падлогі лямпу і пайшла к сабе. Ужо адчыніўшы дзверы, убачыла кінуты канверт, падняла і паклала на табурэт, на які паставіла лямпу. Раздзелася, легла ў свежую пасцель і сапраўды такі—ніколі большай асалоды яна не перажывала. З падкладзенымі пад галаву рукамі яна ляжала і чула вялікую лёгкасць ва ўсім целе. Ужо хацела патушыць агонь, працягнула руку да лямпы і ўзяла канверт. Зімой тысяча дзевяцьсот дзевятнаццатага года яна, таксама лежачы, збітая старым Стафанковічам, трымала гэты самы канверт у руках і не магла нічога на ім прачытаць. Цяпер яна чытала. За гэта яна заўсёды была ўдзячна Валі Іваноўскай. Таксама як лёгкасць чыстай бялізны поўніла яе цела фізічнай асалодай, так і тут была своеасаблівая асалода. З літар складаецца слова. Слова піша чалавек. Напісанае чалавекам слова праз сотні і тысячы год можа загучэць вялікай сілай. Чалавек гаворыць слова, яно прагучыць і сціхне. Хто яго не чуў—ніколі больш не пачуе. Хто чуў—можа забыць. Напісанае слова гучыць заўсёды па-свойму, але гучыць. Яно плыве, яно даносіць свой сэнс праз час, праз ход часу. Люба чытала на канверце і раптам вочы яе сталі шырокія, па твары прайшла рыса задаволення і адразу складзенага ў галаве плана. На канверце выразна значыўся стафанковічаў адрас. Гэта было тое пісьмо, якое Стафанковіч ад млынара пісаў сваёй сям'і, якое Ваня Шпулькевіч згубіў, якое аддаў Любе хлапчук, якое яна кінула ў скрынку з сваімі лахманамі, якое яна з імі прынесла сюды. Люба ўжо сядзела на ложку і намеры яе, яе ўпэўненасць выплывалі з новага пачуцця, якое зусім ужо заўладала ёю. Гэта было новае пачуццё! Крыніцы яго былі і ў тым, што на ёй была чыстая, новая зусім бялізна, і ў тым, што сядзела яна на чыстай пасцелі, у тым, што лахманы ўжо далёка ад яе, там, дзе ім сапраўднае месца, і ў тым, што яна сама прачытала на канверце, у тым, што ў яе ёсць дружба, шчырая і глыбокая. „Няхай ён прыкладзе свой клопат, каб дзіця заўсёды было ў такой чыстаце, каб яго маленства з гэтага дня ўжо заўсёды праходзіла без таго бруду і лахманоў, у якія ён адразу трапіў, нарадзіўшыся на свет! Няхай ён не памятае іх, няхай яны не астануцца ў яго памяці!“

Назаўтра яна ўзяла стафанковічава пісьмо і пайшла. Стары Стафанковіч яе не пазнаў. Усміхаючыся, яна працягнула яму пісьмо:

— От тое пісьмо, якое некалькі год таму Шпулькевіч згубіў. Я яго знайшла.

— А хто-ж вы такая?

— Я-тая Люба, што была ў млынара, дзе вы млын правілі.

— Э, то даўно-ж гэта было. Цяпер я вас як жывую бачу. А вы, сказаць, мала і змяніліся, адно, што адзежа ў вас цяпер зусім інакшая. То гэта і дзіця ваша? За кім-жа вы замужам? То хіба сядайце. Дзе-ж самі, што парабляеце?

— Я не замужам. Гэта дзіця вашага Сашкі.

Стафанковіч зрабіў два крокі назад і разявіў рот.

— Гэта праўда, ці гэта вы—абы сказаць?

Ён зусім сумеўся, зусім збянтэжыўся.

— Чаго вы так спалохаліся? Я нічога ад вас не хачу, жывіце сабе спакойна. (Яна смяялася.) Я прышла да яго, да вашага сына. Скажыце, чым ён займаецца, дзе ён і хто ён цяпер.

Стары Стафанковіч адумаўся і пацвярдзеў:

— А каб ён свету не ведаў дзе ён, урвіцель, прайдзісвет. Ужо гадоў тры як адцураўся мяне, ніякага слыху не падае.

— Скажыце яго адрас, калі яго тут няма. Вы самі, стары чалавек, падумайце, гэта-ж ваш унук, няўжо ваша сэрца не будзе балець з-за таго, што ён гадуецца ў голадзе і брудзе?

— А чым гэта можа быць даказана, што гэта мой унук? Дзе-ж ты дагэтуль была?

— Я яго шукала і не магла знайсці.

— А хто ведае, з кім ты там гуляла!

Жудасная грымаса прайшла па любіным твары. Тады ёй так не балела, калі той раз Стафанковіч шпурнуў яе пад парог. Цяпер яго словы секанулі яе мацней.

— Добра. Калі вы са мной нават пагаварыць па-чалавечы не хочаце, то і я з вамі гаварыць не буду. Вас я прымушу сказаць, дзе ён, а яго прымушу абыходзіцца з сваім сынам інакш.

— Ён таксама парцейны!—адсек Стафанковіч, гайдануўшыся на сваіх даўгіх нагах.

— А вы-ж казалі, што нічога пра яго не ведаеце?

— А чорт яго забяры, шукай яго сама, я яго знаць не хачу, такога сына! Што мне да яго, яго пры мне няма і не будзе, нават і ў Менску няма, а дзе—пяруны яго ведаюць.

Ён сеў на нізенькі кухонны табурэт і нарыхтаваўся доўга маўчаць. Яна пайшла. Ён вышаў за ёю на ганак. Пайшоў дождж і ёй не было як ісці. На ганку яны моўчкі прастаялі хвілін дзесяць. Нарэшце ён, нейкім лісліўым і глухім голасам яшчэ раз сказаў:

— А чым-жа гэта можа быць даказана?

— Я і даказваць перад вамі не буду... Памятаеце, як у яго была рука скрываўлена? Ён не даваў мне праходу і я яго адапхнула ад сябе, а ён аб вілы руку абадраў.

— А польскі салдат штыхом?

— Занадта мала я падобна да польскага салдата.

Стафанковіч пачырванеў і змоўк як прыглушаны гарматай; як пабіты стаяў ён і маўчаў: да самых найменшых дэталей ён успомніў як тады шпурнуў яе пад парог. Пакутуючы ад маўчання і ад дажджу, ён не ведаў, што ў гэтыя хвіліны рабіць, як трымаць сябе. Да гэтага яшчэ далучалася нейкае цмянае пачуццё: „Можа гэта і сапраўды мой унук, на такую пакуту народжан?“ і яшчэ была баязлівасць, што пачнецца можа справа, што ўсе пачнуць гаварыць... Як наеўшыся мыла, ён глядзеў кудысьці пад сцяну свайго скляпка. Дождж не пакідаў сеяцца. Так ён мог цадзіцца круглыя суткі. Стафанковіч, мыляючы губамі, сарваў з сенечнай вешалкі нейкую старую вопратку і падаў Любе:

— Каб дождж не прамачыў вашага дзіцяці (на слова „вашага“ ён вельмі націснуў). Гэтая адзежына мне не патрэбна.

Люба зразумела і, з прыкрасцю да самой сябе, пайшла, накрыўшы

вопраткай свайго хлопчыка. Дождж пабольшаў. Пакуль яна дайшла дадому, усё было скрозь мокра. Струмені вады ліліся з неба. Дома яна ўбачыла, што льецца са столі. Яна палезла на гару і заўважыла, што дождж засякае ў акенца без шкла ў шчыце, адтуль вада працякае праз столь. Яна хапіла дадзеную Стафанковічам вопратку і заткнула акенца ў шчыце. Адзін рукаў і палавіна футровага вылезлага каўняра звесіліся ўніз з аконнай дзіркі. Гэта было даволі высока ад зямлі, вопратка моцна была ўціснута ў дзірку.

Нянавісць да Стафанковічаў душыла Любу. Яна думала пра свайго бацьку. „Бацька, дзе ты“,—ледзь не выгаварыла яна моцна і заплакала.

У тыя дні прышоў да яе ліст ад Валі. От што пісала Валя:

„... Я пайшла замуж. Мажа пра гэта трэба было напісаць з самага пачатку, але я, скажу табе праўду, перад табой не пасмела гэтага зрабіць. Яшчэ ў Менску, калі я першы раз убачыла яго, я быццам адчула з першага разу, што так здарыцца... Мне здаецца, што ён крыху лёгкадумны, але я сама і ў сябе адчуваю гэта, праўдзівей сказаць, пачала бачыць сама сябе. Гэта ўсё з гэтага самага моманту. Ведаеш, я не ўмею табе выказаць, але замуства адкрывае жанчыне вочы на самую сябе... Урэшце ўсяго скажу коратка—я рада, што пайшла замуж, мы будзем, мне здаецца, жыць шчасліва, ён мне падабаецца, а я яму і мы адно аднаго любім... Я, ведаеш, дзе яго спаткала? У Шпулькевіча. Я заходзіла перад ад'ездам—можа ён тады, думалася, першы раз гаварыў няпраўду, што не ведае, дзе знайсці таго. Прышла і Шпулькевіча не застала, а ён, мой цяперашні муж, таксама чакаў Шпулькевіча. Назаўтра я таксама зайшла да Шпулькевіча, дома яго застала і ён мне даў слова, што не ведае, дзе шукаць таго, бацькі твайго дзіцяці. Як толькі атрымаю пенсію, прышлю твайму сыну гасцінец, усё думаю, што купіць“.

Гэтым лістом быў зроблен пачатак перапіскі паміж Валяй і Любай. Перапіска гэтая ішла да лета тысяча дзевяцьсот трыццаць пятага года! У кожным разе, калі яна ідзе і цяпер, то ўжо мае зусім інакшы характар, яна не можа не змяніцца, бо змянілася навакол і ўсё. Нават на адну секунду кінуўшы вокам, бачыш не тое, што было нават, скажам, летась. Хоць рукаў і каўнер з сашкавага фрэнча яшчэ і цяпер матляюцца з акна ў шчыце той прыбудоўкі, у якой Люба нарадзіла сына, але сёння гэта ўжо толькі дэкарацыйны кантраст з усім тым, што ўзвышаецца над ім. Гэты каўнер і рукаў у акенцы дробнай трухліны перад тварам задняй сцяны Дома ўрада мае сваю гісторыю, тут-жа, у гэтай хроніцы. Перапіска паміж Валяй і Любай выразна паказала рух у жыцці гэтых асоб, таму яна для гэтага апавядання і цікавая. У гэтым першым пісьме Люба, напрыклад, задумалася над словам „лёгкадумным“. У апошнім-жа сваім пісьме да Валі ўлетку тысяча дзевяцьсот трыццаць пятага года яна пісала пра такія рэчы, над якімі задумаецца і вучоны. Але пра ўсё гэта будзе ў сваім месцы. У першым сваім пісьме да Валі Люба напісала, што яе пасылаюць вучыцца на рабфак. Пісьмо было простае, кароткае, лаканічнае. Валя трымала

яго ў руках і маўкліва задумалася. Валін муж падышоў да яе і, стараючыся выбіць яе з задуменнасці, успомніў:

— Чаго ты, Валя, заходзіла тады да Шпулькевіча, калі мы з табой першы раз убачыліся? На што табе быў Шпулькевіч?

— Мне ён не патрэбен быў, але я ў яго дабівалася, ці не ведае ён, дзе жыве бацька дзіцяці адной маёй сяброўкі. Калісьці было недзе ў вёсцы—яна там жыла, а ён прыходзіў з бацькам млын правіць, а Шпулькевіч прыязджаў нейкія, здаецца, свінні купляць...

Валін муж пабялеў, адвярнуўся і прыпаў ілбом да халоднай шыбы.

*Канец у наступным нумары.*

*Аркадзь Куляшоў*

## ЛЮДЗІ ПРАГНУЦЬ[1])

Справадзіўшы Аніса,
Кат ад грахоў і ўтом
Вядром вады адмыўся
І выцер рушніком
Пярэстым рабацінне,
Адкрыў акно, што ў сад.
У чыстай палавіне
На лаўках хроп урад...
Ігнат Штапоркін свістам
Заліўся і знарок
Марш праспяваў міністрам...
Арына Касянок,
На свіст, з бакоўкі вышла,
Убачыўшы-ж яе,
Зрабіўся кат увішным,
Ужыў усе свае
Лагоднасці:
— Спакою
Хачу я на зары...
Пагаварыць з табою
Мне трэба...
— Гавары.
Відаць было—дарэмна
І марна гіне спрыт—
Арыне непрыемна
І нудна гаварыць.
Не трэба ёй размовы,
Яшчэ не вышаў з мар
Нядаўні кірмашовы
Дзень, малады маляр...
— З табой жыццём праклятым,
Прыгожая мая,
Пакрыўджаны: я—катам
Зрабіўся...
— Ну, а я?
— Ты-ж славішся багатай,

[1]) Канец. Пачатак гл. у „Полымі рэволюцыі“, № 5.

Арына—не адна,
Ёсць у Аніса хата,
А скончыцца вайна
І, скажам, пераможам
Мы, уяві сабе,
З якім жыццём прыгожым
Вітацьме ён цябе,
Прыгожую галубку,
Гуляцьмеш у паноў,
Захутаная ў шубку,
Што з дарагіх мяхоў.
Хадзіцьмеш у пашане,
І я даю зарок,
Што клікаць будуць паняй
Арыну Касянок.
Бо доўга помніць ласку
Пан генерал, і вам
Ён не жыццё, а казку
Тады наладзіць
Сам.
Гаспадару як другу
Зямелькі дасць абшар,—
Красуй на ўсю акругу
З Арынай гаспадар!
Але бяда Арыне
З яго зубоў гнілых,
З таго, што марна гіне,
Каля старой кілы.
Арына ў адзіноце
За лаянку—прабач...
У нас цяпер на фронце
Пачаўся час няўдач.
Вялікія ёсць змены,
Нашто таіцца тут,
Скажу прасцей—страшэнны
Ідзе разгром...
Капут.
Арына, як я прагну
Удачы! але факт—
Нас кідаюць у багну,
Назад—на пінскі тракт.
Учора ваяўнічы
Міністры ўзнялі пых,
Хіба гэта не клічы
Правадыроў сляпых?
Не хопіць нам адвагі,
Бо ў нас—адзінкі, зброд,
Зброд куплены пад сцягі,
А ў іх—увесь народ!
Ты мужа ненавідзіш

Я ведаю даўно,—
Ніколі з ім не выйдзеш
На гульбішча адно,
Бо сэрцу твайму брыдкі
Распаясаны мах
Яго шляхетнай світкі,
Вусоў ягоных пах.
Але чакай, Арына,
Скон будзе і яму,
Шчаслівая хвіліна
Надыйдзе, не сумуй.
Чаму ты так збялела?
Калі чужая часць
Сюды прыдзе, ты смела
Яму дарогу засць.
Хай сэрца пад шнуроўкай
Не хлусіць—акрыяй,
Скажы, каго з вінтоўкай
Ён пільнаваў! А я,
А я?—усё пакіну,
Каб толькі бачыць зноў
Шчаслівую Арыну,
Прыгожую любоў.
Б'ем качак, рыбуловім,
Для нас няма вайны,—
Даволі сеч галовы—
Благія сняцца сны!
Знішчай нажом сталовым
З Арынай качаны!
Маўчыш? Скажы, ці прымеш
Другі, Арына, шлюб,
А можа я Арыне
Зусім не люб? Не люб?
Арына, будзь рашучай!
Маўчыш?
З маўклівых троп,
Узняўшы пыл над кручай,
Рос за акном галоп.
— Маўчыш?
Яна маўчала...
На варту жарабец
Наехаў, збіў.
І стала
Вядома, што ганец
Прыбыў...

9

Ідзе яго высокасць,
Штапоркін, шпорай—бразь...

І маўзер кат, на локаць
Рукі, кладзе:
— Вылазь.
Адтуль, дзе на выгодзе
Шумеў шырокі граб,
Гул галасоў даходзіў—
Садзіўся ў сёдлы штаб...
Спяшаліся міністры
Ад‘ехаць тры вярсты:
Палохалі іх свісты
І гушкалі масты
І кідаў кожны шорах
Іх сэрцы ў лёд
І ў жар—
Ім брычку на рысорах
Пазычыў гаспадар...
— Спалохаліся?—вязень
Ні рук сваіх, ні ног
Ужо не чуў, вылазіў
Нібы з агню, мурог
Паліў агнём, на хмарку
Якуб апошні раз
Глядзеў, круціў цыгарку.
— Што-ж,
Будзем паміраць...
І перад светам цэлым
Я смерці зычу вам!
І наўзніч падаў целам,
І прыгадаў:
—А-дам!..
Не пошукам надзеі
Смяротны крык гучыць,
А подыхам ідэі,
Што застанецца жыць!
І арміям не сцерці,—
Ні конніцаю пік,
Ні брудным ботам смерці,
Яе героя крык!
Герой збіраў, як лінза,
У дарагое шкло,
Ад зор соцыялізма
Дыханне і святло!...
І на падбітых крыллях
Ляцеў яго зварот
І падаў каля шчыльных
Каля чужых варот.
У тым гумне трава ўся
Пасохла на таку
І ўсё глыбей хаваўся
У сена, асаку

Адам...
Пад сонцам любым
Хацелася яму
Быць блізкім ліўням,
Трубам,
З трубою самаму
Ісці за статкам дружным,
Піць не ваду,
А плёс...
Было Адаму душна
Ад сораму
І слёз.

10

Атрад спазніўся. Банды
Ужо і след прастыў.
Гарцуюць ад'ютанты—
Чакаюць іх франты...
На поўначы навалай
У бой ідуць палкі—
Пад сцягам генерала
Ашчэрыўшы клінкі.
На ўсходзе, берагамі
Шырокае ракі,
Замежнымі штыхамі
Трымаюць фронт палкі.
І цесныя дарожкі
Адтуль вядуць у тыл;
І ганчары:
— Па горшкі!—
Крычаць. І візгат піл
Стаіць у нетрах. Свойскай
Мукой цякуць млыны—
Тут не праходзіць войска
І не чуваць вайны...
Атрад спазніўся.
Гуртам.
Ля яблыні жыцця
Стрыножанага путам
Крыві і забыцця,
Чырвоныя армейцы
Сыходзіліся ў круг...
А недзе, на жалейцы,
Іграў, іграў пастух
На лепшую патраву
Каровам і быкам....
І вось таптаць атаву
Ізноў ішоў Адам.
І нёс ахапак сена

На русай галаве,
Яно—як птах вісела
Над ім, у сіняве
І ў светлым люстры сумных
Адамавых вачэй,—
Галошаннем па гумнах
Хацела жыць яшчэ
Сухое сена.
— Вось ён,—
Ад працавітых кос!
— Не чалавек, а восень...
— Не воін, а хрыстос...
— Адам, Адам!
— Адкуль ты?
— Хаваўся?
— У гумне?
— У гэтым?
— Так...
— Ад куль ты,
Адам, хаваўся!
— Не?
— У гэтай чорнай кропцы
Крыві чытай прысуд
І ганьбу!
— Ганьбу!
— Хлопцы...—
Як вокунь з гнуткіх вуд
Ірвецца да прадонняў,
У цёмныя куткі,
Каб не канаць ад промняў
Пад сонцам—
Трапяткі,
Разгублены, мізэрны,
У позірках сяброў
Адам шукае зерняў
Хаця-б не крыўдных слоў.
А бачыць, нерашучы,
Адны кругі,
Адны
Абразлівыя кручы
Нянавісці.
Яны
Яго завуць упасці,
І згінуць, назусім,
Там, у праклёне часці,
І, нават,
Разам з ім...
А Рагавенка?
Кручы-ж
Растуць: чаго-ж, чаго,—

Крычаць яны: не скруціш
Пракляццямі яго?..
І ганьбай?..
Рагавенку-ж
Разгубленасць і жах
І ад чарэшні пенку
Сухую, на губах,
І ўсё відаць,—
Як душыць
У сене, на гумне
Адама нерашучасць
І сум, які на дне
Ягонай камяністай
І маладой душы,
І гэткай-жа дваістай,
Як зелле на мяжы
Бацькоўскае палоскі,
Зямлі суседа, як
І лёс вялікай вёскі
З праездам на бальшак...
І, апусціўшы сцягі
Сваіх жалоб, атрад
Ужо чакаў знявагі
Адаму:
— Мой загад
Ён выканаў. Не веру,
Што не было ў яго
Дарэмнага намеру
Страляць. Але не мог
Адам сваё жаданне
Прыняць, каб самаму
Загінуць, бо заданне
Сачыць я даў яму...
Па бітых каляінах
Выразныя сляды—
На легкавых машынах
Хто прыязджаў сюды?
А нашу гаспадарку,
Якім прадстаўнікам
За злоты, альбо марку
Тут прадалі, Адам?
Без мэты,—неразумна
Памерці, а таму
І ганьбу слухаць сумна
Адаму аднаму.
Хто хоча сам памерці
І тым давесці, што
Яму не страшна смерці?
Хто сярод нас?
Ніхто.

Але—у шлях вандроўны
Хто пойдзе, па расе,
План здзейсніць рызыкоўны?
Адказ адзін:
Усе...
У момант незвычайны
Для нас, жывых людзей,
Кат—ні вайсковай тайны,
Ні слова—піць!—з грудзей
Не вырве,—сцежкай пяты
Адмовяцца хадзіць;
Ні першы кат, ні пяты
Іх не прымусіць жыць.
Мы ціха скажам:
— Гора,
Ідзі пад шомпал ляж!..
Так вырашыў учора
Якуб, таварыш наш...
Мы хочам жыць, каб сэрці
Свет куплі і маны,
Каб нам святыя чэрці
Не блямкалі ў званы.
Каб знаць, што панскай пожняй
Не гнецца твой народ,
Да старасці апошняй
Жыць, узначальваць род.
Свой род! Сваю магутнасць!
Каб сыну не рабу,
У ім твая прысутнасць
Сцвярджала барацьбу!
Паказвала напрамак,
Не клікала назад.
І я кажу Адаму:
— Ты выканаў загад!
Пад ветразем суровым,
К жалобам і сцягам,
Уздымам пачуццёвым
Падхоплены Адам.
Нібы абавязкова
Такой,
Да дробных рыс,
У ім расла прамова
З усіх падводных высп
Ягоных дачыненняў
Да боек,
Да жыцця
І да людскіх імкненняў
Трывалага ліцця.
Калі-б без перайманняў,
У час такі, паэт

Акрэсліў адчуванняў
Яго хвілінных свет—
Убачыў-бы,
Звычайных,
Сваіх, лятункаў сны,
А ў строфах вершаваных
Усплыў-бы дзень вясны,
Шумелі-б кіпарысы,
Кіпела-б завадзь рыб
І блізкімі абрысы
Наступнага былі-б.
І бубнам піонеры
Віталі-б нас, Адам,
І адчынялі-б дзверы
У будучыню нам.
І павялі-б Адама
У край блакітных блуз
На стадыён „Дынама“,
У шахты,
На Эльбрус.
Каб там,
У рэчах новых,
Як іхні гаспадар,
Ты чуў працяг прамовы,
Якую камісар
Сказаў сабе самому
І ўсім таварышам,
І сэрцу дарагому,
Што клікала:
— Адам...

Чарэшневае лісце
Зрывае камісар
І кідае:
— Калісьці
Ты быў, Адам, цесляр...
Не зыбкі, а паэмы
Рабілі рукі з ліп.
І вулей збіць, сістэмы
Левіцкага,
Маглі...
У вулей, з грэчак голых
Шчаслівых, кожны год
Нектар збіралі пчолы,
Каб жэрлі трутні мёд.
Каб трутні, калі трэба
Ім сонца і вады,
Паўзлі з вулля
І ў неба
Закідвалі зады...

Каб трутні,
З дымакурам
Па мёд хадзілі ў сад,
Спявалі на хаўтарах,
Пладзілі труценят.
І ў птушак не пыталі-б
Ці доўга жыць:
Ку-ку...
У замуж аддавалі-б
За прыстава—дачку.
Усё-ж—карысць ад шлюбу...
Цяпер, зрабі,
Адну,
Не трутням, а Якубу,
Не зыбку, а труну.

Халодны прывід хлынуў
І клешняй босых ног
Упаў на глей, на гліну,
На неба...
І не мог
Адам пазнаць Якуба,
Як горлам біўся ком,
Як стогн паплыў па трубах
Берасцяных дажджом,
Каб выблiснуць праменнем
Загартаваных душ,
Каб поўным змыць зацменнем
Тугу з вачэй,
Як з руж
Змывае дождж азонам,
Паветрам свежым,
Пыл,
Плыве з лістоў зялёным,
Ружовым плачам жыл.
То стогн—кіпіць атрамант
У Рэчышчах паэм,
То нашага Адама
Над сябрам плач...
— Хадзем!

II

Рагавенка

А потым?..

Аніс

Басам гучным
Паклікаў генерал
Штапоркіна. І штучным
Такі яго запал

Здаваўся нам прысутным,
Староннім людзям, нам...

Рагавенка

Далей

Аніс

Ішоў з падсудным...

Адам

З Якубам.

Аніс

Катам сам
У гэтай палавіне
Ён быў яму. І вы
Цяпер на пілавінне
Зірніце.

Адам

У крыві
Яно ўсё...

Аніс

Тройчы катам
Быў хлопец збіты з ног,
Каб пад маім варштатам
Нарэшце легчы, лёг
І сціх, як згінуў дзесьці...
Пан генерал тады
Мне наказаў прынесці
Халоднае вады.

Адам

Прынёс?

Аніс

Крыніцу гора
А не ваду я нёс.
Ішоў праз пекла ўчора
З вядром сялянскіх слёз...

Адам

Ого!

Аніс

Не замінайце.

Адам

Адважны шлях...

Аніс

Калі
У гэтай самай хаце
Вадою адлілі
Яго...

Адам

На генерала,
Далёка так, Якуб
Глядзеў, бо не хапала
Яму паветра; з губ
Ляцелі словы:
— Каты!
Я адчыню вакно,
Каб волю ўбачыць з хаты,
Каб ад мяне адно
Пачулі вы прызнанне...
І ён зрабіў яго:
— Спі, залатое ранне,
Пад коўдраю сцягоў,
Якімі ўкрыюць дрэвы
Сон тваіх цёплых пят,
Твае, у гнёздах, спевы,
Спі, над табою кат
Бізун не ўскіне карны
На катавым судзе,
Падпольнае друкарні
Шукаць не павядзе.
Друкарні, што галодным
Рабыням дасць абед,
Што ў розуме халодным
Дагэтуль, выб'е след.
Ты, заўтрашні нябожчык,
Ты хочаш ведаць, кат,
Хто я такі?..
Наборшчык,
Якіх на свеце шмат.
Шаноўнаму васпану
Я набіраю смерць,
Для босых-жа паўстану,
Каб сэрцы гімнам грэць!
У час мае знямогі,
Маіх апошніх згуб,—
Калі ўжо прагнуць ногі
Ісці, а не Якуб,—
Ты, ранак мой вялікі,
Ты, мой мізэрны плач,
Пад ногі кідай пікі,
Дарогі перайнач!
Дзе рэчку помніў розум,
Там—возера кладзі,
Дзе корч, з карча бярозу,
На месцы тым, радзі!
Дупло зрабі з засечкі,—
Хай птушка ў гэты дзень

Туды свае яечкі
Блакітныя кладзе!
Ты будзь непаслухмяным,
Каб колькі ім не йсці,
Маім нагам паганым,
А следу не знайсці!

Аніс

Тут генерал Ігнату
Сказаў:
— Хай адпачне...
А сам пакінуў хату,
Паклікаўшы мяне
Таксама...

Рагавенка

Непакоіў
Яго, відаць, спалох
Міністраў?

Аніс

Так, з пакояў
Насустрач яму ўтрох
Яны ішлі.—Дарэмны
Спалох!—Не большэвік?
— Звычайны пад'ярэмны,
Наборшчык
І язык,
Што не праз дзве гадзіны,
Праз дзень, а павядзе
На новыя мясціны
Цікавасць нашу—дзе,
Напрыклад, каля дзічкі,
Наш беларускі штаб
Убачыць большэвіцкі,
З друкарскіх літар, скарб.
— Цікавы.—А спяшацца
Няма чаго, браткі!
Ідзіце спаць! За працай
Наш традыцыйны кій.
Вы-ж спіце, коўдра ўкрые
Сон вашых млявых пят...
— Ха-ха!
— Вусы сівыя
Не патрывожыць кат...
— Ха-ха...

Рагавенка

А потым?

Аніс

Потым
Ігнат вастрыў нажы
Аб печку, тупаў ботам

І кіем біў:—Кажы!
Маўчыш?
Рагавенка
А потым?
Аніс
Потым
Якуба павялі,
Каб накапаў за плотам
Сабе на гроб зямлі...
Рагавенка
Усё?
Аніс
А больш нічога
Не знаю...
Адам
Не мані!
Хто з лесу, вартавога
Падбіўшы, на кані...
Аніс
Калі?
Адам
Скакаў шалёна
Пад вокны? Жарабец
У яблыках чырвоных
Пад ім быў?..
Рагавенка
Хто?
Аніс
Ганец.
Дазнаўся я ад жонкі,
Што весці ён прывёз
З паўдзённае старонкі,
За восемдзесят вёрст
Адгэтуль. Вельмі скора
Ён паскакаў назад.
Ён расказаў, што ў горад
Яго прыбыў атрад
Міколы Рагавенкі
І кватэруе там,
Высокія ацэнкі
Ён даў яго байцам.
Рагавенка
А больш?
Аніс
Казаў, што хуткі
Чакаецца паход,—

Калі на поўдзень суткі
Пачнуць высокі ход...

12

Маўчалі, бо пытацца
Не варта больш, бо цень
Паказваў адзінаццаць
Гадзін; знікаў прамень,—
З яго празрыстых шклянак
Піў буру мякіш хмар,
Па бітым шкле маланак
Ужо ішоў пажар
Грымот.
Каля парога
Мясцовай сілы смерч,
Са смеццем, з хутарскога
Двара, імкнецца прэч.
Падхопленыя ветрам
Знікаюць галубы,
Іх прыбівае к нетрам...
Іх гнёзды, іх дубы
Віхры ператварылі
У цемры цытадэль,—
Натруджаныя крыллі
Ляцяць на мель, на мель.

Маўчалі. Рос у хаце
І цёк цяжар цішы
Па шыбах...
— Не страляйце
Мяне, таварышы!
Скажыце, што як толькі
Мінецца бура стрэл
Бязлітаснай вінтоўкі
Не возьме на прыцэл.
Не выбухне, не кіне
Аніса на траву,
Што ў цёмнай дамавіне
Я ў рай не прыплыву.
Што рай мне?
Рог дзяругі
Адпалавініў нож.
Заекаталі пугі
Па лесе.
Хлынуў дождж.
— Што рай?
Куды лагодней
Бадзягай у жыцці
Пад зоркаю усходняй

Праз возера плысці,
А як-жа лёгка голым,
Злагоджаным нагам
Ісці!
Маўчаў Мікола,
Цвік забіваў Адам
Ў дно труны...
А можа,
За тлумам вадзяным,
Не йmуць яго прыгожай
Дарэмшчыны яны?
Лістамі хатняй пальмы
Ўкрываючы пупы,
Крычаць пад ліўнем псалмы
Бязрывыя папы.
Там іхны стогалосы,
Тысячаногі штаб
Падвесілі за косы,
У хрыбет б'юць,
Як баб.
Здранцвелы штаб Вандэі
Ад ярасці кулак
Грызе:
Няма надзеі...
Мо' гэты дрэвы?
Так.
Хаваюць зрэнак бельмы
І туляцца да ліп
Міністры, што Вільгельму
Краіну прадалі.
Схаваць сумлення-ж страту
Ім нельга ўжо,
Калі
Яны яго, магнату
З Варшавы, прадалі.
Бязногае дзіцяці,
Пад назвай
Б. Н. Р.,
Расчуленая маці
Нясе ў народ цяпер.
Калыску мець з дзяругі
Дазволена:
Лю-лі...—
Смяротныя патугі
Ім выкідыш далі.
У скнарлівым маленні
Іх кожны скок
І кіў...
Такімі, ва ўяўленні
Міколы, асвяціў

У цмяным люстры ліўняў
Пражэктар бліскавіц
Іх душы, аж да грыўняў
І злотых са скарбніц,
А тут, пад гулкім дахам,
Яшчэ адзін ліхвяр
Жывым прабіцца птахам
Хацеў бы да ахвяр.
Каб клікаць багне з прагай,
Нагамі гушкаць гаць,
Ад радасці бадзягай,
Альбо міністрам стаць.
Пад зоркай спаць,
Пад бэзам
Цяпер хацеў бы ён
І пад сваім абрэзам
Убачыць іншым скон
Якуба, але ў шчырасць
Ператварыў ён злосць,
А ў словах чулы выраз
Пра чалавечнасць ёсць...
Даволі!
Сонца ў роўнядзь,
У завадзь, з чыхарды
Нядаўняй, красамоўна
Плыве...

Рагавенка
Хадзем!

Аніс
Куды?

Рагавенка
Куды скажу.

Аніс
Пад кулю?
Я-ж чалавек стары,
Вам—ні вачэй не мулю...
Мы-ж людзі, не звяры,
Мы-ж хочам жыць,
Мы-ж—дзеці
Ад прадзедаў адных.
Я адчыню вам клеці...
Стаеннікаў сваіх
Я вывесці дазволю.
Сядлайце іх, Адам,
Для войска!
Дайце волю!

Рагавенка
Дадзім.

Аніс

Дасце?

Рагавенка

Рабам!

Аніс

Рабам? Я—раб найгоршы,
Я—вісельнік асін!
Усё аддаў-бы:
Грошы...

Адам

А жонку? Аддасі?..
Так, аддасі, як грыўні!
Бо яблыкі ўгары
Па два зрасліся ў жніўні...

Рагавенка

Ну, марш!

Адам

Ліхвяр стары!

13

Вакно ў птушыны шчэбет
Адкінуў насцеж ён,—
З тугой аб спелым хлебе
Ўрываецца азон...
Дзве хмаркі, сінім морам
У вызвалены Крым,
Пад ветразем бадзёрым
Пранесліся над ім.
Апошні цвік Адамам
Ужо ў сухое дно
Забіты.

Цесна ямам...
Здалося, што даўно
Ужо рыпяць калёсы
У злосны краявід,
Дзе соты робяць восы
З атруты ўласных крыўд.
Каля балотных красак,
Па жоўтай дзеразе
Не лёгкі абавязак
Труна вязе, вязе...
Акроплены бяссмерцем,
У ёй ляжыць Якуб,
Яно-ж вільготным веццем
Змывае сонца з губ
Ягоных. Каркаў жахам

Адаму ў соснах рып.
Настойлівы, над шляхам
Рос нечы душны ўсхліп.
Адкуль? Хіба з праменняў?
З святла пярэстых плям?
І сувязь уяўленняў
Гублялася...

Адам

Быў не адзін. Нясмела
Узняўшы мутны зрок
То ўсхліпвала, то млела
Арына Касянок.

Адам

Арына!

Арына

Я сустрэла
Цябе на кірмашы...
З гусіных пер'яў стрэлы
Ляцяць з мае душы
К табе, даруй прызнанне,
Даруй, што ў час такі
Прышло маё каханне
Прасіць твае рукі.
Яго я не кахала...
Нянавісці сваёй,
Дзяўчынай, не хавала
Яшчэ...
Як пад зямлёй
З ім на куце сядзелі,
Дзе за яго вуллі,
За клеці, на вяселлі,
Бацькі мае пілі.
Бо хто-ж хацеў прызнацца,
Што еду я ў турму,—
Як мне было шаснаццаць,
А сорак сем яму?..
На першым шлюбным ложку,
У лютаўскі мароз,
Кляла я тую сцёжку,
Якой мяне ён вёз.
Каб смерць скруціла скнару
Чакаў мой кожны дзень,—
Шэсць год насіла мару
Далёка ад людзей.
Сягоння-ж ён ад смерці
Хацеў зарыцца ў стог,
Пасля сказаў, што ў клеці
Схаваецца:
— Ніхто

Мяне там не зачэпіць,
Каб лішні клопат мецць...
І я на тры зачэпы
За ім замкнула клецць.
— Аніс адпачывае!—
На кухню ідучы,
Вам крыкнула сама я
І вынесла ключы...
Прышло, прышло збавенне
Ад вызнаных пакут,
На дзень, на вокамгненне,
Адам, застанься тут!
Я тут адна. Мне страшна...
З Арынай Касянок
Спацць будзеш, есцці смачна,
Кінь службу, кінь паёк,
Кінь горкі хлеб салдацкі!
Жыві ў мяне, як свой.
Страляцць у лузе качкі
Ты будзеш раніццой...
Калі-ж, Адам, з удачы
Ты вернешся назад,
Я самавар гарачы
Настаўлю, выйду ў сад...
Ці думаў ты аб шчасцці
Калі?
Чаго-ж маўчыш?
Табе з чырвонай часцці
Не цяжка-ж уцячы.
Хай за зямлю другія
Вядуць вайну,
Табе-ж
Даю свае лугі я—
Хоць свет касою зрэж—
Не знойдзеш лепшай пашы,
Каровам і быкам,
Такіх зямель, як нашы
Нідзе няма,
Адам!
Няхай усе краіны
Ты пройдеш у жыцці,
Але такой Арыны
Не трапіцца знайсці.
Няма,
З касою звонкай,
Другой Арыны,
Каб
Яна Адаму жонкай
Не горшаю была-б.
Народзіцца ў нас дужы,

Такі, як бацька, сын.
Мы на расу, на ружы...

Голас

Адам, труну нясі!

Арына

Сын вырасце курчавы,
Яму з вярбы дуду
Ты зробіш для забавы...
Маўчыш?

Голас

Хутчэй!

Адам

Іду!

1

Вазок. Ды канюшына.
За фурмана Адам,
Каля труны.
Арына
Глядзела услед байцам.
— У лесе для сустрэчы
Утульны ёсць куток...
Спявалі вочы, плечы
Арыны Касянок.
— Ці вернешся?—пыталі.
— Мы вернемся!—ў адказ
Падковы распляскалі
Пад сонцам з медзі таз.
Мы вернемся, каб беднасць
Сюды не прывяла
Парабчука абедаць
Аб'едкі са стала!
Каб бізуноў быдлячых
Не чуў ён на сябе,
Каб аж да слёз дзіцячых
Шкадуючы сябе,
Свой гонар, каля ліпкі
Бацькоўскае не лёг,
Каб з вашай ласкі цыпкі
Не раз'ядалі ног!
Каб вашае кароcты
Крапівай не паліў,
Каб ён карца з ярости
Арыне не зрабіў!
— Мы вернемся!—
Народны
У гэтых словах гнеў.

І мы ненавісць згодны
Узяць з яго ў свой спеў.
А ў водбліску падковы,
Што ў скарб сабе збярэм,
Я чую стогнаў словы,
Магутны крык паэм,—
Паэм недрукаваных,
Напісаных клінком
Паэтаў, катаваных
Крывавым бізуном!—
Герояў невядомых,
Бяссмертных, бо яны
У нас саміх, у домнах
Радзімы і вясны!

Люты 1936 г.,
Сакавік 1936 г.

*Васіль Каваль*

# ШЧАСЦЕ СІЛІВЕЯ ЗЯЗЮЛІ

## 1

Дарога падымалася ўгору.

Дзе подбегам, а дзе павольна, згінаючыся пад цяжарам мяшка, ішоў стары грабар Сілівей Зязюля.

Гэта быў шыракаплечы, нізенькі чалавек, з рэдкай сівой бародкай, з маленькім, маршчыністым тварам, прыжмуранымі прастадушна-хітраватымі вачыма. На шыі ў яго была павязана каляровая жаночая хустка, палапленая сярмяга падпяразана сінім поясам, на нагах шлёпалі стаптаныя лапці. Рыдлёўка на плячы адлівала бляскам. Рукавом левай рукі Сілівей Зязюля выціраў пот і скараговоркаю мармытаў тоненькім галаском:

— Эйш ты, абармот, каб на цябе немач! Чулі вы, ліха на яго галаву... Каб ён ды мяне, Сілівея Зязюлю... цьфу! Не, мой галубок, вяцiцель ты мой, чэмер на цябе, не ўдалося... цьфу!

Абзываючы некага то „галубком“, то „вяцiцелем“, Сілівей Зязюля лаяў яго ўсю дарогу на чым свет стаіць...

У полі звінела ранняя дружная вясна. Улева, над абшарамі балота плыў лёгкі туман. Справа ляжала ўзораная нядаўна чорная ралля. З бліжэйшага бярозавага гаю чуўся рознагалосы птушыны шчэбет. Вечарэла, і далёкая сінява неба фарбавалася ў ледзь улоўны аранжавы колер.

Сілівей Зязюля ўзышоў на ўзгорак, аддыхаўся, трошкі пастаяў. Цяпер зусім блізка, абапал ракі, ляжала вёска.

— Хо-хо...—весела прамовіў Сілівей Зязюля.—Вось табе і Дзяругі... А даўно-ж ты тут не быў, Сілівей!

Акінуўшы позіркам прасторы балота, Сілівей Зязюля адзначыў:

— Гаспадары, ліха на вашу галаву. Гэта-ж толькі падумаць, яшчэ не здагадаліся асушыць. От не вазьміся, дык няйначай, нічога і не будзе...

Стары грабар, які на сваім вяку асушыў сотні гектараў балот, на сотні кілометраў пракапаў канаў, злаваўся так, нібы ён быў поўным гаспадаром над усімі гэтымі абшарамі.

Пачынала змяркацца, калі Сілівей Зязюля ўвайшоў у канец вёскі. Шмат што здалося яму ў старой вёсцы Дзяругах зусім незнаёмым: новыя хаты-пяцісценкі, прасторная канюшня, шырокі калгасны двор, кузня, адкуль даносіўся грукат.

— Эйш ты!—са здзіўленнем і павагай выгукнуў ён.—Як калгасам сталі жыць, дык набудавалі за гэтыя гады...

Вуліца гаманіла вечаровымі зыкамі. Каля канюшні ірзаў конь.

З-за рэчкі, відаць, з работы варочалася група жанчын. Сілівей Зязюля параўнаўся з імі і весела гукнуў:

— Хо-хо... Здаровы былі, дзеўкі і маладзіцы!

— Здароў, дзядзька Сілівей!—дружным хорам адказалі яму.

— Ці здалёк да нас?

— От іду сабе, клыпаю памалу...—Сілівей Зязюля ўвярнуўся ад адказу.—А дзе тут знайсці Піліпа Канапельку? Некалі дружакамі былі...

— А вунь ён, каля канюшні.

Яшчэ крокаў дваццаць не даходзячы да канюшні, Сілівей Зязюля пазнаў сутулую постаць свайго старога дружакі.

Піліп Канапелька чысціў сытага варанога жарабца.

— А братка ты мой! Піліп Канапелька!—са здзіўленнем крыкнуў Сілівей Зязюля.

Піліп Канапелька павярнуўся і ў сваю чаргу на твары, абросшым круглай русай барадою, выказаў неймавернае здзіўленне.

— То колькі-ж гэта, Сілівей, год як ты не завяртаў у нашы краі?

— Так што не меней, як гадоў з чатыры, а мо' і ўсіх пяць— няйначай. Гэта не шуні-муні гарохавая каша. Усё ў Верашчаках перабываў... Іду ад Касабуцкага, ад буржуя ад гэтага, чэмер на яго галаву! Па-праўдзе табе сказаць, судзіўся з ім. Суддзя так і сказаў: прысудзіць за аксплатацыю Сілівея Зязюлі... То-та-ж, са мною многа не сыграеш. У мяне характар наравісты. Так што я і вырашыў: пайду падамся ў калгас... Дзе больш людзей, там і я. Што-ж гэта вы балота не асушылі?

Сілівей Зязюля паказаў кручкаватым пальцам за рэчку.

— Тпру! Ваўкарэзіна!.. Тпру! — Піліп Канапелька ледзьве стрымліваў гарачага жарабка, які неспакойна тупаў нагамі, фыркаў на Сілівея Зязюлю і стараўся зубамі ўхапіць з галавы ў яго шапку.

Палахліва скасавурыўшыся на жарабца, Сілівей Зязюля задам адступаў, не перастаючы гаварыць:

— Хіба ўжо я парадкі якія навяду ў вас. А ты што-ж, за коньмі наглядаеш? Бач ты якога чорта выхадзіў? Трымай яго, трымай гэтую гадзіну, пакуль я адыйдуся, а то няйначай вырвецца! Хто-ж тут старшыня ў вас? Трэба-ж да яго будзе заявіцца...

— Ідзі ў праўленне,—крычаў яму Піліп Канапелька...—Насупроць дом з зялёнымі ганкамі... Там і старшыня наш Кандыба і хлопцы сабраліся...

— Дык я тымчасам і падыбаю...

— То заходзь-жа да мяне начаваць...

— Ужо ж прыду, дзе яно дзенецца...

І Сілівей Зязюля, па прывычцы, трохі нахіліўшыся ўперад, трушком-трушком пабег да дома з зялёнымі ганкамі.

2

У канцылярыю калгаса пасля работы зайшлі хлопцы пачытаць газету, пагаманіць, паслухаць жартаў. І толькі старшыня калгаса

чорнавусы Кандыба, пачаў быў нешта расказваць, як раптам у пакой ускочыў Сілівей Зязюля.

— Дабрыдзень, людцы!—яшчэ ў дзвярах крыкнуў ён гучнай скарагаворкаю, скінуў каля парога мяшок, пагладзіў сваю рэдзенькую, абшчыпаную бародку.—Здаецца, і дарога невялікая—усяго вёрстаў з дваццаць прадыбаў... І клажы не многа—пуды са два, а ногі так і ломяць... Але мне пашанцавала, не трэба многа было шукаць. Усе вы якраз у зборы. Вы ўжо адразу і рашайце, хлопцы, каб яно не гэтае...

— А што ў цябе рашаць?—усміхаючыся і падкруціўшы чорны вус, запытаў Кандыба.

Ухмыляючыся рэдкімі зубамі і вузенькімі прастадушна-хітраватымі вачыма, Сілівей Зязюля весела сказаў:

— Хо-хо... Прышоў да вас у калгас падавацца. Бо як вам вядома, усе мы павінны асазнаць...

— А дзе-ж ты дагэтуль быў?

— Хіба не ведаеш: служыў у Верашчаках у Антона Касабуцкага...

— Ды я не пра гэта: чаму раней не прыходзіў?

Я-ж і кажу—асазнаваў... гарбом сваім. Гэта не шуні-муні.

— Ты ўжо колькі год асазнаваў!..

— Божа мой! Дзіва, што асазнаеш, калі няма другога ратунку. Судзіўся я з Касабуцкім. Пасля гэтага яго і выслалі, як шкоднага. А я памеркаваў і рашыў: „няма другога ратунку, як падацца да вас у „Новы шлях“.

Тут Кандыба ўзяў пацешна-строгі тон і навучальным голасам прамовіў:

— Прысці то ты прышоў на гатовае, толькі ці прымем мы цябе, як быўшага манаха...

Сілівей Зязюля раптам устрапянуўся, замахаў рукамі, як певень крыллямі, і скоранька, захлёбваючыся, загаварыў:

— Людцы мае! Дык то-ж было пры старым прыжыме. Я, можна сказаць, даўно ўжо не веру ў рэлігію. Мажа гадоў з восем, даруй божа, і ў царкву не заходзіў, бо яе-ж і поблізу няма. А што ў маладосці было, дык то-ж, каб на яго немач! З гора, кажуць, і курыца заспявае. Калі хочаце, я ўжо раскажу вам усё начыстую— і колькі я гора перанёс, і якая цяжкая жысць мая была...

Сілівей Зязюля сеў, падкурчыўшы ногі, на мяшок каля печы, хуценька запаліў люльку і, пыхкаючы дымам, булькаючы, нібы ў горле ў яго пераліваласа вада, нараспеў загаварыў:

— Жысць мая, як можа чулі, зусім нікудышная. Усяго было... Кажуць, у жыцці ўсяк нажывеш—і Кузьму родным бацькам назавеш...

Хлопцы хоць і чулі пра яго „жысць“, але злёгку пасмейваючыся слухалі моўчкі, бо Сілівей Зязюля ўсякі раз расказваў які-небудзь новы, надзвычай выдатны эпізод з свайго бадзяжніцкага адмысловага жыцця.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Хоць я чалавек і вясёлы, але ўсю жысць сыпаліся, як з кораба, на мяне няшчасці. Яшчэ быў я малы, як навалілася на мяне

напасць. Пасвіў я, значыць, коні і палез на бярозу вароніны яйкі даставаць. Ліха ведае, навошта яны мне спатрэбіліся. А сказаць праўду, быў я малы дужа шустры. Ужо ўзлез я на дрэва, ужо дастаў яйкі і паклаў у запазуху, як, ліха іхняй матары, напалі на мяне вароны. Каркаюць, звяругі акаянныя, кружаць над мною, то за галаву ўшчыкнуць, то за босыя ногі. Я ўжо лезу ўніз, а яны ўсё кружаць. Хачу пачухацца ды баюся раздушыць яйкі. І так дагадзілі мне, што не вытрымаў—пачухаўся. А сук пада мною падламаўся і шмякнуўся я вобземлю. Ляжу на зямлі сабе і думаю: „Не, пэўна, не жыць табе, Сілівейка...“

Але ачухаўся патроху, адхаяўся. Толькі, людзі казалі, з таго часу, на чатырнаццатым годзе і рост мой спыніўся. Ногі ў зямлю убіў. З гэтага і пачаліся мае няшчасці...

Быў я ў жыцці пасынкам, ні бацькі, ні маткі не было. А гады ўсё йшлі. Ідуць ды ідуць сабе, клыпаюць памалу. Мне ўжо дваццаты стукнула, а я ўсё пастухом. Усё з каровамі ды авечкамі, і ў сцюжу і ў спякоту. На жалейцы граю ды часамі пра лёс свой задумваюся...

Аднаго разу дзяружынскі поп мне кажа:

— Ідзі, Сілівей, служыць да мяне парабкам. Я цябе не пакрыўджу. Работнік ты старанны, будзеш бліжэй да царквы, а хто за царкоўны вугал дзяржыцца, той нікога не баіцца. Да таго-ж ты яшчэ і пісьменны...

А я і праўда быў пісьменны: асабліва калі па нябожчыку чытаць, дык як у лёд сек. Разважыў я сабе і пайшоў да папа. Калі па-цяперашняму гаварыць, дык пайшоў я да гэтага буржуя ў самую эксплатацыю. Праслужыў гады з тры ў папа, а не выслужыў ні кляпа. Падманіў мяне кудлаты чорт. А што ты яму зробіш? Супроць ражна не папрэш.

Дужа я пакрыўдзіўся тады. Плюнуў на ўсё ды і пайшоў у карчму. Мала я піў, а тут рашыў загінуць: думаю, усёроўна жысць мая паламатая.

У карчме за сталом сядзяць Антон Касабуцкі ды Пілін Канапелька. Абодва пакутуюць і ў абодвух няшчасце. Пілілу Канапельку ў салдаты хутка трэба ісці, а Антон Касабуцкі праштрапіўся перад ураднікам. Вышаў надоечы ўвечары з карчмы, зладзіў ураднікаву казу ды падвесіў яе за рогі пад самым акном. Так і прабляяла каза да самай раніцы, а ўраднік, як даведаўся, дык дужа раззлаваўся: „зжыву, кажа, са свету Антона Касабуцкага, згнаю кажа, у Сібіру“...

Расказаў ім і я пра сваё няшчасце. „Што будзем рабіць, кажу, хлопцы?“

— Яшчэ вып'ем па бутэльцы,—кажа Антон Касабуцкі і грукае па стале кулаком (адчайны чалавек быў).

Тут да нас падсеў стары Аўтух Карнавухі (гэта той, што ўсё жыццё судзіўся). Дужа пісьменны быў чалавек. Усе законы ведаў.

— Няма вам,—кажа,—ніякай рады. Ідзіце вы, хлопцы, у намастыр. Там хоць душу сваю выратуеце. Там, кажа, добра жывуць. Усе манахі гладкія, як кабялі.

— Праўда!—падаў думку Антон Касабуцкі.—Чым ісці ў Сібір на катаргу, пайду лепш у намастыр.

І мы з Піліпам Канапелькам згадзіліся на гэтым, бо нам, бяздомным, усёроўна куды было ісці. За такую параду і Аўтуха пачаставалі: „Піце,—сказаў ён,—тут, а там ужо, хлопцы, глядзіце за „спасеннем“ душы.

Так мы і праседзелі ў карчме да раніцы. А на раніцу падаліся у намастыр. Вёрстаў з дваццаць пяць было да яго.

Ідзем сабе ціха-мірна... Гамонім. Толькі дайшлі да бліжэйшага сяла, Антон Касабуцкі чухаецца:

— Нешта смажыць мяне вельмі. Пахмяліцца-б на дарогу.

Вытраслі мы з кішэняў свае апошнія грошы і пахмяліліся сабе. Лягчэй стала. Прайшлі яшчэ вёрстаў колькі да другога сяла. Як на тое ліха, зноў карчма стаіць.

Зноў муляе Антон Касабуцкі:

— Пахмяліліся,—кажа,—а цяпер бы выпіць як след. Усёроўна адвячаць прыдзецца.

А выпіць у нас ужо і няма за што.

— Дурныя вы!—кажа на нас Касабуцкі.—Нам цяпер нічога не патрэбна. Ты, Піліп, скідай сваю світку, а я боты заганю. Ну, а ты, Сілівей, як у цябе няма ні таго, ні другога, будзеш за кампанію.

Загналі яны ў карчме і боты, і світку і зноў парадкам прычасціліся.

— Ну, цяпер,—кажуць хлопцы,—больш няма чаго заганяць. Дадзім да намастыра такога драла, каб да цёмнага паспець.

І Касабуцкі так паспяшыў, што яго і канём не дагнаў-бы. Дужы быў, гад. Ну, а мы з Піліпам Канапелькам трушком, трушком за ім. Пот з нас цурком бяжыць, а мы усё спяшаем—дзе бягом, а дзе трушком.

— Не паспеем,—кажам мы,—да захаду сонца.

— Паспеем,—крычыць Касабуцкі.—Павінны паспець. Не можаце ісці, дык ракам паўзіце.

Так мы і рабілі—дзе трушком, а дзе ракам паўзлі, ведама выпіўшы.

Ужо сонца пачало хіліцца на захад і намастыр відаць. Усё нічога, толькі сустракаем мы па дарозе бабульку. Сядзіць яна каля канавы і босыя ногі крапівою расцірае, відаць, каб не так саднілі.

— Куды ідзеш, бабулька?—спыталіся мы.

— О-хо-хо... у намастыр іду. Святому Сарахвіму памаліцца, ды, відаць, да ночы не дадыбаю...

Тут Антон Касабуцкі ледзь не праслязіўся.

— Шкода мне цябе, бабка,—кажа ён.—Памрэш ты скора, а ў намастыр табе абавязкова трэба. Эх, дай, кажа, паднясу цябе.

І схапіў Касабуцкі бабку ў ахапку. Бабка ад яго адбіваецца, моліцца, плакаць пачынае. Мусіць думае: мо' ўроніць, а ён усё больш паддае хады.

— Цярпі,—угаварвае ён бабульку.—За дастаўку цябе мне на тым свеце грахі даруюць. Магла тут на дарозе схаўбуціццаа,

а так—памірай сабе на здароўе ў намастыры... Відаць, многа ты награшыла на сваім вяку?

— Усяк было...—уздыхае бабулька.

— То-та-ж, чую я. Адны косці ў табе, а дух цяжкі, аж рукі ломіць.

І што вы сабе думаеце: такі даставіў ён бабку проста такі ў самы намастыр і здаў каля варот самому манаху.

— Вось,—кажа,—даставіў вам...

І бабка гэтая, хоць і сумавала ў дарозе, а потым дзякавала нам за дастаўку...

Сталі мы жыць у намастыры. Праўда, манахі гладкія і жыццё для іх прывольнае. Адпяюць, памоляцца і на бок. А нас кругом прымушаюць працаваць... а вы кажаце, што я, як быўшы манах?.. Нас прымусілі хлявы падчышчаць ды дровы рэзаць. Работа катаржная, а кормяць нас вадою, хлебам ды цыбуляй. „Вы, кажуць, за спасеннем душы свае прышлі“. Асабліва ігумен выдаўся строгі. За ўсякую правінку ставіць сорак паклонаў адбіваць. Жывем мы і нам ужо нудна стала, і каяцца мы пачалі што прышлі. Дужа нудна, асабліва ўвечары, калі ў вёсцы дзеўкі запяюць. Божачка мой, сэрца так і рвецца, жысць не міла!..

— Не вытрымаем,—кажуць хлопцы.

І аднаго разу мы такі не вытрымалі. Пералезлі сцяну і схадзілі да дзяўчат. А на другі дзень пакаранне панеслі: па сорак паклонаў адбілі.

Рашылі мы пасля гэтага ўцякаць адсюль назаўсёды. Сабраліся ў дарогу ў цёмную ноч і сталі пералазіць цераз сцяну. Яны ўдвух упрадзе, а я ўслед, назіркам. Яны, як спрытнейшыя, пералезлі, а я неяк адарваўся зверху і так груknуўся, і такога шуму нарабіў, што аж манахі прыбеглі, затрымалі. І зноў давялося мне адпакутваць. Але выбраў час і таксама памаленьку знік. „Згіньце вы тут“,—падумаў я.

З таго часу мая і нага ў намастыры ні разу не была, а вы кажаце, як быўшы манах...

З таго часу я пайшоў па людзях і ўсё жыццё так і хадзіў— часам з квасам, а часам з вадою. І чым я, спытайце, толькі не быў—і фурманам, і плытнікам, і грабаром. І дзе я толькі, спытайце, не быў— і за Дуброўнаю, і за Шкловам, і за Верашчакамі. У многіх гарадах быў. Дзе толькі не быў, а ўсё цягнула бліжэй да сваіх Дзяруг.

І колькі ў мяне розных прыгод і няшчасцяў было. Думаеш, во ўжо каюк табе, Сілівей, не выкруцішся, Зязюля. Але шанцавала мне. Шчаслівы я чалавек! Ну, як-жа, скажыце, нешчаслівы, калі са мною яшчэ да вайны было такое здарэнне...

Быў я ў гасцях у Каляды ў Піліпа Канапелькі. Пагулялі трохі,— не так многа, а сярэдне. Ужо ноч цёмная, як у печы, а я чалавек адважны—іду сабе краем лесу, люльку раскурваю і спяваю памалу. Чую, бяжыць па сняжку на мяне звярына нейкая. Азірнуўся— бацюхны! Цэлае стада ваўкоў. „Эге,—падумаў я,—ваўкі цяпер вяселле гуляюць“. Толькі я так падумаў, а яны ўжо каля мяне. От так проста і бягуць на мяне. Я хочу ўцякаць, а ногі нешта

з месца не хочуць зрушыцца. І па целе млосць нейкая пайшла, і от так і хочацца мне легчы на снег. Тут табе, думаю, не шуні-муні, цэлае стада ваўкоў. Загінуў ты, Сілівей, як піць даць! Ляжу і рукамі не магу паварушыць, і крыкнуць не змога. Люлька ў мяне выпала з зубоў, вочы самі заплюшчыліся і, здаецца, я ўжо і дыхаць перастаў. Ляжу і чакаю свайго канца. Толькі-б скарэй, думаю. Чую—нехта мне ў твар панюхаў, і такой псінаю мне тхнула ад яго ў нос, што я хоць і абамлеўшы быў, а захацелася чхнуць. Але ўстрымаўся. Потым чую—пацурчэла нешта на мой кажух. Вохці мне! адзін раз, другі, пяты, дзесяты. Я ўжо і з ліку збіўся. Думаю, каб толькі скарэй! Ачухаўся трошкі, нікога няма, ціха. А я ляжу ўвесь мокры і такі мяне холад праняў, што я ўскочыў на ногі ды даў такога драла, што і ваўкі, напэўна-б, не дагналі.

Бягу, а зуб на зуб не пападае. Хутчэй-бы ў цёплую хату ды на печ патрапіць! Убягаю ў вёску, а тут, як на тое ліха, сабакі спра-вілі гвалт. Брэшуць нямаведама чаго, кідаюцца пад ногі, хапаюць за кажух— во! во! разарвуць! Я—хаду, а яны, воўчае мяса, за мною. Тут я і здагадаўся, што ад майго кажуха смярдзіць ваўчы-наю. Барждждэй скінуў яго з плеч. У міг падхапілі яго сабакі. А сам я, хоць і ў адной кашулі, але такі трапіў—хо-хо—на цёплую печ...

Вось так я і выкараскаўся ад пагібелі. У тую ноч у Піліпа Кана-пелькі яны барана ў хляве прырэзалі, а мне здарава пашанца-вала...

А яшчэ была са мною такая прыгода...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Кандыба ўстаў з лаўкі, махнуў рукою, сказаў:

— Позна ўжо... Трэба ісці дахаты. Можа ў другі раз даска-жаш...

— То чакай ужо, даслухай. Ты мо' падумаў, што не злавілі? Злавілі! Ды як яшчэ шампалоў узгрэлі—хо-хо—і Сілівей Зязюля ўсміхнуўся, нібы ён быў вельмі рад, што яму ўзгрэлі шампалоў...

Хлопцы трошкі пасмяяліся і ўжо сабраліся разыходзіцца па хатах. Стоячы пасярод пакоя з растапыранымі рукамі, Сілівей Зязюля здзіўлена прыўзняў бровы і гукнуў Кандыбу:

— Ну, то як-жа будзе з прыёмам у калгас?

— Падавай фармальную заяву. Ускорасці разбярэм на праў-ленні.

Сілівей Зязюля замітусіўся па пакоі. Зноў закурыў люльку і, абражаны, загаварыў:

— Дык што гэта—я дарэмна, значыць, прыходзіў? За такі свет цягаўся? Тут, шуні-муні, і заявы ніякай разбіраць нечага. Я-ж і кажу: чалавек я які ёсць... Нічога ні разу не ўкраў. Не за-біў нікога, а мяне не раз білі. От-жа сумысля пераношу ў калгас усю сваю гаспадарку, усё, што адсудзіў у Касабуцкага. Увесь свой грабарскі струмант... Вось-жа сумысля і пераходжу. Пайду канаву на балоце капаць, бо без мяне-ж вы не здагадаецеся пракапаць...

3

Позна ўвечары Сілівей Зязюля прышоў начаваць да свайго старага дружакі Піліпа Канапелькі.

Яны сядзелі за сталом у чыста пыбраным пакоі другой палавіны хаты, дзе вокны былі завешаны фіранкамі, а на падаконніках стаялі кветкі. Маленькай электрычнай лампачкай асвятляўся пакой.

—... Вось прышоў я, значыць, у праўленне. Там і старшыня Кандыба, там і хлопцы ўсе ў зборы,—расказваў Сілівей Зязюля. — Я ім адразу і кажу: прышоў у калгас падавацца. Моў, давайце Сілівею Зязюлі працу якую. Ен на ўсе рукі здатны: быў і пастухом, і плытагонам, і лесарубам, і грабар не кепскі. А тут Кандыба ўсміхнуўся ды так і бухнуў: „Прысці то ты, кажа, прышоў на гатовае, толькі ці прымем мы цябе, як быўшага манаха“. Ну, тут ужо я не стрымаў, характар мой запальчывы... Ах ты, думаю, аторва. Ты яшчэ пад стол пехатою хадзіў, як я ўжо спецыяльнасць грабара меў. Я цябе яшчэ на руках насіў і дудкі табе з лазы рабіў. Мы яшчэ з тваім нябожчыкам бацькам Лістратам пад самы Смаленск грабарамі хадзілі... Праўда, я толькі так ад крыўды падумаў, але не сказаў уголас... Тут я ім і выклаў, як на далоні, усе свае крыўды, жысць сваю ўсю: і як я змалку цярпеў, і як мы з табою, Піліп, ды з Антонам Касабуцкім у намастыр хадзілі... Праслухалі хлопцы, сказалі ўсё гэта—праўда. Толькі Кандыба і кажа: „Падавай форменную заяву, на праўленні, кажа, разбярэм... адзін, моў, рашыць не магу...“ Эх ты, аторва, думаю, дай яму яшчэ нейкую форменную. А навошта мне форменная калі я і так магу працаваць—рукі ёсць, ды яшчэ якія рукі ў Сілівея Зязюлі. Што-ж, я буду чакаць, пакуль яны там рашаць? Хто-ж гэта без працы можа сядзець?..

— Гэта твая праўда,—пацвердзіў Піліп Канапелька кіўком галавы.—Без працы нельга сядзець... А прыняць цябе прымуць. Не можа быць гэтага... Кандыба ў нас чалавек цвёрды, партыйны. Калі сказаў, дык зробіць.

— То і я-ж так думаю: дзе гэта запісана, каб не прынялі мяне?!.

Піліпава жонка Лёкса, яшчэ не зусім старая, дзябёлая жанчына, падавала на стол вячэру. Сёрбаючы капусту з лыжкі, Сілівей Зязюля бесперапынку гаварыў:

— Жывеш ты, Піліп, браце мой, зусім заможна. Гэта, скажу я табе, Лёкса, так мы ніколі не жылі...

— Нам-жа цяпер толькі і жыць... Сына і дачку выгадавалі... Працаднёў багата зарабілі. Ды яшчэ можа сям‘я прыбавіцца. Жаніць збіраемся Тараску свайго...—з ласкаю і гордасцю сказала Лёкса.

— Я ўжо даўно казаў яму,— глуха азваўся Піліп.— Цяпер моладзь такая пайшла, што яе і не вельмі ўламаеш... Усё выбіраюць, выбіраюць а за тыя выборы лапці ды аборы...

— Хо-хо-хо ..—заліваўся Сілівей Зязюля і, здавалася, што ў горле ў яго булькала і пералівалася вада.

— Я і кажу яму: ты не глядзі на морду, а глядзі на хвігуру. Калі хвігура здаровая ды ядраная, дык і работніца будзе добрая.

— Настулька мая кажа, я сама зарабляю працадні, сама добра

пражыву, і пайду я, кажэ, толькі калі палюбоўна, за панараўнага мне хлопца.

— Эйш ты!—падміргнуў Сілівей Зязюля.—Значыцца, разбіраюцца... Абы за каго не пойдуць?

— Дзіва што! Я-ж і кажу...

Яшчэ доўга цягнулася гутарка. Аб чым толькі не гаварылі, чаго толькі не ўспаміналі старыя дружакі. Час ад часу ўстаўляла свае слова і Лёкса. І Сілівей, пускаючы з люлькі цэлыя хмары дыму, закідваў галаву і заліваўся смехам.

Калі клаліся спаць, паслала Лёкса Сілівею Зязюлі чыстую пасцель на ложку. Той спачатку аднекваўся:

— Навошта ты, Лёкса, такую чыстую пасцель? Я дзе-небудзь у кутку, на ляжанцы. Я прывык... Сярмягу пад галаву—ды і храпі...

— Спі сабе на здароўе... Ты-ж госць у нас. Столькі то гадоў не паказваўся.

— Ну, то хаця бруднейшую прасціну пасцялі. А то-ж трэба сказаць, і сарочка мая потная...

Лёкса прынесла чыстую пару бялізны і як не аднекваўся Сілівей Зязюля, а прымушаны быў спаць на ложку.

— Охо-хо дзякуй табе, Лёксачка, даўно я не спаў на такой мяккай пасцелі...

— На людзях адзінокаму жывучы ўсяк даводзіцца,—спагадліва адказала Лёкса...

І вось у хаце стала ціха, так ціха, што чуваць было як тоненька-тоненька спяваў над печкаю цвыркун. Глыбока замысліўся Сілівей Зязюля. Горкі камок падкаціўся да горла. Едкім палыном запахлі пройдзеныя гады, і думы апанавалі цяжкія:

„Эх, Сілівей, Сілівей! Усе шэсцьдзесят год жыў ты бабылём. Бадзяўся па чужых людзях, гарбеў, працаваў да сёмага поту. Не, браце ты мой, жыццё пражыць, гэта не шуні-муні...

І на каго ты толькі не працаваў—і на папа і на памешчыка, і на ўрадніка, і на Антона Касабуцкага. Ніколі смачна не з'еў, не знасіў добрай адзежыны. Спіна твая, браце мой, стала, як горб, рукі, як граблі. І ты шукаў шчасця разам з Піліпам Канапелькам батрачылі. Разам сваталіся за Піліпа да Лёксы, бацька якой абяцаў даць у пасаг бычка. І рэдка-рэдка шанцавала табе, Сілівей Зязюля. Нават папова парабчанка Агапка, якую ты кахаў, не пайшла за цябе праз тваю беднасць. І горка-горка было табе пад час, але вясёлы, неўгамонны характар выдаўся ў табе, і таму, значыць, лягчэй табе было ісці з ім дарогай твайго жыцця..."

... Чуць свет-зара Сілівей Зязюля ўстаў, абуў лапці, захапіў свой грабарскі інструмент і вышаў у поле, на балота.

4

Над балотам клубіўся туман, поўз па купінах, па гнілых карчах, ахутваў стромкія звонкія сосны. Гектараў на пяцьдзесят ляжала балота.

„Тут павінна быць урадлівая зямля, чарназёмная! Хай толькі чалавек рукі прыкладзе, які-ж тут ураджай можа зашумець!"

Так думаў Сілівей Зязюля, пераступаючы з купіны на купіну. Пад яго лапцямі ўгібаліся купіны і вада цвыркала яму на вопратку і ў твар. Спрактыкаваным вокам старога грабара ён акідваў балота. Колькі соцень гектараў на сваім вяку ён ужо асушыў сваімі каравымі, шырокімі рукамі!

Часамі ён грузнуў у балота па калена і тады лаяўся:

— Ох, ліха табе, як зацягнула дрыгва. А некалі-ж яшчэ можна было хадзіць тут...

Тут калісьці малым яшчэ пасвіў ён коні, на бярозах гнёзды варонія скідваў, ну, а потым... потым падняўся і пайшоў у шырокі свет, як у капейку. І вось цяпер ён зноў на старым месцы...

Праз вяршыні сосен і бяроз паказаўся круг сонца, нечакана пырснулі вясёлыя праменні, залілі балота залацістым святлом: засвяціліся люстэркі вады, на лісцях бяроз замігцелі крыштальныя каплі расы. Жвавы, шумны гоман узняўся на балоце—то прачнулася лясное царства: пачуўся свіст, шчэбет, шчоўканне. Недзе ў кустах зашамацеў нябачны звер—ці то ліс, ці то воўк ішлі на здабычу. Чуваць быў крык чайкі. З шумам апусціўся на купіну цыбаты бусел, стаў на адной назе, азірнуўся, залапатаў крылямі.

Не пазнаць стала балота.

Сілівей Зязюля спыніўся, нібы зачараваны ўсім.

— Эйш ты!—выказаў ён сваё захапленне ўголас, выціраючы з твара брудную ваду.—Я мяркую адсюль і пачаць.

Ён яшчэ некалькі хвілін памеркаваў, закурыў люльку, папыхкаў ёю і, скінуўшы з сябе сярмягу, стаў капаць рыдлёўкай...

Пасля поўдня ён спыніў работу. З рашучым і цвёрдым намерам ён прышоў у хату Кандыбы. Сям'я Кандыбы—сам ён, жонка і двое белабрысых хлапчукоў палуднавалі.

— Хлеб-соль вам!—гукнуў Сілівей Зязюля распранаючыся, і не паспелі яго запрасіць за стол, як ён сам прысеў на край лаўкі.—А ну, малы, пасунься,—строга сказаў ён меншаму хлапчуку.

Жанчына выцерла чыстым ручнікам лыжку і падала госцю.

— Калі ласка, паспрабуйце нашай стравы.

— Ды ўжо-ж, паспрабую... Таму-ж я і прышоў. Прызнацца, я і прагаладаўся трохі...

— На балоце быў?—запытаў Кандыба.

— Ну, а то дзе-ж? Вы-ж самі не здагадаецеся... Авой! Колькі там чарназёму! Якая там пшаніца будзе расці!..

— Гэта праўда: асушыць балота даўно трэба было, мы ўжо збіраліся, але ў нас усё няўпраўка.

— Тут людзі спрактыкаваныя патрэбны. Каб мне ды яшчэ чалавек пяток, дык у нас было загуло, браце мой...

Кандыба разважыў па-гаспадарску: цяпер у калгасе ішла самая ўпартая работа—сяўба яравых. Лішніх рук не было.

— А ў калгас вы мяне залічылі?—Сілівей Зазюля задаў строгае і балючае запытанне.—Ай форменная патрэбна?

— Збярэцца праўленне, тады і паставім пытанне аб залічэнні. Факт, што такія пытанні адзін чалавек не вырашае...

— Ты мне, Рыгор, пра факты і не ўспамінай. Ты, як старшыня, калі зло якое маеш, дык адразу і гавары. Я чалавек такі, люблю каб адразу... Я цябе помню яшчэ во' такім шылахвостам. З тваім нябожчыкам—бацькам Лістратам мы яшчэ дружакамі былі. Ты, братка, мяне голымі рукамі не возьмеш. Я нездарма да вас прышоў. Я ўсю жысць працаваў і сядзець у вас без працы не буду. Калі ты факт, дык і я факт! Я і да суддзі дабяруся. Працаваць я не пакіну і за маю працу ты мне заплоціш... Касабуцкі быў не такі жмут, а і ў таго адсудзіў...

— Ну і злы-ж ты, дзядзька Сілівей,—гіранічна заўважыў Кандыба, вылазячы з-за стала.

— Я—чалавек круты,—стоячы на растапыраных кароткіх нагах пасярод хаты і строга пазіраючы знізу ўгору на рослага Кандыбу, якому не даставаў і плячa, голасна гукаў Сілівей Зязюля.—Калі я працую, тады я злы...

Сілівей Зязюля зноў пайшоў на балота і працаваў там да цёмнага. Пераначаваўшы ў Кандыбы, раніцай на другі дзень, калі яшчэ на балоце ляжаў бялёсы валакністы туман, ён зноў пайшоў на работу. І на трэці дзень убачылі людзі, як ваюе ў балоце маленькі, шыракаплечы, згорблены чалавек з рыдлёўкай у канаве, у вадзе і ў гразі.

Аднойчы прышоў Кандыба паглядзець на работу старога грабара. Ён убачыў роўную, як струна канаву, па якой цурчэла вада. Толькі спрактыкаваны грабар мог так зрабіць. Сілівей Зязюля не заўважыў яго, быў заняты сваім: нешта спяваў, нешта гаманіў сам з сабою.

Перад зрокам Кандыбы раптам выраслі прасторы асушанага балота, дзе на чарназёме звініць залаты багаты ўраджай.

„Трэба яму заўтра выслаць на падмогу хлопцаў“, падумаў ён.

Пацікавіўся работай, перакінуўся словамі з грабаром, які глядзеў на Кандыбу досыць сурова і непрыязна.

У наступны дзень, свежай раніцай, пяцёра маладых хлопцаў з рыдлёўкамі на плячах ішлі на балота...

— Бог помач, дзядзька Сілівей!—жартаўліва гукнуў Піліпаў Тараска, белабрысы кучаравы прыгажун год дваццаці.

— Што там бог,—каб ты памог!—буркнуў Сілівей Зязюля, стоячы ў канаве і не адрываючыся ад работы.

— Мы і прышлі,—прамовілі некалькі галасоў.

— Хто-ж вас паслаў?

— Наш старшыня, Кандыба...

— Эйш ты!—прыжмурыўся задаволены Сілівей Зязюля.—Значыць, паважае... Тады жыва станавіцеся пад маю каманду. У нас мігам загрыміць работа. Ленавацца ў мяне ніхто не будзе.

— Навошта-ж такая строгасць, дзядзька Сілівей?—азваўся Тараска.

— Я—круты чалавек. І ў мяне каб ні-ні. Ты станавіся першы.. а ну! Калі я працую, дык я злы...

Брыгада Сілівея Зязюлі стала на работу.

5

Яны працавалі кожны дзень ад рання да позняга вечара. Сілівей Зязюля дабрадушна пакрыкваў на хлапцоў. Дужыя маладыя хлопцы дзівіліся ўпартасці і спрактыкаванасці старога грабара.

У час адпачынку, лежачы на зялёнай мураўцы, хлопцы жартавалі адзін з аднаго, успаміналі пра дзяўчат і больш за ўсё надакучвалі Тарасу.

— Ці скора-ж ты жэнішся? Хутчэй бы пагуляць на тваім вяселлі...

— Глядзі, спяшай, а то твая Мар'янка не дачакаецца і аглоблі заверне. О, яна, брат, такая...

— А вось жанюся, калі гэта балота высахне...—сарамліва ўсміхаючыся і чырванеючы, адказваў Тараска.

— Ты, брат, не адвільвай. Нешта ты не вельмі стараешся. Відаць, не хочаш, каб яно так скора было асушана... Але так і быць!.. Мы ўжо адны так падналяжам, каб за тры дні асушыць. Праўда, дзядзька Сілівей?

— Ну, ведама што... Я сам быў у такіх гадах...

— Чаму-ж ты, дзядзька Сілівей, не жаніўся?

— Уга, гэта доўгая гісторыя... Тады было не цяпер...

Сілівей Зязюля запыхкаў люлькаю, падкурчыў пад сябе ногі. І задаволены тым, што ёсць людзі, якія будуць слухаць, пачаў расказваць:

— ... Мне ўжо было год дваццаць—не меней. Па гадах я быў зусім дарослы і з твару быў гожы, дзеўкі казалі. Валасы кучаравіліся, і чуб русы, і голас быў хоць і тонкі, але ядраны. Слухаюць, бывала, мяне дзеўкі і кажуць:

— Усім ты, Сілівейка, харошы і песні ўмееш пяяць да ўпадобы нам, толькі рост твой няўдалы.

А рост і дапраўды падвёў мяне. „Аршын з шапкаю", кажуць пра мяне. А я толькі смяюся. Вясёлы я быў чалавек. Няхай кажуць, людзям языка не завяжаш. А што хлопец быў хоць куды, я і сам ведаў.

З кім гэта ў маладосці не бывае: упадабалася мне ў тую пару адна дзеўка. Можа праз яе і жысць мая такая паламатая. Служыла яна ў нашага дзяружынскага папа. Агапкаю звалі. Ну, гэта, я вам скажу, была Агапка ў паўтары ахапка: круглая, ядраная. Я супроць яе шчупленькі быў. Але палюбілася мне, нібы сам чорт наканаваў. Працую—думаю пра яе, сплю—сніцца ўсё яна мне. Ну, жыцця няма!

Праз Агапку я і да папа служыць пайшоў. Служу ў папа год. Зямлю ару, коні на начлег ваджу—усякую работу раблю, і ўсё пакутую праз Агапку. Прызнацца, і яна да мяне стала прыглядацца. Скажа, бывала, так ласкава: „Сілівей, ідзі свінням замяшай!" „Сілівей, мне часу няма, ідзі каровы падаі". Работа гэта не мужчынская, а я ўсё для Агапкі стараюся. За тое і яна да мяне прыхільна: то вокам кіне, то пасмяецца. Я, бывала, ушчыкну за бок і скажу: „Агапка, цыпачка мая!" А яна таксама: то памыямі абалле,

то піхне ў канаву, а то жартам агрэе па патыліцы. Яно то, прызнацца, і пабаліць, але калі любіш, дык ўсе даруеш...

Вось жывем мы так з ёю душа ў душу цэлы год. Мне бывае сумна ды нудна. Ночы не сплю і ўсё шапчу: „Агапка, Агапка... калі-б на цябе немач!“ А мая красуля штодзень усё прыгажэй ды ядраней робіцца, не падступішся. Хлопцы сталі за ёю гужам хадзіць...

Сядзім мы раз у нядзелю з ёю ў садку. Семачкі лускаем, гутарым пра надвор'е. Тут я ёй і сказаў:

— Агап'я Палікарпаўна, палюбіў я вас усёй душою. Ĭ не магу я жыць без вас. Дзень не пабачу вас—сонца не свеціць. Нудна мне без вас, як тапельніку. Помніце, кажу, Агап'я Палікарпаўна, песеньку: „Ой, ды ўлюбіўся, ўрэзаўся, быў-бы ножык, зарэзаўся-б“.

Я ёй кажу, а яна лускае семячкі ды ўсё ўсміхаецца і вокам кідае на мяне.

— Агапка,—кажу я,—цыпачка мая. Выходзь за мяне замуж—інач свету рашуся. Я чалавек адважны: утапіцца магу, папоў дом са злосці падпалю...

Усміхнулася яна, засаромілася, падміргнула мяне і кажа:

— Мне гэта ўпанараў. Калі ўжо так любіш, дык прыходзь перад жнівом у сваты. Ды купі мне пад вянец сукенку ды хустку малінавую з сінімі палоскамі. Я, кажа, малінавы цвет люблю, ён дужа пяшчотны.

— Усё куплю, Агапка,—з радасці кажу я,—усё куплю. Я ўжо і грошы назапасіў.

У наступную нядзелю я купіў на кірмашы ў Верашчаках і сукенку, і хустку малінавую. Узяла падарунак мой, агледзела,—спадабаўся ёй. А я стаю пад акном і дзіўлюся на яе.

— Цяпер, Агапка,—кажу я, давай пацалуемся хоць праз шыбу.

— Эйш-ты які!—кажа яна.—Усе вы мужчыны хі-і-ітрыя. Пацалуеш, а тады куды я дзенуся...

Ну, добра! Стаў я чакаць вяселля. Усё грошы збіраю да капейкі, працую як рабы вол. А мая Агапка ходзіць у святы дзень у новай сукенцы паважна, нібы пава, а хлопцы за ёй гужам, гужам. А ў мяне сэрца ёк ды ёк. Жніва ніяк не магу дачакацца.

А ткі дачакаўся жніва. Толькі тут мне не пашанцавала. Адбылося са мною такое здарэнне:

Пайшоў я аднаго разу з гора спаць у сяніцу. Толькі задрамаў—чую, скрыпяць вароты. Нехта ўваходзіць і сядае на сене каля мяне—толькі не адзін, а ўдвух. „Эге, думаю я. Эйш ты!“—кажу сам сабе. Ĭ раптам чую я ласкавы Агапкін голас, і другі мужчынскі голас. Тут у мяне, прызнацца вам, і валасы ў дыбкі сталі.

— Агапка! Нягодніца!—закрычаў я што сілы,—дзе-ж твае цацанкі-абяцанкі?!

Зверам кінуўся я да яе, учапіўся за валасы і пачаў тузаць. Ну і тузаў, ну і тузаў. Злосці ў мяне многа было тады. За ўсё я хацеў адпомсціць—і за сукенку, і за хустку малінавую, і за жысць маю паламатую... Аднак, чую, рагоча каля варот Агапка, а пада мною нехта раве, як бугай:

— Адпусці, акаянны, бараду вырвеш.

Тут я і здагадаўся, што пада мною поп. Такі самі звычайны поп, ліха яго матары... Цьфу!..

Сілівей Зязюля злосна сплюнуў і расцёр нагою...

— Го-го-го,—заварушыліся хлопцы.—Значыць, не пашанцавала, дзядзька Сілівей.

— То-ж бо-то...

— Цяпер жаніся, яшчэ не такі стары. За цябе любая дзеўка пойдзе.

— Не ўжо, не гады...—і перагінаючы ў руках бліскучую рыдлёўку, дабрадушна ўсміхаючыся дадаў:—Струмент мой заржавеў... А ну, хлопцы, будзем памалу канчаць... Глядзіце, каб не сорамна было перад Кандыбаю, а то ён чалавек сур'ёзны. Пагуляем ужо на Тарасавым вяселлі. Так што вы, хлопцы, не паддайцеся, калі трэба чарку віпіць, дык па шчырасці, калі тупнуць дык тупнуць. Хай ведаюць брыгаду Сілівея Зязюлі!

6

Калі ўжо лета ўвабралася ў сілу, брыгада Сілівея Зязюлі скончыла працу на балоце. Канавы перарэзалі балота. Высечаны кусты, выкарчавана пянсце, і там, дзе нельга было прайсці жывёліне, дзе не ступала нага чалавека, дзе расла калючая асака, прабіваліся густыя і буйныя травы. Тут ужо збіраліся рабіць першы ўкос сена.

Сілівей Зязюля не заставаўся незанятым і цяпер, калі скончылася яго галоўная работа: ён нарабіў каля сотні грабляў, рамантаваў калёсы, дапамагаў у кузні, корпаўся на калгасным двары, сам з сабою гаманіў, нешта спяваў пад нос і ў зручны момант, калі знаходзіліся слухачы, расказваў пра незвычайныя здарэнні свайго жыцця.

Аднаго разу ён павольна ішоў па вуліцы, усміхаўся ў сваю рэдзенькую, сівую бародку і, па прывычцы, сам з сабою гаманіў:

— Эйш ты! Гэта вам не шуні-муні. Такую прэмію атрымаў... Старшыня, партыйны чалавек, так і сказаў: „Вось табе, Сілівей Зязюля боты за тваю сумленную працу“. Эйш ты! Паважаюць, значыць, Сілівея... То-та-ж...

Па вуліцы людзі варочаліся са жніва, з пакосаў.

— Здаровы былі,—бадзёра гукаў ім Сілівей Зязюля,—знімаючы з пляча новыя боты,—бачыце, якую прэмію ад калгаса атрымаў. Старшыня аддае мне боты дый кажа...

Людзі, спяшаліся дамоў, на хаду хвалілі боты і ішлі далей. Сілівею Зязюлі хацелася пагаманіць, выказаць людзям усю сваю душу. Ён прайшоў ужо вуліцу і так і не спаткаў ніводнага незанятага чалавека. На выгане ён незадаволена спыніўся і ўжо хацеў варочацца ў сваю адзінокую каморку, як раптам на калгасным двары заўважыў двух чалавек. Сілівей Зязюля звярнуў да іх, набавіў кроку і яшчэ не даходзячы, крыкнуў:

— Хлопцы! Ці не ўважае хто тытуню майгоза курыць?

І ён гасцінна раскрыў перад хлопцамі свой капшук. Абодва пацягнуліся за паперао. Малодшаму з „хлапцоў“ Піліпу Канапельку мінула за шэсцьдзесят, а старэйшаму Мікіту Мігаю стукнула восемдзесят. Не спяшаючыся, яны закурылі, селі на бярвенне і тады ўжо Сілівей Зязюля зняў з пляча боты.

— Хо-хо! Бачылі, якую прэмію ўвабраў. Старшыня мне так і сказаў...

— Боты важныя!—пасведчыў Мікіта Мігай, уважліва разглядаючы іх.

— Шчыгульныя...—прамовіў Піліп Канапелька.—Такія боты шкода на балота адзяваць. У такіх ботах толькі жаніцца,—пажартаваў ён.—Вось мой сын заўтра жэніцца. Таксама прэмію адзяржаў.

— Дзіва што! весела загаварыў Сілівей Зязюля, узрадаваны тым, што знайшоў, нарэшце, з кім пагаманіць.—Калі-б у мяне ў маладосці былі такія боты, дык, можа-б, я і не быў такім адзінокім. Можа праз гэтыя боты я на ўсё жыццё адзінокім бабылём застаўся. Вы толькі паслухайце... А мо', хлопцы, яшчэ закурыце? („Хлопцы" моўчкі пацягнуліся да капшука). Ну, так год з сорак таму было. Я яшчэ—ага!—маладым быў. Прызнацца вам я тады жаніцца збіраўся У парабках служыў у папа. Тры гады збіраў грошы на боты, бо нязручна-ж было ісці пад вянец босаму або ў лапцях. Вось аднаго разу і пайшоў я ў мястэчка. Купіў боты ў знаёмага шаўца. Па дзяшоўцы ўступіў мне, але боты вышлі важныя. Крыху вялікаватыя, але затое з рантамі, скрыпяць. Распілі мы з шаўцом соткі дзве і пайшоў я сабе дадому вясёлы. Я заўсёды быў чалавек вясёлы. Іду сабе па дарозе. Вось, думаю скора жаць будуць. Ажэнімся з Агапкай. Пагаманіць з людзьмі хочацца, а нікога няма. Спяваю сабе ўголас. Ужо цямнець пачынае і хата не так далёка.

Якна тое, сустракаецца мне па дарозе чалавек. Босы, крышку абадраны, але, відаць, вясёлы.

— Здароў, кажа, чалавеча! Ці няма затуманіць махоркі?

— Хо-хе...—кажу я.—Дзівак чалавек, яшчэ сумняваецца. Вядома, ёсць. Сядай на мяжы, затуманім.

Селі на мяжы, закруцілі цыгаркі. Канешна, разгаварыліся.

— Куды ідзеш чалавек?

— У мястэчка.

— А я з мястэчка. Боты нясу...

— Няйначай, як жаніцца думаеш,—смяецца мой знаёмы.

— Правільна, кажу. Калі ты такі здагадлівы, дык прыходзь на вяселле.

— Дзякую,—кажа ён,—прыду. Вось толькі адно боты твае малаватыя, мазалі будуць.

І так заспрачаліся мы. Ён кажа малаваты, а я кажу вялікаваты.

— А ты не спрачайся,—кажу я,—а памерай, тады будзе відаць.

Праўда, ён такі не спрачаўся, адзеў боты адразу з ахвотаю—акурат добра, як прыліплі, нібы на яго нагу шытыя.

— Ну, што,—кажу галава твая садовая—малаваты?

А ён сваё:

— Цісмуць боты. Падманіў цябе шавец.

Тут ужо я зусім раззлаваўся.

— Не павінна быць, каб падманіў. Шавец добра знаёмы. У яго нават і поп на заказ шые. Ты не тупай, кажу, чэмер на тваю галаву, на адным месцы, а прайдзіся.

— Ну і прайдуся.

І пайшоў ён сабе па полю ў напрамку да лесу. Аж зіхацяць мае боты і нікольки не муляць. Любата! Толькі гляджу: што-ж гэта такое?

Ужо не пайшоў, а бягом, нягоднік, пабег у лес.

— Стой!—крычу я.—Стой, ліха тваёй матары! Вярніся! Боты аддавай!

А ён, паганец, дабег да лесу, стаў на пень, ды яшчэ і ручкаю мне памахаў. Я за ім, а яго і след у лесе прастыў...

Горка мне стала пасля гэтага. І вяселле маё праз гэта рассыпалася, і жысць стала паламатая. А мо', хлопцы, яшчэ закурыце? Вы не вельмі спяшайцеся... Я яшчэ буду гаварыць...

— Дзівак ты чалавек!—не даў яму дагаварыць Пілiп Канапелька.— Я калі жаніўся, дык браў боты напракат, бо самому не было за што купіць, бо як вам, хлопцы, вядома...

— Ты мне не кажы. Я і сам ведаю. Яно мне ўсё жыццё перакруціла. Я ўсё жыццё крыўду насіў...

Дзед Мікіта Мігай, які дагэтуль сядзеў моўчкі і дакурваў цыгарку, трымаючы яе на кончыку губы, сказаў стала, разважна, гучным голасам:

— То аб чым вы, мальцы, спрачаецеся. Цяпер яно, вядома, не тое, што было раней. Цяпер прыдбае сабе боты малады, каторы, дык ён, шылахвосціна, і ў свята, і ў будні дзень адзяе. І ў поле, і ў лес адзяе. Ён іх і ў дождж, і ў гразь, і ў мароз не пашкадуе. Мала таго, што адны боты, дык ён і гальштук на шыю прывяжа. А дзеўкі, дык тыя выкручваюцца ў шаўковых сукенках—імі не шум баравы...

Пілiп Канапелька нечакана стаў расказваць пра заўтрашняе вяселле свайго сына, а Мікіта Мігай, не звяртаючы на іх увагі, працягваў гаварыць сам сабе:

— Не, і не кажыце. У наш час так не было. Калі, бывала, у вёсцы прыдбае хто боты, дык ён, як скарб іх хавае. Разы два ў год толькі і надзене. Калі ісці на кірмаш ці ў царкву, дык у руках насілі... Я сам, хлопцы, пра сябе скажу. Я адны боты ў жыцці толькі і знасіў. Ды, як вам сказаць, не знасіў, а за мяне знасілі. Па мне дык яны-б і цяпер цэлы былі. Усе трое маіх сыноў пананасіліся. Так што гадоў пяцьдзесят жылі мае боты. А тут унук мой, шылахвосціна, як адзеў іх, дык, не скідаючы, за нейкага паўгода разбіў дашчэнту...

— А ліханька табе!—ускочыў раптам Пілiп Канапелька.— Сцямнела ўжо. А мы так загаманіліся. То бывайце ўжо! Ды не пазніцеся, хлопцы, заўтра на вяселле.

Сілівей Зязюля ўскінуў боты на плячо.

— Адзеў-бы ты іх,—параілі яму.—Цяпер раса халодная.

— Сёння цёмна! Хіба заўтра ўжо! На людзі адзену!

І ён паважна пайшоў па вуліцы, задаволены тым, што раскрыў усю сваю доўгавечную крыўду і выказаў сваё маленькае знойдзеў нае шчасце.

7

У хаце ў Піліпа Канапелькі шум, разнагалосы гоман. Ціханька-ціханька падыгравае гармонік...

Хата застаўлена двума радамі сталоў. Сталы накрыты чыстымі абрусамі. На абрусах караваі, горы бліноў, гарачая смажаніна. Сонечныя зайчыкі гуляюць на гранёных шклянках, на бутэльках, у якіх іскрыцца хмельная вільгаць.

Гаспадыня памаладзелая, румяная, у белым фартуху, то завіхаецца ля печы, то ветліва запрашае новых гасцей.

— Заходзьце, заходзьце, госцейкі. Прошу, сядайце... Не грэбуйце ласкай.

Усё новыя і новыя ўваходзяць госці, калгаснікі, суседзі. Усе апранутыя па-святочнаму, па вяселаму настроеныя. Жанчыны ў яркіх стракатых вопратках цвітуць, як макі ў агародзе. Пажылыя мужчыны паважна разгладжваюць вусы і бароды, віншуюць гаспадароў з вяселлем, абыходзяць усіх з рукою, з прыказкаю, з жартам.

Сам гаспадар Піліп Канапелька ў белай кужэльнай кашулі, вышытай рукамі дачкі. Яго шырокая барада паголена. Нават сутулая постаць выпрасталася. Ён паважна рассаджвае за сталамі гасцей.

А на самым покуце маладыя: белакуры, кучаравы прыгажун Тарас, побач з ім, блізенька прыхіліўшыся плячуком, круглатварая Мар'янка сарамліва ўсміхаецца ямачкамі чырвоных шчок. На ёй гарыць яркая гарадская сукенка, у руках букет свежых руж. Каля маладой сам старшыня Кандыба, пазіраючы на маладых, усміхаецца, разгладжвае чорны вус; то загаварвае з маладымі, то ўставіць слова ў гутарку старых калгаснікаў.

Покуль што гамоняць пра слаўнае надвор'е, пра сенакос, пра жніво, якое ўжо вось-вось надыходзіць...

— Ну, дарагія госці, каб не сумна было на вяселлі,—раптам гучна прамовіў Піліп Канапелька і падняў чарку, да краёў напоўненую белай хмельнай вільгаццю,—можа яно і пачнем... Толькідзе-ж гэта Сілівей Зязюля? Чаго ён позніцца?

Хо-хо! А я тут! Лёгкі на ўспамін... Сілівей заўжды сярод людзей... —гукнуў Сілівей Зязюля, пераступаючы парог.

Вясёлым прыжмураным позіркам ён абвёў усіх гасцей. І цяжка было адразу спазнаць яго: падстрыжана бародка, валасы прыгладжаны, на нагах новыя хромавыя боты. Відаць, чалавек доўга рыхтаваўся да такой урачыстасці. Яго спаткалі шумным гулам.

Кандыба падняў поўную шклянку і, трымаючы яе на ўзроўні з галавою, прамовіў:

— У першую чаргу вып'ем за здароўе нашых маладых ударнікаў—брыгадзіра Тараса і нашай лепшай даяркі Мар'яны. Пажадаем ім усюды, ва ўсім быць лепшымі, быць першымі!..

— Хаць жывуць шчасліва!..

— Гадуюць дзетак...

— ...Ды не менш дванаццаці...—падтрымалі яго дзесяткі галасоў.

Сярод агульнага шуму прыўзняўся і сказаў сваё слова і Сілівей Зязюля:

— Ну, людцы, за тое, каб добра жылося, вялося, радзілася,

пладзілася і ў палях, і ў хлявах. Каб у маладых было столькі сыноў, як у лесе дубоў...

— Хо-хо-хо...

У хаце адразу пачалося ажыўленне, выгукі, шум, звон шклянак.

Рухавая круглатварая і языкастая кабеціна раптам строга выкрыкнула:

— Суседзі! Пііліп! Лёкса! Што-ж гэта такое? Нешта ў вас піва дужа горкае...

— Горкае! Горкае!—падтрымалі яе жанчыны, пляскаючы ў ладкі.

Тады Тарас, пяшчотна гледзячы ў беспрадонна-цёмныя вочы Мар'янкі абняў яе за плячо. Мар'янка павярнулася, трошкі ўзнялася і яе гарачыя, як сам агонь, вусны пацягнуліся да яго вуснаў...

... Шум, гоман, смех, пляскание ў далоні.

А на чыстым шырокім двары, асветленым сонечным бляскам, моладзь ужо кружылася ў танцах,— і смех і песня нібы сцвярджалі яркае права радасна жыць...

Патрохі і за сталамі стала заціхаць. Узяўшыся за рукі жаніх і нявеста вышлі на двор і далучыліся да моладзі. Развітаўся і падзякаваў гаспадароў Кандыба, якога чакала справа. І пад вечар, на краі стала засталіся толькі Пііліп Канапелька, Сілівей Зязюля, дзед Мікіта Мігай, ды рухавая, круглатварая кабеціна.

— Ты толькі паслухай, Макрына,—горача звяртаўся да яе Пііліп Канапелька.—Як я сватаўся да сваёй Лёксы, ведама, быў малады. Толькі я прышоў аднаго разу з работы, чую, стукае мне Сілівей у акно: „Пііліп, хутчэй бяжы, да тваёй Лёксы Марцін у сваты паехаў.

— Во' во' гэта якраз так і было,—пацвердзіў Сілівей Зязюля.

— Аж, праўда, чую званкі. Едзе Марцін на пары коней са званкамі. Ну, думаю, пераб'е, гад.

— А што ты думаў: ён такі, ён мог-бы...

— Я-ж і кажу... Тут я ўміг і сабраўся. Новую світку накінуў, на плечы кашэль, дый босы даў ходу нацяанькі—праз поле, па іржышчу, а яны накруг балота паехалі. Я ў маладосці быў спрытны на ногі. Бягу ды і думаю, як бы перагнаць супарата. А трэба вам сказаць, што бацька мае Лёксы абяцаў у пасаг бычка. Вёрстаў з сем бег я. Дужа стаміўся, у пот мяне кінула, але прыбег першы. Я адразу і да справы. І ўсё пайшло гладка, але толькі мы пачалі таргавацца пра бычка, як чую, званкі. Тут я адразу і кажу: „Ат, няхай ужо і без бычка"...

Э-не...—перабіў яго раптам Мікіта Мігай.—Гэта што ты бег. У майго бацькі некалі былі валы,—да чаго-ж былі спрытныя! Бывала, паедзем з бацькам у Магілеў па соль, дык мы як спаліць за чацвёра сутак спраўляліся, а другія, бывала, і за пяцёра не паспявалі...

— Гэта што! Ты толькі паслухай!..

— Не, ты паслухай... Раней я чацвёра сутак у Магілеў ездзіў, а цяпер слухаю ў трубку, як старшыня гамоніць па тэлефону. Вось як!

— Пііліп, дружа ты мой! Ну і вяселле ты справіў!—гукаў Сілівей Зязюля, стараючыся абняць і Пііліпа Канапельку і Макрыну.—Там

на двары моладзь разліваецца... Дружа ты мой, песні спяваюць... А мы тут... Макрына, давай і мы ўспомнім...

— Макрына раптам запляскала ў ладкі заківала галавою:

— А ну, Сілівейка!

І Сілівей Зязюля схапіўся рукамі за галаву і, хістаючыся ў бакі, тоненькім высокім галаском зацягнуў:

Як паехаў мой міленькі
У поле араці,
Ды забыў ён арала:
А я-ж, маладзёшанька,
Ой здагадліва была:
Ухапіла тое арала
Ды за ім драла, драла...

Макрына ўсё больш горача прыплясквала ў ладкі, у тахт высока падцягвала матыў. Тупаў нагамі Піліп Канапелька.

Як паехаў мой міленькі
Ў поле бараніці,
Ды забыў ён сваю барану.
А я-ж маладзёшанька,
Ой здагадліва была:
Ухапіла тую барану
Ды за ім як дзірану, дзірану...

Сілівей Зязюля чамусьці апусціў галаву на рукі, глыбока задумаўся...

— Дружа ты мой, якая слаўная песня! Як весела!

На вуліцы яшчэ грымела, звінела музыка. Сілівей Зязюля і яго стары дружака, абняўшыся за плечы, вышлі ў цёмны сад.

У садзе гарачыя шэпты, ласкавыя маладыя галасы, ціхі шэлест лісцяў і травы, мігценне зор у цёмнай вышыні. Недзе ў густым яблынавым лісці свішча, разліваецца салавей.

— Эй-ш ты!—з зайздрасцю кажа Сілівей Зязюля.—На ўсе дванаццаць кален разлягаецца...

Ён уздыхае, ківае галавою і, аж захлёбваючыся, крычыць:

— Піліп, ну і вяселле-ж у цябе было. Усё гатоў аддаць!.. На, вазьмі мае боты... Вазьмі, навошта яны мне цяпер. Каб у мяне ды такія боты былі ў маладых гадах? Мне і так добра! ух ты! А то можа пойдзем да хлопцаў ды дзяўчат: паскачам, песню спяем...

— То калі-б патрапіў у ногу з імі, дык яно-б і можна...

— Не, братка Піліп. Наўдачу ці патрапіш! Яны, брат, маладыя, спрытныя. Нікуды я не пайду. Так і буду сядзець да раніцы ў садзе. Бо ў цябе-ж, Піліп, такое было вяселле! Такое вяселле! Не, давай лепш сядзем на прызбу. Давай пагамонім, дружа мой, пра нашы маладыя гады...

... Па зямлі разбягаюцца, плывуць, як у шумлівым ручаі, гукі музыкі, гоману, шэлесту лісцяў і дрэў—і ўсё звініць, звініць...

*Сяргей Дарожны*

## ШЧАСЦЕ

Вось яно якое шчасце!
Радуйся, Пятроўна!
Здабылі мы гэта шчасце
У баях няроўных.

Што вышэй яго на свеце?
Што па сіле роўна?
Майскі над садамі вецер,
Радуйся, Пятроўна!

Пяцера сыноў кудравых—
Сокалаў бясстрашных,
Узрасціла ты на славу
Бацькаўшчыны нашай.

Узрасціла у спагадзе,
У бядоце знаных,
Каб жылі у добрым ладзе
Вернымі сынамі.

Каб гатовы стаць, памерці
За рабочых праўду,
Каб на іх глядзеўшы, сэрца
Хвалявала радасць.

І сыны далі адзіны
Выказ без памылкі.
У пяці канцах радзімы
Сталі, як асілкі.

За гарамі, за хрыбтамі
У прасторах морскіх
Першы—слаўным капітанам
Водзіць мінаноскі.

Ён пяе пра штормы мора,
Пра зямлю Советаў,
Да якой не ступіць вораг
З здрадніцкаю мэтай.

Караблі плывуць. Кілямі
Пеняць хваль удары,
Горда веюць вымпеламі.
А над морам хмары.

Там другі крыляе сокал,
Сокал срэбнакрылы.
Ён між хмар нясе высока
Славу экскадрылій.

У яго на крылах зоры
Зіхацяць, іграюць.
Пра яго лясы і горы
Песенькі складаюць.

Трэйці ходзіць па краіне
З компасам і картай.
Нетры гор, марэй глыбіні
Пакарае ўпарта.

Сын чацверты ў знатным стане
Уладар пустыняў.
Пра яго шумяць жытамі
Нівы залатыя.

Пяты стаў каля граніцы
Між начы панурай,
Дзе вятрам чужым не спіцца
У трысніках Амура.

Ці то хваля ў бераг плёсне,
Ці трава прыгнецца,
Ён стаіць на варце грозным,
Баявым армейцам.

Кожны—слава, кожны—гонар,
Кожны—сын радзімы,
Кожны маці шле паклоны
Шчаснаю гадзінай.

Слынь пра іх ідзе далёка
На хвалу, на радасць...
І глядзіць старая вокал
Ветлівым паглядам.

І відно ёй—цветам ясным,
Залатым налівам
Зіхацiць простор калгасны
І шуміць шчасліва.

Вось яно якое шчасце!
Радуйся, Пятроўна!
Здабылі мы гэта шчасце
У баях няроўных.

г. Менск, 5 VI-36 г.

Барыс Мікуліч

# НА ПОЛІ

Такой неистово зеленой
Тебя, Кахетия, не знал.

*Нік. Тіханаў*

Дваццаць другі год пайшоў Лео, і цела ў яго дужае. Яно абліта цёмна-карычневым загарам, роўным і трывалым. На спіне выступаюць кроплі поту, і сонца беражліва высушвае іх. Ад гэтага здаецца, што лёгкі вецер вее ў паветры. Лео абапіраецца на матыку. Ён захінае рукой вочы ад сонца і бачыць свайго суседа. Той крычыць нешта да яго, але Лео толькі чуе з усяго: якая вялікая кукуруза ўрадзіла сёлета. „Ага"!—адказвае Лео суседу і белазубы рот яго шырыцца ад усмешкі. Сусед нахіляецца і знікае з вачэй Лео ў густым кукурузніку. І перад Лео—зялёнае кукурузнае поле, і зялёныя вінаграднікі на ўзгорках, і дарога ў сяло, абсаджаная густа шыпшыннікам. На ўзгорках сярод вінаградных лозаў мільгаюць хусткі жанчын. А над усім гэтым —сонца, і яно робіць усё прыгожым і яркім. Вочы Лео спыняюцца на вінаградніках. „Маёй Марынэ там няма",—узнікае думка. Лео бярэцца за матыку.

Неўзабаве ён спыняе работу. Яму здаецца, што ён чуе голас Марынэ. Ён паварачваецца на гэты голас.

— Добры дзень, Лео.

Як ішла жанчына полем, сустракалі яе суседзі ласкавым словам, парадай і запытаннямі. І да гордасці і спакою на яе твары далучылася ад гэтых суседскіх клопатаў сарамлівасць. І доўга яна стаіць перад Лео з апушчанымі вачыма і дробненька кратаюцца тонкія яе расніцы.

— Ты прышла... Марынэ...

Яна ставіць на зямлю гладыш з кіслым віном і кладзе каля яго белы, зроблены з палатна, капелюш. Лео не зводзіць з яе вачэй.

— Гэта я прынесла... Сонца пачынае прыпякаць.

Марынэ хоча сесці, але ёй гэта цяжка зрабіць без дапамогі: яна цяжарная, Лео дапамагае ёй і садзіцца побач.

— Ты-б ішла,—кажа ён, не выпускаючы яе рукі з сваёй.— Замарылася.

— Не,—ківае жанчына галавой,—я пасяджу...—Яна злёгку чырванее.—Мне нядобра нешта... адной.

Лео надзявае палатняны капялюш і зноў бярэцца за працу. Цяпер ён з зацятасцю разбівае матыкай камякі зямлі. Ён працуе і адчувае на сабе позірк Марынэ. Гэта яго заахвочвае да работы.

Раптам ён чуе стогн. Ён крута паварачваецца, але Марынэ няма на ранейшым месцы. Яна адпаўзла далей, прыхілілася да зямлі, твар яе бледны. Лео кідаецца да яе: „Ідзі! Ідзі“—кажа яна і сціскае зубы. Ён хоча падняць яе, але яна супраціўляецца. Збянтэжаны і спалоханы, Лео бяжыць да суседа. „Марынэ! Марынэ!“—крычыць ён і кідаецца ў бок сяла. Усё мільгае наўкола яго з шалёнай шпаркасцю. Устурбаваныя людзі пераймаюць яго, але ён вырываецца з рук і зноў бяжыць да сяла. Ён не адчувае гарачыні і стомленасці. Толькі адно кіруе ім: дабегчы.

Ён бяжыць цераз мост у сяло, каб паклікаць доктара. Але ці не будзе позна? Ці паспее ён дабегчы да калгаснай амбулаторыі? Нарэшце ён рэзка спыняецца. Пастаяўшы хвіліну без думак, ён вяртаецца да маста. Каля яго стаіць арба.

Так, гэта якраз тое, што яму патрэбна. Ён шукае вачыма, бяжыць да ракі і бачыць буйвалаў. Яны ўлезлі ў ваду і глядзяць на Лео. У вялікіх буйвалавых вачах, на мускулістых мясістых пысах—асалода... Як прыемна ў гарачы дзень улезці ў ваду і не кратацца! Лео ломіць дубец і, улазячы ў ваду, пачынае біць буйвалаў. Яны не зварухнуцца. Яны толькі ленавата б'юць хвастамі і ад гэтага разлятаюцца пыркскі. У адчаі Лео кідаецца на спіну вялікага буйвала, садзіцца верхам і пачынае біць яго нагамі пад рэбры. Буйвал, мусіць, яшчэ некаторы час не траціць надзею, што чалавек адчэпіцца ад яго. Лео люцее. Тады буйвал грузна і велічна становіцца на ногі і павольна выходзіць з вады. Лео пачынае ўпрагаць вала ў арбу, рукі трасуцца і не слухаюцца.

Насустрач Лео ідуць жанчыны. Яны смяюцца з яго выгляду. Ён і сапраўды смешны: разгрублены, брудны, мокры. Арба спыняецца каля жанчын.

— Ідзі вязі, Лео, жонку і дзіця.

Марынэ кладуць на арбу. Лео сядзіць у перадку і баіцца павярнуцца. Аднак, яму вельмі хочацца ведаць, як гэта ўсё здарылася і чаму так хутка. Але запытацца не хапае адвагі. Ён помніць выраз болю на бледным твары Марынэ. Ён баіцца павярнуцца і глянуць. Яму загадваюць ехаць. Ён паганяе буйвалы.

Лео вязе яе. Не, Лео вязе... іх! Раптам у ім узнікае і вырастае нейкая лёгкасць, вясёласць, радасць. Гэтае адчуванне—як птушка, якая ў веснавы дзень высака ўзнімаецца да воблакаў і пяе славу сонцу, зялёным палям, сцюдзёным і чыстым крыніцам, плённай і багатай зямлі. Ідзе чалавек полем. Чуе чалавек птушыны спеў. Узнімае чалавек галаву, шукае вачыма птушку і не бачыць яе. А спеў звініць, пераліваецца, напаўняе прасторы, то заціхае, то ўзмацняецца зноў. І невыказна радасна тады чалавеку.

... Заходзіць сонца. Толькі цяпер да Лео вяртаецца арыентыроўка ў часе. Колькі прайшло гадзін, якія здаліся хвілінай! Набліжаецца сяло. З вінаграднікаў і з кукурузных палёў ідуць калгаснікі. Мужчыны нясуць матыкі. Жанчыны—гладышы. Арба плыве міма іх. Лео сядзіць на ёй, выпрастаўшы стан. Каля крайняй хаты сабраўся народ. І сярод сабраўшыхся—дзед Лео. Дзеда завуць Ной. У яго чырвоныя шчокі здаровага чалавека, сівыя, але густыя валасы, маршчыністыя, аднак моцныя яшчэ рукі. Зараз,—гэта Лео

ведае загадзя,—дзед спыніць арбу, пакруціць галавой і скажа: „Сто восем гадоў жыву, а такога дзіва не бачыў. Га?"—і павернецца да ўсіх прысутных і ўсе прысутныя будуць дзівіцца разам з старым. Так заўсёды сустракае навіны стары Ной.

Стары Ной спыняе арбу.

— Ці не Лео гэта? Ці не ўнук гэта мой?—больш да прысутных, чым да самога Лео, звяртаецца стары.—Каго-ж ты вязеш, Лео?

— Марынэ нарадзіла дзіця,—крычыць дзеду суседка Лео і Лео ўпершыню паварачваецца да жанчын. Ён бачыць твар Марынэ—стомлены, але спакойны.

— Каго-ж нарадзіла Марынэ?

— Марынэ нарадзіла сына.

— Ну, дык вязі, Лео, хутчэй сваю жонку дахаты і кліч доктара, і няхай здаровай яна будзе.—І калі арба праязджае, стары пачынае падлічаць уголас:—Які-ж гэта па ліку—праўнук, га?—Ён хвіліну маўчыць, прыпамінаючы.—Пятнаццаты, ці шаснаццаты?

— Мусіць, дзеду, ці не восемнаццаты ў цябе ўнук. Якраз восемнацаты!

Лео вязе жонку і сына.

Потым будзе вечар. Потым выйдзе Лео на вуліцу і падумае: праз год сыну будзе якраз год; праз год развітаецца Лео з Марынэ; пойдзе Лео праз сяло і ля крайняй хаты пяройме яго стары Ной і скажа тады Лео да дзеда:

— Наведвайся да маіх.

— Бывай, Лео,—скажа стары Ной.—Дзевятага ўнука праводжу. Двох не вярнуліся... Дык добра служы ў Чырвонай арміі, Лео.

І пойдзе Лео да станцыі, і будзе ляжаць яго шлях сярод зялёных узгоркаў.

1936 год.

*Янка Непачаловіч*

## ВЯЧЭРНЯЯ СУСТРЭЧА

Сонца пакацілася за ўзгорак,
І туман паслаўся на лугі.
Выйшаў месяц з чарадою зорак
Ціха сеяць жэмчуг дарагі.
Я разгульваў з востраю касою
За зялёным гаем ля ракі—
Ты ячмень вязала за гарою,
Сабірала росцілу радкі.
Як заусёды ў цёплы сіні вечар
Між высокіх ценістых прысад,
Спавілася нашая сустрэча
Песняй пра крынічаньку і сад.
Ты прышла мая ўцеха-радасць,
Глянула—мне стала весялей:
Лепшая работніца ў брыгадзе,
Першая красуня на сяле.
У нас з табой ў жыцці адна дарога,
Пачуцці і думкі нат' адны,
Мы кахаем працу на разлогах,
Дружбу калектыва, смех вясны...
Каб часін не траціць нам без толку
Залатых ліпнёвых вечароў,
Гарманіст, сыграй нам, дружа, польку
Мы станцуем з грамадой сяброў!
Абыходжу круг не раз, не двойчы
І не чую стомы ані-ні;
Як зірну я дарагой у вочы—
У іх краса адвечная зарніц.
Шэлест сціх шаўковага ўбрання.
У грудзях—такі квяцісты май.
Моцны поціск рук на развітанне
Любай шчыра, я кажу „бывай"!
Заўтра рана толькі сонца ўстане,
Мятны пах павее з мурагу—
Зноўку будзе нашае спатканне
За вясёлай працай на лугу.

24/IV-36 г.

*Мікола Хведаровіч*

## ЧЫАТУРЫ

Тут у катлавіне між Сурамскіх гораў
Сонца разлілося, ўсё запалыніла.
Да абвалаў стромых прытуліўся горад
Паабапал рэчкі шумныя Квірылы[1]).

Горад век быў чорны, як прадонне пекла,
Дыхаў горкім пылам і тугой праклёнаў.
Не пазнаеш сёння—Чыатуры светлы,
Чыатуры сонечны і ў садах зялёных.

Змыў бруду і слёзы ён з вачэй каравых,
Туманы развеяў, лёс пазбыў жабрачы.
Чыатуры сёння—гэта наша слава,
Чыатуры сёння болей ўжо не плача.

У глыбокіх шахтах дружбаю сягоння
Закіпела пленна радасная праца.
Звоняць кіркі глуха, малаткі гамоняць,
Цягнікі грукочуць, з-пад зямлі імчацца.

Каб мацней і вышай загулі маторы
Рокатам трывожачы сонечныя далі.
Скалы расступаюцца, раскрываюць горы
Марганцавы руды для найлепшай сталі.

Марганец грузінскі, што ляжаў адвечна
Наглуха схаваны ад свайго народа.
Вогненнаю лавай плавіцца ў печах
Новых Зэстафонскіх волатаў заводаў.

Павуком над краем тут сядзеў Каррута [2]),
Хлеб быў рэдкім госцем у галоднай хаце.
Богам, стражнікамі быў народ закуты,
Пад ярмом няволі здабываў багацці.

---

[1]) Квірыла—чорная рэчка у Чыатурах.
[2]) Карута—амерыканская фірма, якая канцэсіяніравала марганец.

Праклінаем зараз тую мы работу,
Што забрала радасць нашую і сілу
Ад крыві пралітай і людскога поту
Стала рэчкай чорнаю шумная Квірыла.

Але гнеў галодных закіпаў, як мора,
І ў глыбокіх нетрах на змаганне клікаў.
Вырасла магутная сіла непакорных,
Сіла перáможная з Сталінам вялікім.

Каб развеяць гэтай чорнай ночы морак
І каб праца стала сонечнаю песняй.
Каб сягоння ярка нам свяцілі зоры—
Залатыя зоры водаў Рыонгэса.

Праца зараз стала славаю народа,
Ваганеткі шпарка мчацца ў сіняй высі.
Ад высокіх сценаў прамыўных заводаў,
Да глыбокіх нетраў шахты Перавісі.[1])

Сонца ў нашых цэхах. Годзе вільгаць есці.
Цела падзямельнай і чорнаю рудою,
І вада Квірылы не пасмее несці
Нашыя здабыткі працы за сабою.

Пад густым праменнем веснавога сонца
Зелень разраслася, скалы ўсе пакрыла.
І зазіхацела зноў вада як стронцый
Рэчкі жыватворчае шумнае Квірылы.

На адхонах стромых кручаў непраходных,
Дзе з арбою буйвалы сонныя пляліся,
Выраслі пасёлкі новага завода
І дарогай-стужкай роўнай абвіліся.

Спее вінаграднік, багацеюць сёлы,
Марганцам нагружаны караблі на моры.
Гэта звонкай песняй, вольнай і вясёлай
Мчыцца наша слава праз лясы і горы.

Слава пра той горад, што быў чорным пеклам,
Пусткай паднявольнай у тузе праклёнаў.
Не пазнаеш сёння—Чыатуры светлы,
Чыатуры сонечны—у садах зялёных.

Зэстафоні, 20/V-35 г.

---

[1]) Перавісі—самы багаты марганцавы руднік.

*Мікола Хведаровіч*

## ДРУЖБА

Я не госць тут адзінокі—
Свой, сярод сваіх.
Родных, блізкіх і далёкіх—
Брат я родны іх.

Покуль зоры стануць падаць
У дол, за перавал.
Будзе з намі
Наша радасць
Шчыра сябраваць.

Песняй звонкай,
Песняй дзіўнай
З-пад крутой гары,
Заспявае мне дзяўчына:
— А ў бары, бары...

Адкажу табе, смуглянка,
Песняй дарагой,
Пра дзяўчыну,
Пра каханку
Грузіі маёй.

Што ляціць на самалётах
Праз хрыбты і стынь.
Што ў Калхідзе на балотах,
У лясах густых,

З чорнай трасцай,
З камарамі
Барацьбу вядзе,
Спеліць цытрусы і рамі,
Не ступалі дзе

Ногі лёгкага шакала,
Не расла трава.
Дзе над светам панавала
Вохкая дрыгва.

Ты змагаешся з дрыгвою
За калхідскі рай.
Звязан дружбаю з табою
Мой далёкі край.

Будзь-жа дружба
Век такою
Кроўнай,—
Блізкай,
Дарагою.

Поці, 29/V-35 г.

*Александр Міронаў*

# ЛОНДАНСКІ РЭЙС

## 1

Асеннія вятры хвалявалі марскія прасторы. Вецер часта мяняў напрамак, налятаючы шквaламі то з поўначы, то з усходу, то проста ў лоб караблю—з захаду. Мора было валавяна-шэрае, хвалі моцна гойдалі наш параход, а белыя і пушыстыя іхнія грэбяні захліствалі на лес, які шчыльна быў складзен па ўсёй палубе.

Мы ішлі ў Лондан,—звычайны для совецкіх гандлёвых суднаў заграні́чны рэйс...

... На трэція суткі, у поўдзень, „Смідовіч" увайшоў у Паўночныя нарвежскія шхеры. За кармою парахода засталася тысяча міль шляху па Беламу і Барэнцаваму морам. Там засталася і граніца Совецкага саюза, якую мы праехалі разам з мерыдыянам Вайдагубы. Мы былі ў нарвежскіх водах—за граніцай.

Тут, у шхерах, плаўны раскат марской хвалі рэзка змяніўся люстраною гладдзю фіордаў.

Сціхлі стогны і высвістванне ветру ў вантах судна. Нават чайкі, якія садзіліся на клоцікі мачтаў, каб адпачыць, цяпер паляцелі на блізкія і зручныя для іх берагі.

У маленькім гарадку, раскіданым, быццам малюсенькія скрыначкі, мы ўзялі лоцмана. Лоцман—нарвежац прыехаў на беленькім катэры. Ён спрытна ўзлез на судно па хісткіх пераплётах штормтрапа і, сказаўшы з ухмылкаю „гут монінг", узбег на капітанскі мосцік. Катэрок адышоў ад барта „Смідовіча", моцна затарахцеў маторам і размахваючы, быццам развітваючыся, велізарным лоцманскім сцягам, паімчаўся да цацачнага гарадка.

Успенілася вада пад кармою нашага парахода. Цацачны горад, здавалася, скрануўся на беразе і павольна паплыў у адваротны курсу бок. Па мосціку закрочыў лоцман: да яго тут, у заблытаных лабірынтах шхер перайшла ўлада суднавадзіцеля.

Суткі назад у Белым і Барэнцавым морах бушавала хмурая восень. Цяпер-жа, нібы ўзнагароджваючы нас за доўгую нягоду, высокае сонца свяціла і грэла зусім па вясноваму. Мы былі цяпер далёка за палярным кругам, але нічога не нагадвала пра блізкасць снежнай з завірухамі зімы, якая прытаілася ўжо ў цяністых цяснінах прыбярэжных гор. Наадварот: глыбокая, чаруючая і ласкавая блакітнасць фіордаў хутчэй была падобна на Дарданелы, на паўднёвы Басфор, на скалы узбярэжжаў Каўказа і Крыма.

Ї нават белыя шапкі вечных ляднікоў, пакрываючых вяршыні гор, здаваліся бліскучымі дыяментамі і крышталем.

Блакітнае неба бяздонным купалам абапіралася на горы, прыбярэжныя гарады нібы на велізарнейшыя карычневыя калоны. Праліўы фіордаў здаваліся кавалачкамі неба: вада іх была такая-ж гладкая, блакітная і бяздонна-празрыстая.

Паўз судна суцэльнай панарамай праплывалі горы, прыбярэжныя гарады і пасёлкі. Падгор'і былі ў зелені, гранітныя скалы ўзнімаліся вышэй і вышэй, каб там, дзе вяршаліны падпіраюць блакітны купал неба, увянчацца россыпам бліскучых леднікоў. На фоне гор прыбярэжныя гарады і пасёлкі здаваліся маленькімі, цацачнымі, нерэальнымі.

Гэта ўражанне яшчэ больш узмацнілася ад урачыстай цішыні, якая вісела над шхерамі ад адсутнасці руху жыцця, ад пустэчы, панаваўшай тут. Маўчалі горы і малюсенькія берагавыя маякі, не заўважалася руху ў пасёлках, не відаць адзнак жыцця на кансервных заводзіках, што размясціліся ля самай вады і рэдка дзе сустракаліся беленькія рыбацкія лодкі. Толькі зрэдку люстраныя воды фіордаў хваляваліся ад плёску параходных вінтоў, а навакольныя горы звонкім рэхам адгукаліся на карабельныя гудкі сірэн, парушаўшых адвечную цішыню. Усё наўкола было строгім, акуратным і па-нарвежску халодным...

Назіраючы за цішынёю гэтых месц, я пастунова стаў адчуваць іх другі, схаваны ад першага зроку, бок. Я цмяна здагадваўся пра прычыну няжыццёвасці фіордаў, але доўга не мог поўнасцю зразумець яе: яна была недзе за прыгожасцю шхер, прыгожасцю, якую цяжка забыць.

Здагадкі пераразсталі ў цмяную трывогу. Яны прымушалі мяне вастрэй назіраць і пастунова складваліся ў яскравыя вобразы, у думкі, словы. А калі за адным з паваротаў фіорда паказаўся чорны корпус парахода, няўдала ўздыбленага на падводных скалах, я зразумеў невядомую прычыну цішыні. Было так: я стаяў ля штурвала, кіруючы караблём. Па мосціку прагульваўся азызлы і чырвонашчокі нарвежац—лоцман, зрэдку даючы мне загады аб кірунку. Ён ціха насвістваў і жмурыўся, цешачыся пяшчотным сонечным цяплом. У гэты час за паваротам фіорда паказаўся гэты параход. З ім даўно здарылася аварыя.

Ад добрага настрою ў лоцмана не засталося і следу. Ён нервова ўзяў бінокль і пачаў пільна глядзець на аварыйнае судно. Ён незразумела мармытаў, моцна сціснуўшы зубы. А параход агромны, агромны акіянскі транспарт—моцна нахіліўшыся на правы борт, вісеў на скале, сваім страшным выглядам палохаючы і лоцмана, і мяне, новага ў гэтых месцах чалавека. На палубе судна людзей не было. Параход быў пакінуты, забыты, асуджаны на пагібель.

Лоцман апусціў бінокль і з прыкрасцю плюнуў на чыстую палубу. Потым старанна выцер нагою і вінавата паглядзеў на мяне. У маіх вачах было немае запытанне, і нарвежац зразумеў яго. Ён з жалем пацісну́ў сваімі магутнымі плячыма, і кіўком галавы паказаўшы на параход-труп сказаў:

— Параход нявыгадна знімаць з скал і рамантаваць. Ён тар-

чыць на скале ўжо два месяцы. Ён і загіне тут. Гэта нарвежац... А праз некалькі гадзін за адхоністым карычневым мысам, які ўрэзаўся ў шырокі фіорд, паказаўся рад незвычайных караблёў. Іх было дванаццаць—велізарных, пакрытых іржою, параходаў. Яны стаялі на мёртвых якарах. Палубы іх былі таксама бязлюдны, на іх трубы надзеты бразентавыя чахлы, а краны для падняцця грузаў па паходнаму знаходзіліся ў сваіх гнёздах.

І зноў на маё запытанне, на трывогу ў вачах маўклівы і лакантчны нарвежац-лоцман адказаў, крыху моршчучы ад раздражнення чырвоны ў рабаціннi нос:

— Для гэтых суднаў няма фрахта.

— І доўга?—запытаў стаяўшы поруч штурман Ларока.

— Год, два і больш...

... З гэтага моманту мы не дакучалі лоцману распытваннямі— ні я, ні чорнавокі Ларока, ні экспансіўны капітан Мілабендскі. Ды і на што. Мы і так ведалі ўсё, што можна ведаць плывучы на савецкім караблі па звілістых лабірынтах нарвежскіх фіордаў.

Мы зразумелі зманлівую цішыню прыгажэйшых у свеце нарвежскіх шхер. Мы даведаліся, чаму не здымаюць нарвежцы з скал свае аварыйныя параходы, чаму стаяць у зацішных кутках шхер дзесяткі беспрацоўных параходаў, чаму пустуюць палубы чысценькіх „пасажыраў“, якім няма каго вазіць па Нарвегіі. Мы бачылі як стаяць на прыколах маленькія рыбацкія лодкі, якім няма патрэбы лавіць рыбу, і як, нарэшце, працуюць далёка не ўсе кансервныя заводы, раскіданыя сям-там ля белагаловых красунь-гор.

Мне стала зразумелай лоцманская пахмурасць, яго нежаданне адказваць на нашы запытанні. Гэта быў боль за сваю красуню-краіну, ахопленую крызісам. Я зразумеў лоцманскую зайдрасць да мяне—чалавека, якому чужая гэтая мёртвая і страшная цішыня Нарвегіі.

## 2

Нямецкае мора заўсёды ажыўленае: тут скрыжоўваюцца шляхі караблёў, якія ідуць ва ўсе бакі свету. Гэтае мора можна назваць своеасаблівым музеем караблёў: тут ходзяць судны ўсіх нацый, эпох і часу. Вось паруснік—фін нырае з хвалі на хвалю, і белыя пырскі вады захліставаюць яго палубу. З правага боку па барту, за метраў дзвесце ад нас, праходзіць чысценькі нарвежац, які з баластам варочаецца з Ротэрдама. Велізарны англійскі нафтавоз-танкер праходзіць перад кармою „Смідовіча“, трымаючы курс, як відаць, на Бельфаст. А далей сустракаем двух брудных галандцаў. На палубах не зняты тэнты: параходы робяць далёкі шлях, яны ідуць з гарачых блакітных партоў Афрыкі.

... Пасля паўдня на гарызонце паказаўся вялікі трохмачтавы паруснік. Ён ішоў аднолькавым з намі курсам, і „Смідовіч“ пачаў хутка наганяць яго. Мора пенілася грывамі хваль. Хвалі плаўна пагойдвалі цяжкое наша судно і моцна кідалі паруснік. Мы амаль дагналі яго, як злева вырас корпус цмянага ў далячыні карабля. Мы разглядалі паруснік, і ў думках кожнага ўсплывалі вобразы

дзяцінства, дзе менавіта гэты белы трохмачтавы фрэгат займаў першае месца. Вочы мімаволі шукалі на мачтах яго чорны сцяг з белым чэрапам і касцьмі, і ўяўляўся загарэлы і лоўкі карсар, які-небудзь П'етро, разгульваючым па мосціку пірацкага судна.

Ён вельмі падобен быў на легендарнага пірата, гэты лёгкі і белакрылы фрэгат. Мне хацелася забыцца, што плыву я на моцным, стальным параходзе. Хацелася пачуць сігнал трывогі на палубе парусніка, пачуць як грукнуць піратскія гарматы, а сотні абветраных твараў пойдуць абардажам на нас. Рамантыка дзяцінства,—яна прачнулася ўбачыўшы гэты фрэгат,—напамінак пра другую, пахаваную ў вяках эпоху. І раптам,—гэта было нечакана, іменна раптам,—калі мы параўняліся з фрэгатам, і нашы ўзрокі, не адрываючыся былі накіраваны на яго, злева па барту пачуліся гукі самага моднага факстрота. Абганяючы нас, як кур'ерскі поезд абганяе трактар, нёсся велічны асветлены тысячамі ззяючых у вячэрнім змроку агнёў, шматпавярховы пасажырскі параход „Еўропа". З палубы яго даносіліся гучныя крыкі і смех, а каля рэлінгаў стаялі сотні людзей, якія глядзелі на нас і на пaруснік.

Дзіцячыя мары адразу зніклі. Ды і як думаць пра піратаў, калі перад намі поруч з „фрэгатам карсара П'етро" нясецца „Еўропа"— гэты гігант сучаснай тэхнікі.

— Вось вам і „пірат",—усміхнуўся капітан, які стаяў поруч.— Не пірат гэта, а парусная баржа. Піратаў шукайце лявей, таварышы: іх шмат на палубе „Еўропы", сапраўдных піратаў нашай эпохі. Але замест фрэгатаў і абардажаў яны карыстаюцца біржаю і банкамі...

... Раніцаю ў туманнай далечы, наперадзе па курсу паказаліся нізкія шэрыя берагі. Вахтэнны матрос—лепшы ўдарнік судна Барыс Іванавіч Папоў—першым заўважыў гэта і, жартуючы, як старажытні мораплавец, стаў скакаць па палубе і моцна крычаць:

— Зямля! Зямля!

— Не зямля, а Англія,—з наўмыснай строгасцю адказаў жартаўнік-качагар Датухін.—А Англія не зямля: гэта толькі заселены англічанамі востраў.

— Вынаходнікі,—усміхнуўся чорнавокі машыніст Віця Абакумаў,—то-ж мне Калумбы.

Мы ішлі да берагу поўным дзесяцімільным ходам. З кожнай гадзінай бераг паказваўся ўсё рэльефней, і хутка можна было адрозніваць абрысы адхоністых узгоркаў, курчавую зелень лесу і аксаміт асенніх лугоў.

Да Лондана было яшчэ некалькі гадзін ходу, аднак прыдзвер'е парта аднесена далёка ў мора. Яно пачалося на адлегласці паўтары сутак ходу ад Дагераўскай банкі,—ад месца, дзе ў 1904 годзе рускі самадур—адмірал Раждзесцвенскі атрымаў ганебную перамогу над бяззбройнымі англійскімі рыбакамі. Яно,—гэтае прыдзвер'е Лондана,—выдатна высокай чырвонай вежай плывучага маяка, дзе ўсе караблі бяруць лоцманаў, каб з імі накіроўвацца ў порт.

Тут лоцмана ўзялі і мы. Яго даставіў маленькі чорны параход, на барту якога было напісана вялікімі літарамі „Лондан". Лоцман

быў рыжы, у рабацінні і хударлявы. Ён хутка падняўся на мосцік і рэзка ірвануў ручку машыннага тэлеграфа.

— Поўны ўперад!

Мы крануліся далей марскім каналам. Канал змяёю віўся між меляў і скал, небяспечных у любую пагоду.

Па абодвух баках яго густа пастаўлены ярка вымаляваныя бакены, якія ствараюць марскую „вуліцу" па якой, нібы экіпажы, сноўдаліся буксіры, парусьнікі і параходы.

Па мосціку мерна расхаджваў лоцман. Ён быў сухарлявы і высокі з „сабачымі" складкамі ля губ. Адну за адной ён курыў прыкрыя цыгарэты, аддаючы стырнавому кароткія загады.

Бліжэй к Лондану,—на барэ Тэмзы,—плывучыя бакены канала змяніліся, зусім не плывучымі караблямі. Дзесяткі, сотні суднаў застыглі на мёртвых якарах, ледзь пагойдваючыся на масляна-бруднай зыбі. Поруч з старадаўнімі парусьнымі суднамі стаялі новенькія шматпавярховыя цеплаходы. Іх радніла аднолькавая для ўсіх прыкольных суднаў мёртвая цішыня карабельнага могільніка—кансервацыя, якая цягнецца гадамі.

Жаласным, нікчэмным здаваўся суцэльны паток караблёў, якія дэфіліравалі між суцэльнага строю беспрацоўных суднаў, гэтых мёртвых валацуг, пасаджаных, нібы сабака, на іржавыя жалезныя ланцугі. Гледзячы на іх здавалася, што ўсе гэтыя фрэгаты, лесавозы і „пасажыры" з немым укорам глядзяць на людзей, вінаватых у тым, што ў партах усяго свету не засталося для іх ніводнай тоны цяжару.

... Берагі непрыкметна зблізіліся, і хутка „Смідовіч" ішоў па чорнай, замасленай і няшырокай Тэмзе. Чаргуючыся з рэдкімі нізкарослымі кустамі, на берагах ўздымаліся шэрыя грамады гранітных будынкаў, шмат якія з іх былі гэткімі-ж старымі, як сам Лондан.

Справа па барту чыста, нібы на парадзе, выстраіліся калоны белых цыстэрн фірмы „Шэл"—гаспадаром якой—нафтавы „кароль" Дэтэрдынг, вядомы савецкім чытачам сваімі агіднымі махінацыямі супроць большэвікоў.

Вячэрняе сонца, быццам развітваючыся з зямлёю, прарвала кудлатую броню хмар, і праменні яго, як валасы англічанак, упалі на белы купал Грынвічскай абсерваторыі. Купал быў вялікі і строгі, ён здаваўся адначасова і снегаваю шапкаю шэрай гары і сівою галавой рыбалова, які схіліўся над рэчкай. Мы знаходзіліся на нулявым мерыдыяне, ад якога пачынаецца лік зямных градусаў і лік часу.

Сонечныя праменні зніклі гэтак-жа раптоўна, як і з'явіліся, дзённае святло непрыкметна знікла, а ў вячэрнім змроку запалілася безліч аранжавых, жоўтых, сініх і чырвоных агнёў. Гірлянды іх спляталіся ў пучкі і сузор'і, рассыпаліся па шэрых велічах заводаў і докаў, раскіданых па берагах.

Разам з надыходам вечара сунялося і жыццё ў парту. Поруч са мною, назіраючы за плывучымі міма берагамі, стаяў боцман Кастусь Лазараў. Ён раней часта бываў у Лондане, а зараз пільна

глядзеў на бераг, відаць заняты аднолькавымі са мною думкамі. Боцман парушыў наша маўклівае агляданне берагоў Тэмзы.

— Раней не гэтак было,—сказаў ён.—Некалькі год назад, калі яшчэ не было крызіса, порт працаваў цэлыя суткі. А зараз, бачыш, якая нездаровая цішыня вісіць над усім партом. Тут працуюць цяпер толькі ў адну змену—восем гадзін у суткі.

... Крызіс. Не, гэта не абстрактныя фразы дакладчыкаў, не скупыя радкі газетнага петыта, і нават не проста факт. Крызіс—гэта быццё, незгладжальнае, як немарасць, гэта наканаваная язва, якая квітнее на гнілым целе. Гэта боль за шарэнгі магутных партовых кранаў, якія ў нямым смутку ўзнялі да ўсыпанага зорамі неба свае сталёвыя рукі. Боль за сотні караблёў, асуджаных на павольную гібель. Гэта—сапраўднасць, якая высмальвае вочы назіральніку. Гэта смерць, тленны пах, які набіваецца ў ноздры, душыць, паліць...

Ноч мы стаялі на рэйдзе. А як толькі пачало днець, англічане ўвялі параход у Соры—док і паставілі яго да прычалу каўша, абкружанага пакгаузамі лясных складаў.

Сонца ружовае, як дзіцятка, баязліва ўзышло над пакгаузамі дока і раптам трапіла ў цянёты пераплётных снасцяў фінскага парусніка, што стаяў у суседнім каўшы. Сонечныя праменні, нібы стада галубоў вырваліся ўгору, упалі на дахі, купалы невядомых будынкаў горада, мачты суднаў. Яны ўпалі на зложаны ў складах лес, сарваўшы з яго покрыва начное цемры.

— Хлопцы, а лес-жа гнілы!—здзіўлена ўскрыкнуў матрос Папоў, паказваючы на штабелі.

Велізарныя залежы лясных матэрыялаў у шмат якіх месцах пацямнелі, а шэрая цвіль пераплялася на іх з чорна-зялёнымі плямамі гнілі.

— Не шануюць лес,—заўважыў штурман Ларока.—Ад нас патрабуюць сцярожкае дастаўкі, прычэпліваюцца да кожнай драбніцы, а самі гнояць.

— А што рабіць ім з лесам?—нязграбна махнуў рукою Папоў.—Будуюць яны, відаць, не вельмі многа.

Роўна а восьмай гадзіне раніцы прышлі рабочыя і пачалася выгрузка судна. Докеры працавалі вельмі дакладна і хутка...

... Крыху пазней я назіраў, як наймаюць докераў для разгрузкі параходаў. Гэта было ў чацвер: у гэты дзень я пайшоў паглядзець горад.

На вуліцы, ля варот дока, было вельмі людна. Хударлявыя, жоўтаваласыя англічане стаялі невялікімі купкамі, сядзелі на панелях, марудна прагульваліся ўсцяж высокай шэрай агарожы, якая абкружала док. Яны былі адзеты ў пашарпаную вопратку. З-пад пінжакоў былі відаць рубашкі, часта без каўняроў, але амаль у кожнага на шыі завязаны, нібы пятля, брудны гальштук.

У шмат каго пінжакі былі адзеты проста на голае цела.

Я зразу пазнаў беспрацоўных. Ды і як не пазнаць іх, калі тып беспрацоўнага аднолькавы для ўсіх партоў свету. Мне здавалася, што я пазнаю знаёмых, бачаных раней, у іншых гарадах Еўропы. Вось нізенькі і стройны юнак, з вачыма, напоўненымі палахлівай

тугою—я сустракаў яго ў Гамбургу, у Альтоне, калі яго білі дубінкамі два здаравенныя фашысты ля трапу нашага судна за размову з совецкімі маракамі. А гэты, у матросцы—ён у Капенгагене нёс чырвоны сцяг уперадзе калоны беспрацоўных, якія патрабавалі работы і хлеба. Альбо вось кастлявы і сутулы з сухотнымі грудзьмі: яго збілі паліцэйскія ў Любэку, калі ён бег з парта, несучы з сабою крыху бульбы, скрадзенай для сваіх галодных дзяцей.

Я ведаю, што памыляюся, гэта зусім не тыя хлопцы, якіх я бачыў у іншых партах. Але гэтыя,—у Лондане,—як дзве кроплі вады падобны на ўсіх беспрацоўных свету.

Іх шмат было тут, ля варот дока: напэўна чалавек шэсцьсот. Я прайшоў міма іх, накіроўваючыся к гораду, як раптам быў спынен дзікім нечалавечым рэвам. На хвіліну я нават збянтэжыўся, не разумеючы, што адбываецца. Мяне штурхалі, прыціснулі да агарожы. Міма нёсся суцэльны чалавечы паток. Людзі, толькі хвіліну раней санлівыя, абыякія да ўсяго, зараз беглі, трасучы нейкімі шэрымі лісткамі. Мільгалі пакрыўленыя ад крыку раты, па-звярынаму выскаленыя зубы, вытарашчаныя вочы, поўныя вар'яцтва нецярплівасці і надзей.

Людскі паток з усіх бакоў імкнуўся да сярэдзіны вуліцы, дзе стаяў шыракаплечы чалавек з чырвоным вугреватым тварам. Я пазнаў яго: гэта быў галоўны форман, кіраўнік разгрузкі параходаў. Зараз яго шчыльна абкружыла жывая трапяткая і крыклівая сцяна чалавечых цел. Целы зліваліся ў кучу, і гэтая куча з хуткасцю маланкі расла, нагадваючы мурашнік альбо пчаліны рой. Над натоўпам жоўтым лесам калыхаліся рукі з шэрымі квадрацікамі паперы.

Я ўзлез на чыгунны вулічны слупок, каб бачыць усё. Я бачыў, як форман хутка хапаў шэрыя лісткі з рук адных, злосна адштурхоўваў рукі другіх і трэціх штурхаў проста ў грудзі. „Выбірае,—здагадваўся я,—выбірае самых здаравякаў.“ І раптам так-жа нечакана, як і пачалася гэта сцэна, яна скончылася. Натоўп распаўся на часткі, на асобныя чалавечыя постаці, на людскія ручайкі, якія пацяклі да агарожы і на панелі. Людзі ішлі спацелыя, узбуджаныя і расчырванелыя. Шмат хто моцна лаяўся. Сотні беспрацоўных сцеражліва хавалі свае шэрыя лісточкі: ім не ўдалося сёння даць форману карткі і гэтым самым атрымаць працу.

Я доўга стаяў тут, назіраў за форманам. Яго абкружала невялічкая купка, чалавек шэсцьдзесят шчасліўцаў-рабочых, карткі якіх былі цяпер у руках формана. Форман цяжка соп, рукавом пінжака выціраў потны лоб. Ён хутка пералічыў шэрыя лісткі, сунуў іх у кішэню і накіраваўся да варот дока. За ім, весела перагукваючыся і насміхаючыся, пайшлі шчасліўцы, якія на некалькі дзён выратаваны ад галоднай смерці: яны пайшлі разгружаць параход...

У гэты-ж дзень я зноў накіраваўся ў горад. Нас ішло трое: я, машыніст Іваноў і боцман Лазараў. Абодва спадарожнікі бывалі раней у Лондане, яны крыху ведалі англійскую мову і гулянка з імі абяцала шмат цікавага.

Але самае цікавае ў гэты вечар было не ў горадзе, а тут-жа ў доку.

Мы падышлі да варот, якія вядуць на вуліцу, але яны былі зачынены. Гэта здзівіла нас: замок на варотах дока! Мы ведалі, што ў Лонданскіх доках ля кожнага ўваходу стаіць паліцэйскі, які павінен прапускаць маракоў. Мы нават паглядзелі наўкола, але паліцэйскага не было.

— Дарэмна час трацім,—зазлаваў Іваноў.—Куды ён дзеўся?

— Ідзем да другіх варотаў,—прапанаваў Лазараў.

Мы крануліся ўсцяж агарожы і адразу наткнуліся на паліцэйскую будку. Але будка была пустая, і на дзвярах яе таксама вісеў замок.

— Ну, калі і трэція вароты замкнёны, мы вернемся,—сказаў боцман.—Відаць, сёння ў горад не давядзецца схадзіць.

Ля трэціх варот паліцэйскі быў на месцы. Ён стаяў у чорнай вопратцы, тоўсты і пазваньваў звязкаю ключоў. На нашу просьбу ён адразу адчыніў вароты. Выходзячы, боцман запытаў:

— А дзе паліцэйскія ля тых варотаў?

Паліцэйскі збянтэжана пацiснуў плячыма, адказаў:

— Трымаць варту ля кожных варотаў—гэта дарога, містэр. Раней паліцэйскія былі ля ўсіх варотаў, а зараз кожны з нас абслугоўвае тры ўваходы ў док.

— Крызіс?—перабіў Іваноў.

— О, так! Дазвольце закурыць...

... У пятніцу ў час абедзенага перапынку, я разгаварыўся з хлопцам-грузчыкам, які раніцою павесіў на вугал пакгауза, дзе ён працаваў, невялікі квадрацік чырвонага сцягу. Хлапец не пабаяўся таго, што яго прагоняць з работы: ён выгружаў савецкі параход, і ў знак салідарнасці з намі ўзняў чырвоны сцяг над сваім участкам.

Нашай гутарцы ў пачатку перашкаджала рознасць моў: ён ні слова не ведаў па-руску, а мае веды англійскай мовы, абмяжоўваліся некалькімі дзесяткамі ўжытковых слоў. Мы ніякавата ўсміхаліся, пацiскалі плячыма, покуль нарэшце зразумелі, што для ажыўлёнай размовы дастаткова маіх ведаў англійскай мовы, мімікі і жэстаў.

— Во шылінг?— запытаў я, паказваючы на выгружаны з судна лес і на неба, па якому правёў кола дзённага руху сонца.—І во таймс?

Англічанін правільна зразумеў маё запытанне: колькі шылінгаў ён атрымлівае за працу ў дзень і колькі гадзін у дзень працуе. Жэстамі падмацоўваючы словы, ён адказаў:

— Праца—восем гадзін у дзень. Заробак—дзесяць шылінгаў.

Далейшая наша размова пайшла лёгка. Англійскі грузчык расказаў, што за восем-дзевяць дзён (тэрмін выгрузкі парахода) ён заробіць дзевяноста шылінгаў. З іх дзесяць пойдзе на ўзнос у прафсаюз—„трэд-юніон“, без шэрай карткі якога не атрымаеш работы, трыццаць на пакрыццё доўгу, які вырас у перыяд беспрацоўя, пяць на набыццё чаравікаў, а на астатнія сорак пяць шы-

лінгаў давядзецца жыць, напэўна месяцы два, пакуль зноў трапіцца дзевяцідзённая работа.

Ён доўга расказваў, гэты хлапчук з белаватым пушком на верхняй губе. Ён казаў, што начуе на лаўцы ў парку. „У лаўкавым катэджы жыву,"—жартаваў ён, бо няма грошай плаціць за кватэру, расказваў пра старэйшага брата—інваліда вайны—токара вялікай кваліфікацыі, у якога вайна адняла лёгкія, а крызіс і беспрацоўе—сям'ю і жыццё.

Ён непрыкметна дастаў з-за пазухі маленькую кніжачку і паказаў мне. Гэта быў комсамольскі білет—баявы пашпарт рэвалюцыйнай моладзі ўсяго свету. Я бачыў такія білеты ў комсамольцаў у фашысцкай Германіі, і я сказаў пра гэта яму:

— Ім горш,—сказаў я,—ім цяжэй, але яны не здаюцца ў барацьбе.

Ён усміхнуўся.

— І я не здамся. І мільёны такіх, як я, змагаюцца і ведаюць за што...

## 3

Змучаныя, панурыя беспрацоўныя, якія цэлымі днямі безнадзейна чакаюць заробку, ніколі не знікнуць з памяці тых, хто аднойчы бачыў іх.

Беспрацоўныя... Колькі суму, асуджанасці я бачыў у іх цмяных галодных вачах. Колькі жалю было ў словах, вымаўленых выпадкова на вуліцах і ля варот дока.

Але колькі радасці, рухавасці паказвалі яны, калі дзе-небудзь на вуліцах, абкружыўшы нас, даведваліся, што мы не проста матросы з замежнага судна, а людзі з савецкага карабля. Яны ўсміхаліся ўпэўнена, быццам старыя знаёмыя, ціснулі нам рукі, віталі як сяброў.

... Адзін з іх—Чарлі Броун—запрасіў нас да сябе ў госці. Нізкаросны, худы і рыжаваты, з блядым і брудным тварам, з далонямі рук, карычневымі ад вялізных мазалёў, ён вёў нас па вузкіх вуліцах докавага раёна. Мы ішлі за ім далей па мосце Тоуэрбрыдж, міма нязграбнай велічы старажытняга каралеўскага замка Тоуэр.

Мы былі ў цэнтры горада, на дварцовай плошчы, поруч з арыстакратычным кварталам Пікадзілі. Што можа рабіць тут Чарлі Броун—абарваны беспрацоўны, што запрасіў нас у госці? Тут няма месца людзям ускраін, якія прыкрываюць сваё жабрацтва рызманамі?

Але Чарлі вёў далей завулкамі бліскаючых вітрынамі магазінаў. Быў вечар, і асляпляльнае святло вітрын балюча рэзала нам вочы. Па вуліцы суцэльным патокам нясліся маторныя экіпажы. Высока над галовамі, над дахамі дамоў, у начной сіняве іскрыліся словы светавых рэклам.

Чарлі крочыў упэўнена: як дамоў. Ён нават нешта высвістваў, гэты Чарлі, якога мы пакармілі сёння на судне. Разам з ім мы

ўвайшлі ў цёмныя і стройна-маўклівыя алеі Грын-парка. Чарлі правёў нас у дальні канец парка. Ён сказаў:

— Сюды, акрамя беспрацоўных, злачынцаў і паліцэйскіх ніхто не прыходзіць увечары. Вячэрнія паркі карыстаюцца дрэннай рэпутацыяй ў лонданскіх абываталяў. А вось і мой дом,—скончыў ён, паказваючы на адну з лавак алеі.

Мы маўчалі зразумеўшы ўсё адразу. Аглядзеліся. Было ціха. На адной палове лаўкі спаў мужчына, палажыўшы голаў на брудны скрутак і падаслаўшы пад ногі тонкія лісткі газеты. Другая палова лаўкі пуставала: гэта быў узаконены няпісаным законам беспрацоўных дом Чарлі Броуна, якога ніхто не мог заняць, не атрымаўшы за гэта нагону.

Па запрашэнню гаспадара мы прыселі, і разам з намі сеў на лаўку Броун.

Далей, усцяж алеі відны былі яшчэ лаўкі, на якіх ужо спалі іх жыхары. Чарлі сказаў:

— Там спяць беспрацоўныя і прастытуткі. Там спяць старыя мужчыны і жанчыны, у якіх адабралі жыллё.

У Чарлі прыкметна зліпаліся вочы і нам стала ніякавата: гаспадар хоча спаць, заўтра яму прадбачыцца шмат беганіны у пошуках заробку. Я і мой спадарожнік падняліся, намерваючыся ісці, але Чарлі кіўком галавы загадаў нам прысесці. Мы селі, і ў час: злева па алеі ішоў паліцэйскі. Мы паднялі каўняры пінжакоў і зрабілі выгляд што спімо. Мы былі падобны на іншых жыхароў парка ў цёмным змроку вечара.

— Маўчыце,—шапнуў Чарлі.

Паліцэйскі падышоў і спыніўся каля лаўкі. Мы замерлі, а Чарлі засвістаў нешта вясёлае. Мой сусед злева, качагар з нашага парахода пачаў храпсці. Паліцэйскі сказаў:

— Добры вечар, Броун. Што зноў няма работы?

— О, так, бадзёра адказаў Чарлі.—Работы няма ўжо шосты месяц.

— А гэта новыя?—паказаў паліцэйскі ў наш бок.

— Так, маракі,—згадзіўся Чарлі. Іх параход паставілі на прыкол.

— Добры вечар, Чарлі. Жадаю вам поспеху ў пошуках заробку і прытулку.

Паліцэйскі павольна пайшоў далей па алеі, і крыху адплюшчыўшы вочы я бачыў, як за яго спіною нібы хвост, целяпалася гумавая дубінка. Калі крокі паліцэйскага аддаліліся, Чарлі сказаў:

Калі-б ён даведаўся, што вы рускія, вам давялося-б заплаціць штраф, а мне шукаць новы „дом". Вы думаеце, ім выгадна паказваць інастранцам лонданскіх жабракоў?..

Мы развіталіся. Чарлі, пацiскаючы нашы рукі, шаптаў:

— Раскажыце сваім рабочым пра тое, што вы бачылі ў гэтым парку. Няхай ведаюць рускія таварышы пра нашы пакуты і скітанні па гэтых „лаўкавых катэджах". Але няхай будуць упэўнены ў нас. Усё гэта не вечна, і скора ўсё стане іншым,—такім, як у вас.

Мы пайшлі тады, калі Чарлі Броун пачаў пакрываць газетай

сваю лаўку. Мы ішлі па алеях парка, міма „лавак-дамоў“, на якіх спалі тысячы Броунаў, абавязкова падаслаўшы пад ногі газеты. Мы ведалі для чаго гэтыя газеты. Паліцэйскія забараняюць класці ногі на лаўку, каб не брудзіць іх. А калі пад ногі пакладзена газета, лаўка не будзе забруджвацца.

— Спіце, але каб лаўкі былі чыстымі,—гэткі паліцэйскі закон для лонданскіх паркаў. Бо закон, які забараняе начаваць на вуліцах і скверах, адменены крызісам. Крызіс тысячы Броунаў выкінуў з кватэр. А дзе, як не ў парку, не ў каналізацыйных трубах і не ў тунэлях метрапалітэна спаць Чарлі Броуну, які шэсць месяцаў не мае работы?..

...Раніцою, у нядзелю, на базары я ўбачыў жабрака. Я быў здзіўлен: англійскі-ж закон забараняе жабраваць на тэрыторыі Брытанскага каралеўства. Але гэты жабрак грэбаваў законам. Ён стаяў на краі панелі, напяваючы глухім голасам знаёмую мне песню—паходную песню англійскіх салдат.

Аднастайна і нудна паўтараў ён словы гэтай песні, пранесенай салдатамі яго вялікасці караля Вялікабрытаніі праз моры і мацярыкі зямнога шара.

Ён тупа глядзеў уперад, адтапырыўшы куксы абодвух рук, адрэзаных вышэй локця. На грудзях яго, на зялёным касніку, вісеў белы фанерны ліст, на якім чорнымі літарамі былі напісаны поўныя дакору словы:

*„Я інвалід, салдат караля.*
*Дапамажыце мне, добрыя панове“.*

Міма яго праносіліся аўтамабілі, таропка крочылі пешаходы. У маленькую бляшаначку, прывешаную пад плакатам зрэдку падалі пенсы міласціны. Тады ён дзякаваў, і зноў, як аўтамат, пяяў песню англійскіх салдат, крыху варушачы куксамі рук.

Паліцэйскія паскаралі крок, праходзячы міма яго: яны адварочваліся, стараючыся не бачыць жабрака. І адзінымі, хто з зайздрасцю паглядаў на бязрукага, былі такія-ж жабракі, але на іх няшчасце яны мелі рукі і ногі. Яны, каб легалізаваць сваё жабрацтва, вымушаны для віду прадаваць запалкі, канверты і іншую дробязь, і толькі непрыкметна зпадцішка прасіць міласціню. Бо тое, што дазволена законам бязрукаму салдату караля недаступна для здаровых жабракоў.

...А ўдзень недалёка ад каралеўскага палаца, я ўбачыў мастака. У маіх вушах яшчэ гучэў матыў жабрацкай песні. Усё наўкола было шэрым, шэры хмурны дзень, шэрыя сцены дамоў, шэрыя вуліцы і панелі. Шэрай—сівой была галава чалавека ў шэрым абшарпаным гарнітуры. Ён стаяў схіліўшыся над панеллю. Яго акружаў натоўп разяў, праз які давялося прабівацца асцярожна і далікатна.

І раптам, у цэнтры натоўпу, пад нахіленым чалавекам, я убачыў кучы жывых—чырвоных, зялёных, сініх—кветак, мноства добрай і сакоўнай садавіны. На секунду я адчуў змешаны пах чайнай ружы, бэзу і званкоў, а ў роце смак бананаў і яблык. Але гэта толькі на секунду: на панелі быў толькі малюнак, але выкананы

так ўмела, з такім майстэрствам вялікага таленту, што і кветкі і садавіна здаваліся жывымі, а блакітны фон, па якому раскідала іх умелая рука мастака—кусочкам паўднёвага неба, упаўшага на лонданскую шэрую панель.

Я стаяў, зачарованы. Я не мог адарвацца ад малюнка, і толькі пазней заўважыў кучу каляровых мялкоў, якія ляжалі на бруднай анучцы, і шэрую шапку з медзякамі, і шэры твар мастака ўкрыты глыбокімі зморшчынамі пакуты.

Я паспяшыў адыйсці, спалоханы пустэчаю бескаляровых вачэй гэтага чалавека. Мне стала сорамна, нібы і я—разява—маю нейкае дачыненне да злачынства тых, хто прымусіў таленавітага артыста за грашы прадаваць сябе на панелях лонданскіх вуліц. Мастак, як я даведаўся,—другі „гаспадар" лаўкі ў Грын-парку,—„даўкавага катэджу", на якім зрабіў свой „дом" Чарлі Броун: таго вечару, як мы рабілі візіт, ён спаў падклаўшы пад галаў клуначак з сваімі мялкамі.

## 4

Болем і гневам, жалем і нянавісцю напоўніла бачанае ў Лондане сэрцы совецкіх маракоў. Болем і жалем за братоў, якія гінуць у галечы закуткаў і паркаў, месяцамі чакаючы работы і кавалка хлеба. Гневам і нянавісцю да ўладароў асабнякоў у арыстакратычным квартвле Пікадзілі, да тых, хто ўтоптвае ў гразь убоства і галечы тысячы Чарляў Броунаў.

Мы радаваліся ў той дзень, калі „Смідовіч", нарэшце, скончыў выгрузку, і англійскія лоцманы вывелі нас з блытаных цяснін Тэмзы на шырокую марскую прастору.

Мы ішлі ў сваю любімую радзіму.

Мы неслі з сабою боль і гнеў незгладжальныя, як перажытыя гады. Мы неслі нясмелыя поціскі рук, цеплыню позіркаў і спачувальных усмешак, і фразы, сказаныя шэптам, крадком.

— Мы яшчэ будзем змагацца, таварыш рускі. І мы пераможам.

Архангельск—Лондан.
Жнівень—верасень, 1935 г.

*Янка Шарахоўскі*

# В. Г. БЕЛІНСКІ І НАРОДНАСЦЬ ЛІТАРАТУРЫ

Прайшло 125 год з дня нараджэння вялікага рускага крытыка В. Г. Белінскага. Гэта быў адзін з самых магутнейшых і святлейшых розумаў рускай літаратуры XIX стагоддзя. Белінскі быў разначынец, ён прышоў у літаратуру з ніжэйшых пластоў грамадства і па сваіх поглядах ён быў першым дэмакратам у рускай літаратуры. З страснай непрымірымасцю змагаўся Белінскі са змрочнай рэчаіснасцю Нікалая Палкіна ў імя палітычна-дзейснай, шырока народнай літаратуры, у імя інтарэсаў шырокіх мас. Вялікі крытык не заўсёды быў цвёрды ў сваіх апазіцыйных і рэвалюцыйных настроях, ён перажыў значную паласу захаплення нямецкай ідэалістычнай філасофіяй і пад уплывам філасофіі Гегеля быў нават прышоў да прымірэння з нікалаеўскай рэакцыяй. Яго погляды гэтага часу знайшлі сваё выражэнне, як вядома, у яго артыкулах пра барадзінскую гадавіну, пра „Очерк Бородинского сражения“ Ф. Глінкі, а таксама ў артыкуле „Менцель, критик Гете“.

Але ўжо вельмі скора Белінскі вызваліўся ад путаў Гегеля і ўбачыў увесь сэнс зробленай ім аграмаднейшай памылкі. Ён не адмовіўся зусім ад Гегеля, ён пачаў яго разумець інакш, пачаў разумець гегелеўскую дыялектыку, як „алгебру рэволюцыі“ (А. І. Герцэн). Гэтую сваю памылку Белінскі адпакутаваў усёю глыбінёю сваёй душы і заўсёды ўспамінаў пра яе з вялікаю ганьбаю. Ужо 3 лютага 1840 г. ён пісаў В. П. Боткіну: „Што-ж сказаць пра мой найбязглузды і нацягнуты ўступ да разгляду брашурак пра Барадзінскую бітву, якім усе захапіліся? Дорага даў-бы я, каб знішчыць яго“.

Рэволюцыйныя настроі Белінскага паступова нарастаюць, ён пачынае захапляцца соцыялістычнымі ідэямі і ў адпаведнасці з гэтым мяняюцца яго літаратурна-крытычныя погляды. Калі раней ён усхваляў алімпійскую спакойнасць Гётэ, тое, што зместам яго твораў з'яўляюцца „не пытанні дня, а пытанні стагоддзяў, не інтарэсы краіны, а інтарэсы свету, не лёс партый, а лёс чалавецтва“, і ярасна нападаў на Менцэля за тое, што той упікаў Гётэ за яго абыякавасць да грамадска-соцыяльных праблем, дык цяпер ён усё болей і болей пачынае разумець, што „адбіраць у мастацтва права служыць грамадскім інтарэсам—значыць не ўзвышаць яго, а прыніжаць яго“.

У апошні перыяд сваёй літаратурна-крытычнай дзейнасці Белінскі праз Герцэна пазнаёміўся з матэрыялістычнай філасофіяй Фейербаха, якая робіць на яго „патрасаючае ўражанне“. Пад яе ўплывам ён напісаў свой славуты „Взгляд на русскую литературу 1847 г.“,

у якім патрабуе ад літаратуры ўсёй праўды аб становішчы сялянства. Белінскі быў страсным прыхільнікам вызвалення сялян, ён параўноўваў рабскае становішча рускага сялянства з становішчам нявольнікаў-неграў у Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі.

Белінскі не быў у поўным сэнсе гэтага слова рэвалюцыянерам, але ён быў ідэйна-палітычным правадыром цэлага пакалення ў тым сэнсе, у якім тагочасны перадавы чытач бачыў у „рускіх пісьменніках сваіх адзіных правадыроў, абаронцаў і выратавальнікаў ад рускага самадзяржаўя, праваславія і народнасці“ [1]). Ён бачыў далёка наперад гістарычнае развіццё Расіі і гэта вызначала яго адносіны да буржуазіі. Ён ненавідзеў буржуазію, праклінаў яе гандлярскі дух, у Сілезіі ён бачыў, што буржуазнае развіццё прыводзіць да паўперызацыі, да жахлівага жабрацтва мас і, не гледзячы на гэта, няўхільнае буржуазнае развіццё Расіі яго не пужала. На яго не дзейнічалі і лісты Герцэна з Францыі пра буржуазію, якія ў 1847 г. друкаваліся ў „Современнике“. У снежні 1847 г. Белінскі піша адносна гэтых лістоў В. П. Боткіну: „Уласна, яна (г. зн. буржуазія—*Я. Ш.*) толькі апошняе зло ў панаванні капітала над працай“. Белінскі ў тагочасных расійскіх умовах ужо дайшоў да думкі, што панаванне буржуазіі скораперахадзячае, што праб'е і яе дванаццатая гадзіна і прыдзе вялікі дзень вызвалення чалавека працы.

Пролетарыята ў той час у Расіі не было і таму зусім натуральна, што вялікі крытык параўноўваў становішча заходне-еўрапейскага пролетарыята з становішчам запрыгоненага рускага сялянства, на баку каторага былі ўсе яго сімпатыі. Белінскага мучыла пытанне вызвалення сялян, не давала яму спакою. У лісце да Анненкава 15 лютага 1848 г. ён пісаў: „Справа аб вызваленні сялян ідзе і ўперад не пасоўваецца“. У славутым лісце да Н. В. Гогаля ён з вялікім гневам зноў-такі пісаў, што адным з самых жывых сучасных нацыянальных пытанняў у Расіі з'яўляецца пытанне вызвалення сялян. У сваёй барацьбе супроць самадзяржаўя Белінскі не мог у простым палітычным сэнсе абапірацца на сялянства, бо яно было зусім пазбаўлена магчымасці жыць свядомым палітычным жыццём, але ўгневаных, вогненых словах Белінскага ўжо адчуваліся першыя подыхі сялянскай рэвалюцыі.

Неразвітасць грамадска-палітычных адносін і ўмовы нікалаеўскай рэакцыі значна звузілі сферу дзейнасці вялікага крытыка. У іншых умовах ён мог-бы стаць правадыром шырокага народнага руху. Але мы павінны па-сапраўднаму зразумець усю веліч Белінскага, які ўжо тады, маючы перад вачыма „гнусную расійскую рэчаіснасць“, дагаварваўся да блізкіх да марксізма палажэнняў і які па праву з'яўляецца адным з папярэднікаў марксісцкай думкі ў Расіі. Белінскі глыбока верыў у сілы і здольнасці рускага народа, у яго вялікую гістарычную місію. Яго ўлюбёнаю думкаю было, што „рускі народ— адзін са здольнейшых і даравіцейшых народаў у свеце“. І як бліскуча апраўдаліся ў адносінах да нашага часу прарочыя словы Белінскага пра рускі народ: „Цяжка было яму скрануцца з сваёй сталячасці ў першы раз, але, скрануўшыся, ён ужо не можа не ісці“.

[1]) Так званай, „афіцыйнай народнасці“. Я. Ш.

Надзвычай вялікае месца ў сваёй літаратурна-крытычнай дзейнасці адводзіў Белінскі пытанню народнасці літаратуры. Гэта звязана ў яго з нямецкай ідэалістычнай філасофіяй і з неабходнасцю вызначэння сваёй пазіцыі ў дачыненні да так званай „афіцыйнай народнасці", якая старанна насаджавалася нікалаеўскім рэжымам. Белінскі не ведаў замежных моў і з нямецкай філасофіяй знаёміўся праз сваіх сяброў на гуртку Станкевіча. Першы яго артыкул „Литературные мечтания", які ўвосень 1834 г. з'явіўся ў часопісе „Молва" і які адразу зрабіў Белінскага вядомым крытыкам, быў напісан пад уплывам Шэлінга. Гэты артыкул пачаў шэлінгіанскую паласу ў літаратурна-крытычнай дзейнасці вялікага крытыка. Ужо у гэтым артыкуле ён патрабуе, каб літаратура мела народны характар, была выражэннем „духа народа". Адказваючы на пытанне, што такое літаратура, Белінскі піша: „Літаратурай называецца збор такога роду мастацка-слоўных твораў, якія ёсць плод вольнага натхнення і дружных (хоць і не ўмоўленых) намаганняў людзей, створаных для мастацтва, дышучых для аднаго яго і якія знішчаюцца па-за ім, зусім выражаючых і рэпрадукцыруючых у сваіх мастацкіх творах дух таго народа, сярод якога яны народжаны і выхаваны, жыццём якога яны жывуць і духам якога дышуць, вырашаючых у сваіх творчых тварэннях яго ўнутранае жыццё да сакравеннейшых глыбінь і біенняў"[1].

Паняцце „дух народа" прышло ў крытыку Белінскага з шэлінгавай філасофіі. Гэта паняцце не ўпершыню ўжывалася ў дачыненні да з'яў літаратуры. Яно ўжо набыло пэўны сэнс у нямецкіх рамантыкаў, асабліва ў часе іхнага павароту да рэакцыі. Але звяртае на сябе ўвагу, што Белінскі па-свойму, у рэвалюцыйным сэнсе скарыстоўваў гэтае паняцце. Яно звязвалася ў яго з пытаннем аб гістарычным развіцці рускай літаратуры, а метадалагічна з гістарызмам шэлінгавай філасофіі. Яркае ўяўленне пра гісторыка-літаратурныя погляды Белінскага гэтага часу дае наступнае месца з „Литературных мечтаний": „Дык вось, *народ* або, лепш сказаць, маса народа і *грамадства* пайшлі ў нас у розныя бакі. Першы астаўся пры сваім грубым і напоўдзікунскім жыцці і пры сваіх заўныўных песнях, у якіх вылівалася яго душа ў горы і ў радасці, другое-ж відочна змянілася, калі не палепшылася, забылася на ўсё рускае, забылася нават гаварыць *па-руску*, забылася на паэтычныя паданні і выдумкі сваёй радзімы, на гэтыя надзвычайныя песні, поўныя глыбокага суму, салодкай тугі і разгулу малайцоўскага, і стварыла сабе літаратуру, якая была праўдзівым яго люстрам (падкрэслена ўсюды Белінскім *Я. Ш.*").

Звяртаючыся да гісторыі літаратуры, Белінскі перш за ўсё шукаў арганічнай гістарычнай наследвальнасці і нацыянальнай формы літаратуры. Але факты паказвалі яму, што руская літаратура насіла перайма́льны характар. Перайма́льнасць яе была вынікам таго, што арганічнасць развіцця была перарвана, што „маса народа" і грамадства пайшлі, пачынаючы з петроўскай рэформы, у розныя бакі.

[1]) „Собрание сочинений", выд. М. О. Вольф, стар. 10, у далейшым проста „С. С.", старонка такая.

Народная маса засталася пры сваёй народнай творчасці, сваіх сумных песнях, а грамадства пачало пераймаць літаратуру ў іншых народаў. А калі гэтак, то руская літаратура не выражала „духа народа“, яна не была праўдзівым люстрам яго жыцця, а толькі праўдзівым люстрам яго грамадства, г. зн. вышэйшых пластоў, пануючых класаў. Для таго-ж, каб у літаратуры выражалася цэлая „ідэя народа“, трэба, каб яна была літаратурай і ніжэйшых і вышэйшых пластоў народа. На гэтай падставе Белінскі і адмаўляў рускую літаратуру. Ен пісаў: „Гісторыя нашай славеснасці ёсць ні больш, ні менш як гісторыя няўдалых спроб праз сляпое пераймание з замежных літаратур стварыць сваю літаратуру“ („С.С.“, стар. 78).

Самы факт адмаўлення рускай літаратуры не быў для таго часу новым, адмаўлялі рускую літаратуру і Надзеждзін і Веневіцінаў, але ніхто не адмаўляў рускую літаратуру з такіх пазіцый, як Белінскі. Яго адмаўленне мела рэволюцыйны сэнс, бо ён патрабаваў, каб літаратура была выражэннем не толькі арыстакратычнай вярхушкі грамадства, але масы народа. Яго адмаўленне па свайму зместу было глыбока дэмакратычным. Своеасаблівае разуменне прынцыпаў шэлінгіанскага гістарызма прывяло вялікага крытыка на пазіцыі дэмакратычных патрабаванняў да літаратуры. Гэта, вядома, не азначае, што ідэалістычная шэлінгава філасофія сама па сабе мела рэволюцыйнае зерне. Гэта азначае, што малады Белінскі, аўтар протэстуючай п'есы „Димитрий Калинин“, зразумеў яе ў рэволюцыйным сэнсе.

Адказваючы на пытанне, што такое літаратура, Белінскі спыняецца і на французскім яе вызначэнні, як выражэнні грамадства. Аналізуючы наколькі праўдзіва такое вызначэнне ў дачыненні да французскай літаратуры, ён робіць гэты аналіз не з пункту гледжання адцягненых прынцыпаў, а ў канкрэтным гістарычным плане. І ён знаходзіць, што такое вызначэнне ў французаў мае поўную падставу, бо: „Іхная літаратура заўсёды была праўдзівым адбіткам, люстрам грамадства, заўсёды ішла з ім рука аб руку, забываючыся пра масу народа, бо іхнае грамадства ёсць найвышэйшае праяўленне іхнага народнага духу, іхнага народнага жыцця“ („С. С.“, стар. 15). Але гэта толькі ў французаў, французы—выключэнне. Звычайна-ж літаратура бывае выражэннем духу народнага і іменна такою павінна быць руская літаратура, бо ў нас грамадства не ёсць найвышэйшае праяўленне народнага духу, бо ў нас грамадства і маса народа пайшлі ў розныя бакі. Нямецкая-ж літаратура была народнаю, паводле поглядаў Белінскага, была такою, якою звычайна і павінна быць літаратура. „У Германіі, напрыклад,—піша Белінскі,— не той вучоны, хто багаты або мае доступ у лепшыя дамы і бліскучае асяроддзе, наадварот, геній Германіі любіць чардакі беднякоў, скромныя куткі студэнтаў, убогія прытулкі пастараў. Там ўсё піша або чытае, там публіка налічваецца мільёнамі, а пісьменнікі тысячамі; словам, там літаратура ёсць выражэнне не грамадства, але народа“ („С. С.“, стар. 15).

Адмаўленне існавання рускай літаратуры ў „Литературных мечтаниях“ азначала ў апошнім ліку адмаўленне літаратуры прывілегіяваных класаў у імя літаратуры, народнай па свайму харак-

тару, а значыць і само адмаўленне мела рэволюцыйны, глыбока дэмакратычны змест. Гэта пытанне варта прасачыць яшчэ і ў плане патрабаванняў Белінскага аб нацыянальнай форме літаратуры, у плане вырашэння ім праблемы формы і зместу. Калі форма літаратуры павінна быць глыбока-нацыянальнай, то можа ўзнікнуць зусім законнае пытанне, якім жа паводле ўяўленняў Белінскага гэтага часу павінен быць змест сапраўды мастацкіх літаратурных твораў. Белінскі адмаўляў рускую літаратуру ў соцыяльным плане, як літаратуру пануючых класаў, не звязаную з масай народа, і ў нацыянальным плане, як літаратуру пераймальную, не маючую арганічнага гістарычнага развіцця. І тут можа ўзнікнуць зусім законнае пытанне, што ў гэтым другім выпадку можа Белінскі не быў рэволюцыйным, а наадварот, выяўляў нацыянальную абмежаванасць. Адказ на гэта пытанне якраз і дае адказ Белінскага на пытанне, якою павінна быць форма і змест літаратуры, а таксама яго погляд на ролю кожнага асобнага народа ў жыцці чалавецтва.

Справа ў тым, што момант соцыяльны і нацыянальны Белінскі разглядае тут у адзінстве: „Што такое народнасць у літаратуры?— пытае Белінскі і адказвае: „Адбітак народнай фізіяноміі, тып народнага духу і народнага жыцця“. І вось гэтая народная, нацыянальная фізіяномія больш за ўсё захавалася ў масе народа, у яго ніжэйшых пластах. „Наша нацыянальная фізіяномія,—рашуча заяўляе Белінскі,—больш за ўсё захавалася ў ніжэйшых пластах народа“. Адсюль патрабаванне нацыянальнасці рускай літаратуры, як і патрабаванне таго, каб яна была выражэннем „духу народнага“, глыбока дэмакратычна. Яно азначала нешто іншае, як патрабаванне на прадстаўніцтва ў літаратуры сферы жыцця, інтарэсаў гэтых ніжэйшых пластоў народа. Адказ на пытанне, як уяўляў сабе Белінскі ў гэты час змест сапраўды мастацкіх твораў, даюць яго выказванні пра Пушкіна. „Так, Пушкін быў выражэннем сучаснага яму свету, прадстаўніком сучаснага яму чалавецтва, але свету рускага, але чалавецтва рускага“. Каб зразумець гэтае выказванне ў яго поўным сэнсе, трэба мець на ўвазе, што Белінскі ў гэты час прытрымліваўся чыста ідэалістычнага погляду, што „кожны народ выражае сабою адзін які-небудзь бок жыцця чалавецтва“. У дачыненні да выказвання пра Пушкіна гэта азначала, што апошні быў настолькі прадстаўніком чалавецтва, узятага ў цэлым, наколькі рускі народ выражае адзін з бакоў жыцця чалавецтва. Інакш кажучы, вялікі пісьменнік выражае ў сваіх творах у нацыянальнай форме адзін з бакоў агульначалавечага жыцця. Змест літаратуры ў пэўных, вызначаных для кожнага народа рамках—агульначалавечы. Такім чынам ужо ў першым сваім артыкуле Белінскі выявіў сябе як своеасаблівага інтэрнацыяналіста. Няхай гэты інтэрнацыяналізм быў невыразны, непаслядоўны, узгадаваны на ідэалістычных шэлінгіанскіх уяўленнях пра ролю кожнага народа ў агульным жыцці чалавецтва, але ўсё-ж гэта быў інтэрнацыяналізм. Важна, што самую філасофію Шэлінга Белінскі ў „Литературных мечтаниях“ перакройваў на дэмакратычны лад, важна, што вялікі рускі крытык адразу выступіў з вялікім гістарычным кругаглядам, пазбаўленым нацыянальнай абмежаванасці.

Будучы пераконаным, што кожны народ выражае адзін з бакоў жыцця чалавецтва, Белінскі ў гэты час упускаў надзвычай важны момант культурна-палітычнага ўзаемадзеяння, надзвычай важны момант уплыву адной літаратуры на другую. Гэта вельмі важная для гісторыі літаратуры праблема не атрымала свайго асвятлення ў „Литературных мечтаниях". Вышла гэта таму, што Белінскі залішне прасталінейна, вельмі аднабакова ўспрыняў вучэнне Шэлінга пра працэс гістарычнага развіцця народаў. Гістарызм Шэлінга быў абстрактным, ён не ўлічваў рэальных сувязей паміж народамі. Па Шэлінгу выходзіла, што кожны народ, выконваючы сваю агульначалавечую місію, жыве як-бы замкнутым, ізаляваным жыццём. У гэтым моманце Белінскі яшчэ не здолеў унесці папраўкі да Шэлінга і таму ён не аналізуе, што ў канкрэтна-гістарычным сэнсе азначала еўрапеізацыя Расіі і які канкрэтна-гістарычны характар насіла пераймальнасць рускай літаратуры. Ён бярэ гэтыя моманты проста як факты і, паколькі яны не ўкладваліся ў шэлінгаву гістарычную схему, пастолькі ён проста адкідваў іх. Гістарызм пераходзіў у антыгістарычнасць.

Але ўжо вельмі скора Белінскі адчувае слабасць сваёй пазіцыі ў гэтым пункце і ўносіць у яе адпаведныя папраўкі. У артыкуле „О русской повести и повестях Гоголя", аналізуючы прычыны ўзнікнення ў рускай літаратуры жанра рамана і аповесці, ён піша: „Праўда, і тут быў уплыў замежных літаратур, што вельмі натуральна, бо народ, які пачынае браць удзел у жыцці адукаванай часткі чалавецтва, не можа быць чужым ніякаму агульнаму разумоваму руху" („С. С.", стар. 94). Тут Белінскі выяўляе самастойнасць думкі, не прытрымліваецца літары шэлінгавага вучэння і зусім натуральна, што погляды яго робяцца значна больш глыбокімі і паслядоўнымі. Ад такіх сцверджанняў было ўжо зусім недалёка да канкрэтна-гістарычнага вывучэння ўплыву замежных літаратур на рускую. Тут ужо Белінскі прызнае, што ўплыў можа быць момантам арганічна-законамернага гістарычнага працэса развіцця літаратуры.

Агульнавядома, што ў наступных за „Литературными мечтаниями" артыкулах Белінскі працягваў адмаўляць рускую літаратуру. На першы погляд можа здавацца, што гэта не вяжацца з выказанымі ім поглядамі ў артыкуле „О русской повести и повестях Гоголя" на ўплыў замежных літаратур. Але гэта толькі на першы погляд. Белінскі адмаўляў рускую літаратуру, як літаратуру пануючых класаў, і яго ўказанне на пераймальнасць рускай літаратуры было адрасавана ім. Гэтым ён паказваў ім, што яны не звязаны з жыццём народа, і што яны не могуць ствараць народную літаратуру. Вось чаму няма супярэчнасці паміж прызнаннем правамернасці ўплываў і адмаўленнем рускай літаратуры.

Пад уплывам Шэлінга выпрацоўваліся погляды Белінскага і на тэорыю творчасці. І тут ён стаяў на чыста ідэалістычным пункце гледжання „мэтазгоднасці без мэты", Белінскі пры кожным зручным выпадку паўтарае, што творчы працэс бессвядомы, што „літаратуру не ствараюць: яна ствараецца так, як ствараюцца без волі і ведама народа мова і звычаі" („С. С.", стар. 77).

Гэты погляд на творчы працэс, які Белінскі часта паўтараў у канкрэтным аналізе твораў рада пісьменнікаў, быў далейшым развіццём поглядаў, выказаных у „Литературных мечтаниях". Там Белінскі пісаў: „Мне здаецца, што гэта імкненне да народнасці вынікла ад таго, што ўсе жыва адчулі нетрываласць нашай пераймальнай літаратуры і захацелі стварыць народную, як раней намагаліся ствараць пераймальную. Дык вось, зноў мэта, зноў намаганні, зноў старая пагудка на новы лад" („С. С.", стар. 83). Цяпер Белінскі ў артыкуле пра аповесці Гогаля нападае на Марлінскага за надуманасць, за штучнасць, за падробку пад народнасць. Белінскі зняважліва піша пра творы Марлінскага: „Народнасць іхная была ў рускіх імёнах, у пазбяганні відавочнага парушэння праўдзівасці падзей і звычаяў і ў падробцы пад лад рускай мовы, у пагаворках і пасловіцах, але не больш". („С. С.", стар. 113). Ён вельмі невысока ставіць творы Палевога, бо ў яго не мастацкая творчасць, а сінтэтычная паверка аналітычных назіранняў над жыццём, у яго таксама разлік, розум пераважае над пачуццём. І, наадварот вельмі высока аценіў Белінскі аповесці Гогаля: „Адразняльны характар аповесцей п. Гогаля складаюць прастата выдумкі, народнасць, поўная ісціна жыцця, арыгінальнасць і камічнае адухаўленне, якое заўжды перамагаецца глыбокім пачуццём суму і нуды" („С. С.", стар. 24). І такая высокая ацэнка Гогаля робіцца іменна з пункту гледжання бессвядомасці творчага працэса, з таго пункту гледжання, што ён так паказваў жыццё не таму, што сам хацеў так яго паказаць, а таму, што ён інакш паказаць яго, як сапраўдны мастак не мог, што ён паказваў яго так без сваёй „волі і ведама". Пра Гогаля Белінскі мог бы з поўнаю падставай паўтарыць тое, што ім было сказана пра Пушкіна, а іменна, што ён быў народны бессвядома і засвоіў народнасць „творениям своим без всякого труда и усилия". Гэта ён мог зрабіць з тым большаю падставай, што народнасць ён лічыў не вартасцю твора, а неабходнаю ўмоваю сапраўды-мастацкага твора. „Аповесці п. Гогаля,—піша Белінскі,—народныя ў найвышэйшай ступені; але я не хачу шмат гаварыць аб іхнай народнасці, бо народнасць ёсць не вартасць, а неабходная ўмова сапраўды-мастацкага твора, калі пад народнасцю трэба разумець праўдзівасць паказу нраваў, звычаяў і характару таго або іншага народа, той або другой краіны" („С. С.", стар. 135).

Мы паўтараем, што ўстаноўка Белінскага на творчасць „мэтагодную без мэты"—гэта чыста ідэалістычная ўстаноўка, перанятая вялікім крытыкам ад Шэлінга. Але яна надзвычай моцна ўвайшла ў літаратурна-крытычную практыку Белінскага гэтага часу, таму што ён бачыў у гэтай формуле сугучнасць сваім непрыязным да непрымірымасці адносінам да ўсякага ўмешвання ў літаратурны працэс зверху, з боку нікалаеўскага рэжыма, супроць усякай рэгламентацыі літаратуры. Трэба мець на ўвазе, што калі народнасць пачалі насаджваць зверху, Белінскі з усім уласцівым яму запалам пачаў выступаць супроць гэтай афіцыйнай народнасці, прычым выступаць у першы час пераважна пад сцягам бессвядомасці творчага працэса. Такім чынам шэлінгіанскі ідэалізм пад пяром Белінскага служыў яго дэмакратычным імкненням.

У артыкуле пра аповесці Гогаля Белінскі прышоў да рэалізма і ацаніў Гогаля высока іменна як рэаліста. Адпаведна гэтаму і паняцце народнасці ў гэтым артыкуле звязваецца з канкрэтным літаратурным стылем. Калі Белінскі гаворыць, што творчасць Гогаля гэта паэзія рэчаіснасці, то гэта азначае не што іншае, як тое, што Гогаль—рэаліст. І іменна як рэаліст Гогаль глыбока народны. Вось гэта ўстанаўленне шчыльнай сувязі паміж пытаннем пра народнасць літаратуры і пра стыль літаратуры мае надзвычай важнае значэнне ў тым сэнсе, што яна ставіць перад Белінскім праблему мастацкай праўды, стварае неабходнасць дакладнага высвятлення тых задач, якія стаяць перад рэалістычнай літаратурай. Інакш кажучы тут узнікае пытанне пра тып рэалізма, пра яго адносіны да грамадска-палітычных праблем часу.

Барацьба за рэалізм у крытыцы Белінскага ў гэты час развіваецца пад знакам шэкспірызма. Ідэалам рэалістычнага мастацтва для яго ў гэты час з'яўляюцца творы Шэкспіра. У Шэкспіра паэзія не становіцца на падмосткі, у ёй няма хадульнасці і ложнага пафасу, у ёй ёсць адно—праўда жыцця. „Бессвядомы паэтмысліцель,—піша Белінскі,—ён рэпрадукцыраваў у сваіх гіганцкіх творах нраўственую прыроду, адпаведна з яе вечнымі, непарушнымі законамі, адпаведна з яе першапачатковым планам, як быццам-бы ён сам браў удзел у складанні гэтых законаў, у накідванні гэтага плана“. („С. С.“, стар. 104—105). Вось такога рэалізма і патрабаваў Белінскі. Гэты рэалізм можа быць спакойным, велічным, можа быць на першы погляд нават бесстароннім, але трэба, каб за гэтай спакойнасцю і за гэтай уяўнай бесстароннасцю кіпелі магутнейшыя страсці і разыгрываліся найглыбейшыя драмы, трэба, каб за імі хавалася бязлітасная, нічым непрыкрытая праўда жыцця. Героем такой літаратуры Белінскі ўяўляе сабе чалавека самастойнага, вольна дзейнічаючага. Белінскі зусім не дзівіцца, што навейшыя творы рускай літаратуры пішуцца з бязлітаснай адкрытасцю, „што ў іх жыццё з'яўляецца як-бы на ганьбу, ва ўсёй аголенасці, ва ўсёй яго жахлівай непрыгожасці і ва ўсім яго ўрачыстым харастве, што ў іх як быццам ускрываюць яго анатамічным нажом“. Белінскі іменна за такі, за бязлітасна-рэалістычны паказ жыцця, які-б нічога не хаваў, які-б не прыкрашваў рэчаіснасці. Вядома, такія патрабаванні яшчэ не азначалі патрабавання выкрыцця „гнуснай расійскай рэчаіснасці“. Гэты артыкул пісаўся ў пару філасофскага ідэалізма Белінскага і ён у гэты час не асвядомліваў грамадска-палітычнага сэнсу сваіх патрабаванняў. Рэалізм тут яшчэ разглядаецца з абстрактна-эстэтычнага пункту гледжання, ён яшчэ не мае простай увязкі з грамадска-соцыяльнымі праблемамі. Але ў ім зусім выразна выяўляюцца дэмакратычныя рысы. Белінскі ўяўляе гэты рэалізм пазбаўленым каставай абмежаванасці. У гэтым плане ён палемізуе з Шэвыравым за яго фармуліроўку—„свецкая аповесць“. Не жыццё пануючых класаў трэба паказваць, па Белінскаму, у літаратуры, а жыццё ўсяго народа. Белінскі ўжо настолькі засвоіў шырока-дэмакратычны погляд на літаратуру, што для яго з'яўляецца зусім натуральным, што Гогаль, „не пакідаючы сваёй улюбёнай, сваёй прыгожай, сваёй ненаглядней Маларосіі, пайшоў

шукаць паэзіі ў *нравах сярэдняга сасловія ў Расіі*“ (падкрэслена мною. *Я. Ш.*). Нават больш, ён з абурэннем адкідвае выказанае ў адным часопісе пажаданне, каб Гогаль паспрабаваў паказаць вышэйшыя пласты грамадства. Гэтае пажаданне Белінскі называе „жахлівым анахранізмам“. Ён раіць Гогалю апісваць тое, што загадвае яму апісваць натхненне, а не тое, што загадваюць яму апісваць вышэйпаказаныя крытыкі. Інакш кажучы, Белінскі лічыць, што Гогаль і надалей мае поўнае права апісваць „нравы сярэдняга сасловія“.

У артыкулах, што з'явіліся пасля артыкула „О русской повести и повестях Гоголя“ і палемічнага артыкула „О критике и литературных мнениях „Московского наблюдателя“ (у перыяд з 1836 па 1841 г.) і што былі напісаны часткова пад уплывам Шэлінга, а часткова пад уплывам Фіхтэ, Белінскі не ўносіць нічога істотна новага ў разуменне ім народнасці літаратуры. Вядома, гэта зусім не азначае, што і яго літаратурна-крытычныя погляды за гэты час не змяняліся. Але гэтыя змены ідуць па лініі ўдакладнення і развіцця раней выказаных палажэнняў. Асаблівы націск (пад уплывам Фіхтэ) цяпер Белінскі робіць на тым, каб літаратурны твор выяўляў сутнасць з'яў, каб пісьменнік не абмяжоўваўся паказам з'явы. Ён патрабаваў, каб літаратура была ідэйнай, каб адзіная ідэя пранізвала ўсе кампаненты твора. „З'ява (факт), застаючыся незразуметай у сваёй сутнасці,—пісаў Белінскі ў артыкуле пра творы Фанвізіна і Загоскіна,—якая ёсць яе ідэя, нічога не адкрые, нічога не вырашыць, а ідэя паасобнай з'явы, асобна ўзятая, не можа быць зразумета“. Белінскі тут за гістарычную крытыку, г. зн. за такую, якая бачыць „у мастацкім творы момант гістарычнага развіцця, раскрывае з гэтага боку яго агульнае і субстанцыянальнае значэнне“ („С. С.“, стар. 342). Але і патрабаванне ідэйнасці літаратуры і патрабаванне гістарычнай крытыкі робіцца тут усё яшчэ з пункту гледжання абстрактна-эстэтычных норм, без шчыльнай увязкі з грамадска-соцыяльнымі праблемамі. Захапленне соцыяльнасцю і соцыялістычнымі ідэямі прыдзе ў Белінскага значна пазней. Цяпер-жа працягваецца ўсё той-жа перыяд філасофскага ідэалізма і абстрактна-эстэтычных поглядаў на літаратуру. Часамі дэмакратызм Белінскага не ўмяшчаецца ў рамкі ідэалістычнай сістэмы і тады ён уносіць адпаведныя папраўкі. Але да ломкі абстрактна-філасофскіх норм крытыкі яшчэ далёка.

Праблема рэалізма паставіла перад Белінскім на ўвесь рост пытанне пра тое, што такое рэальнасць, што такое рэчаіснасць і якую яны адыгрываюць ролю ў гістарычным працэсе, у жыцці грамадства і асобы. Вучэнне Фіхтэ пра з'яву і субстанцыю прывяло Белінскага да патрабавання гістарычнай крытыкі, якая-б магла вытлумачыць законамернасць, разумнасць кожнага звяна гісторыі літаратуры і тым самым падрыхтавала ўспрыняцце ім ідэй Гегеля, у першую чаргу вучэнне аб разумнасці рэчаіснасці.

Калі Бакунін пазнаёміў Белінскага з філасофіяй Гегеля, ён з усёй страснасцю сваёй натуры ўхапіўся за формулу „што разумна, то сапраўдна, і што сапраўдна, то разумна“. Думка Белін-

скага, прашоўшая ўжо значную ідэалістычную муштру, зразумела гэтую формулу ў прымірыцельным сэнсе. Гэтая формула прымірыла яго з „гнуснай расійскай рэчаіснасцю". Прымірэнне ў корані змяніла і погляды Белінскага на народнасць літаратуры. З усёй уласцівай яму паслядоўнасцю і праматой Белінскі рабіў усе вывады з сваіх новых перакананняў. З усёй нястрымнасцю і запалам сваёй бурлівай натуры ён пачынае прапаведваць самыя жахлівыя погляды. Цар цяпер у вачах Белінскага „вышэй суда чалавечага", імя яго для падданых „слова містычнае, таямнічае, свяшчэннае". Выходзячы з гэтага, Белінскі цяпер усхваляе петроўскую рэформу, якую раней лічыў штучнай, заклікае амаль што не маліцца на цароў. У артыкуле „Очерк Бородинского сражения" і „Бородинская годовщина", ён, па сутнасці, цалкам пераходзіць на пункт гледжання „афіцыйнай народнасці", гэтай апоры нікалаеўскага рэжыма. Пра квасна-патрыятычную брашуру Ф. Глінкі ён піша: „Гэта кніга народная ў поўным значэнні гэтага слова, таму што пры вялікай важнасці зместу яна зусім даступна („С. С.", стар. 390).

Адпаведна гэтаму мяняюцца і яго погляды на задачы крытыкі, мяняюцца яго эстэтычныя погляды. Калі раней ён перш за ўсё глядзеў наколькі народным, у дэмакратычным сэнсе, і рэалістычным з'яўляецца твор, наколькі ён „бязлітасна адкрыты" і праўдзівы, і тым самым ужо прадчуваў грамадска-палітычны змест літаратуры, то цяпер, наадварот, ён у артыкуле „Менцель, критик Гете" заўзята нападае на Менцэля за патрабаванне сувязі літаратуры з грамадска-палітычным жыццём сучаснасці. Белінскі абураецца, што „Менцэль ставіць Гётэ ў вялікую віну і цяжкае злачынства, што ён маўчаў у часе французскай рэволюцы і ні адным вершам не выразіў свайго погляду на гэту падзею, што патрасла ўвесь свет". Менцэль рашуча патрабуе, каб мастацтва служыла грамадству. Ён высока ставіць паэтаў і пісьменнікаў—дзяцей свайго часу і свайго стагоддзя, якія жывуць вялікімі сучаснымі падзеямі і думкамі, якія з'ўляюцца прадстаўнікамі сучаснага ім чалавецтва. Каб уявіць сабе, наколькі змяніліся погляды Белінскага, досыць параўнаць яго цяперашнія погляды на адносіны літаратуры да грамадства з тым, хоць бы і не зусім асвядомленым, але досыць рашучым прызнаннем паэтаў свайго часу, якое ён выявіў яшчэ ў „Литературных мечтаниях". У гэтым артыкуле Белінскі надзвычай высока ставіў Пушкіна іменна як найлепшага выразніка свайго часу: „Пушкін быў найлепшым выражэннем свайго часу. Адароны высокім паэтычным пачуццём і здзіўляючай здольнасцю прымаць і адлюстроўваць усемагчымыя адчуванні, ён пераспрабаваў усе тоны, усе лады, усе акорды свайго века, ён заплаціў даніну ўсім вялікім падзеям, з'явам і думкам, усяму, што толькі магла адчуваць тады Расія, якая перастала верыць у бессумненнасць „векавых правіл, самою мудрасцю ўзятых з пісанняў вялікіх геніяў" і якая са здзіўленнем даведалася пра інакшыя правілы, пра другі свет думак і паняццяў, новыя, невядомыя ёй датуль погляды на даўно вядомыя ёй справы і падзеі" („С. С.", стар. 62). Там была вольная думка і апазіцыйны настрой у дачыненні да „бессумненных пра-

віл“, было ўсхваленне Пушкіна, як парушальніка гэтых „правіл“ і найлепшага выразніка свайго часу, найбольш чулага паэта ў дачыненні да вялікіх падзей свайго часу, тут, у крытыцы Менцэля, глухі звон кайданоў, надзетых на сябе добраахвотна, мёртвая хватка гегелеўскай формулы, варожасць да ўсякага прасякнення ў літаратуру грамадска-палітычных пытанняў.

У гэты час ён нават лічыць, што сапраўды-мастацкі твор і мае сваёй задачай прымірацьчалавека з рэчаіснасцю. „Сапраўдна-мастацкі твор,—піша Белінскі,—узвышае і пашырае дух чалавека да сузірання бесканечнага, прымірае яго з рэчаіснасцю, а не падбухторвае супроць яе, і ўмацоўвае яго на велікадушную барацьбу з цяжкасцямі і бурамі жыцця“ („С. С.“, стар. 127).

Белінскі пад уплывам „прымірыцельных“ ідэй не прызнае мастацкай вартасці „Горе от ума“ Грыбаедава. „Горе от ума“—гэта сатыра, а сатыра заўсёды мае мэту не ў сабе, а вонкавую мэту, і Грыбаедаў якраз ставіў сваёй задачай „высмяяць сучаснае грамадства“. „Аб'ектыўнасць,—піша Белінскі ў артыкуле пра „Горе от ума“,—як неабходная ўмова творчасці, адмаўляе ўсякую маральную мэту, усякае судапраізводства з боку паэта. Паказваючы адмоўныя з'явы жыцця, паэт зусім не думае пісаць сатыру, таму што сатыра не належыць да галіны мастацтва і ніколі не можа быць мастацкім творам“. За „маральнасць“ не прымае і не прызнае Белінскі ў гэты час і французскай літаратуры—ён гаворыць пра пошлыя сентэнцыі ў творах Карнеля, Расіна, Буало, Мальера, пра нахабнае насміханне над усім святым у Вальтэра, зняважліва ставіцца да Жорж-Занд, якая ў сваіх раманах прыкладвала да практыкі ідэі сен-сіманізма аб грамадстве.

Больш за год працягваўся гэты цяжкі палон. У 1840 г. пачынаецца адыход Белінскага ад прымірыцельнай ідэалогіі. Ён раптам убачыў бездань, якая раскрылася пад ім і ў якой ён ледзь не загінуў. І цяпер ён з адчуваннем горачы і агіды да напісанага ў перыяд прымірэння, піша Боткіну, што дорага даў-бы, каб знішчыць гэтую пісаніну. Зноў у Белінскім абуджаецца дэмакрат, які любіць усё сапраўды народнае. Разам з адыходам ад прымірэнцкіх настрояў пачынаецца праца Белінскага над пытаннямі народнасці літаратуры. У перыяд прымірэнцтва ўсё было ўстаноўлена царом і богам і не было месца для самастойнай думкі. Цяпер у артыкуле „Сочинения Марлинского“ Белінскі выразна размяжоўвае паняцце народнай паэзіі ў сэнсе непасрэдна народнай, г. зн. пераважна вуснае народнае творчасці, і паэзіі, як мастацкай літаратуры. Ён захапляецца багаццем рускае вуснае народнае творчасці. „Наша народная або *непасрэдная* паэзія не ўступіць па багаццю ніводнаму народу ў свеце, і толькі чакае працавітых дзеячоў, якія сабралі-б яе скарбы, што захоўваюцца ў памяці народа“. Ён гаворыць пра зборнік народных песень Кіршы Данілава, які (зборнік) адыграў значную ролю ў справе вывучэння рускага фальклора, як аб доказе багацця рускай народнай фантазіі.

Цяпер ён многія творы разглядае з пункту гледжання суадносін непасрэднай народнай творчасці і літаратуры. У плане гэтых суадносін ён разглядае творчасць Кальцова. У артыкуле „Герой нашего

времени“ М. Лермантава—Кальцова ён называе „магутным талентам“ і творчасць яго лічыць глыбока-народнай. У плане гэтых-жа суадносін ён разглядае лермантаўскую „Песню про царя Ивана Васильевича, молодого опричника и удалого купца Калашникова“. З аналізу гэтых суадносін выяўляецца ў Белінскага размежаванне паміж паняццем народнасці і нацыянальнасці. У „Литературных мечтаниях“, як мы бачылі, гэтыя паняцці разглядаліся ў іх адзінстве і не разглядаліся ў іх адрозненні, г. зн. па сутнасці былі тожсамымі. Быць народным азначала ў той час быць і нацыянальным. Руская літаратура адмаўлялася, як перайдмальная, і ў асаблівасці як літаратура ненародная, літаратура пануючых класаў. Цяпер Кальцова Белінскі не ацэньвае як паэта сапраўды-народнага, але народнага непасрэдна, што не робіць яшчэ яго паэтам нацыянальным. Лермантаў-жа з'яўляецца і паэтам нацыянальным, бо ён выходзіў „з магічнага кола народнай непасрэднасці“, г. зн. яго творчасць была літаратурна-мастацкай творчасцю ў поўным сэнсе. Лермантаў умеў, як гэта відаць з „Песни про купца Калашникова“, паказваць з'явы рускага жыцця ў народна-паэтычнай форме, г. зн. непасрэдна народнай, „тады як іншыя яго творы, прасякнутыя рускім духам, з'яўляюцца ў той агульна-сусветнай форме, якая ўласціва паэзіі, перайшоўшай з натуральнай у мастацкую, і якая, не перастаючы быць нацыянальнай, даступна для ўсякага веку і ўсякай краіны“ („С. С.“, стар. 540).

Новыя зрухі ў разуменні Белінскім народнасці літаратуры робяць уплыў у радзе іншых фактараў і на яго агульныя погляды на гісторыю рускай літаратуры. Цяпер Пушкін ужо не „здань літаратуры“, не „непадрыхтаваная гісторыяй з'ява“, а „перш ывялікі народны рускі паэт“. Цяпер ён ужо не адмаўляе рускую літаратуру, а, наадварот, піша, што: „Наша мастацкая паэзія ў творах Пушкіна стала побач з паэзіяй усіх вякоў і народаў“. Адначасова Белінскі варочаецца да тых патрабаванняў да літаратуры, якія складалі для яго ў дапрымірэнчы перыяд паняцце рэалістычнага мастацтва, да патрабаванняў мастацкай прастаты, якая „ёсць хараство ісціны“ і г. д.

Ён не парывае з гегелеўскім вучэннем пра рэчаіснасць, а пачынае ўсё больш і больш разумець яго ў рэволюцыйным сэнсе. Калі ў шэлінгіанскі перыяд ён надзвычай вялікае значэнне надаваў творчай фантазіі паэта, якая, на думку Белінскага, вольна сумяшчалася з адносінамі сапраўднасці, то цяпер для яго рэчаіснасць альфа і амега творчасці. „Навука і мастацтва,—піша Белінскі ў артыкуле „Стихотворения М. Лермонтова“,—не выдумляюць новай і небывалай рэчаіснасці, але ў той, якая была, ёсць і будзе, бяруць гатовыя матэрыялы, гатовыя элементы, словам, гатовы змест, даюць ім належную форму з суразмернымі часткамі і даступным для нашага погляду аб'ёмам з усіх бакоў“ („С. С., стар. 627). Як далёка гэта ад абстрактна-ідэалістычных пабудоў, дзе галоўнае месца займала вечная ідэя!

Намячаецца ўсё больш рашучы паварот Белінскага і ў бок прызнання грамадскага служэння літаратуры. У артыкуле „Русская литература в 1840 г.“ (1841 г.) Белінскі ўжо выразна патрабуе: „Лі-

таратура павінна быць выражэннем жыцця грамадства і грамадства ёй, а не яна грамадству дае жыццё". Грамадства тут Белінскі разумее не ў сэнсе грамадства пануючых класаў, якому ён у „Литературных мечтаниях" супроцьставіў народнасць літаратуры, а ў сэнсе дэмакратычным, як шырока-народнае грамадства. У гэтым артыкуле Белінскі фармуліруе і паняцце „светапогляду народа", якое скарыстоўваецца Белінскім у рэволюцыйным сэнсе. Аналізуючы прычыны творчай бясплоднасці тагочасных рускіх пісьменнікаў, Белінскі вінаваціць у гэтым грамадска-палітычныя ўмовы нікалаеўскай Расіі, „недахоп унутранага жыцця, жыццёвага зместу, адсутнасць светапогляду" ў тагочаснай рэчаіснасці. „Дзе няма ўнутраных, духоўных інтарэсаў, унутранай, сакравеннай ігры і пераліваў жыцця, дзе ўсё захоплена вонкавым, матэрыяльным жыццём,—там няма глебы для літаратуры, няма сокаў для яе харчавання. „Які ўзлёт думкі ў параўнанні з панегірычным апяваннем самаўладства ў „Очерке Бородинского сражения Ф. Глинки"! Тут ужо зноў мяцежны дух Белінскага прыходзіць да рэволюцыйных настрояў, пратэсту супроць „гнуснай расійскай рэчаіснасці".

У гэтым-жа 1841 г. пачынаецца захапленне Белінскага соцыялістычнымі ідэямі. Да соцыялізма ён ішоў зноў-жа праз адмаўленне абсалютнага характару гегелеўскай філасофіі, праз разуменне яго дыялектыкі ў рэволюцыйным сэнсе. Асабліва выразнае ўяўленне пра гэта даюць яго лісты. У сакавіку гэтага года ён піша Боткіну: „Я маю асабліва важныя прычыны злавацца на Гегеля, бо адчуваю, што быў верны яму (у адчуванні), мірачыся з расійскаю рэчаіснасцю, хвалячы Загоскіна і падобныя гнуснасці і ненавідзячы Шылера [1]). Цяпер Гегель філістэр у вачах Белінскага і ён у тым-жа лісце да Боткіна патрабуе ў названага на рускі лад Егорам Фёдарычам Гегеля справаздачы ў ва ўсіх афярах гісторыі і ўмоў жыцця, патрабуе такога разумення гісторыі, якое-б магло супакоіць яго „мятущуюся совесть". „Калі-б мне і ўдалося,—піша Белінскі,—узлезці на верхнюю ступень лесвіцы развіцця, я і там папрасіў бы вас даць мне справаздачу ва ўсіх афярах умоў жыцця і гісторыі, ва ўсіх афярах выпадковасцей, забабонаў, інквізіцыі Філіпа II і інш. і інш., інакш я з верхняй ступені кідаюся ўніз галавою" („С. Б", стар. 12). Тут мы бачым адну з прываблівейшых рыс асобы Белінскага, яго глыбокую чалавечнасць. Але гэта чалавечнасць не была толькі псіхалагічнай рысай яго характару, яна ішла ў яго ад вялікай любові да абяздоленага, запрыгоненага народа, гэта быў дэмакратычны гуманізм, які выгадаваўся ў адмаўленні нікалаеўскай Расіі.

І калі ў перыяд прымірэння Белінскі ўяўляў гістарычны працэс як абсалютнае панаванне законаў неабходнасці, якое не пакідала месца для дзейнасці асобы, то цяпер з велізарнай сілай і вастрынёю ён зноў пачынае ставіць праблему асобы ў гісторыі. Асоба цяпер для яго—прадукт „субстанцыі грамадскіх адносін" і крытык паўстае супроць грамадска-палітычнага парадку, які за-

[1]) Зборнік „Социализм Белинского", складзены Сакуліным, 1926 г., стар. 12. У далейшым проста „С. Б."

ціскае асобу, прымушае яе пакутаваць. Ён прыходзіць да думкі аб змене гэтага парадку сілай, праз рэволюцыю, прыходзіць да соцыялізма. „Асоба чалавечая,—піша Белінскі ў чэрвені 1841 г. Боткіну,—зрабілася пунктам, на якім я баюся звар'яцець. Я пачынаю любіць чалавецтва па-маратаўску: каб зрабіць шчасліваю найменшую частку яго, я, здаецца, агнём і мячом знішчыў-бы астатнюю“ („С. Б“, стар. 17).

Белінскі знаёміцца з вучэннем соцыяліста-утапіста Сен-Сімона. Пад уплывам гэтага вучэння ім апаноўвае рэволюцыйна-соцыялістычны настрой, апаноўвае цалкам, без астатку. І зноў-жа (у верасні таго-ж года) ён дзеліцца сваімі запаветнымі думамі з Боткіным: „Дык вось, я цяпер у новай крайнасці,—гэта ідэя *соцыялізма*, якая стала для мяне ідэяю ідэй, быццём быцця, пытаннем пытанняў, альфаю і амегаю веры і знання“ („С. Б.“, стар. 24). Захапленне і пераконанасць крытыка настолькі вялікія, што ён гатовы да дзеяння. „Соцыяльнасць, соцыяльнасць—або смерць! Вось дэвіз мой“—з пафасам ускліквае Белінскі. Яго думка працуе ў напрамку адшукання шляхоў для ажыццяўлення гэтай соцыяльнасці, г. зн. соцыялізма. Гэты шлях ён бачыць у соцыялістычным выхаванні—„выхаванне у соцыяльнасці павінна гарантаваць нраўственнае і фізічнае палепшанне чалавека“. Захапляючыся утапічным соцыялізмам, Белінскі меў поўнае ўяўленне і пра рэальныя цяжкасці, якія стаяць на шляху да соцыялістычнага грамадства. Для яго няма нічога вышэй і благародней, чым спрыяць развіццю і хадзе соцыяльнасці. Але ён ведае, што гэтага зусім недастаткова. У яго свядомасці ўжо выспела думка пра рэволюцыйны шлях барацьбы з нікалаеўскім рэжымам за ажыццяўленне соцыялізма. „Але смешна было-б думаць,—піша Белінскі,—што гэта можа зрабіцца само сабою, часам, без гвалтоўных пераваротаў, без крыві. Людзі такія дурныя, што іх сілаю трэба весці да шчасця. Ды і што кроў тысяч у параўнанні з прыніжэннем і пакутаю мільёнаў“ („С. Б.“, стар. 28).

Белінскага часта называюць асветнікам, дадаючы да гэтага слова „буржуазны“. Нам думаецца, што ў гэтым дачыненні трэба зрабіць такое-ж размежаванне, якое зрабіў Ленін ў дачыненні да Герцэна. У светапоглядзе Белінскага былі рысы асветніцтва, але яны былі, папершае, найбольш моцнымі ў перыяд прымірэння з рускай рэчаіснасцю, у другія перыяды, і асабліва ў апошні перыяд у адукацыі, у свеце ён бачыў толькі паліятыў, бачыў захады, якія „не могуць пазбавіць народ сілы, і вельмі могуць выправіць або, па крайняй меры, знішчыць яго недахопы“. Асвету Белінскі разумеў як шырока-народную, дэмакратычную справу і ў апошні перыяд ён асабліва выразна адрознівае асвету пануючых класаў ад асветы народных нізоў. Ён не адзін раз выступаў у абарону неадукаванага мужыка перад так званымі „адукаванымі“ панамі. Напрыклад, у артыкуле пра творы Казака Луганскага [1], Белінскі пісаў: „Адукаванасць—справа добрая, што і казаць, але, дзеля бога, не чваньцеся ёю так перад мужыком: адкуль ведаць, што пры вашых вонкавых сродках к асвеце,

[1] В. Даля.

ён не пакінуў-бы вас далёка за сабою („С. Б.“, стар. 90). З гэтага пункту гледжання зусім зразумела найвялікшае абурэнне Белінскага на Гогаля ў яго вядомым лісце да апошняга за тое, што Гогаль выказаў думку, што для народа шкодна асвета, што поп можа больш даць селяніну ў сэнсе адукацыі, чым асвета і кнігі. Асветніцкія рысы ў літаратурна-крытычнай дзейнасці Белінскага звязаны з яго рэвалюцыйным дэмакратызмам, як правазвесніка сялянскай рэволюцыі, а не з буржуазна-ліберальным асветніцтвам. Гэтыя рысы абумоўлены неразвітасцю класавых узаемаадносін у тагочаснай рускай рэчаіснасці, яе адсталасцю і адсутнасцю шырокага народнага рэволюцыйнага руху, на які мог-бы абаперціся Белінскі ў сэнсе ажыццяўлення сваіх рэволюцыйна-дэмакратычных ідэалаў.

І цяпер у часе захаплення соцыялізмам Белінскі вялікае значэнне надае паняццю нацыянальнасці і нацыянальнай форме літаратуры. У артыкуле „Взгляд на русскую литературу 1846 г.“ ён піша: „Чалавек моцны толькі ў грамадстве, але каб і грамадства ў сваю чаргу было моцным і забяспечаным, яму неабходна ўнутраная, непасрэдная, арганічная сувязь — *нацыянальнасць*“ (падкрэслена Белінскім. *Я. Ш.*). Белінскі з вялікай прыязнасцю гаворыць пра дружбу народаў, якая ўзмацняецца з развіццём асветы, і якая ніколькі не шкодзіць нацыянальнасці кожнага народа. Ён гаворыць, што народы „бязлітасна запазычваюць адзін у аднаго, ніколькі не баючыся пашкодзіць сваёй нацыянальнасці“. У адным з лістоў Боткіну Белінскі з поўным правам пісаў, што ён адчувае, што не можа быць аўтарам для нямногіх. І тут у нацыянальным пытанні і асабліва цяпер Белінскі дэмакрат, папярэднік марксісцкай думкі ў Расіі. Яго відушчае вока пачынае ўжо адрозніваць у кожнай нацыі дзве нацыі, нацыю пануючых класаў і прыгнечанай большасці. Маючы на ўвазе пануючыя класы нікалаеўскай Расіі, Белінскі пісаў: „меншасць хутчэй можа выражаць сабою больш дрэнныя, чым добрыя бакі нацыянальнасці народа, таму што яна жыве штучным жыццём, калі супроцьставіць сябе большасці, як нешта асобнае ад яе і чужое ёй“ („Взгляд на русскую литературу 1847 г.“).

Такой глыбіні поглядаў Белінскі дасягнуў праз знаёмства з матэрыялізмам Фейербаха. Гэты-ж матэрыялізм дапамог яму ў сэнсе вызначэння гістарычнага лёсу развіцця Расіі. Ён вострай і непрымірымай нянавісцю ненавідзеў буржуазію, якая ў той час у Францыі трымала ўладу ў сваіх руках. Але ён лічыў, што працэс буржуазнага развіцця для Расіі няўхільны, і лічыў, што з пачаткам гэтага працэсу пачнецца і працэс грамадскага развіцця Расіі. У лісце да Анненкава ён пісаў: „А цяпер выразна відаць, што ўнутраны працэс грамадскага развіцця ў Расіі пачнецца не раней як з той хвіліні, калі рускае дваранства ператворыцца ў буржуазію“ („С. Б.“, стар. 97). У дачыненні да гэтага развіцця ў яго не было ілюзій і таму ён прароча заяўляў, што буржуазія „апошняе зло ў панаванні капітала над працай“. І таму з асаблівай ярасцю ён накідваецца на „арыстакратаў“ у артыкуле „Взгляд на русскую литературу 1847 г.“, якім не па нутру, што ў літаратуры пачалі пісаць праўду пра мужыка, пра запрыгоненае сялянства. Ён ба-

чыць вялікую і пачэсную ролю літаратуры іменна ў тым, што яна стварыла такі кірунак. „Ці мог не адлюстравацца ў літаратуры,— піша ў гэтым артыкуле Белінскі,—гэты новы грамадскі рух,—у літаратуры, якая заўсёды бывае выражэннем грамадства. У гэтым дачыненні літаратура зрабіла ці не больш: яна хутчэй спрыяла ўзнікненню ў грамадстве такога кірунку, чым толькі адлюстравала яго ў сабе, хутчэй апЕрадзіла яго, чым толькі не адстала ад яго".

Праз апяванне змрочнай тугі Лермантава, якога душыла нікалаеўская рэчаіснасць, праз апраўданне злога, знішчальнага смеху Грыбаедава, праз утапічны соцыялізм і філасофію Фейербаха прышоў Белінскі да непасрэднай барацьбы за шырока-народную літаратуру, літаратуру нізоў у супроцьвагу арыстакратычнай літаратуры пануючых класаў. Смерць спыніла яго дзейнасць. Белінскі памёр у поўным росквіце творчых сіл ад сухотаў. Даўно ўжо ворагі Белінскага, жандармы ад літаратуры—розныя Грэчы і Булгарыны—нашэптвалі, што дзейнасць Белінскага вельмі шкодная. Насоўваліся рэволюцыі 1848 года і ў Расіі зноў, як у часе паўстання дзекабрыстаў, запахла порахам. У такіх абставінах не мінуць-бы Белінскаму Петрапалаўкі. Смерць выратавала яго ад кіпцюроў III-га аддзялення. Змагаючыся са смерцю, у перадсмяротным сударгах Белінскі „бачыў сябе на плошчы. І плошча тая была поўна народу, і ён гаварыў народу"... Апошняя яго думка была пра народ.

Стагоддзе з чвэрткаю прайшло з дня нараджэння гэтага вялікага чалавека. Ад „гнуснай расійскай рэчаіснасці" не засталося і следу. Знішчана „апошняе зло ў панаванні над працай". У вялікім Совецкім саюзе ўпершыню ў гісторыі Расіі і ўсяго свету створаны ўмовы для вольнага развіцця, для росквіту сапраўды-народнай літаратуры ўсіх нацыянальнасцей. Паняцце „народ" „народныя інтарэсы" і г. д. у буржуазным, падзеленым на класы грамадстве заўсёды служыла шырмаю, якая павінна была прыкрываць бязлітасную эксплаатацыю мас з боку пануючых класаў. Сваё поўнае, сапраўднае значэнне паняцце „народ" набывае ў совецкіх умовах разам з уступленнем краіны ў перыяд соцыялізма. Але ствараючы сапраўды-народную літаратуру, літаратуру соцыялістычнага народа, мы з вялікаю павагаю і пашанаю павінны ставіцца да памяці тых вялікіх людзей, якія ў свой час, у надзвычай цяжкіх умовах ставілі дэмакратычныя патрабаванні літаратуры, змагаліся за літаратуру народных нізоў. У пантэоне гэтых вялікіх імён адным з першых будзе імя вялікага рускага крытыка В. Г. Белінскага, першага ў Расіі барацьбіта за народную літаратуру.

*Праф. Н. Ефімаў*

# „АРЗАМАС“ І ПУШКІН

Выдатны сяброўскі гурток „Арзамас“ меў у гісторыкаў літаратуры супроцьлеглыя ацэнкі. Адны бачылі ў ім аб‘яднанне „важнае“, нават, „магутнае“ па сваім уплыве на літаратуру і грамадскую думку, якое прынесла „бясспрэчную карысць“ рускай літаратуры і грамадскасці сваім „крытычным“ кірункам (Кавалеўскі, Аненкаў, Галахаў, Якушкін, Халанскі). Другія, наадварот, падкрэслівалі інтымны, хатні „жартаўлівы“ характар сходаў „Арзамаса“,—„адсутнасць у ім пэўнай і абдуманай праграмы заняткаў“, „сур‘ёзнай мэты“, і „слабае дзейнічанне яго на разумовы рух свайго часу“, вядомасць „не зусім па заслугах“ (Грот, Незелёнаў, Пісарэў, Майкоў. Буліч, Пыпін). Е. А. Сідараў у сваім спецыяльным нарысе „Литературное общество „Арзамас“ (ЖМНП, 1901 г., чэрвень-ліпень) меў на мэце шляхам фактычнай праверкі, на падставе папярэдні і свежых тады публікацый, матэрыялаў па гісторыі „Арзамаса“,—устанавіць, які з адзначаных двух поглядаў бліжэй да гістарычнай сапраўднасці. Ён прышоў да вываду, што факты „не пацвярджаюць досыць распаўсюджанай традыцыі, па якой значэнне „Арзамаса“ было безумоўна важным, а ўплыў выключна спрыяючым“. Сідараў патрабуе абмежаваць значэнне „Арзамаса“ ў гісторыі рускай літаратуры і асветы „ўплыў пісьменнікаў арзамасцаў на тую і другую быў, па поглядах даследчыка, вельмі спрыяючым, але гэты ўплыў трэба звязваць не столькі з арзамаскаю іх дзейнасцю, колькі з перыядам барацьбы між карамзіністамі і шышкавістамі, да ўзнікнення „Арзамаса“, якому належала працягнуць, развіць і паглыбіць тое, што было зроблена раней і які задачы сваёй далёка не выканаў у той меры, у якой можна было чакаць ад яго; застаючыся відным і крыху ідэалізаваным фактам у прыватным жыцці, групы асоб, звязаных між сабою, агульнымі ўспамінамі аб цікава праведзенай маладосці. Арзамас павінен займаць самае малае месца ў радзе фактаў, меўшых спрыяючы ўплыў на рускую літаратуру і грамадскае жыццё“. Е. А. Сідараў выказваецца і супроць пераацэнкі ўплыву „Арзамаса“ на Пушкіна: ён указвае, што „Арзамас быў адным з многіх фактараў, што развіла ў юнакупаэце літаратурны густ і грамадзянскую свядомасць“.

У сваім нарысе Е. А. Сідараў не выкарыстаў усіх важных дакументаў па гісторыі Арзамаса. Не ўсе яны былі к часу з‘яўлення яго нарыса выдадзены або прынамсі знойдзены. З семінарыя В. М. Эйхенбаума па вывучэнню літаратурнага быту ў дзяржаўным

Інстытуце Гісторыі мастацтва вышла кніга: М. Арансон і С. Рэйсер „Литературные гурткі і салоны“. Тут дадзен мантаж рознастайнага матэрыялу, характарызуючага Арзамас, але яго складальнікі не атрымалі доступу да захаваўшыхся ў Грамадстве любіцеляў старадаўняй пісьменнасці арзамаскіх пратаколаў, і гэта непаўната крыніц затрудніла ў некаторых адносінах іх даследчую работу. Даследчыкі бачаць у Арзамасе „тыпова-партызанскую групу з партызанскімі метадамі вядзення вайны, супроцьпастаўленую цяжкай і грузнай пазіцыйнай стратэгіі Гутаркі“, „сапраўднае гняздо партызанскіх выступленняў супроць афіцыяльнай літаратуры таго часу“. У гісторыі гуртка яны вызначаюць пад фармалістычным пунктам гледжання два моманты: перш за ўсё, выкананне пэўнай палемічнай мэты, іменна—партызанскія выступленні супроць архаістаў з „Беседы любителей русского слова“. Калі ў 1816 г. памірае „Беседа“ і палеміка з ёй траціць свой сэнс, Арзамас перабудоўваецца. „Паўстала пытанне аб пазітыўнай творчасці самога Арзамаса“. „Палемічны задзёр павінен уступіць сваё месца творчай рабоце. Пачынаюцца падрыхтоўчыя працы па выданню часопіса“, Літаратурна-палемічнае значэнне Арзамаса—у перамозе карамзінізма над архаізмам. Спыненне дзейнасці гуртка даследчыкі тлумачаць чыста фармалістычна: „Гурток, створаны для адной пэўнай мэты, не перабудоўваецца так лёгка, калі мэта змяняецца. Відаць, метады працы Арзамаса, накіраваныя на руйнаванне архаізма, аказаліся недастатковымі пры спробе творчай работы. У палеміцы з „Беседой“ маглі прымаць удзел усе групы карамзіністаў; у творчай-жа працы павінен быў вызначыцца і вызначыўся раскол між старэйшымі і малодшымі карамзіністамі... Такім чынам, літаратурна-бытавыя ўмовы азначалі развал Арзамаса“. Ні класавага твару гуртка, ні грамадска-палітычнай дынамікі лёсу яго даследчыкі фармалісты, зразумела, не раскрываюць.

Складальнік зборніка „Эпіграма і сатыра“ В. Орлоў правільна зазначыў, што дзейнасць „Арзамаса“ павінна быць перагледжана“. У корані няверным будзе (паводле яго заўвагі) разуменне гэтага гуртка, як чыста бытавога, жартаўлівага аб'яднання. Павінна быць асабліва падкрэслена тая роля, якую адыгрываў у Арзамасе М. Ф. Орлоў і Н. І. Тургенеў. Народжаны ў пылу бурлівай палемікі (шышкавістаў і карамзіністаў), „Арзамас“ спрабаваў перайсці на рэйкі шырокай грамадскай дзейнасці, жартаўлівыя пратаколы сваіх паседжанняў, напоўненыя „арзамаскай лухтою, змяніць на сур'ёзны грамадска-палітычны часопіс“. Кірунак Арзамаса пераважна крытычны і прынцыпова-баявы. В. Орлоў асэнсоўвае яго спецыфічна. Арзамас з'явіўся як-бы апошнім этапам развіцця літаратурна-бытавых форм карамзінізма ў барацьбе супроць архаічнай плыні тагочаснай літаратуры. „Асноўным творчым (і бытавым) прынцыпам арзамасцаў быў прынцып востраслоўя, дасціпнасць... Лухта была таксама ўзведзена ў Арзамасе ў прынцып літаратурнай барацьбы... Адсюль той небывалы рост іх эпіграмічнай і сатырычнай літаратуры ў 10-я гады XIX стагоддзя, якая ў значнай сваёй частцы вышла з нетраў Арзамаса“. Спецыфічна, фармалістычна тлумачыць В. Орлоў і „пераход Арзамаса“ (які, між іншым, не

адбыўся) да іншых прынцыповых і арганізацыйных форм: „жартаўлівая сістэма, прынятая спачатку, якая трымалася два гады, адыграла сваю ролю ў рэальных палемічных абставінах"; пасля таго, як „знешняя перамога карамзіністаў (над шышкавістамі) стала наяўным фактам", старая сістэма Арзамаса аказалася вычэрпанай, „крытыка лухтою" страціла свой сэнс. Змагацца не было з кім. Перад арзамасцамі паўстала пытанне аб экспансіі літаратуры ў грамадскасці". Насупроць думкі фармалістаў, барацьба шышкавістаў з карамзіністамі была шчыльна звязана ад самага пачатку з грамадска-палітычным жыццём Расіі канца XVIII і пачатку XIX стагоддзя. І не адной Расіі, але і Еўропы, таму што паказаны перыяд у новай гісторыі з'яўляецца адной з самых міжнародных эпох, калі можна так сказаць. Дастаткова назваць толькі два такіх фактары, як прамысловы пераварот у Англіі і вялікая французская рэвалюцыя з напалеонаўскімі паходамі. У адпаведнасці з метадалагічнай установкай складальніка ў самым зборніку падабраны эпіграмы і сатыры толькі тыя, якія з'яўляюцца „дакументамі літаратурнай барацьбы", адлюстроўваюць грамадскія супярэчнасці непасрэдна на літаратурным фронце і на спецыфічнай мове літаратурных груповак. Матэрыял падабран усё-ж цікавы і багаты.

Мантаж вядомых матэрыялаў, якія адносяцца да апісання гурткавога жыцця Арзамаса, дае і выпушчаная выдавецтвам „Академия" кніга „Літаратурныя салоны і гурткі, першая палова XIX стагоддзя".

Прабелы нашых звестак аб Арзамасе істотна папоўніла, урэшце, нядаўна зробленая публікацыя арзамаскіх пратаколаў, якая ўпершыню ўводзіць у навукова-даследчы зварот асноўныя дакументы па гісторыі гэтага літаратурнага гуртка—„Арзамас і арзамаскія пратаколы".

Сучасныя даследчыкі (В. Нечаева, Д. Благой, М. С. Бараўкова-Майкава) ставяць пытанне аб соцыяльна-палітычным твары гуртка, бо толькі шляхам установкі месца і ролі арзамасцаў і іх праціўнікаў у класавай барацьбе іх часу, можна прыйсці да правільнага вырашэння пытання аб Арзамасе, да высвятлення яго гістарычнага значэння, яго літаратурнай і грамадска-палітычнай функцыі.

„Арзамас", праіснаваўшы менш 3-х год з кастрычніка 1815 г. да пачатку 1818 г., аб'яднаў у сваіх радах усю перадавую фалангу рускай літаратуры (Бацюшкаў, Жукоўскі, Пушкін, Вяземскі, В. Давідаў і іншыя) з дзеячамі будучых тайных арганізацый [1]) дзекабрыстаў (Нікалай Тургенеў, Міхаіл Орлоў, Нікіта Мураўёў).

Яго арганізавалі „карамзіністы" для таго, каб праводзіць барацьбу з „шышкавістамі", у супроцьвагу арганізаванаму Шышковым разам з Дзержавіным згуртаванню пад назвай „Беседа любителей российского слова" (1811—1816), каб дапячы „холдеям" „мракобесия" з гэтай „Беседы" і іншым іх „скопищам" („Российская Академия", Имп. Публичная Библиотека", „Имп. Академия Художеств").

„Страшэнная вайна на Парнасе, абвостраная барацьба між двума

[1]) Характарыстыку асабовага складу „Арзамаса". бытавыя літаратурныя партрэты ўсіх яго членаў дае В. Верасаеў у кніжцы „Спутники Пушкина". 1934 г., выд. „Мир", ст. 121—174.

рэзка вызначанымі літаратурнымі партыямі, між „карамзіністамі“ і „шышкавістамі“, „арзамасцамі“ і „беседчыкамі“ была барацьбой між літаратурнымі групоўкамі двух пластоў“ тагочаснага дваранства, варожай сустрэчай двух варожых грамадска-палітычных ідэалогій. Класікі, якія накіравалі дзейнасць „Беседы“ супроць тэорыі і практыкі „чуллівасці“ супроць наватарства сентыменталістаў, літаратурныя стараверы—у асобе Шышкова, Шырынскага-Шыхматова, Волкава, Галеніщчава-Кутузава, Хвастова—усіх гэтых князёў і графоў—былі ў асноўным ідэолагамі буйнапамеснага „правительствующего“ дваранства, блізкага да трону „вельможства“, феадальна-рэакцыйных вярхоў. Карамзіністы ў большасці сваёй, наадварот, былі прадстаўнікамі, сярэдне-памеснага правінцыяльнага дваранства, якое жыло, праўда, не толькі ў правінцыяльных гарадах, але і ў Маскве, і ў Пецярбурзе. Яно збіралася тут ў гасцінных і салонах; дваранства, якое не служыла, не шляхетнае, не прымаўшае ўдзелу ў непасрэдным палітычным кіраванні краінай, але затое больш цесна звязанае з памеснай гаспадаркай. Гэтае дваранства ўжо адчувала пад сабой няўстойлівую эканамічную базу, прасачванне ў старую прыгонную таўшчыню новых капіталістычных элементаў, новых буржуазных адносін: дваранства, якое ступіла на шлях паступовага буржуазнага перараджэння.

„Беседа любителей российского слова“ злучала ў сабе, за невялікімі выключэннямі, людзей без усякага літаратурнага таленту, але з яскрава выражанай прывязанасцю да літаратурнай і наогул феадальна-прыгоннай старыны.

„Беседа“ была скантструявана па ўзору вышэйшай урадавай установы таго часу дзяржаўнага совета. Паседжанні яе, якія адбываліся ў палацы Дзяржавіна, абстаўляліся афіцыйнай параднасцю: наведвальнікі прапускаліся па білетах, члены і госці з'яўляліся на іх у мундырах і ардэнах, дамы—у бальных плаццях, у асобных выпадках была музыка з хорамі, якія спецыяльна для „Беседы“ укладаў Бартнянскі. У супроцьвагу дзяржаўным мужам „Беседы—міністрам, генералам і біскупам—арзамасцы атэстуюць сябе „Обществом безвестных людзей“, „безвестных литераторов „у супроцьвагу ўрачыстым сходам саноўнай „Беседы“ надаюць свайму аб'яднанню выгляд вясёлых прыватных вечароў, шумных, сяброўскіх зборышч.

У „Цэрамоніяле“ Арзамаса адразу быў узяты жартаўлівы тон—па своеасабліваму статуту згуртавання, створанаму дасціпнасцю Жукоўскага і Блудава і парадзіраваўшаму звычаі вучоных Акадэміі і масонскіх лож. Знешне падкрэсленая антыбеседнасць Арзамаса выражала пратэст яго супроць „Беседы“ па сутнасці, як арганізацыі рэакцыйнай, ідэалагічнае разыходжанне двух соцыяльных груповак.

„Барацьба за „старую“ і „новую“ мову, „славянскі“, „высокі склад“ і карамзінскі, еўрапеізаваны „французскі штыль“ была літаратурным выяўленнем агульнай барацьбы двух ідэалогій—ідэалогіі прыгонніцкага застою, феадальна-царкоўнай ідэалогіі і „свецкай“ ідэалогіі еўрапеізма, „асветы“, г. зн. буржуазнага руху“.

Шышкоў у час палемікі з праціўнікамі выразна выказаўся ў тым сэнсе, што імкненне да якіх-бы то ні было літаратурных рэформ з'яўляецца бясспрэчным доказам маральнай разбэшчанасці і палітычнай неблаганадзейнасці. Такой сваёй заявай ён надаў загарэўшымся літаратурным спрэчкам характар барацьбы між двума грамадска-палітычнымі кірункамі.

Змаганне Шышкова і яго прыхільнікаў за царкоўна-славянскія звароты ў рускай мове, за адкрываемы імі „разум нравоучительных духоўных книг“, паўстанне супроць іншамоўных слоў у рускай літаратуры, якія цягнулі за сабою і новыя „разуменні“—неалагізмы сентыментальнай школы, супроць „пагібельнай філасофіі“ французскіх кніг, супроць „вольнадумнага і якобінічнага яду“, твораў Карамзіна, адшуканай у іх пропаведзі „безбожия и безначалия“—гэта барацьба супроць еўрапеізацыі, буржуазнага развіцця і самага „страшэннага“ ў ім—рэволюцыі. Шышкоў асуджае пранікненне ў Расію не проста новых слоў і паняцця́ў, а французскіх, і не проста французскіх, а рэволюцыйных. Ён называе сваіх ворагаў „шайкай“ пісьменнікаў, якія знаходзяцца ў змове супроць славянскіх кніг, на карысць французскіх, у якіх можна, як „в преисполненном опасностью море, чистоту нравов преткнуть о камень“. Ён злосна нападае на „развратные нравы, которым новейшие философы обучали род человеческий, и которых пагубные клады после толикого пролития крови и поныне еще во Франции гнездятся“. Ён усхвалёван тым, што „следы языка и духа чудовищной французской революции, доселе нам неизвестны, мало-по-малу, но, прибавляя по часу скорость и успехи свои, начали появляться в наших книгах“: „когда чудовищная французская революция,—скардзіцца ён,—поправ все, что основано на правілах веры, чести и разума, произвела у них новый язык, далеко отличный от языка Фенелонов и Расинов, тогда и наша словесность, по образцу их новой и немецкой, искаженной французскими названиями словесности, стала делаться непохожею на русский язык“, „презрение к вере стало сказываться в презрении к языку словенскому“. Вось з якіх меркаванняў узнікла шышкоўскае „Рассуждение о старом и новом слове“, з рэакцыйнага імкнення адмежаваць ад патрасення не толькі мову, але наогул патрыярхальнае прыгонніцтва.

Цэнтр цяжару барацьбы Шышкова з „карамзіністамі“ ляжаў не ў мове, не ў філалогіі, а ў агульнай непрыхільнасці Шышкова да навіны: Шышкоў змагаўся не за „старый слог, а за старый способ думак,—у рэформе Карамзіна яму не падабаўся не гэтак „новы слог“, колькі „новыя ідэі, новы літаратурны „дух“, які быў такі чужы гэтаму абломку старога прыгонніцкага дваранства XVIII стагоддзя, што застыла на архаічным класіцызме. Шышкоў з'явіўся як-бы найбольш позні астатак аджыўшага класіцызма—не толькі літаратурнага, але і грамадскага“. Гэты „классицизм“ Шышкоў з пенай каля рота абараняў і ў „слоге“ і ў літаратуры, і ва ўсім грамадскім жыцці. Шышкоў з яго адкрытым абскурантызмам узначальваў „Российскую академию“ ў якасці прэзідэнта. Сімпатыі Акадэміі былі ў мінулым: яе літаратурнымі ідэолагамі заставаліся традыцыі Ламаносава, Сумарокава, Дзержавіна, які і сам яшчэ жыў

і быў самым відным членам Акадэміі. Новых і ў грамадстве і ў літаратуры ліберальных і тым болей рэволюцыйных імкненняў— гэтыя людзі не жадалі прызнаваць, лічылі сваім святым абавязкам усяк ім супроцьдзейнічаць, накіраваць усе гэтыя новыя плыні і імкненні ў рэчышча „старога слова“... На дапамогу Акадэміі ў 1811 г. узнікае „Беседа любителей российского слова“, гурток такіх-жа або нават тых-жа самых асоб, якія былі дзеячамі і ў Акадэміі. „Беседа“ ўзнікла ўжо са спецыяльнай мэтай—служыць выключна інтарэсам „старога слога“, захаванню і падтрыманню ў літаратуры і ў грамадстве класічных традыцый XVIII стагоддзя. Чым энергічней была дзейнасць Акадэміі і „Беседы“ ў гэтым кірунку (маем на ўвазе рад шматтомных выданняў Акадэміі, якія хутка выходзілі адно за другім („Сочинения и Переводы“, „Известия“; „Чтения в беседе любителей русского слова“), тым большая заслуга ў пратэсце, з якім выступіў Арзамас.

„Арзамас“ставіў сабе задачу аднаўлення ў Пецербурзе Маскоўскага „Святого союза любви“, заснаванага ў Маскве ў 1801 г. былымі студэнтамі Маскоўскага універсітэта пад кіраўніцтвам праф. Мерзлякова і дырэктара Ін-та П. Тургенева на руінах новікаўскага „Дружеского общества“ і не без перайманне ў гетынгенскага ун-та „Союза добродетели“, Тугенбунда. Маскоўскі „Союз святой любви“ праіснаваў нядоўга—гады 3—4; ён распаўся, відаць, з прычыны перасялення ў Пецербург галоўнейшых яго членаў: Карамзіна, Тургеневых, Жукоўскага, Блудава і інш. Асноўныя пункты статута Арзамаса напамінаюць статут Маскоўскага дружацкага літаратурнага т-ва. Маскоўскі універсітэцкі „союз святой любви“ знаходзіўся ў жывых зносінах з Веймарскім літаратурным кругам Гётэ, Віланда, Гердэра. Па пытанні аб рамантызме—гэтым, па азначэнню В. Гюго, своеасаблівым лібералізме літаратуры, з яго барацьбой за вольнасць ад „правіл“ класічнага кодэкса творчасці, які стаў асабліва рутынным пасля таго, як прамысловы пераварот ў Англіі і вялікая буржуазная рэволюцыя ва Францыі змянілі ў корані саслоўныя адносіны ў Еўропе—па пытанні аб гэтым новым стылі Маскоўскі сяброўска-літаратурны гурток раскалоўся на дзве партыі: Мерзлякоў застаўся на баку класіцызма; моладзь—Тургеневы, Жукоўскі і інш.—спачувальна віталі рамантызм. Калі гэта моладзь, гэтыя маскоўскія гарачыя прыхільнікі Гётэ і Шылера, гэтыя рамантыкі сабраліся мала-па-малу к 1815 г. у Пецербурзе, то яны, з мэтай паспяховасці барацьбы з абаронцамі класіцызма, якія групаваліся вакол Шышкова ў „Беседе любителей российского слова“ і не без перайманне ад т-ва франкфурцкіх і страсбургскіх вольных геніяў у Германіі, утварылі, з свайго боку, таварыства, выпадкова названае Арзамасам. Але гэтае таварыства па сутнасці ўяўляла аднаўленне Маскоўскага „Дружеского литературного общества“ ў Пецербурзе, бо па законах апошняга,— „если-б случилось, что по каким-либо обстоятельствам всем или большей части членов его должно было расстаться, в таком случае общество не должно рушиться“ (Тіханраваў).

Барацьба з „Беседай“ напаміналы арзамасцам аналагічную барацьбу літаратурных партый у Германіі ў перыяд Sturm und

Drang'a. Сімпатыі літаратурнай моладзі, якая адлюстроўвала буржуазныя тэндэнцыі ў дваранстве, былі на баку „штюрменов", на баку „бурных геніяў", Kraftgenien—гэтых лідэраў дробна-бюргерскай літаратуры, заклятых ворагаў патрыцыянска-феадальнай ідэалогіі. Натуральна было гэтай моладзі, якая ўзброілася супроць літаратурнай рутыны, запазычыць з паданняў літаратурнай моладзі германскага Sturm und Drang'а некаторыя знешнія прыёмы палемікі і барацьбы. Адсюль перш за ўсё прысваенне членамі Арзамаса самім сабе назвы „геніяў": „По Арзамасской табели о рангах всякій член общества носил титул „Его превосходительство гений Арзамаса". Адсюль і імкненне пераймаць у буйных геніяў і сродкі барацьбы: жартаўлівы і сатырычны характар паседжанняў Арзамаса, бесшабашныя, вясёлыя жарты, здзекванне не толькі са сваіх літаратурных праціўнікаў, але і з членаў Арзамаса. Веймарскае літаратурнае т-ва І. П. Тургенеў называў „веймарскай афинскай академией". Арзамас па водгуку Карамзіна—„вот истинная русская академия, составленная из молодых людей умных и с талантом".

Арзамас быў баявым гуртком прыхільнікаў новых шляхоў і форм у мастацтве, у супроцьвагу абаронцам „старого слога" і вузкіх правіл устарэлай паэтыкі XVIII стагоддзя. Пад лозунгам Карамзінскага літаратурнага перавароту ён адстойваў паэтычную вольнасць і незалежнасць (незалежнасць ад ідэалогіі паэтыкі феадальна-прыгонніцкага дваранства, якое падтрымлівала традыцыйны класіцызм). Ён вельмі любіў супроцьстаўляць новыя імёны і таленты, старым вядомым, не шкадаваў аўтарытэтаў, не адступаў перад выкрыццём угрунтаваных, але ўсё-такі фальшывых рэпутацый. Арзамасцы прапагандавалі рамантызм, выражалі спачуванне перадавым плыням тагочаснай грамадскасці. Гэта былі ў пэўным сэнсе наватары і лібералы—прыхільнікі новых мастацкіх і соцыяльных утварэнняў.

„Арзамас" выступае з рэзкай, якая ездзе „верхом на галиматье", крытыкай „сословия словенофилов", высмейваючы „ўвесь сабор непісьменных славян" і іх „тьме беседной", іх рэтраграднай ідэалогіі супроцьставіць сваю асветніцкую „французскую" ідэалогію, крытычныя пачаткі „Разума". Арзамасцы жорсткімі насмешкамі абсыпаюць не толькі „стары слог" сваіх ворагаў, але і дарагія для іх „священные", „духовные книги", у сваіх здзеклівых прамовах, прысвечаных адпяванню „жывых нябожчыкаў" з „Беседы", парадзіруюць біблійскія тэксты, сімвал веры, малітвы, пропаведзі і т. д. Арзамаскія антыцаркоўныя пародыі здзейсняюць на рускай глебе літаратурную лінію, якая найвышэйшае сваё выражэнне знайшла ў Пушкінскай „Гаврилиаде".

Не на „слово и разум" духоўных кніг абапіраліся яны, а на энцыклапедзістаў, на „добродетели, установленные Вольтером", арыентаваліся на новую, асвечаную буржуазнай рэволюцыяй, Францыю. У рытуал паседжанняў Арзамаса быў уведзен поўжартаўлівы, але тым не менш характэрны культ Вялікай французскай рэволюцыі. Па тыпу новай рэволюцыйнай эры летазлічэнне арзамаскіх пратаколаў вялося то „от зачатия Общества", то „от Липецкого потопа" (камедыя кн. Шахоўскага „Липецкие воды", накіра-

ваная супроць Жукоўскага, выклікала рэзкае абвастрэнне палемікі між шышкавістамі і карамзіністамі, што прывяло да арганізацыі Арзамаса). Звярталіся адзін да аднаго арзамасцы з цывільнымі словамі „граждане" і „сограждане", вельмі значную пачэсную ролю ў рытуале адыгрывала „ўпрыгожанне якабінцаў"—„чырвоны каўпак": ён служыў для адрознівання чарговага старшыні (або прэзідэнта) паседжання, пад ім навічок-член (ён-жа аратар) даваў урачыстую клятву; і, наадварот, на галаву правіннага сябра гуртка надзяваўся *белы каўпак.* Зазначым, што пасля Пушкіна для абазначэння свайго юнацкага „вольнадумства" ўжыў вобраз іменна арзамаскага „красного колпака" (у пасланні к Філімонаву, 1828 г.: „Но старый мой колпак изношен").

Вядома, усе гэтыя факты ніколькі не сведчаць аб простай рэвалюцыйнай настраёвасці арзамасцаў, іх першапачатковага асноўнага ядра, але ў той час усе яны выяўляюць сімптаматычныя праявы дваранскага лібералізма, які шырока распаўсюдзіўся ў другой палавіне 10-х гадоў мінулага стагоддзя. Аднак лібералізм першапачатковых арзамасцаў не мае ніякай, уласна, палітычнай мэтанакіраванасці і раскрываецца пад „скромным знаком литературной свободы". („Арзамас и арзамасские протоколы", Л. Г., 1933 г. ст. 179.

Усе асноўныя ўдары „халдзеям-беседчыкам" наносяцца арзамасцамі зброяй жартаў, эпіграмы, сатыры, памфлета, пародыі, якімі дыскрэдытаваліся архаісцкія творы бяседных аўтараў. Арзамасцы не ідуць далей абстрактных, хоць і моцных, супроцьпастаўленняў сябе бяседчыкам у якасці „света" і „тьмы", супроцьстаўленняў, якія напамінаюць выдатную барацьбу гуманістаў супроць абскурантаў. Хіба не напамінае „Пісьма цёмных людзей"—саркастычная тырада, укладзеная адным з арзамасцаў—весельчакоў у вусны новага прэзідэнта Акадэміі (Мастацтва), „принадлежащего искони Беседе". „Святло,—сказаў ён па прыбыцці ў Акадэмію,— святло заўсёды было і будзе працаўнікам вачэй і розуму нашага. Змрок, сябры, вечны змрок ёсць і павінен быць нашай доляй. Святло для Арзамаса, змрок для „Беседы". З гэтага часу для абодвух Акадэмій няхай будзе змрок". Заўсёды гучаць у прамовах і пасланнях „арзамаскіх гусей" „сие два враждебные словы: „Арзамас и Беседы", настойліва падкрэсліваецца, што Арзамас адмовіўся ад змроку і „абавязаўся служыць святлу", што Арзамас—„сталіца асветы, бацькаўшчына талентаў", якія сабраліся „пад сцягі густу на знішчэнне гракоў невуцтва і расколаў", „на пагібель ворагаў таланта і розуму", што сумбур—„цар беседчыкаў", што асліныя вушы і дурацкая шапка—„вядомыя прыналежнасці (attributs) іх, „усё арзамаскае, г. зн. усё благароднае, а ад бяседчыкаў, „усё дурное і нуднае на свет выліваецца". Узаемаадносіны Беседы і Арзамаса азначаюцца так: „Беседа створана на тое, каб вярзці і пісаць глупства. Арзамас на тое, каб з яе насміхацца і вызваліць „рускую славеснасць ад яе варварства". На браме Беседы Дашкоў чытае таямнічы надпіс: „Сон, смерть и небытие" і ў сваім апавяданні аб бачанні „чараўнічага люстра" адпраўляе яе старшынь, членаў і супрацоўнікаў у суседні з Бяседаю на Фонтанцы „са-

праўдны дом вар‘яцтва“, заканчваючы вядомай эпіграмай Вяземскага:

Когда Державин пред концом
Свой дом не отказал беседчикам в наследство,
Он знал их твердые права на желтый дом
И прочил им соседство.

Складаючы формулу ўрачыстага абяцання для членаў Арзамаса, Дашкоў уводзіць у яе клятву на выпадак парушэння абяцання: „Да буду извергнут из среды благомыслящих арзамасцев), как Дед Седой (арзамаскае прозвішча Шышкова) от рождения извергнут из числа хороших писателей“, а другі арзамасец з бяседнымі аўтарамі расправіўся яшчэ больш рашуча: „Рассеяны листы без уважения и порядка в отдаленнейшей из моих комнат ясно доказывают,—гаварыў ён у Арзамаскім згуртаванні,—на какое единственное употребление определил я все сочинения сил авторов, предпочитая слову и красноречию их книг приятную мягкость бумаги, на коей они напечатаны, и с коей передавал я их вторичному тиснению“.

У 1816 годзе „Беседа“ закрылася, стала „нябожчыцай“, „дыхлінай“. „Их превосходительства гении Арзамаса“ вясёла аплакалі яе скананне, пажадалі ёй „вечнага супакаення ў бездані нікчэмнасці і забыцця“, але літаратурнае паражэнне шышкавістаў зусім не азначыла іх соцыяльна-палітычнага краху. Узмацнілася як раз рэакцыя эпохі свяшчэннага саюза, носьбіты феадальна-дваранскай рэакцыі высунуліся наперад. Шышкоў, які яшчэ ў „отечественную вайну“ наблізіўся да Александра першага, як патрыёт, які валодае ўрачыстай мовай, і які пісаў па даручэнню цара ўсе самыя важныя загады арміям, адозвы, маніфесты і рэскрыпты, быў зроблен, потым (у 1824 г.) міністрам Народнай асветы. На гэтым пасту ён фанатычна праводзіў такія крутыя меры, што міністэрству асветы была дадзена назва міністэрства зацямнення. Пераможаны на літаратурным участку працаўнік пасля самаліквідацыі (Беседы) у сваю чаргу замацаваўся на пазіцыях палітычных. Трэба было ад „дасціпнай лухты“ ад „умных и пристойных проказ“, перайсці да новай формы барацьбы з ім—да грамадска-палітычнай дзейнасці, выйсці за вузкае, замкнёнае кола традыцыйнай арзамаскай тэматыкі, жартаўлівай лаянкі „Беседы“ і „ангелаў яе“, „з акадэмічных закуткаў бяссэнсіцы“.

Ужо ў сярэдзіне 1816 г. такі, ва ўсякім выпадку не асабліва ўдумлівы арзамасец, як Васілій Львовіч Пушкін, пісаў сваім таварышам па Арзамасу:

Прямая наша цель есть польза, просвещенье,
Богатство языка и вкуса очищенье:
*Не должно ли шутя о пользе рассуждать?*
Глупцы не перестают возиться и писать,
Дурачить Талию, ругаться Мельпомене:
*Смеемся мы тайком*—они кричат на сцене.
Нет, явною войной искореним врага.

Папрокі В. Пушкіна былі яшчэ мяккай заявай пратэсту супроць дзейнасці „литераторского товарищества“, не адпавядаўшай агуль-

най сітуацыі часу. На многа мацней і выразней думка В. Пушкіна аб недастатковасці пародый і жартаў, адмысловай весялосці, прывычкі „умно подурачиться“ для грамадскай „пользы“ была затым выражана Уваравым, які ў першай палове 1817 г. напісаў у „Арзамасское Общество благородных людей от члена Старушки донесение“. Свой пратэст супроць пустапарожнай весялосці Увараў укладвае ў вусны „старца“—мясцовай арзамаскай ракі Тошы—які быццам „прожурчал“ аўтару такога роду—прамову: „Гусі, гусі, хто вас не любіць, ды ці доўга вам шалець? Царства Літаратуры амаль у вашых руках[1]), калі пакінеце вы тапіць у маіх чыстых струменях карлікаў Беседы і Акадэміі?—Даўно ужо няма іхных папяровых тронаў, іхных сінцовых скіпетраў, іхных мішурных карон. Кіньце з імі валэндацца, які чорт вас з імі звязаў. Пахвальна было паказаць свету, што яны дурні, але для гэтага досыць уласных іхных твораў. Пахвальна было сагнаць з Парнаса нясцерпны натоўп лжэгеніяў, але ён даўно ўжо разбегся пад вашымі ўдарамі—чаго-ж вам больш?—Але не павінны вы задаволіцца гэтымі мізэрнымі трафеямі?—Ад вас я чакаю большага, я чакаю аднаўлення літаратуры бацькаўшчыны; я чакаю перамогі розуму і густу: выратоўвайце іх, як калісьці вашы продкі выратоўвалі Капітолі; цяпер не адзін Брэнн ім пагражае; натоўп пачварных Брэннаў з гасільнікамі ў руках імкнуцца абтушыць тую бедную іскру чалавецтва і рассудку, якую аддаў на вашы клопаты. Хамы завалодалі і Парнасам і Губернскім Праўленнем; яны варушацца на вахтпарадзе і ў міністэрскіх пярэдніх; яны часам з'яўляюцца ў лубачнай камедыі, часам і ў камітэтах чалавекалюбівага Таварыства“. „Ліку ім няма, дружыны іх крылатыя. Час ім гэтыя крыллі падрэзаць. Час прабіць іх густы цэнтр. Час спужаць іх святлом розуму, разагнаць іх зборышча ўрачыстым абвяшчэннем вайны доўгай і смелай. Тады я з радасцю буду здалёк слухаць вокліч вашай перамогі і з гонарам прызнаваць вас за маіх сыноў, за сапраўдных гусей Арзамаскіх“.

Такім чынам, Увараў ставіў у літаратурнай дзейнасці арзамасцаў сур'ёзныя не толькі літаратурныя, але і грамадскія задачы ў сэнсе барацьбы з рэакцыяй, якая мацнела.

Гэта змена ўстаноўкі „Арзамаса“ знайшла сабе гарачае падтрыманне асабліва з боку новых членаў, якія ўвайшлі ў склад арзамаскага таварыства ў 1816-17 г.

Побач з умацненнем урадавай рэакцыі, якая адкінула старую феадальную Расію ў абдымкі „священного союза“ да аракчэеўшчыны і мракабеснай містыкі, нарастала актыўнасць капіталізуючыхся пластоў дваранства, носьбітаў буржуазнай ідэалогіі. Узнікаюць „тайные общества“ (у 1814 г. рэспубліканска-арыстакратычнае“ Орден русских рыцарей“, у 1817 г. „Союз спасения“). Хваля дваранскай рэволюцыйнасці дакатваецца і да Арзамаса. У „Арзамасское общество безвестных людей“ уступаюць: Н. І. Тургенеў, адзін з верхаводаў будучага „Союза Благоденствия“ і „самая сильная голова“ пазнейшага паўночнага згуртавання дзекабрыстаў, аўтар выдатнай кнігі „Опыт теорий налогов“, далей—

[1]) Да 1816 г. спыніла сваё існаванне „Беседа“.

адзін з віднейшых дзеячаў „Ордена русских рыцарей“ і „Союза Благоденствия“, папулярны генерал М. Ф. Орлов; урэшце, буйнейшы ідэолог Паўночнага грамадства, аўтар канстытуцыі, Нікіта Мураўёў, залічаны следчай камісіяй да першай катэгорыі вінаватых у змове. Гэта былі прадстаўнікі ўжо не проста дваранскага лібералізма, як першапачатковае ядро Арзамаса, а нарастаючай дваранскай рэволюцыйнасці. Яны ўступілі ў Арзамас „па пазнейшаму апастэрыорнаму меркаванню кансерватыўнага Вігеля, „с дурными замыслами“ г. зн., трэба думаць, з намерам выкарыстаць грамадства ў рэволюцыйных мэтах, рэволюцыянізаваць яго (Ф. Ф. Вигель, записки, изд. Артели писателей Круг) і яны спакушалі арзамасцаў выйсці на палітычную арэну.

Першае-ж выступленне Н. І. Тургенева на паседжанні Арзамаса ўносіць у жартаўлівую атмасферу гуртка, у прытулак яго літаратурных забаў—сур'ёзную грамадска-палітычную праблематыку. Сваю ўступную прамову ён накіроўвае па адрасу „отпрыска“ Беседы—Імп. Публічнай бібліятэкі, на ўрачыстай гадавой справаздачы якой ён прысутнічаў, сумуе аб тым, што „сей храм щедрот монарших“ ад усякіх іншых бесталанных кніга-хавален адрознівае „счастливый дар“—„просить и просить покорнейше“, і з асаблівым абурэннем накідваецца на „патрыятычныя развагі“ выдаўца „Сына Отечества“ Н. І. Грыча, які склаў для Бібліятэкі „так званы агляд так званай літаратуры расійскай 1816 г. „У гэтым надзвычайным годзе „слухачам Бібліятэкі“ былі паведамлены „новыя адкрыцці“ аб тым, „што“ англічаны, французы, італьяны не маюць ні добрых паэтаў, ні добрых гісторыкаў, ні літаратараў, ні вучоных“ і што „прычына такой беднасці не інакш як тая, што ў Лондане, Парыжы, Рыме няма татарскіх мячэцяў.“ Тургенеў абураны, што ілжывымі размовамі аб цярплівасці веравызнанняў на справе прыкрываецца „терпимость вранья“ „вернага сына бацькаўшчыны“. За ліберальнымі фразамі ён добра бачыць рэакцыйную сутнасць. Ад цярплівасці веравызнанняў „Сын Отечества“ перайшоў у сваім аглядзе да цярплівасці кнігадрукавання, „первое слово невольно вылившееся из пера его, было—цэнзура“. Гаворачы аб свабодзе кнігадрукавання, ён разам з тым стаў усхваляць цэнзуру, як гарантыю „благоразумной свободы“. Я мімаволі ўспомніў,—гаварыў Н. І. Тургенеў у сваёй арзамаскай прамове,—як не толькі ў нас, але і ва ўсёй Еўропе прыемнымі назвамі стараюцца прыкрываць аголенасць дэспатызма і парока. Ужо даўно прастадушныя людзі не верацъ словам, якія суправаджаюцца эпітэтам добрага розуму, а пад добрым чалавекам разумеюць эгаіста, пад благаразумнымі паводзінамі, часта подлыя паводзіны, пад благаразуміем цэнзуры—благаразуміе паліцыі“ („Арзамас“ и арзамасские протоколы“, стар. 192-193).

У жартаўлівым, як заўсёды, пратаколе „18-го ординарного“ паседжання Арзамаса, апісана, як Тургенеў—„новый член, младый, но духом зрелый“—гаворыць сваю прамову: „твар яго палаў агнём геройства, і галава, здавалася нам дымілася, як Везувій. „Извержение черепа совершилось, пролилась река лавы“. Гэта вулканічная прамова насіла палітычны характар.

І да свайго фармальнага ўступлення ў „славный Арзамас“

Н. Тургенеў наведваў яго паседжанні. У сваім „Дневнике“ ён піша: „Учора быў я на паседжанні Арзамаса“ і тут-жа зазначае пра сваю гутарку з Карамзіным, Блудавым і іншымі“ пра становішча Расіі“. Пераход да размоў на палітычныя тэмы адзначае ён пазней: „Пазаўчора быў у нас Арзамас. Наўмысля мы адхіліліся ад літаратуры і пачалі гаварыць пра палітыку ўнутраную, пра неабходнасць знішчыць рабства“.

На 19-м сходзе Арзамаскага т-ва з'яўляецца малады генерал М. Ф. Орлоў, а на наступным 20-м сходзе (22.IV1817) адбываецца яго „ўсынаўленне“—„прыняцце клятвенных слоў“ яго з абавязковай пры гэтым прамовай, якая, як і ў прамове Н. І. Тургенева, азнаменавалася адмаўленнем арзамаскіх традыцый—ад літаратуры паварачвала да палітыкі, клікала на палітычныя шляхі. Пасля заявы, што ён наўпярок устаноўленаму арзамасцамі правілу, не хоча тапіць „халдзеяў“ таму, што не хоча з імі знацца, М. Ф. Орлоў узяўся ў вельмі празрыстых выразах (і па пасведчанню адпаведнага пратакола, „відушчыя вочы арзамасцаў не былі ашуканы“ ўзятым ім тонам „нявіннасці“) хаваць аднаго „нябожчыка“ за другім. Ён зрабіў крытычны агляд сучаснай рускай літаратуры і журналістыкі, спыняючыся разам з тым двума-трыма словамі на членах неіснуючай ужо Бяседы „горшага тварэння Дзержавіна“ і халдзейскай Акадэміі „ворага сапраўднай вучонасці, а таксама на „публічных пакутах“ у Бібліятэцы, і прышоў да нярадасных вывадаў. Аб становішчы літаратуры і перашкодах яе развіццю ён сказаў у сваёй натхнёнай прамове так: „Я кажу, што не будзе ў нас Славеснасці да таго часу, пакуль цэнзура не памірыцца з здравым рассудкам і не спыніць апалчацца супроць геаграфічных лексіконаў і пакуначнай паперы“. А пра тагочасныя часопісы—„Сын Отечества“, „Северная Почта“, „Дух журналов“, „Русский Пустынник“,—ён зазначыў іранічна, што яны, „збіраючы з дрэнных раслін атрутныя сокі, даюць „замест мёду чысцейшы опіум“, наводзяць „дух уныния“ і жаданне пайсці ад іх у пустыню, што яны могуць „отвратить и от самого свободомыслия, ежели бы что-нибудь могло уклонить честного человека от полезных занятий“. Орлоў звяртаецца да арзамасцаў, „обыкшим веселиться“, з заклікам „общим согласием определить обществу цель достойнейшую (их) дарований и теплой любви стране русской. Тогда-то Рейн (канспірацыйнае арзамаскае імя Орлова) прямо обновленный потечет в свободных берегах Арзамаса, гордясь нести из края в край, из рода в род не легкие увеселительные лодки, но суда, наполненные обильными плодами мудрости вашей и изделиями нравственной искусственности. Только тогда просияет между ними луч отечественности и начнется для Арзамаса тот славный век, где истинное свободомыслие могущественной рукой закинет туманный кризис предрассудков за пределы Европы“.

У заключным акордзе прамовы Орлоў запрашаў „паважаных сяброў“ перайсці ад літаратурных жартаў да службы на „цели достойнейшие“—пад сцягам „отечественности“ (гражданственности), „истинного свободомыслия“ і на гэтым шляху прарочыў „славный век“ для Арзамаса.

„Последний журчащий совет члена Рейна",—як запісана ў пратаколе, зрабіў вялікае ўражанне на „Эолаву арфу"—А. І. Тургенева".—„Она с радостным восклицанием сомкнула глаза свои", но сон не был, „не беседный, а магнетический", з нутра яе вышло вещанье важных судеб Арзамаса".

А. І. Тургенеў таксама знайшоў, што „отрицательной добродетели—посрамления Беседы"—досыць было для пачатку, але не для наступнага часу: „О, Арзамас, не полно ли быть ребенком... Время настало, и ты должен не быть или быть не ребенком... Ты ополчался на убийц дарования, не будь же самоубийцею. О, товарищи... Я вижу наше будущее. Я вижу Арзамас в величественном собрании. Он определяет образ занятий, общий для всех, но разновидный, как вкусы, таланты каждого.

Единство и разнообразие: вот девиз Арзамаса и журнала его. Единство в правилах, ибо все арзамасцы горят любовью к добру и к изящному. Разнообразие в предметах и красках; его обещает самый состав нашего Общества: Здесь иногда в одной руке, иногда разделенные, блистают и меч воина и призмы поэта и наблюдательное стекло политики и ученого, философа и критика. Все принадлежит нам, пока может принадлежать словесности".

А. І. Тургенеў прарочыць лёс Арзамаса, непадобны на лёс іншых згуртаванняў: „Да будет он грозою гордого невежества, благодетелем скромнаго незнания, да будет посредником между Европой и Россией, между столиц и провинций, то повествуя о новых успехах гражданственности, о творениях и открытиях искусства и ума, то представляя в верных, ясных картинах состояние нашей славной отчизны в отношениях физическом и нравственном, то очищая, определяя вкус и язык советом, рассмотрением, примером. Мужайтесь, сыны Арзамаса. Докажите злоречивому свету, что не все журналисты поденщики, что можно трудиться для пользы и чести, не для корысти. Так оживится мертвый капитал арзамасских сокровищ; журнал будет их банком".

З „мнением Эоловой Арфы" (А. І. Тургенева), з прапановай аб выданні Арзамасам свайго органа, які меў-бы і палітычны аддзел, згадзіліся ўсе прысутныя на паседжанні члены.

У жыцці Арзамаса наступіў асабліва важны момант: карэнная рэарганізацыя згуртавання, у сувязі з выпрацоўкай праграмы яго часопіса, зрух у бок грамадска-палітычных задач. Пасля пераломнага 20 паседжання кіраўніцтва гурткомяўна пераходзіць ад старых арзамасцаў—Блудава і Уварава—да новых: Да Міхаіла Орлова і Нікалая Тургенева. Набываюць сходы арзамасцаў больш дзелавы характар:

„У доме важнага Рэйна быў Арзамас не на жарты",—запісвае ў адным з наступных пратаколаў Жукоўскі.

На 21-м паседжанні той-жа Блудаў („Кассандра") паўтарае выраз, што Эолова арфа „из пуза инкогнито шепчет" (пратакол пісан Жукоўскім гекзаметрам):

Полно табе, Арзамас, слоняться бездельником. Полно  
Нам, как портным, сидеть на кадке и шить на халдеев,  
Сгорбясь, дурацкие шапки из пестрых лоскутьев беседных,  
Время проснуться . . . . . . . . . . . . . . . время,

Время летит. Нас доселе сбирала беспечная шутка.
... Но что-же? Она уже устала иль скоро устанет.
. . . . . . . . . . Старые шутки—
Старые девки.
Бойся-ж и ты, Арзамас, чтоб не сделаться старою девкой.
Слава,—твой обожатель. Скорее браком законным
С ней сочетайся... Братья. Дайте-же руки.
Все минувшее, всё, что в честь (отечеству) некогда жило,
С гроба певцов, с великанских курганов, свидетелей части,
Всё к нам голос знакомый возносит: мы некогда жили.
Вам мы готовили славу, вы приготовьте потомкам.
Вместе, друзья. Чтоб потомству наш голос был слышен.

На гэтым жа паседжанні Орлоў паказвае:

. . . . . . . . . . нечто,
Пышным вратам подобное, к светлому зданию ведущим,
Звездная надпись сияла на них: „Журнал Арзамасский“.
С яркой звездой на главе Гением тихим носилось
В свежем гражданском венке божество: Просвещенье, дав руку
Грозной и мирной богине Свободе. И все арзамасцы,
Пламень почуя в душе, ко врагам побежали...

Далей паказвае кітайскія цені Асмодэй (П. А. Вяземскі):

В первом явленьи предстала
С кипой журналов Политика, рот зажимая цензуре...
Вслед за политикой вышла Словесность. Платье богини
Радужным светом сияло, и следом за ней ее дети:
С лирой, в венке из лавров и роз. Поэзия-дева
Шла впереди...... ..; об руку с нею поступью важной
Шла благородная Проза...
Третья дочь Словесности Критика, с плетью, с метелкой;
Смесь, последняя вышла... Вдруг все исчезло... Совещанье
Начали члены...
Все голоса слились в одну бестолковщину...
Чем же сумятица кончилась? Делом: журнал состоялся“.

гэта значыць адбылася, відаць, пастанова прыступіць да выдання часопіса і выпрацаваць перш-за ўсё яго праграму.

Сярод арзамаскіх пратаколаў знаходзіцца і асобны артыкул П. А. Вяземскага пра мяркуемы часопіс, у якім гаворыцца таксама аб дзейным удзеле яе аўтара ў складанні яго праграмы: „шчаслівы выпадак і дружба злучаюць нас“ (чытаем тут), нам трэба скарыстаць саюз, прапанаваць сабе мэту дзеяння і ісці да яе цвёрдымі нястомнымі крокамі, які сродак маем для дасягнення благароднай мары. Уплыў на публіку: як дамагчыся гэтага ўплыву? Выданнем часопіса. Усякі другі шлях быў-бы больш няпэўным. Усе сродкі ў руках (Журналіста), ён вучыць, забаўляе, прапаведуе, смяецца і смешыць, дакарае і прысудам сваім апраўдвае і казніць. Карысць часопісаў у нас відавочна, а часопісаў у нас вялікі недахоп. Ва ўсіх другіх асвечаных землях іх значна больш. „А. П. Вяземскі лічыць у нас „двух толькі журналістаў“: Новікова і Карамзіна“, першага называе ён „бичем предрассудков“, другога цэніць за тое, што ён „у Маскоўскім часопісу зруйнаваў гатычныя башні ўстарэлай літаратуры і на яе руінах паклаў пачатак новаму еўрапейскаму выданню“. Вяземскі прапануе „спалучыць у часопісе прыклады двух нашых журналістаў і падзяліць выданне на тры

разрады: „Нравы, Словесность і Политика“. У першым абвясціць вайну непрымірымую забабонам, парокам і бязглуздзіцы нашага грамадства... У другім весці тую-ж вайну з тымі-ж ворагамі, што страляюць у нас, у здравы рассудак і густ з вокнаў Беседы і Акадэміі, але разам з тым адвучаючы публіку ад дрэнных прыкладаў, прывучаць яе да добрых і такім чынам злучыць у руцэ сілу руйнуючую і творчую. У палітыцы задавальняцца прастадушным наказам карыснейшых мер, прынятых чужымі ўрадамі для дасягнення вялікай мэты: сілы і лепшага жыцця народаў... і такім чынам зрабіць у Кітайскай сцяне, якая адгароджвае нас ад Еўропы... шчыліну, праз якую мог-бы прабіцца промень сонца, які ззяе на гарызонце асветы і асвятліць змрок зімняй начы, што навісла над нашым сусветам“. Вельмі цікава прапанова Вяземскага: „з цягам часу завесці друкарню, без грошай адкрытую для беднай брацііі, каб „вырваць з кіпцюроў хцівых кнігапрадаўцоў бедныя афяры, што прадаюцца і прыніжаюць свае дараванні“.

Выданне часопіса меркавалася пачаць з 1818 г. У часопісе намячаўся ўдзел амаль усіх арзамасцаў. Н. І. Тургенеў даваў артыкул: „О заслугах Англии и Франции перед Европой в отношении свободы“, у якім меркаваў правесці думку, што „Англія прымусіла любіць свабоду, а Францыя—яе ненавідзець“, але затое сваёй рэволюцыяй Францыя „прачытала, так сказаць, для Еўропы поўны курс кіравання дзяржавай[1]) Орлоў прапанаваў тэму для дакладу—„О выгодах представительного правления“, ставячы перад сабой „праграму паказаць, што сістэма прадстаўніцтва заключае у сабе ўсе выгады іншых форм кіравання, існаваўшых у старажытныя і новыя часы, не маючых недахопаў і невыгад“. Аб артыкулах яго адзначана: „Палітыка наогул і ўрыўкі ў прозе. Распаўсюджане ідэй свабоды вартых Расіі ў яе цяперашнім становішчы, згодных са ступенню яе адукацыі, не руйнуючых цяперашняе, але спрыяючых надыходу лепшае будучыні. Узоры грамадскіх поглядаў“. М. Ф. быў вызначан адным з рэдактароў палітычнага аддзелу часопіса.

Выданне часопіса не толькі не адбылося, але і сам Арзамас у пачатку 1818 г. перастаў збірацца, распаўся, як літаратурна-грамадская арганізацыя. Страта або свядомае знішчэнне пратаколаў усіх апошніх яго паседжанняў (дайшоўшыя да нас пратаколы абрываюцца жніўнем 1817 г.), не дазваляюць устанавіць дасканала акалічнасці, якая выклікала спыненне яго дзейнасці.

Бясспрэчна адно, што ўнутры гуртка наспяваў раскол у выніку абвастрэння супярэчнасцей па асноўных соцыяльна-палітычных пытаннях. Цікава, што Н. І. Тургенеў запіс у сваім дзённіку аб згодзе з ім старых арзамасцаў—Карамзіна, Блудава, суправаджае выражэннем скептыцызма на іх справаздачу: „Яны кажуць, што любяць тое-ж, што і я люблю (гутарка ішла аб становішчы Расіі і неабходнасці вызвалення сялян. *Н. Е.*), але я гэтай любові не веру. Што любіш таго і жадаць трэба. Яны жадаюць мэты, але не жадаюць сродкаў.

*) „Архив бр. Тургеневых“ № 383. Письма Н. И. Тургенева к С. И. Тургеневу, а также в книге А. Шебунина—„Н. И. Тургенев“ М. 1925 г., стар. 83.

Усе адкладваюць на час. Ці ёсць цяпер зручны выпадак для якога-небудзь дзеяння? Ёсць... Дык вось, з усяго вынікае, што трэба рабіць—дзярзайце“. А ў другім месцы дзёнміка запісвае: „Усе згодны з неабходнасцю знішчыць рабства; але сродкі, якія прапануюцца, не ўсім падабаюцца. Я таксама хацеў-бы, каб гэта зрабілася іншым чынам, але з тае прычыны, што ў нас няма выбару, дык трэба прыняць тое, што даюць“.

Гэтыя заўвагі М. І. Тургенева сведчаць аб наяўнасці разыходжання паміж першапачатковым ядром Арзамаса і новымі яго членамі. Рашуча ўсе арзамасцы зыходзіліся на прызнанні неабходнасці і плённасці „европейского“—буржуазнага развіцця, былі аднадушны ў адносінах да мэты сваіх імкненняў, але пытанне аб „сродках“ выводзіла з роўнавагі іх узаемнае сяброўства: адны „дерзалі“ на карэнную ломку існуючага ладу, станавіліся на шлях рэволюцыйнага „действа“, другія ад жаху перад „сродкамі“ „усё адкладвалі на час“. І калі Н. І. Тургенеў, М. Ф. і Орлоў І. Н. Мураўеў пайшлі ў тайныя таварыствы, у рэволюцыйны рух дзекабрыстаў, то хутка карыфей „старого“ Арзамаса гр. Увараў робіцца адным з натхніцеляў нікалаеўскай рэакцыі, ідэалогам—„афіцыйнай народнасці“ (праваслаўя, самадзяржаўя і прыгоннага права), а другі стараарзамасец Блудаў, самы заядлы карамзініст, робіцца па міністэрству асветы, таварышом Шышкова і ў 1826 г. увойдзе ў „Следственную Комиссию“ па справе дзекабрыстаў. Пры такім унутрана-няроўным складзе гуртка смешна было чакаць, каб здольнай выдаваць палітычны часопіс і згуртавана дзейнічаць на палітычнай арэне аказалася група, у якой з Орловым, Нік. Тургеневым і Нікітаю Мураўевым суседнічалі Увараў, Блудаў і іх правыя аднадумнікі. Вігель расказвае: „Невычарпальная весялосць скора надакучыла тым, у каго галава поўна была вялікіх замыслаў; тым-жа, якія жартуючы хацелі займацца літаратурай, здалося дзіўным раптам перайсці ад яе да чыста палітычных пытанняў. Два вякі, адзін што канчаўся, а другі нараджаўся, сустрэліся ў „Арзамасе“, як пры Вавілонскім столпатварэнні, людзі перасталі і разумець адзін другога і хутка разышліся. З прычыны нез'яўлення многіх членаў і самых дзейных спыніліся сходы і „Арзамас“ ціха непрыметна заснуў вечным сном“.

Перабудова замкнутага гуртка хавальнікаў мастацкіх традыцый карамзінізма ў грамадскую арганізацыю з шырокай палітычна-асветнай праграмай не ўдалося. Адмаўленне ініцыятараў рэформы Арзамаса—Н. І. Тургенева, М. Ф. Орлова, Н. М. Мураўёва —ад намечанага блока з гуртком карамзіністаў невыпадкова, канешне, супала з арганізацыяй у пачатку 1818 г. „Союза Благоденствия“ (тайнага т-ва з шырокай праграмай экспансіі і ў галіне мастацкай літаратуры) і абумовіла ў сувязі з гэтым фактам, як мяркуе Ю. Г. Оксман, канчатковы распад Аразамаса.

Ва ўсякім выпадку важна, што апошняя старонка гісторыі Арзамаса адказалася—у асобе названых трох новых яго членаў, будучых правадыроў „Союза Благоденствия“ і Паўночнага тайнага т-ва—шчыльна звязанай з гісторыяй першых вялікіх канспірацыйных груповак дзеячоў дзекабрызма. У „тайном судилище Арзамасском“,

члены якога пры ўступленні звязвалі сябе ўрачыстым клятвенным абяцаннем: „Повиноваться слепо всем постановлениям общества, содержать в ненарушимой тайне всё происходящее в оном, бить непримиримых врагов его и непрестанно устремлять все мысли (свои) к его чести и пользе“, была зроблена пры адноўленым складзе „друзей-товарищей“ спроба зацікавіцца палітыкай, выкарыстаць „взбалмученный“ гурток, як месца для ўзбуджэння грамадскага руху, для распаўсюджвання „дивного влияния арзамасской атмасферы на публіку“

А. С. Пушкін з сваім вясёлым, заліўчатым дзяцінскім смехам, з няспынным фейерверкам дасціпных бліскучых слоў і дабрадушных жартаў уступіў у Арзамас у перыяд рэарганізацыі яго, прыняцця новага статута і выпрацоўкі праграмы часопіса. Прозвішча „Сверчок“, атрыманае ім у Арзамасе за жывасць і няспынныя песні, упамінаецца ў паперах арзамаскіх пратаколаў толькі адзін раз на выбарных лістках, якія адносяцца да пратаколу паседжання, што адбылося ў жніўні 1817 г. у М. А. Орлова. Да гэтай даты ні ў адным пратаколе імя „Сверчка“ не сустракаецца, таму цяжка меркаваць, каб Пушкін быў, так сказаць, афіцыйна выбран у Арзамас да сканчэння ліцэя.

Выбраныя лісткі арзамаскіх пратаколаў ускосна пацвярджаюцца перапіскай Остаф'еўскага архіва: перапіска Тургенева і Вяземскага ўпершыню 5 кастрычніка 1817 г. успамінае імя „Сверчка“ ў 1816 годзе (9 чэрвеня). Тургенеў аб ім піша: „Поэт Пушкин“. Значыць, арзамасцам Пушкін становіцца не раней восені 1817 г. У 1818 г. Вяземскі ўжо глядзіць на Пушкіна, як на поўнапраўнага члена Арзамаса; абураны Качэноўскім, ён паказвае, што „Сверчок“ павінен выступіць на абарону Карамзіна (эпіграма А. С. Пушкіна: „Бессмертной рукою раздавленный Зоил“ і т. д.).

Як вядома, у царскасельскім ліцэі інтарэс да літаратурных заняткаў быў вельмі развіт сярод выхаванцаў, і Пушкін са сваімі таварышамі ўважліва сачыў за сучаснай рускай літаратурай, прычым натуральна асаблівую ўвагу яго прыцягвала палеміка, раздзяліўшая наяўныя сілы літаратуры на варожыя лагеры карамзіністаў і шышкавістаў. Ужо ў 1814 г. ён яскрава выказаў, на чыім баку знаходзяцца яго сімпатыі, напісаўшы эпіграму на члена „Беседы“ Шырынскага-Шыхматава, любімца і аднаго з найбольш прыхільных паслядоўцаў Шышкова:

> Пожарский, Минин, Гермоген
> Или спасенная Россия,
> Слог темен, важен, напыщен
> И тяжки словеса пустые.

Першая крытычная заметка Пушкіна—„Мои мысли о Шаховском“ — накідана ў 1815 г. 16-гадовым хлопчыкам, які ўжо выступае ў якасці ўдзельніка літаратурных баёў і дыскусій са „стараверамі-архаістамі“. Заметка адносіцца да ліцэйнага перыяду жыцця Пушкіна і з'яўляецца водгукам на спрэчкі, выкліканыя пастаноўкай камедыі Шахоўскага „Ліпецкія воды, або ўрок кокеткам“ (1815 год), у якой быў высмеян Жукоўскі пад імем баладніка

Фіалкіна, які дэкламаваў пародыі на пераклады Жукоўскага з Шылера і фантастычныя балады. Гэтая акалічнасць не магла не закрануць і Пушкіна, які лічыў сябе ворагам „беседистов“, у ліку якіх быў і Шахоўскі, „Карамзін гоніт е ль—гроза баллад“. У сваёй заметцы Пушкін піша: „Шахоўскі ніколі не хоча вучыцца свайму мастацтву і стаў пасрэдным паэтам. Шахоўскі не мае вялікага густу, ён дрэнны пісьменнік“.

У тым-жа 1815 г. Пушкін напісаў эпіграму на літаратурных праціўнікаў арзамасцаў, на тры „Ш“

Угрюмых тройка есть певцов—
Шихматов, Шаховской, Шишков,
Уму есть тройка супостатов;
Шишков наш, Шаховской, Шихматов;
Но кто глупей из тройки злой?
Шишков, Шихматов, Шаховской.

„Беседные халдеи“ сваим „славянскім варварствам“ не раз давалі матэрыял для эпіграмічнага даравання паэта, для яго высмейвання і дасціпнай сатыры.

Да 1816 г. адносіцца яго пасланне „К Жукоўскаму“, выкліканае барацьбой літаратурных наватараў з групай Шышкова. Пушкін адкрыта выказвае свае літаратурныя сімпатыі і антыпатыі ў гэтым выдатным пасланні да Жукоўскага, як сакратара арзамаскага т-ва і чалавека і асабліва паважаемага:

Благослови, поэт. В тиши Парнасской сени
Я с трепетом склонил пред музами колени,
Опасною тропой с надеждой полетел,
Мне жребий вынул Феб, и лира мой удел.

Пушкін напамінае Жукоўскаму, пры якіх спрыяючых акалічнасцях пачалася яго паэтычная дзейнасць, як спачувальна сустрэлі Карамзін, Дзмітрыеў, урэшце, сам Жукоўскі, яго першыя вопыты: такія адносіны да яго „творцов бессмертных, питомцев вдохновения“, „исполняет его“ „отважной верой“ у сваё паэтычнае прызванне, накіроўвае яго „без страха в трудный путь“. Затым ён думкамі акідвае поле „битвы“ і бачыць „бессмыслицы дружины боевые.

Далеко диких лир несется резкий вой,
Варяжские стихи визжит варягов строй.
Смех общий—им ответ“.

З'яўляючыся ў вачах Пушкіна эпігонамі Трэдзьякоўскага—„Стопосложителя хилого“ і Сумарокова, паэта таксама „без сілы, без огня, с посредственным умом“, прыхільнікі Шышкова:

. . . . . . слогом Никона печатают поэмы,
Одни славянских од громады громоздят,
Другие в бешеных трагедиях хрипят;
Тот, верный своему мятежному союзу,
На сцену возведя зевающую музу,
Бессмертных гениев сорвать с Парнаса мнит...

Усе разам яны „восстают неистовой толпой“ супроць таго,

... кто в свет рожден с чувствительной душой,
Кто тайно мог пленить красавиц нежной лирой,
Кто смело просвистал шутливою сатирой,
Кто выражается правдивым языком
И русской глупости не хочет бить челом...
Он враг отечества, он сеятель разврата
И речи сыплются дождем на супостата.

Але, юнака - байца не палохаюць варожыя сілы: наадварот, ён натхнёна заклікае да паражэння „варваров кровавыми стихами“:

И вы восстаньте-же, парнасские жрецы,
Природой и трудом воспитанны певцы
В счастливой ереси и вкуса и науки.
Разите дерзостных друзей непросвещенья.

Калі нават „спесивных риторов безграмотный собор“ і рыхтуе яму, Пушкіну, праследванні:

Что нужды? Смело в даль, дорогою прямою,
Ученью руку дав, поддержанный тобою,
Их злобы не страшусь; мне твердый Карамзин,
Мне ты пример. Что крик безумных сил дружин?
Пускай беседуют отверженные Феба;
Им прозы ни стихов не послан дар от неба.
Их слова—им же стыд; творенья—смех уму;
И в тьме возникшие низгвернутся во тьму.

У гэтым вершы юнак Пушкін адразу становіцца на бок арзамасцаў: ён трапна раскрывае змест архаізма шышкавістаў.

Пушкін яшчэ ліцэістам вельмі цікавіўся дзейнасцю Арзамаса. У дзённік свой 28 лістапада 1815 г. ён цалкам запісаў сатырычную кантату Дашкова „Венчанье Шутовского“. За год да выпуску з ліцэя 27 сакавіка 1816 г. ён пісаў арзамасцу кн. П. А. Вяземскаму: „Цэлы год яшчэ плюсаў, мінусаў, правоў, налогаў, высокага, прыгожага. Цэлы год яшчэ драмаць перад кафедрай... Гэты жахліва. Бязбожна маладога чалавека трымаць запертым і не дазваляць яму браць удзел нават і ў нявінным занятку хаваць нябожчыцу Акадэмію і Беседу губіцеляў расійскага слова“. „Царскасельскі пустыннік, якога ўжо і без таго скубе шалёна Дэман „бумагомарания“, як называе сябе Пушкін у гэтым пісьме, скардзіцца, што ліцэйскае „заточение“ здаецца яму „несносным“ і запэўняе, „што самота сапраўды рэч вельмі дрэнная, на зло ўсім філасофам і паэтам, якія прыкідваюцца быццам-бы жылі ў вёсках і ўзлюбілі спакой і цішыню“. Пушкіну, ахопленаму нецярплівым жаданнем хутчэй вырвацца з школы і ўключыцца ў „Арзамас“, уяўляецца:

Блажен, кто с добрыми друзьями
Сидит до ночи за столом,
И над Славенскими глупцами
Смеется русскими стихами.

„Пустыннік-рыфмаплёт“ у пісьме да дзядзькі—В. Л. Пушкіна—(у першай палавіне студзеня 1817 г.), усхваляе яго за тое, што

[1]) г. зн. членамі „Беседы любителей российского“ слова.

тэты „Нестор Арзамаса, в боях воспитанный поэт, защитник вкуса, грозный Вот“ [1]) умеў

... С гневной Музой Ювенала
Глухого варварства начала
Сатирой грозной осмеять
И мучить бедного Ослова [2])
Священный Феба языком
И лоб угрюмый Шутовскова [3])
Клеймить единственным стихом [4]).

Калі Пушкін скончыў курс і прыехаў у Пецербург, арзамасцы прынялі яго з раскрытымі абдымкамі. На выпуск яго з Ліцэя „глядзелі члены Арзамаса (па сведчанню Вігеля), як на шчаслівую для іх надзею, як на ўрачыстасць; „асабліва-ж радаваўся Жукоўскі як быццам-бы сам бог паслаў яму мілае дзіця. Дзіця здалося мне, успамінае Вігель, досыць гарэзным і нястрымным і мне нават балюча было глядзець, як усе старэйшыя браты ўзахопкі бавалі маленькага брата... Я не спытаў тады, за што яго назвалі „Сверчком“.

Цяпер мне здаецца гэта мянушка вельмі дарэчы, бо ў некаторым аддаленні з Пецербурга, схаваны ў сценах ліцэя, прыгожымі вершамі ўжо адтуль ён падаваў свой звонкі голас“ (Ф. Ф. Вігель, Запіскі, том II, стар. 111). Паперы арзамаскіх пратаколаў, у якіх не хапае матэрыялаў для ўсіх апошніх сходаў гуртка, на жаль, не захавалі і ўступнай прамовы Пушкіна. Захаваліся асобныя радкі, надрукаваныя са слоў Вяземскага ў П. І. Барценева:

Венец желаньям. Итак, я вижу вас,
О, други, Муз, о дивный Арзамас,
. . . . . . . . . . . . . . .
Где славил наш Тиртей, [5]) Кисель и Александра [6])
Где смерть Захарову [7]) пророчила Кассандра.

Далей, характарызуючы Арзамаскае т-ва, Пушкін маляваў арзамасца.

. . . . . в беспечном колпаке,
С гремушкой, лаврами и с розами в руке.

---

[1]) „Вот“ адна з мянушак В. Л. Пушкіна па „Арзамасу“.

[2]) Аслоў—А. С. Шышкоў, прэзідэнт Расійскай Акадэміі і старшыня Беседы любіцеляў расійскага слова, правадыр архаістаў.

[3]) Шутаўскі—кн. Шахоўскі, член „Беседы“, драматург.

[4]) Адзіны верш, пра які гаворыць тут Пушкін—радкі з „Опасного соседа“ В. Л. Пушкіна пра тое, як у публічным доме, куды трапіў герой „Опасного соседа“,

Две гостьи дюжие смеялись, рассуждали.
И „Стерна Нового“ как диво величали.
(Прямой талант везде защитников найдет).

„Новый стерн“—камедыя Шахоўскага, у ёй карыкатурны паказ Карамзіна, пародыя на яго сентыменталізм.

[5]) Жукоўскі.

[6]) Членаў „Беседы“.

[7]) Блудаў.

У 1818 г. Жукоўскі напісаў „Отрывок арзамасской речи“. У гэтым урыўку аб Пушкіне гаворыцца:

> . . . . . . . . . . Сверчок, закопавшись
> В щелку проказы, оттуда кричит, как в стихах: я ленюся.

Пушкін служыў Арзамасу перш за ўсё сваімі эпіграмамі на ворагаў Карамзіна,—галоўным чынам на Качэноўскага. Гэта „арзамаская“ замашка—караць ворагаў эпіграмамі—засталася ў Пушкіна на ўсё жыццё. Прыяцелі заахвочвалі яго юнацкую дасціпнасць, захапляліся ёю. 31-га жніўня 1818 г. кн. В. А. Вяземскі ў пісьме з Варшавы да А. І. Тургенева просіць падзейнічаць на Пушкіна, каб ён высек мстительными стихами мерзавца—Каченовского“. На гэта А. І. Тургенеў адказвае, што „маленькі Пушкін даўно ўжо плюнуў на Качэноўскага эпіграмай“. У другім пісьме той-жа Вяземскі запрашае Пушкіна, „сверчка полуночного бутошника“, „крикнуть эпиграмму на Свиньина“.

Няма падстаў сумнявацца ў тым, што даходзячыя да паэта-ліцэіста факты дзейнасці Арзамаса і арзамасцаў і яго затым непасрэдны ўдзел у „сяброўскім“ таварыстве—аказвалі на яго значны і спрыяючы ўплыў. Сталая апека над юнаком-паэтам Вяземскага, А. Тургенева, Жукоўскага, В. Л. Пушкіна, жывейшая зацікаўленасць ім Бацюшкава, збліжэнне праз арзамасцаў з Карамзіным і, урэшце, уплыў Н. І. Тургенева на „фармаванне некаторых свабодалюбівых поглядаў і перакананняў Пушкіна“ (М. Халанскі)—паказваюць на тое значэнне, якое меў для Пушкіна ўвесь „дивный Арзамас“ у цэлым—„Иерусалим ума и вкуса“, па азначэнню паэта. Аб тым, што Арзамас і пасля заставаўся для паэта ў кругу заветных успамінаў, сведчаць пазнейшыя пісьмы яго. У пісьме да кн. П. А. Вяземскага ад 5|IV 1823 г. Пушкін скардзіцца: „Москва, Петербург и Арзамас совершенно забыли меня“. П. А. Вяземскага паэт называе доўга па-арзамаску: „милый Асмодей“, „пресвященный Владыко Асмодей“. В. А. Жукоўскі ў пісьме да Пушкіна (ад 1|VI 1824 г.) называе яго таксама арзамаскім імем: „Сверчок моего сердца“.

С. С. Увараў успамінаў пасля, што „ў той час пад уплывам Арзамаса пісаліся вершы Пушкіна“.

Уплыў ідэйнай накіраванасці і літаратурных густаў Арзамаса сказаўся побач з другімі ўплывамі і на першай пушкінскай паэме, задуманай яшчэ ў Ліцэі—на „Руслане і Людміле“. Першая паэма Пушкіна была ў вядомым сэнсе пратэстам супроць канчатковай, выявіўшай сябе паэтыкі прыдворна-дваранскага кола. Элемент жартаўлівай пароды на адміраючыя літаратурныя формы—на класічную паэму высокага штыля“—вельмі дужы ў гэтым гарэзлівым эпасе, багата насычаны традыцыямі, якія высмейваюць рыцарскія раманы аб цудоўных учынках незвычайных герояў.

Трэба думаць, што „шайка независимых“, як назваў Арзамас Вяземскі, натхняла, падтрымлівала і вольнадумства 18-гадовага паэта. „Спытаюць,—піша Вігель у сваіх „Запісках“: „ці быў ён тады лібералам? Ды як-жа не быць восемнаццацігадоваму хлопчыку,

які толькі што вырваўся на волю, з палкім паэтычным выражэннем кіпучай афрыканскай крывёю ў жылах, і ў такую эпоху, калі вольнасць думкі была ў самым разгары“. Арзамас-жа быў адным з гнёздаў лібералізма. Нездарма Н. І. Тургенеў пісаў Вяземскаму: „Лібераньныя ідэі, якія ў нас перакладаюць законавольнымі... Тут можна пакуль назваць арзамаскімі“. Нездарма на лібералізм Арзамаса і арзамаскі „ўплыў на двух ліцэйскіх выхаванняў“ указваў і Булгарын у сваім данясенні III-му аддзял. „Нечто о Царскосельском лицее и о духе оного“.

У другой сваёй запісцы III-му аддзяленню аб „Арзамасе“ і аб „вредном“ кірунку яго Булгарын пісаў: „Але як урад ні клапоціцца аб тым, каб кожнаму таварыству даць свой кірунак, сваю мэту, то некаторыя члены (Арзамасского общества) асобна рыхтавалі порах, які пасля ўспыхнуў ад буйнага полымя Тайнага таварыства“.

Якія былі адносіны Пушкіна, як члена Арзамаса, да арзамаскай левай групы. Знішчэнне пратаколаў гуртка за перыяд 1817—1818 і малая колькасць пісем Пушкіна за гэты час як быццам пазбаўляюць нас прамых доказаў аб лініі паводзін малодшага паэта ў час палітычнага распластавання карамзіністаў. Аднак, літаратурная крытыка Пушкіна ў 1817—1818 гг. і пазнейшае яго аўтапрызнанне аб гэтым часе і паказанне такога аўтарытэтнага мемуарыста, як І. І. Пушчын, не пакідаюць ніякіх сумненняў у тым, што ўжо ў той час ён поўнасцю быў на баку будучых правадыроў паўночнага дзекабрызма, а не ў коле кансерватараў тыпу С. Уварава Д. Н. Блудава, Д. П. Северына, і інш. калялітаратурных бюракратаў, якія складалі правы фланг Арзамаса.

„Свабоду лишь учася славить стихами, жертвуя лишь ей,“ Пушкін ужо ў 1817 г. канструіруе ў вершах „Краев чужих неопытный любитель“ ідэальны вобраз „гражданина“, які адпавядае нормам „Ордена русских рыцарей“ і „Союза Спасения“.

Я говорил: в отечестве моем
Где верный ум, где гений мы найдем?
Где гражданин с душою благородной,
Возвышенной и пламенно-свободной?

К пачатку 1818 г. адносяцца пародыі Пушкіна на Жукоўскага („Послушай, дедушка“, і нападкі супроць „Двенадцати спящих дев“ у чацвертай песні „Руслана і Людмілы“). І, што яшчэ болей паказальна, палітычныя эпіграмы на ганаровага члена Арзамаса— Карамзіна. Разам з М. Ф. Орловым, Н. М. Мураўёвым і „молодыми декабристами“ з гуртка (напэўна, І. І. Пушчыным і В. Д. Вальхоўскім) Пушкін высмейваў ідэалагічныя ўстаноўкі толькі што тады з'явіўшайся „Истории Государства Российского“. У Мураўёвых малады Пушкін чытаў свае нелегальныя экспромты. Для арганізацыйнай прапаганды ліберальных ідэй Н. І. Тургенеў, пасля распаду Арзамаса, думаў наладзіць часопіс; меркавалася назваць яго „Архивом политических наук и Российской словесности“. У мэтах паспяховай рэалізацыі ідэі меркавалася стварыць спецыяльнае часопіснае таварыства—адно з вольных адгалінаванняў рэвалюцыйнага „Союза благоденствия“. Для адсталай, але абуджанай ужо Расіі часопіс па-

вінен быў з'явіцца „голубем спасения, вестником берега свободы". У лік членаў арганізуемага т-ва Н. І. Тургенеў запрасіў і Пушкіна.

Праф. Е. І. Тарасаў выказаў думку, што магчыма артыкул Н. І. Тургенева „Нечто о барщине" быў бясспрэчна вядомы Пушкіну (які часта наведваў Тургеневых), запаліў у ім тыя-ж пачуцці, якія гучаць у „Деревне".

Праз жонку Мураўёва—Александру Грыгор'еўну Мураўёву, якая пайшла за мужам у студзені 1827 г. на Нерчынскія руднікі, Пушкін пераслаў выдатнае „Послание к узникам". Урэшце, трэба ўлічыць і тое, што Пушкін з'явіўся ў многім песняром дзекабрызма.

*К. Лордкіпанідзэ*

# „ПРАЗ ГАДЫ“ ПЛАТОНА ГАЛАВАЧА

Платон Галавач належыць да таго перадавога атрада беларускіх пісьменнікаў, якія сваімі апошнімі кнігамі, прасякнутымі вялікай мастацкай праўдай, выкрыў нацдэмаўскія творыйкі пра адзінства і гарманічнасць беларускай вёскі, накіраваныя да затушоўвання класавай барацьбы. Гэты перадавы атрад беларускай літаратуры паспяхова вывеў беларускую прозу з рамак нацыянальнай абмежаванасці, у якія яшчэ не так даўно спрабавалі яе ўціснуць цяпер выкрытыя агенты фашызма ў беларускай літаратуры.

У ліку найбольш значных узораў беларускай савецкай прозы трэба адзначыць „На вялікай хвалі“ Міхася Лынькова, гэтага строгага майстра невялікіх апавяданняў; „Дрыгву“ Якуба Коласа, насычаную шчырым хвалюючым лірызмам; „Трэцяе пакаленне“ Кузьмы Чорнага—мастака вялікіх сацыяльных вобразаў, а таксама раман „Праз гады“, да непасрэднай ацэнкі якога я зараз пераходжу.

Кніга Галавача гэта вялікі, разгорнуты паказ сацыяльнага жыцця беларускага сялянства і працоўнай інтэлігенцыі, які ахоплівае перыяд ад перадваенных гадоў да пачатку калектывізацыі. У гэтым творы паказаны, хоць і з невялікай паслядоўнасцю, складаныя, супярэчлівыя працэсы ідэйнай перабудовы цэнтральных герояў—селяніна Тарэнты Шкробата і інтэлігента Галынскага, працэсы, якія прывялі іх да свядомага ўспрымання ідэй Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Асноўная праблема рамана, як паводле замысла, так і па мастацкаму выкананню заключаецца ў паказе вызвалення чалавека ад рабства і ад той амаль біялагічнай залежнасці ад зямлі, якая акрэслівалася старымі сацыяльнымі ўзаемаадносінамі.

Тарэнта Шкробат, галоўная фігура рамана—беззямельны селянін і ўсё яго жыццё ў мінулым—беспрасветная туга па зямлі. Ён выходзіць з дому і яму не хочацца варочацца, таму што „няма зямлі, няма да чаго прыкласці рукі“. Яго мучае пачуццё, што ён „ходзіць па зямлі, ды не па сваёй“. І ён шукае праўду, якая магла-б даць яму зямлю. Тарэнта верыць у існаванне гэтай праўды. У пошуках зямлі ён едзе ў Сібір, у доўгія і дарэмныя блуканні па сібірскай тайзе. Але нават пасля таго, як ён, зжыўшы ўсё, што ў яго было, вярнуўся на радзіму і яшчэ раз пераканаўся ў „справядлівасці пана“, які адбірае ў сялян зямлю, ён усё-ж працягвае верыць у існаванне гэтай праўды.

Тарэнта прасякнуты думкаю, што калі не ў мясцовага пана, то ў губернскім цэнтры ён знойдзе праўду. Ён упарта верыць у гэта.

Яму нічога не казаў і той страшны лёс, які зламаў жыццё малодшага брата Паўла. Разам пакутвалі яны ў глухіх лясах Сібіры і Павел, прыціснуты ў лесе дрэвам, на ўсё жыццё астаўся калекай.

З вялікай драматычнай сілай апісан у Галавача зварот братоў з Сібіры.

Браты вярнуліся на радзіму, але ў іх не было нічога на свеце, апрача той пядзі зямлі, на якой яны стаялі. І вось разыгрываецца жорсткая драма. Браты звяртаюцца за дапамогаю да старэйшага брата кулака Мікіты, але той сустракае іх эхіднымі словамі:

— „Едуць-жа людзі, жывуць там і нічога,—у яго голасе адчувалася лёгкая раздражненасць.—Можа паехалі ў нядобрае месца і не хацелі пашукаць лепшага. А гэты,—ён паказаў на Паўла,—неяк-жа не ўцікаваў за сабою. Хіба яму трэба было лезці пад тое дрэва“.

І пакінуты, абяздолены калека канчае сваё бязрадаснае жыццё самагубствам. Вобраз Паўла ў рамане незабыўны. Ён прамільгнуў усяго толькі на некалькіх ста-

ронках, але яго жалобны цень, як напамінак пра магчымасць такога лёсу дай жывых, яшчэ доўга прысутнічае ў рамане.

Раскрыццём лёсу Паўла аўтар з патрасаючай выразнасцю паказаў усё дзікунства і эгаістычнасць старога сялянскага ўкладу. Вобраз Паўла развенчвае спробы ідэалізацыі побыту старой беларускай вёскі, той ідэалізацыі, якая досыць моцна была выражана ў творчасці некаторых нацдэмаўскіх пісьменнікаў.

Але смерць Паўла таксама нічога не вытлумачвае праўдашукальніку Тарэнту. І хоць вінаватым у смерці Паўла Тарэнта лічыць старэйшага брата Мікіту, гэтай апоры паноў і жандармэў на вёсцы, ён бачыць у ім толькі чалавека жорсткага, нячулага, пазбаўленага крэўных пачуццяў, а не прадстаўніка таго соцыяльнапалітычнага ладу, які нічога не даў яму апрача галечы.

І патрэбны былі гутаркі бальшэвіка Будніка пра неабходнасць пратэсту супроць самаўпраўства паноў, трэба было адсядзець у турме, пасля тры гады валяцца ў акопах імперыялістычнай вайны і атрымаць кулю ў галаву, каб усвядоміць, што тая праўда, якую ён шукаў на вялікіх прасторах Расіі, была „ў сіле яго кулакоў“.

Вярнуўшыся пасля Лютаўскай рэволюцыі ў родную вёску, Тарэнта развязаў дарожны мяшок і выцягнуў акопную салдацкую рыдлёўку.

— „Дзяржанне можна будзе зрабіць, сказаў ён, перадаючы рыдлёўку ў рукі сыну.—Яна хоць малая, але ўскапаць ёю ўсё можна“.

Але апрача рыдлёўкі Тарэнта прынёс на вёску нешта больш важнае, гэта ўсведамленне, што зямля, якую можна апрацоўваць гэтай рыдлёўкай, павінна быць адабрана ў пана сілаю. І ён першы ідзе супроць пана, здабываць зямлю, каб не іржавела яго рыдлёўка.

Пачалася грамадзянская вайна. Рубяжы радзімы перайшлі акупанты. Тарэнта запісваецца добраахвотнікам у Чырвоную армію для абароны той зямлі, якую яму дала рэволюцыя. Ад пакорлівага праўдашукальніка да мужнага чырвонаармейца—палова жыцця Тарэнты. І гэты шлях з надзвычайным майстэрствам паказан Галавачом.

Крок за крокам ідзе мастак за сваім улюбёным героем і яркімі, пераканаўчымі штрыхамі раскрывае рост яго самасвядомасці. Галавач ведае псіхалогію селяніна. Ён настолькі глыбока разумее яе, што ў раскрыцці кожнага руху сялянскай душы дасягае шырокіх ідэйна-мастацкіх абагульненняў. Трое братоў Шкробатаў намаляваны ўпэўненай рукой майстра. Зварот Тарэнты з вайны, падзел панскай зямлі, першае сваё жыта на першай сваёй зямлі, і тыя эпізоды, у якіх раскрываюцца вобразы сялян,—гэта найбольш яркія старонкі рамана. У іх аўтар выявіў тонкую назіральнасць.

Самы моцны, хвалюючы і багаты фарбамі вобраз у рамане ўзяты з сялянскай масы, гэта, вядома, вобраз Тарэнты Шкробата. У стварэнні гэтага вобраза Галавач ідзе па лініі найбольшага супрацiўлення. Беззямельнага Тарэнту, партызана рэволюцыя зрабіла заможным. Але ў пачатку калектывізацыі мы бачым яго разгубленым, ахопленым сумненнямі. І рэволюцыя для яго, здавалася, скончылася ў той дзень як ён атрымаў зямлю і лес на хату. Ён упэўнен, што рэволюцыя зрабіла для яго ўсё, што толькі яна магла зрабіць. І таму развіццё соцыялістычнай рэчаіснасці, яе новыя рысы пужаюць яго, выклікаюць у ім трывогу.

Тут для раманіста стварылася своеасаблівая небяспека. Аднабакова ставячыся да прыроды героя, звонку абапіраючыся на яго соцыяльную біяграфію і не паглыбляючы праблемы перабудовы, ён мог-бы па першаму закліку Будніка ўвесці Тарэнту ў калгас, але аўтар не пайшоў па гэтай пратаптанай дарозе. Тарэнта, які ў глухія дзесяцігоддзі свайго жыцця выношваў мару пра ўласную зямлю і каня, цяжка перажывае думку, што ад гэтага шматка зямлі адыйдзе яго гаспадарскае імя.

Рэволюцыя дала яму ўласнасць і калі імем той-жа рэволюцыі яму кажуць каб ён уступіў у калгас, ён у разгубленасці і не знаходзіць лагічнай сувязі паміж тымі падзеямі, якія далі яму зямлю і калектывізацыя гаспадаркі.

З вялікай мастацкай праўдай паказаны хістанні серадняка Тарэнты. Платон Галавач выявіў сябе тут як мастак найтоншых псіхалагічных нюансаў. Ён чула і напружана прыслухоўваецца да душэўнай разгубленасці свайго героя.

Тарэнта, прыглядаючыся да навакольнай рэчаіснасці, адным крайком свайго сэрца балюча адчувае, што ён апасаецца, каб не астацца па-за калгасам. Ён яшчэ большай упартасцю выступае супроць калгаса, каб такім чынам праверыць моц і грунтоўнасць гэтага новага пачуцця. І калі на агульным сходзе Тарэнту

які выступае супроць калгаса, падтрымліваюць ворагі калектывізацыі, ён ловіць сябе на пачуцці, што гэта падтрыманне яму непрыемна. Вялікая вартасць Галавача як мастака ў тым, што ўся яго ўвага звернута на раскрыццё прадумоў, акрэсліваючых сабою развіццё гэтага новага пачуцця ў Тарэнты. Лінія развіцця героя абрываецца аўтарам да таго, як Тарэнта ўступіў у калгас. Але аўтар раскрыў вобраз героя з такой глыбінёй і паказаў такія зародкі яго ідэйнага развіцця, што чытач застаецца зусім пераконаным, што заўтрашні дзень для Тарэнты— калгаснае жыццё.

Платон Галавач, ствараючы вобраз Тарэнты, здолеў пазбегнуць схематызма. Ён не ішоў наперадзе сваіх герояў, выконваючы пры гэтым ролю своеасаблівага канферанс'е, які вызначае ўчынкі героя і наперад апладыруе яго з'яўленню.

Без усякай аўтарскай шпаргалкі ён індывідуалізуе сваіх герояў, таму пры чытанні рамана запамінаюцца нават такія эпізадычныя фігуры як Сузон, Мікода і інш.

На жаль гэтага нельга сказаць пра другога цэнтральнага персанажа—прафесара Галынскага. Стары большэвік Буднік, якому належыць велізарная роля ў ідэйным перавыхаванні Тарэнты і Галынскага, кажа прафесару: „Увесь гэты час я сачыў за вашым лёсам і лёсам гэтага селяніна (маецца на ўвазе Тарэнта), нешта агульнае было паміж вамі, што мяне вельмі цікавіла“.

І сапраўды, паміж селянінам Тарэнтай і прафесарам Галынскім шмат агульнага. Галынскі, калі хочаце, той-жа праўдашукальнік, але праўду ён шукае ў сумбурных невыразных ідэалах „шырокай дэмакратыі“, рэформ і асветніцтва. Ён стараецца прымірыць сялян і пана, прымірыць два супроцьлеглых класы ў імя „сапраўднай дэмакратыі“. Ён адыходзіць ад класавых супярэчнасцей у свет нежыццёвых ідэалаў, ён стараецца змягчыць паміж-класавыя супярэчнасці, каб пазбегнуць магчымых „непарадкаў“. Яму незразумелы соцыяльны сэнс гэтых „непарадкаў“, ён упэўнен, што варта звярнуцца да памешчыка Пілацеева, які адбірае ў сялян дзвесце дзесяцін добрай зямлі і „сказаць яму, што гэта нядобра, што гэта не варта інтэлігентнага чалавека, вучонага, і ён ліквідуе ўсю гэтую справу з зямлёй“.

Метады класавай барацьбы здаюцца яму жорсткімі, ён сумленны праўдашукальнік. Трэба сказаць, што з гэтага боку Галынскі паказан аўтарам праўдзіва і пераканаўча. Тут Галынскі паказан на ўвесь рост. Аўтар вядзе ўсё к таму, каб у наступнай жыццёвай практыцы Галынскага разброіць яго „дэмакратычныя ідэалы“.

Платон Галавач правільна і з вялікай чуласцю падыходзіць да раскрыцця вобраза Галынскага, паказваючы першую, ледзь заўважную шчыліну ў яго душэўным свеце, тыя хістанні, якія ахапілі яго на вячэры ў Пілацеева пасля сустрэчы з большэвіком Буднікам. Але ў частцы рамана, у якой паказваецца пасля-рэволюцыйны перыяд, аўтар, узнімаючы ў вобразе прафесара Галынскага вялікую соцыяльную праблему, занадта хутка вырашае яе. Хутка не ў сэнсе часу, а ў тым сэнсе, што ён абыходзіць рад такіх прадумоў, без якіх вырашэнне пастаўленай ім праблемы аказваецца мастацкі неапраўданым. Галынскі перабудоўваецца як-бы ў самім сабе і гэта перабудова паказана хутчэй у яго унутраных перажываннях, чым у суадносінах з жыццём. У выніку гэтага ў трэцяй частцы рамана думкі і матывы Галынскага не матываваны і таму бледныя.

Прафесар Галынскі, гэты сумленны, але няўпэўнены ў сабе інтэлігент, які да таго верыў у магчымасць ажыццяўлення соцыяльнай справядлівасці ў рамках буржуазнага ладу, шчыра прымае ідэі Кастрычніцкай рэволюцыі і робіцца актыўным удзельнікам соцыялістычнага будаўніцтва. Але гэта праблема перабудовы Галынскага не ўзнята Платонам Галавачом да вышынь соцыялістычнага рэалізма, як ён гэтага дасягнуў у раскрыцці вобраза Тарэнты Шкробата.

Платон Галавач не персаніфіцыруе праблему ідэйнай перабудовы Галынскага на адносінах яго навуковай работы да соцыялістычнага будаўніцтва, таму Галынскі не вельмі хвалюе чытача крушэннем сваіх старых уяўленняў і не вельмі натхняе яго сваімі новымі перакананнямі. Ён схематычны.

Больш поўна і ярка хоць часам толькі ў вонкавым выяўленні дадзен большэвік Буднік. Але гэты вобраз на працягу ўсяго рамана паказан у раз і назаўсёды устаноўленых рысах. Ён унутрана не расце, не ўзбагачаецца.

Буднік у пачатку рамана дадзен аўтарам з вялікай экспрэсіяй і тут-жа ўсе прадумовы, што ён павінен вырасці ў чалавека, які перакройвае сёння твар нашай краіны. Але яго рост выяўлен вонкава пастолькі, паколькі Платон Галавач ма-

стацкі не апраўдана прасоўвае Будніка на камандныя вышыні соцыялістычнага будаўніцтва. Увогуле-ж трэба адзначыць, што ў першых двух частках рамана аўтар выяўляе больш паслядоўнасці ў раскрыцці складанага свету характараў, больш дысцыпліны ў малюнку, чым у апошняй частцы, таму разгортванне рамана к канцу робіцца мастацкі зніжаным.

Таленавіты пісьменнік у канцы рамана камячыць разгортванне і недастаткова індывідуалізуе персанажаў, узятых з інтэлігенцкага асяроддзя. Іх адрознасць не матывавана аўтарам своеасаблівасцю пройдзенага кожным з ім шляху грамадскага жыцця. Іхняя соцыяльная біяграфія спачатку-ж рамана недастаткова выразна акрэслена ў іх прывычках, мове, рысах, характару.

Умеючы выбраць творча-неабходнае, Платон Галавач, тым не менш, або недастаткова звяртае ўвагу на вялікія падзеі, або яны праходзяць у яго па-за раманам. Напрыклад, камандыроўка Галынскага за мяжу, прыезд Адама Пілацеева.

Пейзаж, як неад'ёмная частка стылю павінен быць выклікан заўсёды такой-жа неабходнасцю, як, напрыклад, той або іншы ўчынак героя. Ён павінен памагаць раскрыццю характара дзеяння. У рамане Галавача пейзаж часта не мае сэнсавай функцыі. Ствараецца ўражанне, што пісьменнік скарыстоўвае пейзаж, як фармальную паўзу для пераходу ад аднаго эпізода да другога, а не як падрыхтоўку да разумення пэўнага эпізода. І, напэўна, гэтаю іменна акалічнасцю тлумачыцца тое, што ў рамане Галавача ў большасці выпадкаў абыгрываецца адзін і той-жа пейзажны матыў.

Гэтыя асобныя заўвагі вядома зусім не змяншваюць вялікай ідэйна-мастацкай каштоўнасці кнігі. Платон Галавач бліскуча справіўся з цэнтральнай праблемай рамана і паказаў, як рэволюцыя, вызваліўшы Тарэнтаў, Шкробатаў ад улады межаў,ператварыла іх у свядомых будаўнікоў соцыялізма.

Кніга Платона Галавача—гэта перамога ўсёй савецкай літаратуры.

Тіфліс, 1936.

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## *Якуб Колас.* „Міхасёвы прыгоды“

ДВБ, Юндзетсектар, 1935 г.

У нашай беларускай совецкай літаратуры для дзяцей наўрад ці знойдзецца другая такая кніга, якая-б так маляўніча, так ярка і шырока разгортвала перад маленькім чытачом багацце і разнастайнасць прыроды, як кніга Якуба Коласа „Міхасёвы прыгоды“.

Кніга „Міхасёвы прыгоды“ для маленькага чытача мае выключную цікавасць. Тут успрыняцце чытача не ўтрудняецца складанымі соцыяльнымі працэсамі, не абмяжоўваецца яго фантазія і ўвабражэнне, якой-небудзь сухой надуманай схемай, з правам мыслення „адсюль і дасюль“, як гэта часта можна сустрэць у некаторых нашых творах для дзяцей,— а на працягу ўсей кнігі мысль і фантазія чытача актывізуецца, перад маленькім чытачом раскрываюцца шырокія гарызонты living розностайных малюнкаў багацця прыроды, чытач на кожным кроку сустракае жывыя вобразы жыцця.

З самых першых старонак кнігі маленькі чытач пападае на „луг квяцісты“, перад яго вачыма прыгожая рэчка „расступіўся лес ды ва ўсе бакі“, а „там шумела морам жыта, а ячмень густы, зялёны, адбіваў усім паклоны“. Ён адчувае цяпло сонца, подых ветра, пах розных кветак. Тут-жа маленькі чытач сустракаецца з жывёльным светам,—з рознымі птушкамі, буслам, рыбамі, вожыкам, гадзюкай, воўкам. Перад яго вачыма суніцы, розныя грыбы і т. д.

Усё гэта прыкоўвае цікавасць чытача, над усім ён вымушан падумаць, да ўсяго ён мае тое або іншае дачыненне. Маленькі чытач тут успрыймае і замацоўвае ў сваёй памяці мноства вобразаў, з'яў і фактаў жывой прыроды, якія непасрэдна цікавяць яго ўзрост, і якія па прастаце і яркасці падачы даступны яго ўспрыняццю.

У разнастайнасць з'яў прыроды аўтар месцамі ўключае працэсы грамадскай працы, машыны. Напрыклад, перад вачыма чытача вельмі вобразна абрысоўваецца работа і знешні выгляд трактара, які так удала параўноўваецца з канём.

Унь ускрай сядзібы
Конь паўзе сталёвы,
Рэжа лусты—скібы,
Хлебу тчэ асновы,
Поўніць шумам долы
Дужы ды імклівы.
Ногі яго—колы,
Дым заместа грывы.

Таксама чытач наглядае, як імчыцца цягнік. Але працэсамі працы і машынамі аўтар не ўтрудняе ўспрыняцце маленькага чытача. Машыны тут з'яўляюцца нібы дапаўненнем велічы прыроды. Яны дапамагаюць раскрыццю ўласцівасцей некаторых яе з'яў.

Калі, напрыклад, паказваецца як цераз мост імчыцца цягнік, як бягуць вагон за вагонам, дык аўтар у гэты час пераключае погляд чытача на паверхню ракі, дзе ён бачыць уласцівасць апошняй адлюстроўваць тое, што адбываецца над яе паверхняй.

Усё багацце з'яў і фактаў прыроды кампазіцыйна звязаны з асноўным героем твора Міхасём. Міхась стаіць у цэнтры твора, а навокал яго, кожнай часткай звязана з ім прырода—свет раслін і жывёл. А таму, падаваемая ў творы прырода, жывёлы ўспрыймаюцца чытачом не пасіўна, не сузіральна, а актыўна, праз прыгоды маленькага хлопчыка Міхася, праз яго дзеянні і рэагаванне на ўсё навакольнае.

Дачыненні Міхася да з'яў прыроды, да жывёлы выяўляе перад чытачом унутраны змест і ўласцівасць апошніх. Чытач не проста наглядае за знешнім воблікам, напрыклад, вожыка, рыбы, або ваўка ці гадзюкі,—ён вывучае іх своеасаблівасці, знаёміцца з іх месцамі і роляй у прыродзе.

Самыя прыгоды і дзеянні хлопчыка Міхася характэрны і тыповы для яго ўзросту, для ўзросту дзяцей дзевяці-дзесяці год. Ён усё імкнецца пазнаць, ён перад усім спыняецца, усё яго цікавіць. Ён актыўна ўключаецца ў кожную з'яву, увесь час дзейнічае, напоўнен рознымі клопатамі. Бадзёрасць Міхася на працягу ўсяго твора гарманічна зліваецца з радаснай, поўнага жыцця, прыродай.

Шырока пазнаёміўшы свайго малень-

кага чытача з багаццем малюнкаў прыроды, са светам жывёл, аўтар у апошняй частцы твора пераключае яго ўвагу на горад. Гэта пераключэнне ставіць тую-ж мэту, што і пры паказе прыроды,—пазнаёміць маленькага чытача з асаблівасцямі горада і ў прыватнасці з жыццём гарадской дзетвары. Гэта аўтар ажыццяўляе зноў такі праз асноўны вобраз твора—Міхася.

У гутарцы з калгаснай дзетварой, хлопчык Міхась расказвае пра асаблівасці горада, пра трамвай, аўтамабіль, танкі і танкеткі, пра самалёты, пра гарадскія святкаванні і інш. Тут-жа Міхась расказвае і пра жыццё дзяцей горада ў дзіцячых садах.

Апошняе аўтарам паказваецца з пэўнай педагагічна-выхаваўчай акцэнтоўкай. Паказваючы жыццё гарадской дзетвары ў дзіцячым садзе, аўтар выпукляе найбольш характэрныя моманты, якія маюць выхаваўчае значэнне. Тут аўтар нават тэндэнцыйна, праз вусны свайго маленькага героя Міхася, паказвае на неабходнасць, каб дзеці сачылі за чыстатой у пакоі, каб мылі перад ядой рукі, чысцілі зубы і інш.

Твор „Міхасёвы прыгоды“ вызначаецца вялікай мастацкай сілай. У ім кожнае слова, кожны вобраз напоўнены глыбокім сэнсам, змяшчаюць у сабе праўду жыцця і ў той-жа час яны простыя па свайму ўспрыняццю. Мова і вобразы твора сваімі каранямі ўваходзяць у багацце народнай творчасці.

Калі аўтар апісвае тую або іншую з'яву, расліну або прадмет—іх адчуваеш, яны рэальна і жыццёва выступаюць перад тваімі вачыма. Вось напрыклад, аўтар паказвае ягады:

Сакавітыя,
Як налітыя,
Ды панадныя.
У паветры пах
Ад іх носіцца,
Сама ягадка
У рот просіцца.

Тут сапраўды адчуваеш самую якасць ягады,—яе смак, сочнасць, прыемны пах.

Твор наскрозь,—пачынаючы ад рытма, вобразаў, малюнкаў прыроды і канчаючы яе героем Міхасём—бадзёры і радасны. Апошняе ўзмацняецца яшчэ, так званым, гумарыстычным падтэкстам, які ўласцівы аўтару не толькі данага твора, але і яго ўсёй творчасці наогул.

На працягу ўсяго твора, скрозь вобраз і сітуацыі прабіваецца здаровая ўсмешка, бадзёры гумар, ажыўляе чытача і заваструе яго ўспрыняцці рэчаў і з'яў.

Вось аўтар малюе, як Міхась, хадзіў у лес па ягады. Тут побач з жыццёвай праўдзівасцю, побач з псіхалагічнай апраўданасцю дзеянняў хлопчыка Міхася, выступае і здаровы гумар, які не зніжае паказу, а ўзмацняе яго. Аўтар паказвае, як Міхася пакінулі аднаго каля кошыка ягад і як ён не мог стрымацца, каб іх не з'есці. Гэты малюнак поўны гумара. Калі прышлі да Міхася, дык убачылі:

Ягады ў камяку,
Кош увесь у саку,
Сок расцёкся вакруг,
Стаў прыманкаю мух.
А Міхась—мурзаты,
Выгляд вінаваты.

Твор „Міхасёвы прыгоды“—гэта каштоўны ўклад у нашу беларускую савецкую літаратуру для дзяцей. Гэты твор мае вялікае педагагічнае выхаваўчае значэнне. Ён дапамагае развіццю ў маленькага чытача эстэтычных густаў, разрывае вузкае кола ўспрыняццяў дзетвары і пераносіць іх на ўлона багатай і радаснай прыроды, навучае пазнаваць асаблівасці прыроды, актывізуе ўспрыняцці, фантазію і мысленне дзетвары наогул.

Безумоўна, што твор будзе чытацца з вялікай зацікаўленасцю. Адно шкада, што твор не мае моцнага сюжэту, строгіх межаў пачатку і канца. Дачытваючы твор, не адчуваеш яго закончанасці. Кампазіцыйная пабудова твора дае магчымасць яшчэ і далей працягваць прыгоды Міхася.

У заключэнне трэба ўказаць на ўдалае мастацкае афармленне кнігі, зробленае мастаком А. Волкавым. У афармленні няма мудрагельстваў, тых клякс, якімі вельмі часта запаўняюцца нашы кнігі для дзяцей. А. Волкаў захаваў строгасць і прастату афармлення, падаў малюнкі ў рэалістычным плане і з максімальнай выразнасцю.

*С. Куніцкі.*

# ХРОНІКА

## ПАМЯЦІ ГОРКАГА.

**Аб літаратурнай спадчыне А. М. Горкага.** Цэнтральным Камітэтам ВКП(б) і Советам Народных Камісараў СССР зацверджана камісія ў складзе тт. Стэцкага (старшыня), Кручкова, Стаўскага, Таля, Бубнова для прыёмкі літаратурнай спадчыны і перапіскі А. М. Горкага. Камісія звярнулася да ўсіх установ і прыватных асоб, якія маюць лісты, рукапісы А. М. Горкага, уласнаручныя артыкулы і заметкі А. М. Горкага—перадаць іх камісіі. Па ўсіх справах і пытаннях збору і перадачы матэрыялу ў камісію звярачацца асабіста альбо праз лісты па адрасу: Масква, Малая Нікіцкая 6, камісія па прыёмцы літаратурнай спадчыны і перапіскі А. М. Горкага.

**Камісія па ўвекавечанню памяці А. М. Горкага пры саюзе совецкіх пісьменнікаў.** Прэзідыум праўлення саюза совецкіх пісьменнікаў СССР стварыў спецыяльную камісію па увекавечанню памяці А. М. Горкага. У яе ўвайшлі таварышы В. Стаўскі (старшыня), В. Кіршон, А. Фадзееў, Н. Накаракоў, А. Сенчанка, М. Кальцоў, Ф. Левін, А. Суркоў, П. Паўленка і І. Лупал. Камісіі даручана распрацаваць план практычных мерапрыемстваў па увекавечанню памяці геніяльнага мастака слова.

**Новыя выданні М. Горкага.** Дзяржлітвыдат выпусціў 100-тысячным тыражом брашуру „Траурный митинг на Красной площади“, у якой змешчаны прамовы тт. Молатава, Булганіна, Аляксея Талстога і Анрэ Жыда на пахаванні Аляксея Максімавіча Горкага. У 1936 г. намечана выдаць зборнік „Писатели и общественные деятели страны о Горьком“.

З твораў Горкага, якія ўвайшлі ў план Дзяржлітвыдата на бягучы год, асобую цікавасць уяўляе новае выданне кнігі Жизнь Клима Самгина“ ў двух томах. У першы том уваходзіць першая, другая і трэцяя часткі рамана, у другі том—чацвертая частка, якая выйдзе з друку упершыню.

У гэтым годзе будзе выдадзен аднатомнік, у які уваходзяць аўтабіяграфічныя творы: „Детство“, „В людзях“, „Мои университеты“. Гэтыя тры творы непасрэдна прадаўжаюць адзін аднаго і уяўляюць сабою адзін расказ пра дзяцінства і юнацкія гады пісьменніка.

У 1937 г. намечана выпусціць два выданні аўтабіяграфічнай трылогіі Горкага: адно з іх з дакументальнымі ілюстрацыямі

У масавай серыі намячаецца выданне зборніка расказаў і „Последних рассказов“. У 1937 г. намячаецца новае дапоўненае выданне шасцітомніка выбраных твораў і трэцяе выданне поўнага збору твораў. Пачата падрыхтоўка акадэмічнага выдання Горкага.

Асобнай кнігай выйдуць літаратурна-крытычныя артыкулы Горкага.

**Выстаўка, прысвечаная памяці А. М. Горкага.** Усесаюзная бібліятэка імя В. І. Леніна ў Маскве адчыняе 15 ліпеня ў цэнтральнай чытальнай зале выстаўку, прысвечаную памяці Аляксея Максімавіча Горкага. На выстаўцы будуць паказаны яго творы ва ўсіх выданнях царскай Расіі і Совецкага Саюза, а таксама часопісы, у якіх ён друкаваўся, пераклады на замежныя мовы і мовы народаў СССР. Вялікае месца на выстаўцы займуць рукапісы: перапіска, чарнавікі.

Усе матэрыялы разбіваюцца па аддзелах: Ленін і Сталін пра Горкага, Горкі і самаўладства, Горкі і цэнзура, творчы шлях да 1905 г., перыяд рэакцыі, перыяд „Звезды“ і „Правды“, роля Горкага ў пролетарскай рэволюцыі, соцыялістычным будаўніцтве і г. д. Экспанаты групуюцца такім чынам, каб даць уяўленне пра Аляксея Максімавіча, як вялікага драма-

турга, публіцыста, паэта і прызнанага правадыра совецкай літаратуры.

**Дакументальны фільм пра М. Горкага.** Саюзкінохроніка выпускае дакументальны фільм пра Максіма Горкага.

Ва ўсіх канцах нашай вялікай радзімы працоўныя змогуць убачыць асобныя эпізоды з жыцця геніяльнага мастака слова, роднага і блізкага ім чалавека.

Манціруе фільм з розных архіўных кінодакументаў рэжысёр Лідзія Сцепанава.

У фільм уключаны каштоўнейшыя кінодакументы, пачынаючы з прыезду Горкага ў Маскву ў 1928 г. да апошніх дзён яго жыцця.

Заканчваецца фільм траурнымі днямі ў Маскве, глыбокім траурам усёй краіны, усіх працоўных, за шчаслівае жыццё якіх нястомна змагаўся А. М. Горкі.

**Помнік А. М. Горкаму.** Для ўвекавечання памяці Аляксея Максімавіча Горкага Совет Народных Камісараў СССР і Цэнтральны Камітэт ВКП(б) пастанавілі паставіць помнікі А. М. Горкаму у горадзе Горкім, Ленінградзе і Маскве за кошт дзяржавы.

Даручана Камітэту мастацтваў пры СНК Саюза ССР арганізаваць конкурс на помнік А. М. Горкаму з прыцягненнем лепшых сіл.

**Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі разгарнула вялікую работу па выданню твораў Аляксея Максімавіча Горкага.** Найбольш буйнай работаю выдавецтва з'яўляецца выпуск на беларускай мове поўнага збору твораў вялікага пісьменніка. Ужо вышлі з друку V, VI, VII і VIII тамы, падрыхтаваны да выпуску XX том, набраны ў друкарні IX, XVIII і XIX тамы. Асобным выданнем вышаў раман „Маці“.

Нядаўна выдадзена на польскай мове кніга аповесцей Горкага. Скора выйдзе з друку на літоўскай мове зборнік выбраных твораў Аляксея Максімавіча.

Дзяржаўнае выдавецтва выпускае масавым тыражом на рускай і беларускай мове „Песню пра буравесніка“ і „Песню пра сокала“.

**Гастролі БДТ-II у Менску.** 6 ліпеня Другі Беларускі Дзяржаўны тэатр пачаў у Менску свае летнія гастролі. За сезон 1935-36 г. тэатр узбагаціў свой рэпертуар новымі пастаноўкамі: „Вечар вадэвіляў“, які складаецца з „Прымакоў“ і „Паўлінкі“ народнага паэта рэспублікі Янкі Купалы і „Пінская шляхта“ Дуніна-Марцынкевіча ў пастаноўцы рэжысёра тэатра Малчанава, п'еса класіка рускай драматургіі Астроўскага „Беспасажніца“, „Любоў Яравая“ Трэнева у новай рэдакцыі аўтара, п'еса Галаўчынера „Вера Смірнова“, „Пагібель эскадры“ Карнійчука ў пастаноўцы заслужанага артыста рэспубліка Зубава.

З рэпертуара мінулых сезонаў тэатр пакажа „Байцы“ Рамашова, „Вздор“ Фінна, „Ігра інтарэсаў“ Хасіна Бонавента, „Цудоўны сплаў“ Кіршона, „Немінучасць“ Базілеўскага і інш. Гастролі тэатра працягнуцца ў Менску да другой паловы жніўня.

**Гастролі рускага тэатра ў Менску.** З 22 чэрвеня ў памяшканні тэатра імя 11 ліпеня пачаў свае гастролі ў Менску Рускі Дзяржаўны драматычны тэатр БССР. Гэты тэатр арганізован чатыры гады таму назад. За гэты час тэатр абслужыў 24 тэатральных пляцоўкі Беларусі. Адзін сезон працаваў у Заходняй вобласці, даваў гастролі на Украіне. Тэатр паказаў больш тысячы спектакляў і абслужыў да 600 тысяч гледачоў. У рэпертуары тэатра: „Егор Булычев“ М. Горкага, „Оптимистическая трагедия“ Вішнеўскага, „Любовь Яровая“ Трэнева і „Без вины виноватые“ Астроўскага.

**24 чэрвеня скончылі** сваю гастрольную паездку па сплаўных участках БССР брыгады Першага Беларускага Дзяржаўнага тэатра.

Брыгады наведалі сплаўныя ўчасткі БССР, дзе паказалі рабочым сплаву і калгаснікам лепшыя свае пастаноўкі. На многіх лесасплаўных участках брыгады тэатра выканалі частушкі на мясцовых матэрыялах. За дваццаць дзён брыгады тэатра абслужылі сваімі пастаноўкамі больш дзесяці тысяч чалавек.

**Да юбілея Пушкіна** разгарнуў вялікую падрыхтоўчую работу Віцебскі дом партыйнага актыва. Дом партактыва шырока папулярызуе творчасць вялікага паэта. Пры бібліятэцы дома партактыва арганізована выстаўка кніг паэта і вывешаны рэкамендацыйныя спісы. Праз партгабінеты прадпрыемстваў дом партактыва праводзіць групавыя чыткі комсамольцаў, партыйцаў і стаханаўцаў. Так, пры партгабінеце фабрыкі імя Кагановіча былі арганізованы калектыўныя чыткі „Еўгенія Онегіна“, „Дуброўскага“, „Станцыйнага смотрыцеля“.

Пры доме партактыва быў арганізован вялікі пушкінскі вечар. На вечары выкладчык літаратуры тав. Ладзіс зрабіў даклад аб жыцці і творчасці паэта.

**Мітынг абароны культуры ў Маскве.** 21 чэрвеня ў Зялёным тэатры цэнтральнага парка культуры і адпачынку імя Максіма Горкага сабраліся совецкія, замежныя пісьменнікі разам з тысячамі працоўных сталіцы на мітынг, прысвечаны

гадавіне міжнароднага кангрэса абароны культуры. Мітынг адкрыў уступным словам тав. М. Кальцоў. Яго прамова была прысвечана найвялікшаму пісьменніку сучаснасці і гуманісту Максіму Горкаму, імя якога непарыўна звязана з арганізацыяй міжнароднай асацыяцыі абароны культуры, аб'яднаўшай год таму назад выдатных пісьменнікаў свету.

На мітынгу выступалі: выдатны французскі пісьменнік, вялікі сябр СССР Андрэ Жыд, нямецкі пісьменнік Эрых Вейнер, французскі пісьменнік Луі Арагон, Стаўскі, Мікітэнка, Карнійчук, Кіршон. Нямецкі артыст Эрых Буш замест прамовы праспяваў песню аб адзіным фронце.

Свае выступленні пісьменнікі прысвяцілі вялікаму пісьменніку Максіму Горкаму, заклікалі да барацьбы супроць фашызма ў абарону культуры.

Пад бурныя авацыі ўдзельнікі мітынга паслалі прывітальны ліст геніяльнаму правадыру народаў тав. Сталіну.

**Пленум сакратарыята міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў у абарону культуры.**

З 19 па 22 чэрвеня ў Лондане адбыўся пленум сакратарыята міжнароднай асацыяцыі пісьменнікаў у абарону культуры. На пленуме прысутнічала 56 дэлегатаў, якія прадстаўлялі Англію, Францыю, Злучаныя Штаты Амерыкі, Германію, Іспанію і яшчэ каля дзесятка краін.

Адчыненне пленума было прысвечана Аляксею Максімавічу Эрнстам Толлерам. „Наш пленум, — гаворыць Эрнст Толлер,—праходзіць пад знакам глыбокага траура. Памёр Максім Горкі. Надзвычайна вялікую ўтрату панёс не толькі Совецкі Саюз—увесь свет патраціў у Максіме Горкім вялікага чалавека і пісьменніка, які ўсё сваё жыццё служыў справе барацьбы чалавецтва за свабоду.

Горкі вышаў з народа і стаў вялікім рупарам народа. Яго кнігі сталі духоўнай уласнасцю мільёнаў. Памяць аб Горкім на векі застанецца ў сэрцах працоўных людзей. Горкі дасяг самай высокай ступені, на якую мастак наогул можа падняцца".

З вялікай жалобай гаварылі пра смерць Максіма Горкага англійскія пісьменнікі Джон Стрэчы і Роберт.

У цэнтры пленума на працягу ўсіх дзён яго работы стаяла пытанне аб стварэнні новай міжнароднай энцыклапедыі мастацтваў і навук, у якой было-б падагулена культурная спадчына мінулых вякоў і якая-б з'явілася гістарычным этапам у барацьбе за светапогляд „новага совецкага гуманізма".

Пленум прыняў рэзалюцыю аб паскарэнні работы па стварэнню энцыклапедыі і аб выбарах міжнароднага камітэта для каардынацыі работы нацыянальных секцый.

Прынята таксама пастанова тав. Эрэнбурга аб стварэнні міжнароднага журы, якое штогод будзе адбіраць лепшыя творы розных народаў і забяспечваць іх пераклад на іншыя мовы.

Выступаўшыя на пленуме сакратарыята пісьменнікі ўскрылі агідную палітыку фашызма ў галіне культуры і прадэманстравалі шэраг яркіх прыкладаў, якія сведчаць аб тым тупіку, у які заходзяць фашысцкія пісьменнікі і тэарэтыкі.

Пленум пастанавіў склікаць наступны міжнародны з'езд пісьменнікаў у лютым 1937 г. у Мадрыдзе і прыняў рэзалюцыю, якая заклікае падтрымаць міжнародны кангрэс барацьбы за мір, які адбудзецца ў верасні ў Жэневе.



# ПАПРАЎКА

У вытрымцы з верша Маякоўскага „О советском паспорте“, прыведзенай у артыкуле тав. Краснеўскага ў № 5 часопіса „Полымя рэволюцыі“ (старонка 169) дапушчана па віне рэдакцыі скажэнне двух радкоў верша, набыўшае яўны палітычна-шкодны характар. Цытату трэба чытаць так:

„Я волком бы
выгрыз бюрократизм.
К мандатам почтения нету.
К любым чертям с матерями катись
Любая бумажка,
Но эту...
Я достаю
из широких штанин
Дубликатом
бесценного груза.
Читайте,
завидуйте,
я—
гражданин
Советского Союза“.

На супрацоўнікаў рэдакцыі, вінаватых у дапушчэнні скажэння, накладзена спагнанне.

## ЗМЕСТ




АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка Тэлефон 25-394.**

